# ЗМЕСТ

Крыніца

ТЫ

# Янка ЮХНАВЕЦ



*Таму і прышоў сюды,*
*самім сабой,*
*да месца выбранага...*

*З Табой:*





*З Табой:*

# З Янкам ЮХНАЎЦОМ гутарыць Алесь БЯЛЯЦКІ

**Алесь Бяляцкі** – Якія жыццёвыя варункі падштурхнулі вас да паэтычнай творчасці?

**Янка Юхнавец** – Я нарадзіўся і жыў на ўзвышшах Паўночнае Беларусі, у блізіні ад Бярэзінскай Пушчы з ракой Бярэзінай, і яна сапраўды, Бярэзіна-Бяроза, уцягвае, збірае ў сваё рэчышча невялікія рэчкі, шмат ручаёў, і адтокі ад вазяроў між балот ды лясоў.

Шчаслівы выпадак – быць народжаным між паэтычных мясцінаў. Я толькі пазней апамятаўся іх любіць, а на гэта была прычына – другая вайна...

Я ўспомніў казкі ад мае цёткі Куліны, хадлівай вясковай энцыклапедыі. Яна была непісьменная, але навучыла мяне лічыць дый вылічваць па пальцах, пакуль пайсці ў школу; а любові да чытання навучыўся ад свайго дзядзькі Сямёна (ён быў спецыялісты лясное эксплатацыі).

Помач бацькоў – заўсёды занятыя кожнадзённай працай, сельскай гаспадаркаю, – дапамаглі пастуціць у другі клас (падчас нацдэмаўшчыны на Беларусі гэткае дазвалялася). Апынуўся юнаком у нацыянальным жыцці, якое потым было прыдушана, і яшчэ больш прыручала любіць сваё... Здарылася эгаістычнасць чытаць і шанаваць М. Багдановіча, а потым Я. Купалу; і адпаведна выпрацоўваўся характар, што накладваўся ад цёткі Куліны, – любіць народную творчасць, а потым асабліва ўразілі ўспаміны бацькі; успамінаў сваіх прашчураў: прабабу, прадзеда, свайго бацьку, якія любілі белыя і звычайна высокія камяні стаўляць каля вясковых дарог, садзілі бярозы (мая сяліба была ў бярозах і ліпах), высякалі з камянёў крыжы-помнікі на магіліцы; прадзед збудаваў з палявых камянёў вадзяную мельніцу (вось таму ёсць рамантыка да млынароў). З бацькавых апавяданняў (толькі пазней зразумеў) прашчуры-родзічы захапляліся прыгаствам наваколля. Вечнасць у вартасці дзеяў

Але ўсё не складвалася ў наступных гадох жыцця стацца паэтам. Яшчэ будучы вучнем, без усякае высакамернасці сказаць, чутка пачаў прымаць да сэрца дзяржаўна-грамадскую несправядлівасць штодзённага жыцця. Скрытнае юнацкае перажыванне няўладу ў абыдзённасці – прымус зразумець, асіліць яго.

# СВЯТА АСАЦЫЯЦЫЙ

*(Паэзія Янкі ЮХНАЎЦА і еўрапейская літаратурная традыцыя)*

*Чым больш творыцца незразумелага,*
*тым розум больш разумным станецца.*
**Я. Юхнавец**

**«...я дома зноў, ён для мяне спакой», – прагучыць у адным з вершаў Я. Юхнаўца пад вельмі паказальнай назвай «Сны на чужыне». Дома – але толькі ў снах, ва ўспамінах і мроях. У кожнага чытача той ці іншы паэтычны радок выклікае, вядома, свае асацыяцыі; я ж прыгадала горкія словы Ч. Мілаша з яго Нобелеўскай прамовы: «Патронам усіх выгнаннікаў, што наведваюць родныя мясціны толькі ва ўспамінах, застаецца Дантэ, але як жа вырасла з таго часу колькасць Фларэнцый!»**

**Адарванасць, адрынутасць ад радзімы – вызначальная канстанта творчасці ці не кожнага пісьменніка-эмігранта, зыходны пункт яго эстэтыка-філасофскай праграмы. Аднак праграма гэтая тоіць у сабе заўсёдную своеасаблівую загадку: у якіх стасунках паміж сабой знаходзяцца, як суадносяцца нацыянальнае і іншанацыянальнае? Наўрад ці магчы-**

**А.Б.** – Якія літаратурныя аўтарытэты ўплывалі на вашае станаўленне як паэта?

**Я.Ю.** – Пасля вайны, на эміграцыі, пачаўся ў душы неспадзеўны ўздым, які кінуў мяне ў асабістае «расследаванне» пра тое, што ведаў, або слухаў апініі іншых. І вось тады пацягнула чытаць іншых паэтаў (філасофію спакваля), якіх ніколі не чытаў у Айчыне. Сталіся на чужыне вядомымі з ведання ў некаторай меры замежных моў або перакладаў на славянскія мовы, якія разумеў Беларуская паэзія (за мяжой было мала) заставалася толькі любоўю да роднай мовы. Гэткае было перакананне: – Чаму не ў нас?

Эстэтычнасць з'явілася павучыцца ў заходніх еўрапейскіх паэтаў і празаікаў Але пісаць пачаў па-свойскаму ад усведамлення: беларуская творчасць – казкі. У некаторых выпадках, не адмаўляюся, сталася ў стылі грамадскім, або, наадварот, пра вечнасць творчасці із казак. Яна ўся дань Часу для маёй Айчыны.

а) Мне заўсёды жадалася быць доктарам медыцыны. Гэта ўплыў цёткі Куліны, якая ведала лячэбную вартасць беларускіх раслінаў. Не хвальства ёсць, пакуль вучыўся ў трэцім і чацвёртым класах, я напаткаў кніжку з назовамі чалавечай мускулатуры і шкілета. Сотню назоваў вывучыў і памятаў, але здарылася навучыцца юрыспрудэнцыі. І не шкадую. Апошняе зрабіла мяне нацыянальна свядомым чалавекам

б) На чужыне народнае напамінала мне сумнае ўяўленне пра мінуласць і сучаснасць. А сустрэўся з тымсамым, што было на Айчыне. Разбудзіла яно прыблізіцца да нейкае асаблівае разгадкі жыцця..

Аднойчы, успамінаю, на зло майму бацьку вясковыя актывісты звалілі сасну, пасаджаную прадзедам, хараство якой шкадаваў бацька. Яна так ляжала, зваленая гніць, бадай у блізкасці ягонай сялібы аж да другой вайны.

Адчулася хараство, якое шкадаваў бацька (як потым даведаўся, немцы расстралялі яго) .. Усё жыццё-быццё. Не патрэбна «расследавання» Яно дастаткова працягваецца ў гісторыі верай, хвілінамі фактаў, не забыцца, а ўскрашаць. .

Нейкая рэлігійнасць аб'явілася. Загарэзілася ў маёй душы паэзія. Місіянерства ў словах: ахінуць усяго сябе ў іхняе значэнне Выканаць дань свайму Часу: рэальнай ісцінай існавання слоў. Штосьці славесна-шчыра падарыць ад свае волі-праўды. З'явілася паэзія

**А.Б.** – Хто спрыяў вашаму станаўленню як паэта на эміграцыі?

**Я.Ю.** – Поспехам на эміграцыі паэтычнай ніколі не паважаўся Па-іхнаму, я «абганяў» не па-сапраўднаму пакуты Айчыны аднадзёнкамі, «афармліваў» сваё, не падтасоўваўся зразумеласцяй да метадаў пісання на Беларусі. А мне не было чым афармлівацца – я пачаў пісаць на эміграцыі. Аднак тое не згаджаліся друкаваць (памач, заступства знаходзіў ад др. В. Тумаша – старшыні Беларускага Інстытута Навукі й Мастацтва).

а) Плеяда эміграцыйных паэтаў мяне ніколі не захапляла, апрача М. Сяднёва – паэзія якога ведае вечнасць.

**мая тут нейкая універсальная формула; у кожным выпадку, пошукі яе ў дачыненні да пэўнага творцы маюць сэнс, бо дазваляюць наблізіцца да разумення законаў, па якіх пісьменнік будуе свой мастацкі свет.**

**Для характарыстыкі мастацкага свету Я. Юхнаўца найбольш падыходзіць, на мой погляд, паняцце сінкрэтызму; яно ў дадзеным выпадку набывае значэнне ці не абсалютнае. Абумоўлена гэта шэрагам фактараў. Аб'ектыўным: сам лёс прымусіў Я. Юхнаўца судакрануцца з рознымі нацыянальнымі культурамі, рознымі шляхамі іх фарміравання, рознымі эстэтычнымі і філасофскімі школамі. Перафразаваўшы словы лацінаамерыканскага пісьменніка, пра Я. Юхнаўца можна сказаць: сын Беларусі, пасынак Германіі, прыёмны сын Амерыкі; пры гэтым будзем мець на ўвазе, што размова ідзе не толькі аб тым ці іншым месцы жыхарства. І суб'ектыўным: творчасць беларускага паэта – бясконцы пошук сябе, прага новага зроку, аднак не без глыбокага прачытання і засваення вопыту папярэднікаў.**

**Імкненне вызначыць апошніх, вылучыць з мноства канцэпцый тыя, што так ці інакш паўплывалі на фарміраванне мастацкай парадыгмы Я. Юхнаўца, непазбежна прыводзіць да французскіх сімвалістаў і імпрэсіяністаў другой паловы XIX ст., якія, у сваю чаргу, не абмінулі бліскучых адкрыццяў славутага аўтара «Кветак зла» Ш. Бадлера і якія абвясцілі сябе яго непасрэднымі спадкаемцамі. Перазовы з сімвалістамі і імпрэсіяністамі скрозь даюць аб сабе знаць; у гэтым сэнсе найперш звяртае на сябе ўвагу музычнасць, меладычнасць верша Я. Юхнаўца. П. Верлен,**





б) Творчасць эміграцыйных паэтаў патрыятычна вытрыманая, падганяюць словы ў рытм і рыфмы, ды вельмі часта з беларускім жаргонам. Пішуць штодзённы «джаз», але ў іх ёсць прысяга Айчыне.

Мабыць, і я ў тым ліку

**А.Б.** – У каго вы вучыліся пісаць?

**Я.Ю**. Найбольш вучыўся ў заходнееўрапейскіх паэтаў і пісьменнікаў. Гэта была намога ведаць, каб потым правядлей вучыцца найбольш у самога сябе, у шчызе сваіх здольнасцяў, тады ў гэтакіх выпадках адчуваецца асабістая незалежнасць творчасці.

**А.Б.** – Каго з пасляваенных беларускіх паэтаў вы лічыце найбольш таленавітымі?

**Я.Ю.** – Не думаю, што існуе адмоўны адказ. Паважаю лірыку М. Танка, А. Куляшова, прозу У. Караткевіча. Найбольш напаткалася пазнаць іхную творчасць на эміграцыі (Ды ледзь не забыўся ўспомніць паэзію Я. Пушчы, У. Дубоўкі, некаторую прозу І. Мележа ды Б. Сачанкі, ягоны дзённік з Нямеччыны, і аповесць, не памятаю назоў яе, пра бацьку паліцыстага, які хаваўся ў лесе і загінуў, як падстрэлены звер у гушчарах пушчы Чалавечая трагедыя, якая і надалей цягнецца ў нашай Айчыне.) Дань аддаю Р Барадуліну і А. Разанаву Люблю сучасную літаратурную моладзь.

**А.Б.** – Вашыя адносіны да філасофіі Чые філасофскія погляды ўплывалі на Думку ў вашай паэзіі?

**Я.Ю.** – Можа, гэта выпадковае, але шчыра прызнаюся сказаць (Саветы забаранялі яго чытаць) – філасофскія погляды Ф. Ніцшэ, а потым ужо тут, на эміграцыі, уважліва захапляўся французам Сартрам А наагул нада мной пануе мудрасць беларускага фальклору.

**А.Б.** – Якім чынам ідзе ў вас словатворчасць? Ці ўся тая лексіка, якую вы выкарыстоўваеце, недзе пачутая, ці ўсё ж нешта сінтэзуеце і вы?

**Я.Ю.** – Можа, і «захлянууўся» словатворнасцяй.

Ад жа мушу напомніць: я ўвесь ад «лексікону» паўночна-беларускага. Здараецца, сінтэзую іх, але шмат словаў чуў так, як пішу ў творах. Мова беларуская багатая. Мне давялося бачыць старыя слоўнікі ў заходніх бібліятэках, ад іх я запачаў шмат, і яны не дыялект для мяне Пэўнюся існуюць і цяпер, але яны чамусьці не прыцягваюць увагу нашых пісьменнікаў і іншую творчую інтэлігенцыю. Гэтыя словы адрозніваюць нашую мову ад суседска-славянскіх моваў-нацыяў Навошта скідваць у гістарычную яму свае родныя дыяменты?

**А. Рэмбо, а затым і рускія сімвалісты надавалі гуку значэнне канцэптуальнае, услед за Ш. Бадлерам дэкларавалі і прадпрымалі спробы ўвасобіць на практыцы свае ўяўленні аб адпаведнасцях паміж гукамі, колерамі, пахамі, сэнсамі.**

**У Я. Юхнаўца адчуванне гуку і колеру выключнае. Ён – віртуозны музыка, які праз гук і колер рассоўвае межы сэнсавага спектра асобнага вобраза ці нават лірычнай калізіі ў цэлым. Гук, колер, сэнс выструменьваюцца яго вершам адначасова, абуджаючы нашую чытацкую-слухацкую здольнасць убачыць – пачуць новае ў знаным, знанае – у новым. Зрэшты, сэнсавыя магчымасці гуку зачароўвалі не адных толькі паэтаў, але і філосафаў. Згадайма меркаванне Ф. Ніцшэ: «Найбольш выразным у мове з'яўляецца не само слова, а тон, моц, мадуляцыя, тэмп, з якімі прамаўляецца шэраг слоў, – карацей, музыка за словам, захапленне за гэтай музыкай, асоба за гэтым захапленнем: такім чынам, усё тое, што не можа быць напісана».**

**Паэтычная стыхія Я. Юхнаўца – стыхія руху, якая не ведае спачыну, у якой гук перацякае ў сэнс і наадварот, якая падуладная творцу ў гэткай жа меры, як і творца падуладны ёй, і якая насычана разнастайнымі колеравымі вібрацыямі, паімпрэсіянісцку жывапісная, «пленэрная». Блізкасць да жывапісу дэкларуецца ўжо праз назвы асобных вершаў: «Эскізы», «Малюнкі», «Эцюды»... Тое ж рабіў у свой час П. Верлен, даючы цэлым паэтычным цыклам назвы «Акварэлі», «Бельгійскія пейзажы», «Простыя фрэскі»... Як і ў імпрэсіяністаў, пейзажы Я. Юхнаўца маюць характар дваісты:**

**А.Б.** – Што падтрымлівала ў вас ахвоту да пісання, якое доўгія гады было для вельмі вузкага кола? Ці верылі вы, што ўрэшце выйдзеце на Беларусь?

**Я.Ю.** – Айчынны кліч. І гэтая форма пісання была настойлівая, катэгарычна-праўдзівая, не фрывольная. Думаю, яна не выступае супраць канцэптаў творчасці ў мінулым, не супярэчыць сучаснай. Такое маё рашэнне ўраўніваць уласную сілу ў літаратурнай творчасці.

а) Некаторы час мяне бэсціў нейкі Прокша. У цытатах наўмысна перавертваў радкі-сказы. Называў мяне адкідам беларускага грамадства. Аднойчы ў 1989 г «Маладосць» успомніла таксама блага.

б) Я ніколі не думаў, што пачнуць друкаваць мае творы на Радзіме, таму ўсе ранейшыя творы перадаў у Беларускі Архіў пад апеку сп. М. Панькова, якія кагадзе нядаўна вярнуў мне ды параіў выдаць асобнай кніжкай.

**А.Б.** – Што для вас вашая паэзія?

**Я.Ю.** – Калі апынуўся на эміграцыі, я надумаўся быць іншым дачыненнем да беларускай паэзіі. Я намагаюся знайсці прысутнасць свае асабістасці (не дай Бог веціць цынізмам) – да якасці творчасці іншых паэтаў на Айчыне і тут на эміграцыі

**А.Б.** – Найбольш блізкія для вас творцы ў беларускай і замежнай паэзіі.

**Я.Ю.** – Толькі М. Сяднёў. Усе іншыя? Іх беспрадзельны свет таленту належыць да прывычак (мастацкіх), да ранейшай, мінулай калектыўнасці: айн, цвай, драй і г.д. – гэта да эміграцыйных; а што да Айчынных, я ўжо ўпамянаў раней

а) Падабаецца новае пакаленне – сучасная літаратурная моладзь, хоць паміж некаторых нестае палючай творчасці мастацтва, звычайныя выказванні належнасці да беларускай мовы (блаславі іх родная нацыя!).

б) Із замежных паважаю амерыканца Эзра Паўнда, з ангельскае – Эліёта, із французскіх – Ш. Бадлера (тэматычна). Наагул замежная літаратура ў цяперашні час найбольш у дактрынах і метадах творчай тэхнікі як у маляванні, гэтак і ў паэзіі.

Не заўсёды я магу ўразумець, што творыцца ў цяпершчыне.

Яшчэ перад першай вайной адзін выдатны літаратурны крытык у Францыі (я крыху пагаджаюся з ім), сказаў: «Ніхто не быў вялікім, як Гамэр, мы толькі дапаўняем ягоную творчасць».

Таму недарэмна вялікі Тыцыян сказаў: «Яшчэ б пажыць сто год, і тады я мог бы зразумець, што такое мастацтва».

*Кастрычнік 1991 г., Нью-Ёрк.*

**перад намі не толькі і не столькі замалёўкі прыроды, колькі малюнкі душэўных станаў лірычнага героя, якому наканавана было прайсці праз гэтулькі выпрабаванняў і пакутаў, што хапіла б не на адно жыццё.**

**Узгадваецца вопыт імпрэсіяністаў і ў сувязі са стаўленнем Я. Юхнаўца да ўражання, адзінкавага моманту, імгнення (фр. impression – уражанне): «Ураженні ў памяці астануцца, ахвяруюцца», «Жаданне кожнае ўразіць нас...», «Дрэвы зызнуць сцюжай і вісельцамі. //Музыкам ручаць мамэнты...», «Для мяне жыццё – толькі сэрца стук, –// усяк яно ў жыцці б'ецца...» і г.д.**

**Паэзія Я. Юхнаўца – з'ява надзіва цэласная, нібы фуга са шматлікімі паўторамі і камбінацыямі ўлюбёных вобразаў і матываў. Часам ловіш сябе на думцы, што зноў і зноў прачытваеш адзін і той жа твор у яго бясконца разнастайных варыяцыях. Устойлівыя вобразы, вобразы-лейтматывы і складаюць эстэтыка-філасофскае апірышча мастацкага свету Я. Юхнаўца, маючы сваім плёнам пачуццёвую гармонію і поліфанічнасць. Паказальна, што большыня менавіта гэтых вобразаў набыла ў свой час устойлівасць у сімвалістаў: восень, зіма, ноч, неба, месяц, зоркі, хмары, дарога, вандроўнік... Часта яны аказваюцца злучанымі ў межах аднаго верша, хоць і без таго ўзнікае адчуванне, быццам ніводзін з іх не можа жыць аўтаномна, адасоблена ад іншых вобразаў. Вяртаючыся і паўтараючыся ў новым кантэксце, яны адно аднаму надаюць новыя сэнсава-эмацыянальныя адценні, ствараюць больш адэкватную карціну быцця, існавання чалавека ў найскладанейшым свеце.**

**У некаторых вершах вобра-**





# З дзёньнікаў знаёмых і чужа-знаёмых

***(дзёньнік 1-шы – у адхінах)***

**– У неразборы падзеяў дзённых,**
**ледзь апынуўшыся,**
**ля стыку тэлефоных стаўпоў,**
**ля галасістых звояў з транзістараў;**
**ля дому напалову разваліны,**
**старэча ўсплечам застрахаваны**
**да сьцяны прыпіраўся,**
**галосьціў усім уверана:**
**– З Бібліі думкі падкіненыя мне**
**радавіта пазнаў,**
**(за мяне, калісьці, падумалі!)...**
**Ня вельмі разгадваючы, між імі поўзаючы,**
**(сьвятое ніколі не бачыўшы),**
**скеміў я, натруджана, можа,**
**што зорам нескратным,**
**празьмеру над намі,**
**зможна ручацца усім задарма.**
**Кропкі друкарскія, бы пішуць яны,**
**звязаныя хмарамі-сказамі.**
**Ручаямі плёскнамі з сувеі-сьнегу**
**словы сьвятой асьцярогі скропваюць...**
**Не разуверціся. Запавет стары**
**вучыць нялюбае без жалю зьнішчаць,**
**каб любіць што нам патрэбна.**

**зы-лейтматывы яднаюцца праз антытэзы (святло-цемра, дзень-ноч, жыццё-смерць і г.д.), тым не менш і ў такім антынамічным спалучэнні яны часта не дэшыфруюцца адназначна, маюць, як і ў сімвалістаў, шматзместавы характар, з'яўляюцца полісемічнымі. Напрыклад, у вершы «Цярністым шляхам» «цемра», што «ваўком крадзецца», – гэта і «цемрына» ночы, і «цёмная пара» для пакінутай радзімы, і жыццёвы «ночны шлях», і невымерна пакутлівае мінулае, «цемры сцень» якога, перагарнуўшы свае «чорныя балонкі», павінна змяніцца «Новым Днём», «Сілай і Жыццём». Наогул, асобныя радкі, страфы, цэлыя творы Я. Юхнаўца часам дзіўным чынам гучаць ва унісон сімвалісцка-імпрэсіяністкім: напрыклад, верш «Вячэрні промень сонца пагасіў» выклікае асацыяцыі з верленаўскім «Захадам» («Слабне золак, згарае...», у пер. М. Багдановіча); верленаўская ж дзёрзкая назва аднаго са зборнікаў «Рамансы без слоў» міжволі ўзгадваецца, калі чытаеш у Я. Юхнаўца: «...гэта слова бясслоўнае» («Словы праўды скошаны») або «Мне сказы гэтыя ўчора вецер наказаў...// У сказах словаў не было...» («Жыццё зноў весціць...») і інш., а радкі «плач зноў аплачацца// тым самым плачам» («Шастанне за вокнамі...») або «Я плачу,// мой плач –// зарніца // душы маёй» («З народнага») прымушаюць успомніць адзін з самых мінорных твораў П. Верлена, славуты «Плач сэрца майго...» («Плач сэрца майго, //Як над горадам дождж.// Скульрасце, для чаго// Смутак сэрца майго?..», пер. М. Багдановіча). Прыкладаў такіх перазоваў можна прыводзіць мноства.**

**Ключавым жа, скразным у**

*2*

– Я ведаю, вёсны заўсёды мінаюць
праз месяцы тры пасьля зімы.
А я праціўна, – на мяне зышло,
ведаць хачу сабе і вам:
вёсны чаму пачынающца
па-людзку зусім, каляндарна,
гульнёй блізьлівай
карагодаў шумлівых?
Усё сьвяточна на часіну там,
бы людзі-гусі выйшлі статкам,
й куры-дзеці дурныя сакочуць
між развалістых качак-паходаў.
Развой заглеяны іх душ гарлістых
мяне не пасадзіць на камень здарожны.

*3*

– І вось, паверце, хрысьціяне ў меру,
ці, Чорт вазьмі, як добра называецеся, –
на траве зшаршнелай на лугох, на выганах,
з-пад сьнегу так вясна пачалася.
Таму і прышоў сюды, самім сабой,
да месца выбранага
паказваць вам,
і вучыць каня
з кабылы адвясковай ажарэблены,
цяўпціся нуджана па асфальту чорнаму,
і Пансу-сябру, даражоны мной,
нарэшце бачыць атлусьцелым
пад самы пуп бясплатным мясам,
ці з лоем кукаруза звараная,
бэбух сытысьцяй узбухне хутка,
чым уладасьцяй абяцанай

Я. Юхнаўца з'яўляецца вобразматыў ветру. На яго выключнасць ужо звяртаў увагу А. Бяляцкі ў прадмове да зб. «Сны на чужыне», трапна вызначыўшы гэты вобраз як «адну з галоўных дзеючых асобаў» у творах паэта. Узнікнуўшы ў першых жа вершах, ён з рэдкім пастаянствам прысутнічае амаль ва ўсіх наступных, надаючы ім сапраўдную пластычнасць, дынамізм і аб'ёмнасць. Ад верша да верша вобраз ветру ўскладняецца, пашырае свае сэнсавыя межы. Найчасцей вецер у вершах Я. Юхнаўца персаніфікуецца; ён можа быць лёсам і настроем, успамінам і натхненнем, голасам прыроды і голасам паэта, летуценнем і надзеяй; ён – «нябачны» і «аксамітны», «летняк» і «сівер», «лагодзь» і «скарга»... Шматкротна засведчыць лірычны герой Я. Юхнаўца сваю адданасць гэтаму вестуну і журбы і шчасця:

*У адзінотнасці сваёй – учора, і вось цяпер,*
*вятроў любіць не перастану...*

**(«У адзінотнасці сваёй...»)**

Шмат я слухаю ад ветру спеваў.

*Ускрашальны спеў.*
*Вось ноч міне мае нягоды*
*І спадзеў...*
*Я зноў прашу ўсяк:*
*ты, вецер, не міні*
*мой гнёт цяжкое смутнасці*
*ў спагадным дні.*

**(«Вецер»)**

*Вятры і музыкі – не сны ў сэрцы маім.*

**(«Жыццё зноў весціць...»)**

*Хвалюецца вецер, хвалююся я.*

**(«Не ведаю, што ты думаеш...»)**

Паступова з нібыта хаатычнага шматгалосся, з паліфаніі сэнсаў узнікае ўражанне касмічнай гармоніі, адбываецца непрыкметны пераход –





што заўтра мець прычынай
будзе сяньня.

*4*

– Мастацтва нехрысьціянскае
схільнасьць любіць
не спамінаць людзей на фоне чалавецтва.
Пагарду любяць да жыцьця свайго.
Яно – мастацтва ім!..
На свабоду здацца пасьмяротную?
І словы іншыя, дакоры дапісаць,
да старых, сьвятых пісаньняў?..
Ды хрысьціяні ў сваім раю
мяжу асобенай азначуць!

*5*

– Асьцерагу сябе недзікавата спомніўшы,
калісьць здарылася яно.
Тарас наш палясоўшчык, на век увесь
усіх багоў між пальцамі абвёў.
Танцам-скокам запальным і падкупным
на зямлю прыманіў іх.
І блізу тэй «друкарскай кропляй»
пасяліў прымусна ў буданах
ля палясоўкі зьветхлай даўна.
І нясталася пасьля багоў у небе.
Ахоны неба апынуліся ў пералучах хмараў.
Уражаем росьцяцца ўсякім
прызвычаеная зямля пярыядамі.
Зямля-Поўнач старажоўкай сталася –
харчаваньня дзённая там не гніе,
а рыбакі на Поўдні спадабалі жыцць,

аўтара, лірычнага героя, чытача – да спасціжэння свету ва ўсім яго драматызме, свету, неўпарадкаванасць, незавершанасць, неідэальнасць якога ўспрымаюцца як прадчуванне магчымай або адчуванне колішняй дакладнасці.

Яшчэ ў платонаўскіх працах склалася, як вядома, уяўленне аб існаванні двух светаў – «свету ідэй» і «свету рэчаў»; пазней з'явіліся меркаванні і аб наяўнасці двух тыпаў культуры: адна з іх заснаваная на ідэі слова («калі чалавек гаворыць, рэальнасць перастае існаваць»), другая – на ідэі рэчы («калі чалавек маўчыць, рэальнасць перастае існаваць»). Гэтая тэорыя знайшла ўвасабленне і паглыбленне ў паэзіі сімвалістаў з яе сугестыўнасцю, а таксама ў творчасці тэарэтыка і заснавальніка сімвалісцкай драмы, або «тэатра маўчання» М. Метэрлінка. «Душы паглыблены ў маўчанне, як золата ці срэбра паглыблены ў чыстую ваду, – пісаў М. Метэрлінк у артыкуле «Маўчанне», – і словы, прамоўленыя намі, маюць сэнс толькі дзякуючы маўчанню». «Слова паміж людзьмі знікае, але маўчанне не знікае ніколі, – сцвярджае бельгійскі пісьменнік, – і сапраўднае жыццё – адзінае, што пакідае след, складаецца толькі з маўчання». Маўчанне «чутно» і ў вершах беларускага паэта, пры ўсім тым, што яны адзначаны адвечным дыялагізмам; матыў маўчання – адна з дамінантаў паэзіі Я. Юхнаўца, тых, якія накладваюць сакральны адбітак на ўсю яго паэтыку, узвышаючы яе да ўзроўню «вечнай эстэтыкі»: «Спляталіся рукі яе і ягоныя.// Каханне іхнае – гамонка душы» («Эскізы»); «Мой спеў ніхто не чуе.// Душа размаўляе са мной» («Ноч летняя...»); «Няўтойнасць кожную,

ловяць рыбу, бы сьвятымі сеткамі.
– Сеткі із саломенак! – яны грозяць:
– Уратавацца хочаце?.. – Не хапайцеся!
  З чаўна рыбачага,
  з чаўна найлепшага па нашаму ў сьвеце,
  сеткі распластаныя ў падводзьдзі
  ад цяжкасьці налоўленай не прарвуцца,
  бо стаяй нурткай, як рыба ў вадзе,
  плывём за імі да кажнага бярэжжа.
Рыбакі на Поўдні грэюцца,
і часта ловяць рыбу ў сьвятыя сеткі,
і вінавацяць праклёнамі ўсіх,
калі на схоністых узлесках
Тарас-Лясоўшчык для людзей сваіх
танец быўшы прад богам-Зевусам
весьціць словамі, а не прыгодай,
а клічам грызьлівым за сваё.
У жыцьці яго і нашым
шмат трывог!

*6*

– Хітрыць ня трэба.
Загаворы шкодныя ня жывуць надоўга.
У словах пратаколу дагаворы моўзуюць.
Разбоем вораг змучаны, здараецца,
утаймоваецца, як ручай ля гаці.
Заўзятасьць не спыняецца, а прыпыняецца,
крывавае пагарды.
  Панса, нагалотна ўцемлю я:
  – Жыццё маё асуната сумысьля із табой!
  ... пра хітрасьці Вялікіх пагутарым па-свойску,
  ад права іхнага нам толькі страх,
  і мы жывые гніём у ім.
  Мінулые падзеі уцемліва паслухаем,

заснуўшы, я ўяўляў узорам,// што ў водмежках душы мае гарэла.// Я верыў моўкнасцям сваім празорым...» («Ад сноў, ад памяці й чутнасці»)...

Матыў маўчання спалучаецца з яшчэ адным устойлівым матывам – цішыні:

*Так ціха, што нават, здаецца,*
*сам рассыпаўся ў ціхату.*
*Сонца заходу, бы скронь бражовая неба.*
*І час усялякі далёкі, бяспамятны,*
*бадай зрабіўся вячорнай зарой...*
(«Так ціха, што нават, здаецца...»)

Амаль як у Г. Ахматавай: «И тихо, так, Господи, тихо,// Что слышно, как время идет». З «нямоўкнасці жыццёвых спрэчак» і «гімнаў моўкнасці», са «скрыкаў» музыкі і шэпту цішыні нараджаецца элегічна-трывожны настрой; для асэнсавання ж творчасці такога мастака, як Я. Юхнавец, здольнасць да пранікнення ў настрой, можа, важнейшая за якія б то ні было аўтарскія абвесткі ці маніфесты.

Апроч сімвалісцка-імпрэсіянісцкіх тэндэнцый у паэзіі Я. Юхнаўца можна, на мой погляд, гаварыць аб яе перазовах з літаратурнай практыкай такіх творцаў, як Э. Паўнд і Т. Эліот, прычым як перыяду імажызму, так і пазнейшай. Аналогіі з імі не будуць супярэчыць абранаму мною ракурсу: па-першае, пачаўшы свой шлях у Амерыцы, яны абодва – Т.С. Эліот з 1914 г., а Э. Паўнд з 1908 г. (за выключэннем 1946 – 1957 гг.) і да самай смерці жылі ў Еўропе; па-другое, іх эстэтычныя пошукі ці не ў рашаючай ступені адпавядалі і належалі новым плыням менавіта еўрапейскай літаратуры.

Імажызм, напрамак у англаамерыканскай паэзіі пачатку XX ст., быў адметным імкненнем сваіх прыхільнікаў увасобіць рэальна існуючыя «аб'екты» –





суравасьцяй багатнай асудзім іх.
Спытаемся адважна ў саміх сябе
парадаў уселякіх.
Дні крохкіх спраў ахлынуць нас.
Сьціпла гаманю,
          пакуль ты,
                    наеўся сытна,
          упобач астаешся
          шчырым да мяне.

      Хай нам зайздросьцяць людзцы сьвету!
      Ад зайздрасьці карысьць,
      імкненьня ёсьць!

  А ў можным Полацаку Кіхоту адарваны,
  Бел-Кіхоту абяцаны,
  ты першым Панса задаволена
  не засынай.

*7*

– Пакуль жывём, кідаем разьвітальна,
і немарудна,
пясочан жменю у яму-шэрань пахавальную.
Імя, што некалісьці ў жыцьці пакутным,
травою зарастае на магілі шчызна
аж да крыжу самага.
  Нехта выпетраны, а зноў асьвежаны,
запушчаны, улюблены сваім,
скажа на адмах, ні ўпросіць некага:
– Я помнікаў не тварыў сабе.
  Узрасьце трава каля мае магілы.
  Расхоніста расьце усьцяж яна
  самай вышнасьцяй ажылай.
У Дом Ураду прыходзіў я калісьці.

складнікі вобразнай першаматэрыі, прынцыпамі «выяўленчай дакладнасці», «чыстай вобразнасці» і да т.п., выкладзенымі найбольш паслядоўна англійскім паэтам і філосафам Т.Э. Х'юмам; галоўнае значэнне надавалася вобразу (англ. image – вобраз): ён мусіў быць раптоўным, ашаламляльным, ды і ўся рытміка-інтанацыйная арганізацыя твора была нетрадыцыйнай. «Адзіны спосаб перадаць эмоцыі ў мастацтве – гэта знайсці для іх аб'ектыўны карэлят, інакш кажучы – шэраг прадметаў, сітуацыю, ланцуг падзей, якія стануць формулай гэтай прыватнай эмоцыі, з тым, каб прыведзеныя знешнія факты, што змяшчаюць у сабе пачуццёвы вопыт, адразу ж, неадкладна нараджалі эмоцыю», – пісаў Т.С. Эліот. Дзеля пошуку такога «аб'ектыўнага карэляту» імажысты шырока практыкавалі словатворчасць, рознага роду моўныя эксперыменты. Я. Юхнавец у пэўным сэнсе – прадаўжальнік імажысцкай традыцыі, бо яго арыгінальны мастацкі свет не ў апошнюю чаргу ствараецца праз нечаканыя вобразы і калізіі, праз словатворчасць, да якой цалкам можна дастасаваць заўвагу мексіканскага пісьменніка і філосафа А. Паса: «Слова не толькі называе свет, але і яго засноўвае – або перайначвае». Словатворчасць у Я. Юхнаўца часта набывае значэнне сэнсатворчасці; праз нечаканасць жа вобразаў і калізій (як і праз акаляючыя іх новыя кантэксты, праз, так бы мовіць, аўтарэмінісцэнцыі) дасягаецца незвычайная эмацыянальная напружанасць, узмацняецца асацыятыўнасць: «вочы-вобмацкі», «вусны сэрца», «парасткі ветру», «Ён адзінотны выйшаў спаткаць дарогу», «гадзіннік, што шукаў гадзіны// у нашым

**На сходках там, мой крок адгадваў,
Дзяржаўны тлец скратна-снаджаны.
Ступкам маім у Дом Ураду, выбраны,
даваў уладу свойскую:
– Праз вокны не глядзі
з будынку гмахнага самагубствам звочацца...
Пакаянна, і згорблена-прыпынена,
няўхліп адседжаны умоўнай канстытуцыяй,
малебна называй: – Закон стварыў усё бязгрэшна...
У крыўду не папусьціся людалюбца:
між злом, і дуплом любові,
памылкі зблыталіся умешчальна
балонкамі ў зборніку-абмежніку.**

***8***

**– Мой конь, пачалася гэтак, і працягвацца будзе,
падвязаны аброцяй – лейцы-валакно,
з канопляў беларускіх змятае,
з двух столак звітае самімі скрутна,
турзваньня слухае туды-сюды.
  Забыўшыся скубнуць быцьцё зямлі –
пачатны парастак травы,
завіхна і прыручана
сьцяж камяніцаў астарэлых
аскабелай мызай на шыі моцнай
па-канячаму тыраніў ён.
  Прывязаны натужана, нялусна часам,
неперасіліны калі быў запрэжаны,
ведаў: ён хуткасьць руху на зямлі пачаў.
А першы рухавік людзкі, або цягнік,
у краіне кожнай
пацягнуў дабро дый зло падгружаная
без спазьненьня.
  У сказках гэткае здараецца!**

**памяшканні», «У Беларусі ўсе// на моры жывуць.// Шумлівае мора – лес»...**

**Не хачу абмінуць яшчэ адно судакрананне паэзіі Я. Юхнаўца з Т.С. Эліотам – праблему часу, якая непазбежна цягне за сабой іншыя праблемы – бясконцасці, руху, бязмежнасці формаў ператварэння ўсяго існага, асобаснага і надасобаснага, часавага і надчасавага. У Т.С. Эліота гэтыя пытанні знайшлі найбольш глыбокае мастацкае асэнсаванне ў «Чатырох квартэтах» (1936–1943); адзін з эпіграфаў да першага з квартэтаў мог бы стаць і эпіграфам да творчасці Я. Юхнаўца: «Шлях уверх і шлях уніз – адзін і той жа шлях» (Геракліт). Згодна з эліотаўскай канцэпцыяй, час – бясконцы пачатак, надзвычай супярэчлівы, антынамічны па сваёй прыродзе, бо ў адзіным часавым вымярэнні супакладзеныя мінулае, сучаснасць, будучыня. Т.С. Эліот у свой час надта ўпадабаў дэвіз Марыі Сцюарт «У маім канцы мой пачатак»; перафразы гэтых слоў, а таксама геракліцкіх ідэй ператварэння рэчаў, адзінства супрацьлегласцяў вызначаюць філасофію яго «Чатырох квартэтаў»:**

*Настоящее и прошедшее,
Вероятно, наступят в будущем,
Как будущее наступало в прошедшем...*

*... Что мы считаем началом, часто – конец,
А дойти до конца означает начать сначала.
Конец – отправная точка.*
**(пер. А. Сяргеева)**

**Чытаем у Я. Юхнаўца:**
*...адчуваю Час – усё з пачатку мірсціцца...,
Як добра збавіцца ад страху,
уваскроснуць,
калі смерць забудзе, што была смерцяй...*
**(«Сны на чужыне»)**

*Пачатак быў пачаткам сам,
зверадаваны пешчамі й друзгамі пары ўсякай.*





**Да зораў зіхатлівых стронімам не пазіраў.
За спрочанымі людзей капытамі соўгаўся.
На шматкутнік гостра скрэсьлены
з непаралельным цягам роўнасьцяў,
дзе мінус кожны ў прыполе скутаў
плюсам лёгкім яўнае адноснасьці
сьцяглай вартасьцяй урастаў нахабна –
варухлясьць імавернаю – век ажыў сваім,
не разумеў.**

**Пра каня я шмат кажу,
каб самому быць у руху...
Я нывыбраны! Я несхаваны!..
Калі-б не Біблія – што тады?
Паверце:
    наш Тарас пра Біблію ня ведаў,
    і, напэўна, увесь наўмысна,
    ворган родавы з нагавіцаў зрэбных,
    бесцэрамоўна,
    згаліўшы на паказ,
    па галовах «просьвешчэнных» гладзіў.**

***9***

**– Я чую: гамоняць,
але слоў сустрэча,
(язык паскрабу аб зубы свае),
губляе пагрозы ў любові-хлусьні!..
Неспадзеўкі вуладцы абяцаюць пэўныя.
Жыць абяцаньнямі, заўсёды, пакрыўджаныя,
гарозяць шчасна спадзяваньнямі быць.**

**Абяцаюць мне:
– Кошт харчаваньня для каня аплоціцца.
Яго насыцяць заўтра да самага адвалу**

*З імём людскім, скарынкаю абмяклай
на плечы нашы лёг...
Мы таксама зыдземся ў сваім пачатку...*
**(«Пачатак быў пачаткам сам...»)**

*Я назіркам слядкую за жыццём маім:
часінай кожнай жыўлю яго і смерчу...*
**(«Назіраю й чую ўсёй душой мой свет...»)**

*...Ёсць рака жыцця! Вечна маладая ў ёй вада...*
**(«Водарасці ў сталічнай Свіслачы») і інш.**

**Што датычыцца суадносін часавага і надчасавага, то ні паэзію сімвалістаў, ні творчасць Т.С. Эліота і яго паплечнікаў нельга характарызаваць выключна апошнім складнікам гэтай антытэзы. У сімвалістаў, пры ўсім іх жаданні мысліць «містычна» і адлюстроўваць першасныя «ідэі», лёгка пазнаецца трагічная атмасфера «канца веку». Абодва пачаткі знітаваны і ў паэзіі Т.С. Эліота, які, робячы акцэнт на надчасавым, надасобасным, нават ствараючы тэорыю «дэперсаналізаванай паэзіі», усё ж шматлікіх літаратурных папярэднікаў і сучаснікаў цаніў менавіта за «адчуванне сваёй эпохі». «Паэзія – гэта не плынь розных эмоцый і не выява ўласнага «я», а ўцёкі ад іх. Аднак, безумоўна, толькі тыя, у каго яны ёсць, ведаюць, што такое жаданне пазбегнуць іх у паэзіі», – заўважыў Т.С. Эліот у артыкуле «Традыцыя і індывідуальны талент».**

**У святле вышэйакрэсленых традыцый стаўлення да часу ўяўляе цікавасць і творчасць Я. Юхнаўца. З аднаго боку, яна часам падкрэслена спавядальная, аб чым сведчыць і змест, і шэраг назваў (напрыклад, «З дзённікаў незакончаных»). Больш таго, многія вершы пазначаны пэўнай геаграфіяй і зусім пэўнымі падзеямі: лірычны герой Я. Юхнаўца «з**

аўсом адвейным праз рэшата фабрычная,
ці канцэнтратам «пятролі мэйд»,
ці жмыхай намеленай із касьцей,
іх на аблоні Беларускай шмат...
  Мне-ж Пансу-дону – зямному чалавеку,
дону-Старэйшаму панагародах клікаць
стане нэнчыцца,
упрашваць Дульцанэю
бульбы наварыць удоваль мне
і скваркі смажаныя дабавіць.
  Мяне не пачакае разам есьці,
сама найперш насыціцца ўжываглат,
і будзе потым каля мяне снавацца,
жарсьць ваблівa сваю паказваць.
У мужчын, нат з венамі старэчамі,
жанчыны маладосьць усьцерагчы ўмеюць.

Неба хмарамі заканапачана –
у паднябёсных стромах усё бывае.
Але ўбачаце, зірнай чыняй зьвесьціцца,
(мой конь вясковы ўсячанай адкормлены),
у месьце з даху самага высокага
засьнеціць шчодра каўцюкамі
праспэктную дарогу да Цэнтру Перамогаў.
Камусьсь ня гэткая ужо агеднасьць,
што мяне пакінулі ў няволі можных...
Мой розум надзіць падумаць як
скваркамі жарыстамі ашпарыць вусны
не мае Дук-Дульцанэі.

*10*

– Аднойчы ўблажыўся у ветрак,
той, што за мастом стаіць на ўзгорку,
і круціць размашаста вятрыні;

любасцю начлег сабе знаходзіў// на ўзбярэжжы Свіслачы і Вяллі сталічнай// і Айчыннай». Ад менскіх Замчышча і Кальварыі да роднай «вёскі невялікай з імём Забродак» «раздумана» і ўваскрошана паэтам Беларусь. Некаторыя ж вершы прачытваюцца як знакі-вехі жыццёвага «цярністага шляху» аўтара.

З другога боку, канкрэтна-індывідуальнае і канкрэтна-нацыянальнае ў Я. Юхнаўца пачынае ідэнтыфікавацца з усё-чалавечым:

*– Мы адчуваем болясці жыцця найбольш.*
*Я не кажу, пра каго я думаю...*
*– Напэўна, пра чалавека?*
*Мы карацей жывём,*
*чымсьць нейкія багі*
*або расліны ў недалёкай Поўначы...*

**(«Размова»)**

Падкрэслю: прысутнасць еўрапейскай літаратурнай традыцыі ў творчасці Я. Юхнаўца ніякім чынам не выключае прысутнасці ў ёй традыцыі нацыянальнай, беларускай. Наадварот, яна – не маргінальны, а вызначальны элемент у падмурку эстэтыка-філасофскай парадыгмы паэта. На яе фарміраванне відавочны ўплыў – як канцэптуальны, так і стылёвы – аказалі перадусім міфапаэтычныя, фальклорныя матывы, а таксама спадчына М. Багдановіча. Аднак гэта ўжо прадмет для іншага даследавання; ды і разгляд паэзіі Я. Юхнаўца ў еўрапейскім літаратурным кантэксце, безумоўна, патрабуе грунтоўнага працягу. Мне ж для пачатку хацелася паказаць, што вершы яго, кажучы словамі аднаго амерыканскага паэта, – сапраўднае «свята асацыяцый».

Ева ЛЯВОНАВА





у хватцы наўмыснай ушчэміў я
дзіду гострую.
Падумаць толькі: аніяк
вятрыням руплівым, крутлівым яна,
рух не дабавіла да жорнаў зьнізу.
Жорны мелюць – дагоднасьць зёрнаў.
Мнуць мукой – мяшкі поўна-ухватныя.
А пыл пад стольную, ці мажліва скразьнячна
разьдзьмухаць праз вокны
з будынку?
  Ашалёўка дзьмухная – працы памяць ён?
Ветрамі будучыні, за ветраком,
сваявольна не разьдзьмуханы.

Яго падвойнікі на люстрах гістарычных...
Аднаборац ён – гляджу, бо сталася –
камусьсь дуэлі на полі бітвы, –
эпох руіны!
  У хвалі дзён кіруе нехлямяжны плыт,
да бярэжжаў, дзе месяц толькі
зацьмела асьвятляе прыстань.
– Як там размесьціцца Дон-Кіхот?
  Там няма прычалінаў любові.
  Там дзецям Чорт ад спадцішка
  дае імёны іхныя,
  і людзі, хто думаць неспазьняецца,
  бяспомачна зьдзіўляюцца:
  – Чаму дарогі там тупікамі сходзяцца,
  чаму вуліцамі не разветліліся?

*11*

– Праца дзеля дабра й гаспадарнасьці
пярасмык наўмераў добрых і скародных,
найлепш абвесьціцца, заўсёдна,

# ДЗІКІ

Пануючы моўны дыскурс – наканаванне, зачараванае кола. З яго не выскачыш... Хіба сабе на згубу...

Клод Леві-Строс казаў, што пісьменнасць – сродак зняволення. Але хутчэй пісьмо само знявольнік. Згадаем Ралана Барта: «Мова – гэта не рэакцыянер і не прагрэсіст; мова – гэта звычайны фашыст, бо сутнасць фашызму не ў тым, каб забараняць, а ў тым, каб прынукаць гаварыць *нешта*».

І тае бяды, каб адно *«нешта»*, гэта значыць – што заўгодна. Мова (практыка соцыякультурнага дыскурсу) і тэкст (практыка мовы) прымушаюць чалавека гаварыць (а разам з тым мысліць і паводзіць сябе) адпаведна сваёй, глыбока ўтоенай ад нас, хэнці. Дыктат мовы над чалавекам, дыктат яе закону, унармаванага логікай структуры тэксту, – татальны. Мы чуем тое, што яна дазваляе нам чуць, мы бачым тое, што яна дазваляе нам бачыць, мы робім тое, што яна дазваляе нам рабіць.

Але ёсць вузкі пралаз, кінуўшыся куды (на злом галавы), можна трохі забыцца самнасам, адхэкацца і паспрабаваць тое-сёе зрабіць, як табе самому жадаецца, у тых формах, рытмах і мелодыях, у якіх вызваленая з-пад задушлівага гнёту твая экзістэнцыя просіцца. Гэты вузкі пралаз знаходзіцца на самым ускрайку літа-

у першым працавітым дні.
Наводля трэбуха ад Дон-Кіхота
усё прыцёкаецца да нас шчасьліва,
(зусім як разьбярыся!)
Дагод чаканьня — скаромісты разгон у працы,
карцівіць цяжкай існасьцяй
у невядомым Я.
Дульцанэя — ад нараджэньня ў першы раз,
гэткай сталася — Дульцанэяй.
Быць найметкай — іх ня было
сустракаючыся із Дон-Кіхотам
злюбіць яго любоў...
Прастасаваньня працай да жыцьця любосна
прыкралася жарсьліва Дон-Кіхоту:
на кожным паварoце рэчак дзідай
пусьціць ваду з вазёраў меціў.

*12*

— Недарэчлівасьці жыцьця,
хто іх калі міне?
Яны блізкія каля мяне здараюцца, —
Дон-Кіхота цьвердзіць, бы лірнік сьпеўны
убожану на рынку просіць.
Пра патаемнасьць будучыні,
незракаюся:
Бел-Кіхота я,
сказаць ня можа,
я толькі помачнасьць у сяньнім дні.
А камусьці гэта
творнасьцяй асьвеціцца надзённай.
Прынамсі, сноліцца невядома дзе,
кідком трызьненьня —
лётам матылькоавага імгненьня
адведаць лёс жыцьцёвых захаваньняў.

ратуры, у найбольш глухім, зарослым яе кутку і называецца — герметызм...

З-пад прыгнёту прасторы, хай сабе і зланцужанай, але прасторы, — у корчу самазамкнёнасці, з адной задухі ў другую — і гэта шлях волі?

На жаль, здаецца, так. Глухая герметычнасць — ці не адзіная магчымасць вызваліць горла з моцна сашчэпленых пальцаў уладна пануючага моўнага дыскурсу...

І таму рэдка хто адважваецца ступіць на гэты шлях. А той, хто адважваецца, выглядае ў пісьменнасці, як Дэрсу Узала ў горадзе: дзіўны, дзікі, недарэчны. Бо дзейнічае не па Закону Тэксту, а як яму жадаецца, бачыцца, чуецца, у тым парадку, у той логіцы, якія началяцца адно яго духовай відушчы.

Звычайна адважны і знікае ў сваёй дзічы-адзіноце, «звяры-дзічыне» (Я.Юхнавец), узакратаванай сваімі рэбрамі вольнай душы. Аднак жа гэта не фатальна, бо герметызм мае і жыццядайны патэнцыял...

У тым выпадку, калі здзейсненае ў ім — вартаснае, і супадае з нявыяўленым, схаваным і ад сябе ў «шолах моўкнасці» (Я.Юхнавец) некага іншага, ён (герметызм), хай і не адразу, хай спакваля, але адчыняецца для другога...

Творчасць Янкі Юхнаўца — вартасная, а значыць, і мае патэнцыял быць адчыненай для дыялогу, нягледзячы на падвоеную апазіцыю — як да Закону Тэксту на бацькаўшчыне, так і на эміграцыі.

Валянцін АКУДОВІЧ





Або даўцяць
надворна слаўленую хлюготу пасьлядоўную —
няздоленасьць згубленая
прасьцяжна роўная
пад плугам зныраным
у нівы астарэлыя.
Ёсьць роўная памога
усім ад усяго, — пастаяць на варце доўга,
яна, бы вытканы ўцемна андарак,
крывуліны хавае юрлівых ног.

13

— Ня буду вечыць, і ня хціўіць ведамі,
сьвет з чаго ў блізасьці створаны.
Укорнікі сьвятыя народжаныя ад грэху
самім-сабе да сьмерці веруць.
Рыбай спатрошанай, а тады ляжаць,
жменямі лузгі рассыпістай
раку спрадвечнасьці — веру зьберагчы,
гнаістым глеем
утрамбываць.
А Пан-Кіхота мудротай зьвершаны
цікавіць і сьцігуе нас,
сказаў няхлуснасьці нарэшце:
— Да сьцяны апёршыся узножна з дзідай,
асьцярожным будзь і за сьцяной!

*14*

— Магчымасьцям усякім веру я,
што апанура пад маёй шкурай
былі і ёсьць заўсёды.
Я Панс-Кіхота,

# У ШОЛАХУ МОЎКНАСЦІ

У маім хатнім архіве сабралася роўна дзевяць лістоў ад жыхара Нью-Ёрка Янкі Юхнаўца — лічба магічная, што дае мне права свой дзевяты адказ напісаць не ў Амерыку, а ў «Крыніцу», пагатоў у беларускім друку ўжо зроблены паважныя спробы абвясціць яе супрацоўнікаў агентамі ЦРУ.

Прызнаюся як на духу: па-першае, я быў рэдактарам выбраных твораў Янкі Юхнаўца, якія ўжо выйшлі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», а таксама выбраных твораў, якія яшчэ выйдуць у розных іншых выдавецтвах. Аднаго разу калега зазірнуў у рэдагаваны мною рукапіс і запытаўся: «Ён што — вар'ят альбо геній?» Пакінем гэта без каментару.

Па-другое, мінулым летам я сустрэўся з Янкам Юхнаўцом у царкве святой Еўфрасінні Полацкай у горадзе Саўт-Рывер, штат Нью Джэрсі, а потым яшчэ і ў Беларускай фундацыі імя Пётры Крэчэўскага ў нью-ёркскім раёне Джэмэйка, пра які наша афіцыйная прэса пісала як пра бандыцкі, але гэта, як заўсёды, няпраўда. У адрозненне ад іншых эмігрантаў, у тым ліку

памятайце імя гэта,
змешаная канцамі пачынаць жыцьцё
ня толькі дзеля сябе самога,
а для іншых.
(Спадзяваньні, — падлыга Час называе лёсам іх!)
Дадумнасьці біблейскія на дзень наступны
цяжуць прыбаль улад таксама:
дзеямі вяночнамі любоўна-скратнамі
зьвязаць прычынай
сьвятой патрэбнасьці.
  І я таксама стварыць уздоле,
абяцаю падуладна сяньня,
асьцяпяніць захопная паданьня:
з ветрам прыхіліцца
да ветрагонных ветразяў,
і вось тады, упэўніцеся прыхільна, —
вам прыдзе вера несумніўная,
(сьвятасьцяй улашчаная спрадвеку), —
ён у бэбуху кіта ня быў.

*15*

— Ведайце (калі толькі вы жадаеце?),
да трусьлівых не належыў я.
Адвак, калі хлусьнява, або шчыра,
зьвенавацеце ў чымсьці створаным
не па вашаму,
магу абвесьціцца: вяльможна й гардліва,
жыцьцё пачаў ад сыскі матчанай;
сам навучыўся вылазіць із калыскі.
І тады — (гардлівасьцяй маленца віну адчуў), —
бяз ойчай помачы сьцераглівай
да жыцьця паўзьці пачаў.

---

**і літаратараў, спадар Янка не распытваў пра палітычныя падзеі. Наогул, нашыя з ім размовы былі да краёў напоўненыя шолахам моўкнасці, у якой засталася нявыказанаю мая думка пра тое, што з часоў Максіма Багдановіча ніхто, магчыма, не сумовіўся з космасам на такой блізкай мове, як ён.**

**У шолаху гэтае моўкнасці расталі, такі не вымаўленыя ўголас, радкі, што ўразілі ў рукапісе «Сноў на чужыне», зрабіўшыся іх своеасаблівым эпіграфам:**

*...я дома зноў, ён для мяне спакой.*
*Гляджу з вакна ў сад у воддаль поля,*
*там не відаць дарог шумлівых,*
*а краскі на аселіцах –*
*самі сабе,*
*прыгожая няволя!*
*Адчуваю – на зямлі бытую*
*адзінотным...*
*Гляджу на стол, там ліст –*
*каму, недапісаны?*

**У сваіх снах Янка Юхнавец ніколі не бачыць Амерыкі.**

**Нядаўна я вяртаўся з Полацка праз яго родныя бягомльскія лясы і пачуў ад спадарожніка гісторыю пра тое, што 27 ліпеня, у «Дзень незалежнасці», нейкі юнак падняў над аўтастанцыяй у Бягомлі бел-чырвона-белы сцяг, за што быў скручаны й кінуты ў міліцэйскі варанок. Факт для нашага цяперашняга жыцця надзвычай банальны, каб не адна дэталь: хлопец са сцягам быў глуханямы.**

**Ці не яму ляжыць на стале ў Янкі Юхнаўца недапісаны ліст?**

**Уладзімір АРЛОЎ**





# ТЛУМачэнне ПАЭЗІІ

**Ужо вельмі даўно мы пішам вершы, глыбока не ўнікаючы ў сутнасць самой ПАЭЗІІ. Мы зарыфмавалі канчаткі ўсіх людскіх слоў, кананізавалі рытмічны лад і абжываем рытмічнае бязладдзе, напісалі свае хоку і квантэмы, узмылена патрапляючы законам алагічнага мыслення, ускацілі на Парнас раман у вершах, усклаўшы на яго вянок вянкоў санетаў...**

**А ПАЭЗІЯ ўсё яшчэ ляжыць у глыбіні душы нашай ледзь кранутым цалінным аблогам, чакаючы сваіх** *калумбаў...*

**Нехта даводзіць, што яна памірае. Аднак пакуль я не бачу і не ведаю таго, хто мог бы яе ўсмерціць. Сам чалавек? Але ён можа загубіць толькі паэзію асабістай душы, ды і то ў тым выпадку, калі не збаіцца вышэйшай сілы, якая заўжды ёсць над ім, хоча ён таго ці не хоча. Да таго ж — нас мільярды... Мільярды душ, на донцы якіх свецяцца залатыя пясчынкі паэзіі. І ўсе яны вельмі падобныя па сутнасці сваёй, як золата на золата, жыццё на жыццё, смерць на смерць, хоць мы ўпарта даказваем іх адрознасць.**

**Крык нараджэння і перадсмяротны катарсіс ёсць вестка пра з'яўленне і зыход душы, але не зыход Паэзіі, бо яна ёсць гарманічны злітак той урачыстасці і трагедыі ў вечным часе.**

**Хто бываў у псіхіятрычных бальніцах, той меў няшчасце назіраць вызваленне душы з яшчэ здаровай плоці. Непазбытнае ўражанне! Засведчу, што ні Гоя, ні Кен Кізі не дасягнулі ў гэтым паўнаты мастацкага ўвасаблення...**

**Чалавек – прыхільнік Паэзіі, а Паэзія – прыхільніца чалавека. Больш таго – жыццё наша зямное ёсць паэтычны твор Усявышняга: кожны з жывых – гэта яго мастацкі вобраз, а праявы быцця нашага – не іначай як зададзеныя ім метафары і асацыяцыі на тэму ЖЫЦЦЯ, АПАКАЛІПСІСУ ды мажлівай ВЕЧНАСЦІ...**

**Таму змірымся: у Бога – ПАЭЗІЯ, у нас – вершы, Бог – стварае, а мы – пішам...**

**І як бы мы ні вымагаліся напісаць нешта звышарыгінальнае, пазаасабовае, – мы пішам усё адно толькі саміх сябе. І калі адпавядаем свайму (боскаму) вобразу, то ўспрымаемся ўсімі, каму хочам паказаць сваю паэтычную самабытнасць, а калі абыходзім сябе – то адпрэчваемся, бо ўсе заўважаюць наша надуманае непадабенства, наш адыход ад божага чалавека, які ён ёсць. Такая неадпаведнасць спараджае Геніяў, але гэтая гаворка не пра іх, і мы тут не будзем трывожыць сон Сатаны...**

**Званне паэтаў нікому і нікім не надаецца, яно назапашваецца ад нараджэння ў кожным з нас. Калі спраўджваецца чалавек, то спраўджваецца і паэт. Іншага не дадзена, пакуль Гасподзь трымае сціло творцы ў сваёй руцэ...**

**На месцы кожнай адышоўшай паэтычнай душы вырастае памяць пра яе – помнік з пісьмёнамі. Падыдзіце на старых могілках да адной з забытых надмагільных пліт, прыкладзіце да зямнога пылу на ёй свой палец і напішыце слова – Я –**

**...Менавіта нешта падобнае на вышэй разбэрсаныя асацыяцыі роілася ў маёй галаве пры чытанні Янкі Юхнаўца.**

**І вось, – напісаў** *так,* **хоць ведаю, што іншыя напішуць** *сваё,* **а Юхнавец застанецца** *самім* **– адным з паэтаў...**

**«Умей тварыць нястворанае», – кажа ён у адным месцы, каб неўзабаве сказаць у другім: «словы праўды скошаны ўсякім словам...»**

**І я – зноў разгублены, бо нічога не магу сказаць насуперак, апроч як схавацца за цытатай з Борхеса: «Шчаслівы не той, хто даказвае сваю праваату, бо ніхто не правы альбо правыя ўсе».**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# «Нябачны вецер вырастае хваляй...»

**Той факт, што на Беларусі не было філосафаў, не проста думаннікаў, мысляроў, а прафесіяналаў-гультаёў, што безупынна занатоўваюць свае вартыя і нявартыя ўвагі думкі, – дзіўным чынам паўплываў на характар сённяшняй літаратурнай крытыкі. Кожную больш ці менш цікавую з'яву, якая б магла быць акрэслена як інтэлектуальная літаратура, яна вымушана не толькі апісваць, але і абмяраць, вызначаючы, што і ў якой ступені было пазычана аўтарам у той ці другой філасофскай сістэме Захаду ці Усходу. Вось і А. Бяляцкі піша ў сваёй прадмове да кнігі Я. Юхнаўца, што «асэнсаванне ягонае творчасці патрабуе хаця б элементарнага ведання філасофіі, яе сучасных напрамкаў». Неўзабаве, відаць, знойдзецца і дасведчаны літаратуразнаўца, які дакладна вылічыць, што і адкуль набыта паэтам, не зважаючы на запавет апошняга:**

*Мой крытык, прашу цябе любіць сябе.*
*Мне ўсёдно, адкуль пачаўся свет.*
*Усіх наслухаліся дурняў ад дурняў.*
*Сваіх не памятаем гурмой народнай.*
*Затое нейкіх чужацкіх бундзякоў,*

*бадай як панцыр,*
*рэлігію якую*
*шлём перад сабой вялікай абароны*
*і клянёмся верай ім,*
*нат задыхаючы*
*ад голаду*
*зімой варона.*

**І трохі далей, у працяг думкі, Юхнавец зазначае:**

*Валадар ведае свой пачатак.*
*Або святло, мой крытык,*
*але як грамадзянін, як дзіцянё сусвету*
*спакмець:*
*што з любасцю начлег сабе знаходзіў*
*на ўзбярэжжы Свіслачы і Вяллі сталічнай*
*і Айчыннай.*

**Апошнія словы – без папярэдніх радкоў – гучаць чарговым прызнаннем у адданасці далёкай Айчыне (апафеозам любові да якой і з'яўляюцца «Гутаркі Лесасека»). З другога боку, яны – прамое сведчанне аб сапраўдным вытоку творчасці Я. Юхнаўца, лаканічна акрэсленым у такім радку іншага твора:**

*Я шмат што пераняў ад самога сябе.*

**Філасофскай паэзіяЯ. Юхнаўца назваць цяжка – занадта ўлюбёны ён у жывы свет, занадта засяроджаны на перажываннях, назіраннях уласнай асобы. Яго вершы пакідаюць тое ж уражанне, што і «вопыты» Мантэня, вядомага майстра пераходаў ад разважанняў аб грамадскай справядлівасці да апісанняў асаблівасці ўласнага страўніка. Імя Мантэня тут да месца – творы Юхнаўца адметны якраз эсэістычнасцю мыслення, што выяўляецца перш за ўсё ў дзіерархізацыі з'яў пры адлюстраванні карціны свету. Дробязнае, другаснае становіцца важным і важкім, а значнае і глыбокае адсоўваецца на другі план. Так, сваё жыццёвае крэда Юхнавец уклаў у абразок:**

*Я Мусаргскага люблю ад дня, калі*
*пачуў музыку ягоную*
*па радыё,*
*на кватэры беднай.*
*Музыку гэтую гаспадыня радзьва*
*ў звоне суддзя кухоннага губляла.*
*– Я слухаю ці, слухаючы музыку ягоную,*
*ўяўляю прычыны й уражанні і заўсёды*
*ў сваяцтвах розных із сапраўднасцю.*
*Хочацца, паверце, адчуваць*
*прычыны і ўражанні*
*праматэрыяй*
*свядомай існасці.*

**Заможнасць мастацтва і беднасць быту – адзін з парадоксаў жыцця, заўважаных пільным вокам паэта. Парадоксы Юхнаўца можна збіраць, як збіраюць каштоўныя камяні.**

*А судзіць мінуўшчыну сучасніку лягчэй,*
*хоць і мінуўшчына - пачатак для сучаснасці.*
*Аднак дзеля прагод «дзеля чаго напісана»,*
*у свет тайкоў я крушняй*
*«літаратурнай» лягу.*
*І вось не гэтак:*
*адступнасці жыццё ўдвеляць,*
*у адступнасцях закон жыцця народзіцца.*

**Гэтае «і вось не гэтак» – асноўны прыём светабачання Я. Юхнаўца, які, падобна дзіцяці, увесь час спрабуе зазірнуць на другі бок медаля, пабачыць рэч адначасова з усіх бакоў – адсюль і яго заўсёды свежая парадаксальнасць.**

**Кожную з'яву паэт паварочвае рознымі бакамі, гуляючы з рэчаіснасцю гэтак жа, як дзіцянё гуляе з «калейдаскопам». Ён з нязмушанай лёгкасцю абвяргае самога сябе, і іншы раз здаецца, што гэта зроблена толькі дзеля таго, каб звярнуць увагу чытача на шматварыянтнасць, шматграннасць быцця. Аднак такое наўрад ці магчыма – Юхнаўца не назавеш пісьменнікам, які б вельмі клапаціўся аб сваім чытачу. У гэтым значэнні слова вершаваныя радкі Я. Юхнаўца вылучаюцца якраз грацыёзнасцю: ён прынцыпова не робіць непатрэбных рухаў і піша толькі аб тым, што прыцягвае *яго* ўвагу, абмінаючы нашы ўяўленні аб лагічнай сувязі, паслядоўнасці і г.д. Пачынаючы роспавед з падрабязнага апісання, ён раптам стамляецца і пераходзіць да простых сказаў, каб скончыць ужо амаль неўразумелай моваю, што трымаецца на апорных словах-вобразах.**

**«Сны на чужыне» – бясспрэчна, удалая назва для кнігі Я. Юхнаўца, бо сон – не толькі адзін з самых распаўсюджаных (амаль нароўні з ветрам) вобразаў паэта, сон – гэта вызначэнне стылістычнай манеры твораў, апавядальная тканіна якіх перарывістая, мазаічная і разам з тым цэльная, як цэльнымі здаюцца нам сны да абуджэння. Своеасаблівасць паэтычнага стылю Юхнаўца зноў-такі дрэнна сумяшчаецца з яго славай паэта-філосафа, аднак нават пры іншай манеры пісьма наўрад ці з яго твораў можна было б пачэрпнуць веды – у іх замкнёны толькі індывідуальны душэўны вопыт, што, магчыма, складае іх галоўную карысць. Сённяшні свет перапоўнены ведамі, якія па большасці кладуцца на душу непатрэбнай камяніцаю. Відаць, маюць рацыю тыя, хто гаворыць, што чытанне карыснае не тады, калі развівае прыналежнае, а тады, калі абуджае нявыяўленае. Псеўдаэнцыклапедычнае веданне часта абарочваецца букваедствам, відам разумовай смерці. Толькі жывое, дзейснае ўяўляецца культурай. «Ужо таму, што я існую, ёсць імкненне тварыць здарэнні, бо існаванне творыць здарэнні й прычыны – ёсць культура і цывілізацыя», – гаворыць паэт вуснамі Лесасека.**

**Паэзія Я. Юхнаўца жывая. Яна вяртае нас да адчувальнай прыгажосці свету, да механікі прыроды, да філасофіі простых рэчаў.**

**«Нябачны вецер вырастае хваляй...» – гармонія думкі, роўная гармоніі быцця.**

**Ганна КІСЛІЦЫНА**





# ПАРАДОКСЫ ПАЭЗІІ

**Паэта адкрываеш для сябе нейкімі радкамі ці вобразамі. «Плач зноў аплачаца тым самым плачам», – так напісаў яшчэ ў 1950 годзе малады Янка Юхнавец, калі палескі хлопчык Алесь Разанаў толькі пачынаў асвойваць навакольны свет і не называўся паэтам. І вось нарэшце выяўляецца нечаканая сугучнасць іх светаўспрымання, самой прыроды вобраза, слова.**

**Бязладнасць мастацкай пераемнасці: паэтычны досвед старэйшага спасцігаецца праз вопыт малодшага – толькі праява бязладнасці беларускага лёсу, але не мізэрнасці паэтычнага развіцця. Парадаксальнасць – магутны чыннік мастацкага руху. Тое, што было дадзена прыродаю ў таленце трагічнага нявольніка лёсу ў 40-я гады, па-новаму адкрылася ў мастацкім досведзе нашага часу.**

**Паэзія для Янкі Юхнаўца – гэта паўнагучная метафара жыцця. Пры ўсёй змястоўнай нечаканасці паэтычнага вобраза ў ім не губляецца першародная ўспрымання свету; малюнак пачуцця, настрою, нават думкі – пластычны, зрокавы, асязальны памяццю: «верас туманіцца каля стваloў, бы шэпат нячутны», «жалейка пастуха рэхам распласталася», «праз болі траў ішоў касец», «словы праўды скошаны ўсялякім словам». Мастацкая прастора верша касмічная паводле сваіх маштабаў, – і яна ж абжытая да найцішэйшага шэпту і шолаху (адна з паэтычных кніг аўтара мае назву «Шолах моўкнасці»). *Вецер і верас* перагукваюцца ў ёй не толькі сугуччамі, – яны аднакарэнныя сваяцтвам у гэтай прасторы.**

**Асацыятыўная раскаванасць паэтычнага мыслення Я. Юхнаўца адпавядае магістральнаму кірунку еўрапейскай паэзіі XX стагоддзя. Тым больш кранальна сустракаць у ёй знакі мастацкай традыцыі свайго песеннага народа: у новым паэтычным кантэксце традыцыйная вобразная сімволіка, вызваляючыся ад першаснага магічнага сэнсу, здабывае арыгінальную інтэрпрэтацыю (як, напрыклад, матыў любоўнага прызнання ў вершы «Ты ад крыніцы йшла тады...»).**

**І ўсё ж выбіраю для сябе, для сваёй памяці амаль «бязвобразны» ўспамін – гэтую шчырасць, гэтае роспачнае шкадаванне, гэтую беларускую пакуту: «Я лішні раз Айчыне не памаліўся».**

**Слова паэта мусіць быць выратаваннем Айчыны?**

**Люба ТАРАСЮК**

# НАБЛІЖЭННЕ ВАНДРОЎНІКА

**Сучасная еўрапейская мастацкая культура знае дзве тэндэнцыі, за якімі скрываюцца свае глыбока адметныя светапогляды, – тэндэнцыю да стварэння твораў «закрытых» (як адлюстраванне традыцыйнага Парадку, які чалавек лічыць нязменным і атаясамлівае з аб'ектыўнай структурай свету) і – супрацьлеглую – тэндэнцыю да стварэння твораў «адкрытых» (як своеасаблівую адносіну мастацтва на прысутнасць у свеце чалавечай дзейнасці Выпадку, Неакрэсленасці, Праўдападобнасці, Двузначнасці, Шматзначнасці, Бязладдзя – што з'явіліся ў выніку шматвяковага праблематызавання, метадычнага асэнсавання, развіцця гістарычных дыялектык, гіпотэз нявызначанасці, статыстычнага праўдападабенства, правізорных ды зменлівых растлумачальных мадэляў). Мастацтву не застаецца нічога іншага, як спрабоўваць – згодна сваёй прызначэнню – прыдаць ім кшталт. Так піша Умбэрта Эка, які гэтай праблеме прысвяціў асобную кнігу «Opera aperta» (Milano, 1962). Ён бліскуча і грунтоўна аналізуе заходнюю тэарэтычную эстэтыку, гісторыю заходняй культуры, гісторыю паэтык у прыватнасці, і на аснове шматлікіх доследаў над канкрэтнымі творамі (м. інш. музыкі, жывапісу, паэзіі, прозы, драматургіі, а таксама творамі выяўленчага мастацтва) стварае мадэль твора «адкрытага», каб паказаць – пры дапамозе гэтакай фармулёўкі – напрамак развіцця сучаснага мастацтва.**

**У гэтай даследчыцкай перспектыве мастацкі твор набывае новы статус – цяпер ён абазначаецца як паведамленне па сваёй сутнасці неакрэсленае, са шматстайнасцю значэнняў, якія існуюць у адным прэдыкаце. Такім чынам шмат-**

значнасць у сучасных паэтыках стаецца адной з адкрыта фармуляваных мэтаў твора, каштоўнасцю, якая мае рэалізавацца насамперш. Каб здабыць, дасягнуць гэтую каштоўнасць, сучасныя мастакі карыстаюцца ідэяй аморфнасці, хаосу, выпадковасці, неакрэсленасці творчых намераў. Словам, «адкрытасць» твора яны робяць сваёй творчай праграмай і прыкладаюць многа старанняў, каб гэтую «адкрытасць» максімальна выкарыстаць.

Што тычыцца мастацкай літаратуры, то – як сцвярджае той самы італьянскі семіётык і пісьменнік Умбэрта Эка, – толькі на сумежжы веку Прасветы і Рамантызму пачынае вырысоўвацца канцэпцыя «чыстай паэзіі». Англійскі эмпірызм, адкідаючы ўсеагульныя ідэі, адцягненыя правы, пракладвае дарогу «вольнасці» паэта і прадвяшчае гэтым самым тэматыку «крэатыўнасці». Ад тэзісаў Э. Бёрка аб эмацыянальнай сіле слова вядзе шлях да тэорыі Ф. Навaліса пра чыста эвакацыйную моц паэзіі як мастацтва з неакрэсленым сэнсам і неўдакладненым значэннем. Аднак свядомая канцэпцыя «адкрытага» літаратурнага твора паяўляецца толькі ў сімвалістаў, у другой палове XIX стагоддзя. Усе пазнейшыя выдатныя дасягненні ў галіне паэзіі, прозы, драматургіі – творчасць Бадлера, Малармэ, Верлена, Джойса, Мапасана, Кафкі, Брэхта ды іншых – былі дэтэрмінаваныя новым бачаннем свету, якое і выяўлялася ў адэкватным гэтаму светабачанню «адкрытых» літаратурных творах.

У авангардзе найноўшай беларускай паэзіі, сугучнай з магістральным шляхам развіцця «адкрытага» еўрапейскага мастацтва, стаяць – на мой погляд – тры выдатныя паэты: Алесь Разанаў (дэвізам якога з'яўляецца *«Я – той, хто шлях і хто па ім ідзе»)*, Надзея Артымовіч (парадаксальна-герметычная паэтка, чыя творчасць шырэй раскрываецца ў сваіх абсягах перад тым, хто памятае, што для яе *«Паэзія – гэта падарожжа. У глыбіню сябе самой»*) і Янка Юхнавец, паэтычнае крэда якога найдакладней, відаць, перадае ягонае перакананне: *«Усё, усім зямля мая тоіць ува мне тайніцу сваю»*, або больш метафарычна: *«мізэрная пясчынка трымае муру злог»*. На паэтычных прасторах беларушчыны яны ствараюць своеасаблівы трохкутнік, які кожным сваім вуглом упісваецца ў іншы культурны кантэкст: А. Разанаў ва ўсходнеславянскі, Н. Артымовіч – заходнеславянскі, а Я. Юхнавец – англасаксі. Прычым з англасаксім кантэкстам ён звязаны асабліва цесна. У адрозненне, мабыць, ад усіх астатніх беларускіх эміграцыйных пісьменнікаў, Янка Юхнавец як паэт фармаваўся цалкам па-за абшарам беларускай літаратуры. *«Доўгі час,* – кажа ён у сваім інтэрв'ю, *– я нічога не ведаў пра беларускую паэзію, заўсёды арыентаваўся на заходнюю літаратуру»*.

Нарадзіўся Янка Юхнавец 3 лістапада 1921 года ў вёсцы Забродак Докшыцкага раёна ў сялянскай сям'і. Пра раннія гады ягонага жыцця, пра бацькоў, братоў, сясцёр, калі і дзе будучы паэт вучыўся, нідзе не ўпамінаецца. Наогул усе аўтабіяграфічныя факты падаюцца ім досыць скупа, без дакладнага часавага расчлянення. Вядома адно, што да вайны скончыў сярэднюю школу, хацеў быць доктарам. У вайну – за супрацоўніцтва з партызанамі? – усю вялікую сям'ю Юхнаўцоў спалілі літоўскія карнікі. Сам ён, відаць, раней або пазней гэтай сямейнай драмы быў арыштаваны і вывезены ў Нямеччыну. З лагера ваеннапалонных вызвалены беларускімі дабрачыннымі арганізацыямі. Жывучы ў лагерах перамешчаных асобаў, ён вывучаў юрыспрудэнцыю на Вольным універсітэце ў Мюнхене. Там жа, у Нямеччыне, у газеце «Шыпшына» ў 1947 годзе публікуе і першыя свае вершы, хоць – як сам сцвярджае – *«пра літаратуру тады не думаў»*. У 1950 годзе Я. Юхнавец, як большасць тадышняй маладой беларускай інтэлігенцыі, пераязджае на сталае жыхарства ў ЗША. Спачатку працуе ў тэхнічных майстэрнях, затым стаецца спецыялістам па камп'ютэрах, гэта значыць авалодвае ведамі інфарматыкі.

Вельмі праўдападобна, што ягоная паэтычная індывідуальнасць (незвычайная творчая адметнасць праз «адкрытасць» літаратурнага тэксту) і спецыялізацыя па камп'ютэрах – гэта тая самая праява неардынарнага таленту Янкі Юхнаўца, і яны, гэтыя два бакі, у яго няспынна ўзаемаінспіруюцца, узаемадапаўняюцца, узаемарэгулююцца. Юрыдычную, а неўзабаве практычна набытую і тэхнічна-матэматычную адукацыю ён адначасова дапаўняе самастойнымі студыямі, як сам гаворыць, азіяцкай, заходнееўрапейскай і амерыканскай літаратуры. *«Зноў чытаю ў англельскай мове,* – натуе Я. Юхнавец, *– замежную літаратуру: мастацкая, палітычная і г.д. Дапоўніліся веды пра Бадлера (тэматыка) і нават пра Шэкспіра (яго не асудзілі!). З нямецкае чамусьці цікаўлюся Шылерам ды некаторымі нячутымі творамі Гейнэ і прозай Цвейга ды Флабэра... Нарэшце, у ЗША неспадзеўна натрапіў на Эзру Паўнда»*.

У той самы час Я. Юхнавец знаёміцца і з заходнееўрапейскай філасофскай думкай. У ягоных нататках чытаем: *«Пасля вайны, 2-ой, сустрэўся з творамі Сартра. <...> Гегеля забываюся. А Сартра трымаюся. <...> А тымчасам люблю Ф. Ніцшэ.*

Трэба меркаваць, што «чужыя» творы мастацкай літаратуры, як і філасофскія працы, чытаныя Я. Юхнаўцом у Нямеччыне, а затым і ў ЗША, ападалі ў жываўспрымлівую ягоную-«сваю», у дзіцячых гадах, відавочна, хораша разрыхленую, душу – беларускае да-літаратурнае, казачнае светаўспрыманне, казачнае ўяўленне з яе (свабоднай ад фармальнай логікі) паэтыкаю кантамінацыі, травестацыі, пераўтварэння, «дзіцячай» гульні словам і – як кажа У. Конан, – «адмяняемасці». *«Для мяне беларускія казкі, народны фальклор (спосаб іх казання) сталіся НАД УСІМ,»* – запісвае паэт у сваіх нататках.

Янка Юхнавец як паэт і чалавек высока самаадукаваны, глыбока азнаёмлены з заходняй культурай, які добра разбіраецца ў іерархіі ейных каштоўнасцяў, ад першых сваіх публікаваных твораў *«імкнуўся да непрадбачанага»*. Інакш кажучы, ён рэалізаваў адзін з асноўных этычна-эстэтычных імператываў наважытнага еўрапейскага мастацтва, пра які, так сказаць, «дазваляе» даслоўна выказацца Чорту (у ягонай размове са Скарынам – у паэме «Калюмбы»): *«Умей тварыць нястворанае! <...> Стварыць цяжка! А перітварыць Створанае яшчэ цяжэй»*.

Не знаючы савецкай беларускай рэчаіснасці і ейнай белетрыстыкі, застаючыся ў сваёй творчасці па-за тым кантэкстам, у тым самым часе Я. Юхнавец, аднак, жыў паўнатою беларушчыны – у той яе іпастасі, у якой яна была яму даступна сваёй *«моўна-слоўнай традыцыяй». «Мова наша багатая (мы не маем Акадэмічнага слоўніка!),* – натуе паэт. *– Дазволім арыентавацца на мову ад народа свайго! Яна ўжо сталася гісторыяй, палітыкай, законам літаратурнай эстэтычнасці. Не думаю, што гэта блага «гуляць» з роднымі словамі. <...> Калі толькі ўдаецца, дазваляю сабе стварыць абстракт са слоў, якія будуць мець значэнне для людзей наскіх, і яны, напэўна, створаць сувязь, прылучэнні, тое, што называем мовай беларускай»*. На пытанне: адкуль у паэта такая своеасаблівая, нават часам незразумелая, лексіка ягоных вершаў, Я. Юхнавец адказвае: *«З Беларусі. З Віцебшчыны. Я сам стварыў слоўнік беларускай мовы і карыстаюся ім. Я вельмі люблю дыялекты. <. .> Некаторыя словы ствараю сам»*.

Як многія заходнееўрапейскія паэты, што любілі эксперыментаваць у прасторах сваёй мовы, так і Я. Юхнавец найпершай рэальнасцю прызнае для сябе беларускую мову і, як казачнік, пачынае яе ствараць («дазваляю сабе стварыць абстракт», «сам стварыў слоўнік», «словы ствараю») ды ператвараць («гуляць» з роднымі словамі).

Беларускія эміграцыйныя паэты, у асноўным прадаўжальнікі нашаніўства (*«Не памыліўся ісці ў іхні след, а, можа, не пайшоў!* – гэтак запісвае паэт. *Шкадую, напаткаўся з імі за мяжой...»*), паэтычныя навацыі свайго земляка сустрэлі амаль у штыкі і, як калісьці Ю. Тынянаў абазваў В. Хлебнікава, празвалі яго «дзікім». *«Можа, ад знаёмства з заходняй літаратурай, а таксама філасофіі,* – шукае як бы вытлумачэння Я. Юхнавец, *– я стаўся для эміграцыйнага другу «дзікім». <...> «Сёння* (не пазней 1955 года. – *Я.Ч.*) *атрымаў газету «Бацькаўшчына»,* – чытаем занатоўку паэта. *– Там была надрукаваная рэцэнзія сп. Рамановіча (ён жа паэт Р Крушына). Зусім не крыўдую, што яму не зразумелыя мае словы, і назваў мяне блізу дзікім шаманам; а пазней нейкі Бярозка (ён доктар медыцыны і хатні паэт, які любіць пісаць, як маці, – ягоная ці кагосьці – прадзе воўну ці лён абтрэплены і беларускі селянін надалей арэ сваю ніву) прыклікаў беларусаў пляваць на маю паэзію (дакладна)»*.

Нічога дзіўнага, што на старонках эміграцыйных часопісаў («Бацькаўшчына», «Шыпшына», «Сакавік», «Конадні», «Баявая ускалось», «Шляхам жыцця», «Наперад», «Божым шляхам», «Беларус», «Веда») творы Я. Юхнаўца, у параўнанні з творамі іншых тадышніх галосных беларускіх паэтаў, паяўляліся, можна сказаць, амаль аказіянальна. Не знайшлося для яго таксама месца ў першым, рэпрэзентатыўным (?) для беларускага пісьменніцкага эміграцыйнага асяроддзя, альманаху «Ля чужых берагоў» (Мюнхен 1955), у якім ва ўступным слове ад выдавецтва, здаецца, вуснамі Ст. Станкевіча было сказана проста (як бы адрасаванае Я. Юхнаўцу!): *«У альманах <...> падбіраліся толькі найлепшыя й найхарактэрнейшыя творы»*, – гэтым самым як бы перакрэсліваючы творчасць усіх тых, хто застаўся па-за альманахам. *«Прыслалі збор твораў «Ля чужых берагоў»,* – запісвае ў сваіх нататках паэт. *– Мяне не «ўпісалі», бо, мабыць, «замадэрны». Пагарды няма – чытаю. Там поўна твораў Н. Арсенневай»*.

Не аказалі, на жаль, належнага прафесіянальнага чуцця і вывучкі для «адкрытых» паэтычных тэкстаў Янкі Юхнаўца і рэдактары ягонай кнігі «Сны на чужыне. Выбраныя творы», што выйшла ў Мінску (1994 г.).

«Замадэрны» і для сталічных знаўцаў паэзіі нашага часу? Відаць, яшчэ замадэрны.

Ян ЧЫКВІН

МЫ

# Леанід ГАЛУБОВІЧ



*Што тоіць смерць, чым томіцца
быццё,
Ці вартыя яны адно другога,
І доўгая, як воўчае выццё,
Куды вядзе апошняя дарога?..*

# Зялёны Луг



## ХАТА
## Ў ЗЯЛЁНЫМ ЛУЗЕ

**Мая хата ў Зялёным Лузе,
Дзе канал з цвілою вадой
Заплывае ўсякай брыдой,
Як і ўсё...
І таму ў акрузе
Актывісты ад БНФ
Агітуюць за бел-чырвона-
Белы сцяг і за новы НЭП...
Вертыкальна сядзіць варона
На ражне з зялёным сукном
Выканаўча-шэрага дома,
Дзе застыў з гумовым дручком
Паставы, як ліцейная домна,
«Явы» густа пускаючы дым...
У пад'ездзе з адстаўнікамі
Небяспечна быць маладым
З чыста вымытымі рукамі...
Бліз тусуецца ўся братва —
Ля прылаўкаў, дзе булкі з макам,
Бо да «Вільнюса» — крок ці два,
А да Вільні — паўвека з гакам...
Зелянее за лугам лес,
А над лесам тым — парашуты
Са спартыўным крылом і без
Чалавечай зямной пакуты.
На зямлю ляцяць з-пад нябёс
Між Усходніх і Курапатаў...
А мяне ўсё трымае лёс
За жалеззем балконных кратаў.
Я тапчуся наўпрост, наўкруг
Прастакутнай нажытай плошчы...
Дзе ты, дзе, мой зялёны луг?!
Вось я, вось, твой вясковы хлопчык...**

## ЛЯ ВОГНІШЧА З ДАЧКОЮ

**У восеньскім лесе сырым
Мы вогнішча палім з табою.
Агнём перакормлены дым
Паўзе, бы страшыдла сляпое...**

**І цягнецца ўжо да цябе
Палюючым рухам кашачым,
І поўсцю на чыстым ілбе
Размазвае воблік дзіцячы...**

**А я сваім зрокам былым
Гляджу з супрацьлеглага боку
Туды, дзе агнём маладым
Я светла гарэў і высока,
Пакуль не спавіў мяне дым...**

**Як гэты, што звіўся пры пні,
І ветру з нябёс патурае,
І ўсё, што згарае ў агні,
Ў выявах сваіх паўтарае...**

**І тыя выявы, бы ў сне,
Звіваючы ногі крывыя,
Паўзуць ад агню да мяне,
Нібыта напраўду – жывыя...**

**І ўсё, што наўкол тут жыло,
Наўскрай выцясняецца імі.
Былое наўсцяж аблягло –
І я задыхаюся ў дыме...**

**Гляджу скрозь яго, як вар'ят
У люстра глядзіцца з шаленствам,
І погляд адводжу назад –
Туды, на даччына маленства,**

**На куст, што пад ветрам дрыжыць,
На дуб, што дарэшты дуплее,
На жар, што ад вогнішча тлее,
На дым, што сабакам ляжыць
І рукі даччыныя грэе...**





## ШКОЛА

***памяці аднакласнікаў:***
*Мішы Галубовіча* *Пятра Мацейкі*
*Пятра Галубовіча* *Валодзі Лежанкова*
*Люды Гнедзька* *Сашы Шпаковіча*
*Віці Канановіча* *Толі Філіпкова*
*Адама Грушы* *Івана Грушы*
*Колі Грушы* *Пятра Каржака*
***і класнай Марыі Мікалаеўны Ханцэвіч***

**Пры хрушчоўскай адлізе
Дапякалі марозы,
Але ў краме вяліся
Газа і папяросы.**

**Калі ў школе чарніла
Замярзала на партах,
Мы ў Егіпет па Нілу
Адплывалі па картах.**

**У чырвоным і белым,
Як атрад якабінцаў,
Мы – галодныя – бедным
Памагалі кубінцам.**

**І збіралі жалеззе,
Зелянелі гасцінцы,
То гайсалі па лесе,
Як народныя мсціўцы.**

**А часцей кукуруза
З галавой нас хавала
На палетках Саюза
Ад мяча і арала.**

**Абразы прыбіралі,
Каб не ўбачыў іх злыдзень,
А ўначы саграваלі
Сон пра сыты Вялікдзень.**

**Самагонку за клубам
Спарадычнаю рвотай
На чырвоныя клумбы
Мы вырыгвалі ўпотай.**

**«Беламорам» пыхцелі,
Носам хлюпалі ў сенях –
Нашы дзеўкі таўсцелі
Ад прыблуднага семя.**

…Сын баптысткі ў Дакоце,
Сын парторга ў мінгасе,
А палова ў маркоце
На той свет падалася…

Наша класная Мэра
Так мімозы любіла,
А бяздзетнай памерла —
І без кветак магіла…

Вельмі простыя словы.
Выпадковыя рыфмы.
І ніякай высновы —
Ані Фрэйда, ні Крышны…

Вось стаю я ля школы —
Выпускнік незлічоны —
Ні багаты, ні голы,
Ні дурны, ні вучоны…

Том стральцоўскае прозы
Сенам пахне ў валізе,
Як у класе мімозы
Пры хрушчоўскай адлізе…

## НОЧ У БАЦЬКОЎСКІМ ЛОЖКУ

…у хаце, дзе выдыхся ў коміне дым,
Дзе пахне рыззё, нібы клунак жабрацкі,
І цягне з падрубы халодным, пустым —
Кладуся я ў ложак нябожчыка-бацькі…

Трывожна на вейках згасае жыццё…
Халодная стома блукае па целе,
Пакуль не атуліць мяне забыццё,
І ложак, дзе сплю я, дарэшты спусцее…

Няўвідны, бязважкі, няісны — лячу
У яснай, бязмежнай, высокай прасторы,
Эфірнымі вуснамі Бóгу шапчу
Апошнія словы любові й пакоры:





«Я — грэшны ад грэшных, я — пыл паміж дзвюх
Старонак адной непамыснай мне кнігі,
Табе адпускаю знядбаны свой дух
Яшчэ аднаго рыфмара-забулдыгі…»

Згрубеў і счарсцвеў ён, як хлеб мой зямны,
З яго патыхае, як з выпітай шклянкі
Даўнішняй забытай бацькоўскай віны,
Што ветрае там, на апошнім прыстанку…

Ён біла да бела канаючы сцёр,
Як сцёр не адно тапарышча далоньмі,
Пакуль адышоў да бацькоў і сясцёр,
Пакінуўшы мне гэты ложак халодны.

На ім і лятаю ў паднебную выш
І ў хату вяртаюся толькі наранку,
Дзе ў шафе старой завіхаецца мыш
І марна грызе сцвеof разелую шклянку…

## ПАКІНУТЫ ЦЕНЬ

У кожнага ёсць досвітак і дзень,
А я начую ў сцемранай самоце,
Пакуль мяне чакае ўласны цень,
Што цверазее на вясковым плоце…

Ён варты жалю маміных вачэй,
А больш — агіды ўдовае баптысткі.
На ім дасюль не высахлі яшчэ
Ні гразь, ні вермут, ні ванітаў пырскі…

Я ноччу знік, ён дачакаўся дня,
І там гібее на суседскім шуле,
І ад яго, нібы ад авадня,
Адмахваюцца ўсе, хто ні пачуе

Ягоны стогн і скаргі, і бажбу,
Купалавы радок, а то і ўласны…
Яму паўсюль аб'яўлена табу,
Таму, хоць і цвярозы, ён — няшчасны.

Хто я цяпер без ценю — прывід, здань?

Пры мне няма мінулага адбітку.
І да жыцця як роўненька ні стань —
Відзён наскрозь, як дзеўка на падпітку.

Цень сам чарнеў, а браў мае грахі.
Мільгаў перад ваччу, каб быў я пэўны —
Што ёсць Я, ёсць — нягеглы ці які —
І ёсць пры мне ЁН сам, двайнік мой крэўны.

І вось — адзін...
Я свой пакінуў цень.
Яго там судзяць з ранку да змяркання
За наша ўсё — за кожны зжыты дзень...
А я тут адбываю пакаранне.

## ПАВОДЛЕ НАРОДНАГА

*Ой, хацела мяне маці*
*Ды за беднага аддаці.*
(з народнай песні)

*Будзь шчасліва, маці міла!*
*Каб ты мяне не радзіла..*
(П.Багрым)

Ой ты, родна мая маці,
Калі б жыў я ў тваёй хаце,
Больш шчаслівым мо ці быў бы,
Ды бязродным хоць не слыў бы,
Больш бы чуў радзімых слоў я,
Менш бы сніў паганых сноў я,
І бруском касу мянціў бы,
А язык даўжэй пасціў бы,
Пот сцякаў бы мой салёны
Не ў радкі, а на загоны,
І не кляўся б я, што добры,
А твае насіў бы вёдры,
На магіле б свайго бацькі
Замаліў бы грэх парнаскі,
І вячэраў бы без чаркі,
П'яны ўвесь ад гаспадаркі,
Браў бы ў рукі райгазету,
Ды глядзеў бы «тэле-лота»,
Спачуваў бы ўсяму свету,
Што за нашым е балотам...





Ды пакуль, матуля-люба,
Не жыву я ў тваёй хаце,
Плач па мне, мая галуба,
Плач па ўсіх, як плачуць маці...

Толькі й плачу ж не чуваці...
Ці няма цябе ўжо, Маці?!

***

...Так вецер танканогую лазу,
Мілуючы, схіляе ўрэшце долу...
Так коршак, што аглядвае красу,
Красы спрадвечнай забірае долю...

Так — плынь, што ў бераг б'ецца,
так — агонь,
Што вызваліцца з вогнішча не можа,
Так — кроў пры сконе грукаецца ў скронь,
Каб выпусціць душу...
Скажы мне, Божа,
Што тоіць смерць, чым томіцца быццё,
Ці вартыя яны адно другога,
І доўгая, як воўчае выццё,
Куды вядзе апошняя дарога?..

...Ужо хілюся долу,
а красу
Душа па кроплі дзень пры дні збірае,
Нібы трава — світальную расу...
Куды яе, каму я панясу,
О ненатольная зямля сырая?..

У НАС

# Юры СТАНКЕВІЧ



*Больш за ўсё народ любіў меладраму...*

# АПАВЯДАННІ



## АПОШНІ КІНАСЕАНС

Больш за ўсё народ любіў меладраму, і яшчэ калі паказвалі выпівох, звыродлівых калек ці якога карліка, тады задаволена рагаталі, а звычайна хадзілі на індыйскія стужкі з танцамі, дзе ігралі акцёры з саладжавымі тварамі пад дрэнна пакладзеным грымам, чорнымі пукатымі цыганскімі вачыма і жанчыны з радзімкамі паміж броваў Хадзілі і на амерыканскія вестэрны, але потым амаль што пакінулі: на іншы сеанс набіралася дзесяткі два людзей, не больш.

У зале ўжо не каціліся з апошніх радоў бутэлькі з-пад таннага віна, не бегала з ліхтарыкам тэхнічка-прыбіральшчыца і не выганяла тых, хто лушчыў семкі. Цяпер п'яныя былі ўсе, лушпінне прыбіралі зрэдку, не хаваючыся палілі, і дым плыў угору, павольна трапляючы ў святло праектара і расфарбоўваючы яго ў дзіўныя колеравыя спалучэнні.

Іншым разам, у хвіліны прасвятлення, кінамеханік Віктар Небышынец неасэнсавана адчуваў, што пастукова гіне. Але рушыўся не толькі яго лёс, але і ўсё навокал, увесь невялічкі, вядомы яму свет, які існаваў вакол яго, і ён махаў рукой: што-небудзь будзе.. Некалькі месяцаў яму затрымлівалі і без таго мізэрную зарплату, якую ён усё роўна траціў на гарэлку, жонка справакавала сутычку і выжыла яго з кватэры. Небышынец пачаў жыць у кінатэатры. Працаваў і праводзіў дзень у апаратнай, а калі нанач тая здавалася пад сігналізацыю, спаў у падвале, у невялічкай майстэрні для мастака, дзе сохлі рэкламныя шчыты. Кінатэатр быў так званага «летняга» тыпу, нават без прыбіральні. Стаяў ён на выездзе з горада, побач з мікрараёнам, і паціху ішоў на фінансавае дно, бо наведвальнікаў прыходзіла з кожным разам усё меней, якія б «крутыя» стужкі ні дэманстраваліся, але з`явіліся камерсанты, дамовіліся пра арэнду фае, дзе зрабілі бар пад назвай «Інтым». За тую арэнду камерсанты – двое ўвішных маладых людзей – абавязаліся быццам аплочваць выдаткі на ацяпленне. Усё гэта круцілася вакол Небышынца, пастукова ўцягваючы ў вір і яго самога. У горадзе працавалі толькі два прадпрыемствы, прадукцыя якіх карысталася нейкім попытам: фармафабрыка і лесахімзавод, астатнія прастойвалі. Але каб уладкавацца на які з тых двух заводаў нават простым грузчыкам, трэба было даць хабар у трыста даляраў, а з «ітээраўца» бралі «штуку». Небышынец спадзяваўся толькі на тое, што кінатэатр праіснуе яшчэ колькі часу Калі-нікалі да яго ў апаратную заходзіла дачка Надзя, непрыгожая дваццаціпяцігадовая дзяўчына, прыносіла каструлю з супам, спачувала. Небышынец ставіў каструлю на электрапліткy і, пакуль яна падагравалася, пытаў звычайна адно і тое ж:

– Ну, замуж не выходзіш?

Надзя, якая небяспечна заседзелася ў дзеўках, моршчылася, але пакорліва адказвала праўду – яна была рахманая і ціхая дзяўчына.

– Не бяруць, тата.

Небышынец еў суп, іранічна ўсміхаўся і супакойваў дачку. Ён даўно не крыўдаваў ні на каго.

Заходзіў і сябра – былы слесар Гурко, невысокі, ціхі, увесь сівы, заўсёды апрануты ў брудную вайсковую кашулю колеру хакі. Ён жыў непадалёку, меў на двары свой хлеўчык, дзе ўвесь час майстраваў рухавік новага тыпу, які, як ён спадзяваўся, будзе з самым эканамічным у свеце расходам паліва і, гэта значыць, з самым высокім «капэдэ». Небышынец слухаў, не верыў.

Наведваць хлеўчык, дзе вечарамі гудзеў станок і часам успыхваў агеньчык зваркі, звычайна адмаўляўся, ён больш любіў пагаварыць, пафіласофстваваць, але да тэхнічных захапленняў сябра быў абыякавы. Адыходзіла лета, было горача, днём часам парыла, імкліва прабягалі кароткія, спорныя дажджы, а вечарамі сонца млява садзілася ў цёмны, задымлены далягляд.

Сябры звычайна сядзелі ў апаратнай, дзе дакручвалася бабіна з плёнкай, бутэлька пусцела, слесар Гурко даставаў запэцканы нумар газеты, цытаваў што-небудь накшталт: «... і з'явіцца на нядоўгі час на Зямлі племя, ці народ, над якім будзе існаваць цёмная пляма – праклён – і які адрачэцца, на здзіўленне ўсяму свету, і ад мовы, і ад волі, і ад зямлі сваёй на карысць суседзяў, і згіне ў вялікіх пакутах...»

– Гэта хто ж такое прадказвае? – ускокваў Небышынец.

– Настрадамус.

– То ж пра нас, выказваў здагадку кінамеханік і аж пляскаў ад незразумелага яму самому задавальнення па загарэлай, бліскучай ад поту лысіне. – Мы, беларусы, і ёсць тое племя..

– Ага.

Крыху пазней, калі былы слесар Гурко ўжо ішоў дадому, пачынаў працаваць «Інтым» З фае даносіліся гукі музыкі, смех, галасы, там густа плаваў цыгарэтны дым. На крэслах уладкоўваліся хлопцы з дзяўчатамі, тут вызначылася ўжо свая «тусоўка», шмат дзяўчат прыходзілі і без праважатых, усе пілі віно ды гарэлку Камерсанты разлівалі па шклянках, лічылі грошы, мянялі ў магнітафоне касеты. З бара часта выбягалі па малой патрэбе. Дзяўчаты звычайна скіроўвалі за апаратную, дзе прысядалі проста на асфальтавай дарожцы. Кінамеханіка ўжо не саромеліся. Небышынец злаваў, аднойчы стаў ушчуваць:

– Ну, а курыце навошта, вам жа дзяцей нараджаць!

– Не толькі курым, а і п'ём.

– Мы яшчэ і трахаемся, дзядзечка, – смеючыся цынічна дадала адна з іх, Ася, па мянушцы Айсідора высокая, гнуткая, з вабнымі, птушынымі рысамі твару, у трыкатажнай майцы і без станіка.

Небышынец адступіўся, больш пытанняў не задаваў.

Камерсанты – скуластыя, коратка падстрыжаныя, нягледзячы на спёку ў аднолькавых скураных куртках, прыязджалі ўвечары па пікапчыку, прывозілі гарэлку, бананы, жавальную гумку, упакоўкі цыгарэт. Паступова абжываліся, усталявалі светламузыку, рэкламныя шыльды, замовілі, па чутках, відэамагнітафон.

Разы два ў месяц ля кінатэатра спынялася іншамарка з таніраваным шклом. З машыны павольна вылазілі «рэксы»* у дарагіх стракатых спартыўных касцюмах, яшчэ больш скуластыя, з запарафіненымі пульхнымі кулакамі і пустымі вачамі прыматаў Яны бралі з уладальнікаў бара даніну натурай: выносілі скрыню з гарэлкай, бананы, апельсіны і ехалі парыцца ў прыватную лазню з вадаспадам, масажнай і асобнымі кабінетамі. З сабой звычайна звозілі Асю-Айсідору і яшчэ каго з дзяўчат

Праз месяц дачка Небышынца Надзя нечакана выйшла замуж. На вяселле кінамеханіка наўмысна не запрасілі ці проста забыліся, потым Надзя з'ехала да мужа ў невялічкі пасёлак, а жонка адразу памяняла кватэру, адкуль яго ўжо даўно выпісалі. Небышынец па-ранейшаму круціў фільмы, па вечарах, як заўсёды, да яго прыходзіў былы слесар Гурко, распівалася бутэлька, няспешна цякла размова. Кінамеханік гаварыў пра сваё, лаяў цяперашнюю публіку, шкадаваў, што ў кінатэатр перасталі хадзіць салідныя людзі, а ўсё больш розная шушамець. Успамінаў, як раней у іх рабілі раз у месяц «дзень цяжкага фільма», гэта значыць не камерцыйнага, а для інтэлігентаў, і як ён круціў тады «Крык» Антаніёні, «Сталкер» і «Настальгію» Таркоўскага, «Расэмон» Курасавы, «Сунічную паляну» Бергмана, «Восем з паловай» Феліні і шмат яшчэ якіх стужак.

– І што, многа народу прыходзіла, быў аншлаг? – каварна пытаўся слесар Гурко, выціскаючы з бутэлькі апошнія кроплі гарэлкі. Ён зусім не петрыў у мастацтве.

Небышынец адразу змаўкаў, а потым пераводзіў размову на слесараў рухавік. Ён і сабе аніяк не мог растлумачыць, чаму на тыя стужкі збіраліся па пяць-шэсць чалавек у зале; выпадковая ж публіка, якая трапляла на сеанс, праз дзесяць-пятнаццаць хвілін пачынала нервавацца, па ходу фільма адпускаліся злосныя рэплікі, бразгаліся аб падлогу бутэлькі, а потым яны ўсё роўна выходзілі адзін за адным, ляпаючы дзвярыма, быццам злавалі на стваральнікаў тых стужак. А чалавек пяць-дзесяць заставаліся да канца, і здзіўлены Небышынец нават неяк падлічыў, што ў горадзе з насельніцтвам у паўмільёна чалавек толькі пяць разумеюць сапраўднае кіно: гэта значыць адзін на сто тысяч, – і зноў здзівіўся.

Адыходзячае лета прынесла ў свае апошнія жніўеньскія дні дзве нечаканыя падзеі. Першая заключалася ў тым, што камерсанты ўрэшце прывезлі і ўсталявалі ў бары відэамагнітафон, праз які пачалі пракручваць проста крутую і вельмі крутую парнуху. Узбуджаныя і разгарачаныя гарэлкай парачкі з бара пасля прагляду зашмыгвалі ў вялікую залу, дзе яшчэ ішоў фільм, і ў цемнаце на апошніх радах па-жывёльнаму бессаромна і таропка займаліся сексам. Небышынец спрабаваў неяк змагацца, уключаў пасярэдзіне сеанса святло, ушчуваў праз мікрафон, урэшце пайшоў да дырэктара.

* **«Рэксы» – рэкеціры.**





Дырэктар кінатэатра, былы падпалкоўнік у адстаўцы па прозвішчы Васкабойнікаў, – з расейцаў, кірпаносы, з ухілістымі вачыма, густыя сівыя валасы яго заўсёды былі гладка зачэсаны назад, – сустрэў Небышынца падазрона ветліва. Выслухаўшы яго няўцямную прамову, махнуў рукой і раптам ашаламіў:

– А вы ведаеце, што вам праз два дні на пенсію?

Гэта і была другая нечаканая падзея. Пра тое, што набліжаецца шэсцьдзесят, што напярэдадні зіма, што няма ўжо ні сям'і, ні кватэры, кінамеханік за штодзённай чаркай проста забыўся.

– Папрацую яшчэ, насцярожана выціснуў урэшце ён. – Пэўна ж не прагоніце?

– Э, не, братка, – сказаў па-вайсковаму цвёрда Васкабойнікаў. – Сам ведаеш, якое ў нас становішча: за ацяпленне плаціць няма чым, білетаў амаль не прадаём, штаты раздзьмутыя, а тут нашы арэндатары прапануюць у вялікай зале дыскатэку адчыніць, у майстэрні, дзе ты спіш (тут ужо быў яўны і мэтаскіраваны намёк) салон для відэа зрабіць, сам разумееш, не я гэтую перабудову прыдумаў, не я за гэты бардак адказваю...

– Як жа так, стагоддзе кінематографа, браты Люм'еры, – пачаў ужо зусім непатрэбнае Небышынец. – Ёсць жа людзі, якім іншы раз няма куды падзецца і таму ўвечары трэба схадзіць у кіно.

Васкабойнікаў не разумеў· «Што за браты? Чые? Ну і што тое стагоддзе? Памірышся з жонкай, пачнеш атрымліваць пенсію, адпачнеш.. » І быццам было па-за ўсялякім пытаннем тое, што сам адстаўны падпалкоўнік невядома чаму працаваў у сферы культуры, нягледзячы на тое, што яму было ўжо пад семдзесят і да таго ж ішла неблагая пенсія. Небышынец раптам успомніў пра тое, аб чым шапталіся жанчыны: дырэктар нячысты на рукі і ўпотай бярэ добры хабар з тых жа камерсантаў, інакш не было б ім тут такой магчымасці разгарнуцца, такога трывалага даху над галавой.

Таму, калі праз некалькі дзён кінамеханіку Віктару Небышынцу на пяціхвіліннай сходцы таропка ўручылі танны падарунак і нейкі ганаровы дыплом з чырвонай бальшавіцкай сімволікай, ён ужо прыняў усё як ёсць. Вечарам напаследак пракруціў фільм, апошнюю частку знарок паставіў дагары нагамі, але ў зале амаль нікога не было, толькі некалькі парачак на задніх радах займаліся сваім ды ў бары віравала моладзь.

У сябра ў хлеўчуку адсвяткавалі дзень нараджэння Небышынец прынёс гарэлку, расклаў на бруднай зашмальцаванай скрыні закуску Слесар на правах гаспадара пачаў паказваць свой будучы рухавік, але захмялелы Небышынец перахапіў гутарку і павёў рэй.

– Сто гадоў таму пачалося кіно, – тлумачыў ён. Праз сорак гадоў я нарадзіўся на свет. Цяпер мне шэсцьдзесят, я ўсё жыццё паказваў людзям фільмы, і вось кіно памірае. Мяне вытурылі з кінатэатра таму, што хочуць пераўтварыць яго ў бардэль.

– Напішаш заметку ў газету? – вяла кпіў у адказ Гурко. – Паскардзішся міністру культуры? Давай лепш па апошняй...

Потым слесар пайшоў дамоў, а Небышынец застаўся і пасунуўся на раскладушку, якую перадусім перанёс з майстэрні. Збіты з дошак хлеўчык не трымаў цяпла, пад падранай, пэўна, трафейнай нямецкай коўдрай было холадна, снавалі пацукі. Кінамеханік не спаў, думаў пра тое, што вось ужо і восень, пасля якой надыдзе і зіма, потым заснуў, але ненадоўга, хутка прачнуўся, запаліў сярнічку і зірнуў на гадзіннік. Было якраз дзве гадзіны ночы. Небышынец накінуў пінжак і намацаў у кішэні ключ. Гэта быў ключ ад дзвярэй майстэрні ў кінатэатры. Адзін быў у мастака, другі ён так і не аддаў, чамусьці пакінуў пры сабе, можа, проста забыў аддаць.

Небышынец выйшаў з хлеўчыка, зачыніў дзверы і цераз вуліцу і сквер пайшоў да кінатэатра. Ноч была цёмная, хмарная, толькі дзе-нідзе на слупах мігцелі рэдкія ліхтары. Вецер расхістваў клёны, з якіх пачынала ўжо асыпацца лісце.

Бар у кінатэатры зачынялі а другой гадзіне. Небышынец падышоў да свайго былога месца працы і агледзеўся. У вокнах і сапраўды было цёмна. Кінамеханік спусціўся на некалькі прыступак па лесвіцы, адчыніў майстэрню, дзе раней жыў, і зноў зачыніў за сабой дзверы на ключ. Ён запаліў сярнічку – і здзівіўся: сцяну да вялікай залы праламалі і ўсталявалі шулякі. Тут, як здагадаўся Небышынец, будзе ўваход у так званы відэасалон, пра які казаў дырэктар Васкабойнікаў. Былы кінамеханік убачыў раскіданую цэглу, на вокнах ужо была прыварана жалезная рашотка. Потым сярнічка патухла, але ён добра арыентаваўся тут і ў цемры. Небышынец палез за складзеныя рэкламныя шчыты, і ў куце намацаў бутэльку – тое, што яму і было трэба.

Ён вылез праз вузкі праём у вялікую залу, дзе павінна была быць дыскатэка. За сцэнай былі яшчэ дзверы, якія вялі ў фае, дзе знаходзіўся бар «Інтым». Небышынец адчыніў іх і адхіснуўся: паветра тут быццам пераўтварылася ў суцэльны тытунёвы дым. Кінамеханік адкаркаваў бутэльку з бензінам і ліну́ў яе на сцены, на стойку, сцягнуў у адзін груд крэслы.

Ён чыркнуў сярнічку – полымя ўспыхнула і пажадліва накінулася на сухое дрэва. Небышынец вярнуўся ў залу, выліў з бутэлькі на крэслы і на сцэну, зноў выцягнуў сярнічку і падпаліў Стала добра бачна, дрэва адразу занялося, ззаду ў бары ўжо трашчала, потым адтуль глуха выбухнула і пацягнула жарам – пэўна, загарэўся спірт, здагадаўся ён.

Небышынец сеў у першы рад і пачаў глядзець, як гарыць сцэна і белы кушаль экрана. Былы кінамеханік кінуў непатрэбную ўжо бутэльку, і яна з грукатам пакацілася па падлозе. Адразу ён нібы ачуняў, падхапіўся і зноў праз пусты дзвярны праём прабег у майстэрню. Ззаду ўжо раўло.

Небышынец саўгануў руку ў кішэню па ключ, каб адчыніць дзверы і выскачыць на вуліцу, але раптам яго нібы ўдарыла токам. Ключа не было. Кінамеханік ліхаманкава праверыў кішэні. Ён з усяе сілы таргануў ручку – дзверы былі замкнёныя ім самім. Разбіць акно? Ён кінуўся да акна і спыніўся, ухапіўшыся за рашотку, ірвануў яе, але дарэмна.

Дзе ж ключ? Куды ён паклаў яго? На падлогу, на падваконне, у кішэні, пакінуў у бары?

Ён памкнуўся назад, але ў зале ўжо было суцэльнае вогнішча, дым хвалямі плыў адтуль і ў цесны пакойчык майстэрні. Небышынец на некалькі секунд быццам здранцвеў, яго кінула ў жар, рукі затрэсліся. Ключ! Куды ён дзеў ключ?

Ён зноў замітусіўся, абрушваючы долу дошкі, афішы, рэкламныя шчыты, зноў ліхаманкава абшарыў кішэні, з усяе сілы затрос дзверы – дарэмна. Абабітыя бляхай – ніяк не выб'еш. Дым ужо запаўняў яму рот, лёгкія. У грудзях хрыпела.

Полымя шугала штомоц. Гарачыя яго языкі лізнулі яму ногі, рукі, апяклі скуру на галаве.

Ключ. Ён апантана шукаў ключ, поўзаў на карачках, мацаў рукамі ў кутах, у смецці, хапаўся за кішэні.

... І вось ён быццам знайшоў яго, лёгка, з першага разу трапіў ім у замок, дзверы расчыніліся, і ён выйшаў на паветра.

На вуліцы быў дзень, свяціла сонца, ён здзівіўся – прайшло ж зусім мала часу, але здзіўленне неяк хутка растала, раставарылася, яму было вельмі горача, сонца пякло ўсё мацней, ён спяшаўся, каб хутчэй трапіць у якую зацень і там адпачыць, і тут ён пабачыў у небе чорную пляму, мо тую самую, пра якую неяк чытаў у газеце, якую стагоддзі назад прадказваў празорца. Пляма гусцела, павялічвалася ў памерах і ўрэшце закрыла крылом яго і ўсё навокал.

# СОВЫ СПЯЦЬ ДНЁМ

Сонца павольна знікла за ахутанай смогам рысай далягляду, і адразу горад трапіў у пяшчотныя абдымкі ночы. Летняя спёка быццам адступіла ў пыльныя кроны рэдкіх клёнаў і распасцерлася над асфальтам. Там-сям запаліліся ўцалелыя вулічныя ліхтары. Раптам паменела машын, і горад, нібы стомленая за доўгі напружаны дзень гіганцкая жывая істота, сцішыў дыханне і пачаў рыхтавацца да кароткага сну.

Брама турмы марудна рассунулася, і спецфургон апаратыўнай групы «Сава» паволі закаціўся ў асветлены штучным святлом двор, зрабіў разварот, мінуў яшчэ адну браму і спыніўся ўсутыч ля ўваходу ў асобны блок.

З кабіны вылез шыракаплечы, гадоў трыццаці пяці чалавек у звычайнай клятчатай тэнісцы, накінуў пінжак, зашпіліў гузікі, выцягнуў з кішэні чорную трыкатажную маску-панчоху з прарэхамі і нацягнуў яе на круглую, коратка стрыжаную галаву. Адначасова адчыніліся дзверы кузава і адтуль скочылі на асфальт яшчэ двое плячыстых і рослых у цывільным, ужо ў масках і з кароткімі, дэсантавага варыянту, «калашнікавымі» ў руках.

– Гатовы? – спытаў чалавек у тэнісцы, націснуў кнопку над маленькім акенцам на сцяне і дадаў: – Здайце «ражкі» Сіпусе.





– Так точна, старшой, – бадзёра згадзіўся адзін з узброеных, аддзяліў магазін з патронамі, забраў такі ж у сябра і аддаў іх вадзіцелю па мянушцы Сіпуха.

Так, гэта была мянушка. Аператыўная група «Сава», створаная ў сярэдзіне дзевяностых, налічвала пяць чалавек і падпарадкоўвалася непасрэдна міністэрству ўнутраных спраў. Такіх груп было некалькі, і кожная дзейнічала толькі на сваёй тэрыторыі. Усе пяцёра дзеля сакрэтнасці насілі кодавыя прозвішчы, якія з пэўным гумарам даў ім нехта з кіраўніцтва, зазірнуўшы ў даведнік па птушках. Галоўным групы быў Пугач, потым ішлі адпаведна яго намеснік Сыч, Дамавы, Барадач, Сіпуха. Прозвішчы-мянушкі з класу «савіных» спачатку выклікалі сарказм, але потым кпіны паміж аператыўнікамі групы зніклі, і з усім гэтым звыкліся.

Старшой, ён жа Сыч, усміхнуўся:

– Давай, савінае племя, дзейнічаем!

Акенца, між тым, расчынілася, і ў ім узнік азызлы твар дзяжурнага прапаршчыка. Ён прыняў у Сыча паперы, праз хвіліну дзверы паехалі ўбок, і ўсе трое ўвайшлі ў залітае святлом дзяжурнае памяшканне асобнага блоку.

Хаця аператыўнікі перыядычна з'яўляліся тут і раней, усе прысутныя – некалькі сяржантаў і афіцэр – адразу прымоўклі і падцягнуліся, быццам у іх гарачае і душнае памяшканне ўварваўся халодны паўночны вецер. Можа, гэтаму спрыяла нававядзенне – маскі-панчохі, а можа – спрадвечная насцярожанасць, калі бачылі выканаўцаў прысуду.

– Афармляцца будзем? – Сыч прынюхаўся, – ну і духата ў вас!

– Анягож, – пацвердзіў дзяжурны капітан, які сядзеў за сталом. – Турэмшчыка я і на вуліцы вызначу – па паху

– Каторы? – спытаў Сыч, разглядаючы табло з экранамі дзесяці манітораў, па якіх вялося назіранне за смяротнікамі.

Капітан тыцнуў пальцам у верхні рад.

– А вось ён, Ваня Калдзянкоў. Адсвістаўся, значыць, галубок. Забірайце. Чым іх меней, тым паветра свяжэй.

– Адзінае, за што я яму аддаю належнае, – пачаў аператыўнік па мянушцы Сыч, чыркнуўшы ручкай на падсунутым лісце, – дык за тое, што пакуль ніводнага памілавання не падпісаў Хоць нам гэтая работа далёка не ў кайф.

– Каму – яму? – машынальна пацікавіўся дзяжурны капітан і зразумеў – А-а. А толку? Межы ж разбураныя. Гуляй-поле. Вось і гуляюць, ваўчары. З гэтых усіх – сем «залётных».

Сыч праз прарэхі маскі абвёў халодным і цупкім позіркам шэрых вачэй экраны маніторاў. Большасць прысуджаных ці спала, ці рабіла толькі выгляд. Адзін сядзеў, ашчаперыўшы рукамі галаву. Двое нервова хадзілі па сваіх камерах ад сцяны да сцяны. Яшчэ адзін яўна ананіраваў. Іван Калдзянкоў стаяў ля дзвярнога «вочка» і чуйна, як жывёла, да нечага прыслухоўваўся.

– Прадчувае, зэчара, – сказаў капітан. – Тэлепатыя...

Крокі ўзброеных гумавымі палкамі сяржантаў і выканаўцаў прысуду гулка ўпячаталіся ў раптоўную цішыню калідора. З адной камеры данеслася выццё, але адразу сцішылася.

Прысуджаны Іван Калдзянкоў, малады зэк гадоў пад трыццаць, ужо сядзеў у куце, проста на цэментнай падлозе, уціснуўшыся як мага далей ад праёму дзвярэй, і дзіка глядзеў на тых, хто ўвайшоў. Стрыжаная яго галава здавалася ненатуральна малой. Твар быў цёмны, скуласты, з чорнымі вачыма. Уся яго істота хвалямі выпраменьвала жах.

– Устаць! – загадаў сяржант.

Сыч выцягнуў з кішэні пінжака наручнікі і аддаў сяржантам. Дзяжурныя спрытна заламалі прысуджанаму рукі за спіну.

– Збірайся, русачок, – зрабіў крок наперад аператыўнік па мянушцы Барадач (гэта была ўжо яго работа) і падсумаваў:

– Усё тваё на табе, тапкі на нагах, бранзалецікі, праўда, нашы, але мы іх з цябе потым здымем. Ну, хутка!

– Куды? – адразу асмяглымі, пачарнелымі губамі выдыхнуў прысуджаны і дадаў з надзеяй: – У агульную пераводзяць? Внатуры, куды мяне, на экспертызу?

– У Амерыку паедзеш, – рагатнуў Дамавы. – Даставім сёння ж.

«Амерыкай», дарэчы, на жаргоне называлася «кропка выканання» – месца, куды дастаўлялі асуджаных на страту.

– Вы што, сукі?! – раптам віскліва закрычаў зэк Іван Калдзянкоў – Ай, прабачце, вырвалася, грамадзяне начальнікі... Не хачу я нікуды, не пайду!

Дзяжурны сяржант моўчкі ўзмахнуў гумавай палкай. Галава прысуджанага тарганулася ад удару. На некалькі сенунд ён змоўк, але закрычаў зноў:

– Біце, ну біце! А-а-а, мянты паганыя!

– Забірайце! – прыспешыў Сыч. – Ноч кароткая. І не папсуйце яму пысу, а то пракурор назад скіруе – на лячэнне.

Абмяклага Калдзянкова пацягнулі па калідоры да выхаду З камер данеслася выццё.

У кузаве спецфургона прысуджанага ўціснулі ў «кутнік» – стальную закратаваную загарадку, дзе ён мог толькі стаяць. Замок зашчоўкнуўся. Дамавы і Барадач сцягнулі маскі і гопнуліся на сядзенне. Святло дзвюх лямпачак са столі асвятляла іх худыя, з рэзкімі рысамі, твары. Ля тых запыленых ліхтарыкаў, абпальваючы крылы, сутаргава білася начніца. Сыч, ужо таксама без маскі, сядзеў у кабіне. Сіпуха, вадзіцель, вярнуў магазін з патронамі, уключыў запальванне, і спецаўтазак марудна крануўся з месца.

– Цыгарэту дайце! – данеслася з «кутніка». – Куды мы едзем, га? Што вы маўчыце, змеі?!

– Ціха ты, поц, сказаў Барадач. – Што, не дайшло куды? І папярэджваю: уробішся ці сапсуеш паветра – мы цябе так выканаем, што паўгадзіны падыхаць будзеш.

– А гэты балюча? Скажыце праўду, балюча? – хіснуўся ў іх бок збялелым тварам прысуджаны.

– Хутка даведаешся, – буркнуў Дамавы.

– Гарэлкі дайце, дайце цыгарэту! – зноў завішчэў Іван Калдзянкоў і пачаў біцца галавой аб рашотку – Выпіць чаго дайце!

– Бягу за «Амарэта», – сказаў Дамавы. – Спяшаюся.

– Памачыся і выпі, параіў Барадач. – Ты большага і не варты, мяшанец.

***

Магчыма, Ваню Калдзянкова доўга б яшчэ не здолелі вылічыць, каб не яго нявіннае адхіленне накшталт «палявання на гуся». «Паляваць на гуся» – гэта значыць рабаваць п'янага бездапаможнага рабацягу У аднаго такога, папярэдне збіўшы, Ваня і выцягнуў з кішэняў зарплату. Узялі яго тады па чыстай выпадковасці і трымалі ў турме ў агульнай камеры. Гэта была, дарэчы, яго другая «ходка», ранейшая – па дзвесце першым артыкуле. Неўзабаве малады следчы выклікаў яго на допыт, дзе Ваня расказаў быццам усё начыстату: што прыехаў сюды, на захад, аж з астраханскага краю, да знаёмай жанчыны, што жыве ў яе каля года, што так – спакусіўся на лёгкую здабычу, бо нідзе не працуе і не мае грошай, пэўна, нячысцік падбухторыў, віну прызнае і гатовы несці пакаранне. Ваня падпісаў пратаколы допыту і вярнуўся ў камеру. Але малады следчы нешта западозрыў: надта ўжо лёгка браў на сябе «гуся» залётны «гастралёр», ды зыходзіла ад яго нейкая пагрозлівая і злая энергія. Тут і цюкнула ў галаву маладому юрысту, які яшчэ не паспеў затлуміць сабе мазгі шэрагам спраў, заўчасным курэннем і алкаголем, дзікая на першы погляд думка: Ваніна аблічча нагадвала фотаробат маньяка, а на тым маньяку віселі некалькі незвычайна жорсткіх забойстваў маленькіх дзяцей з адначасовым іх згвалтаваннем. Малады юрыст сутыкаўся ўжо з самым дном крымінальнага свету. Ён ведаў, што толькі ў Менску – каля васьмісот патэнцыяльных дзіцячых маньякаў, кожны з якіх можа «прачнуцца» ў любы момант.

Следчы пайшоў да турэмнага начальства; там з яго спачатку пакпілі, але потым дазволілі адпрацаваны ход. Ваню перавялі ў «двойку», дзе ён пасядзеў некалькі сутак адзін, а потым да яго падсадзілі маладзенькага «пеўніка», таксама падследнага. «Пеўнік» быў выключна гомасексуальнай асобай і сваіх схільнасцяў не хаваў. Прыгожанькі і адносна чысценькі, ён у першую ж ноч зрабіў Вані палёгку, так што апошні не стрываў і «начырыкаў» таму тое-сёе лішняе. «Пеўнік» пабыў у «двойцы» яшчэ суткі, а пасля «адкінуўся». За Ваню ж узяліся вельмі крута. Выклікалі таго-сяго са сведкаў, націснулі, і Ваня «паплыў», а потым і ўвогуле «раскалоўся» На «вывадцы» ён паказаў яшчэ два закапаныя ім трупы забітых. Следчага ўзнагародзілі і адзначылі па службе. Тым не менш, пабачыўшы фотаздымкі Ваніных ахвяраў, ён не мог спаць некалькі начэй, не ўжыўшы папярэдне транквілізатараў. Ваніну ж справу забралі ў спецаддзел. Далей былі медэкспертыза, суд, апеляцыя, потым зноў апеляцыя – апошняя.

***

– Дайце супакойваючага, «калёс» якіх! – зноў забіўся ў «кутніку» прысуджаны.

– Ты лепш рыхтуйся, – ляніва параіў Дамавы. Ён зрабіў красамоўны жэст рукой. – Хутка пацяжэеш на дзевяць грамаў.





– Шыраніце хоць чым, я вам усё раскажу, я яшчэ адзін труп пакажу, назад толькі паедзем. Мы вернемся, га?

– Мо заткнём гаварыльнік? – прапанаваў Барадач.

– Не. Тады можа ўрабіцца. Было ж не раз. Я смуроду не стрываю. Хай лепш крычыць.

– Рэбята, ай, прабачце, грамадзяне начальнікі... – горача і хутка загаварыў прысуджаны, – вы толькі паслухайце мяне і начальніку скажыце таму, што ў кабіне сядзіць. Я вам адпрацую, я «зялёнымі» аддзячу. Вы толькі назад мяне завязіце і яшчэ адну паперу напісаць дазвольце. Га? Я на «чацвяртак» згодны, усё жыццё «глушцом» адсядзець гатовы, толькі вярніце мяне назад! Дайце суд прысяжных мне, дайце!

– Умры ты, поц, са сваёй хруканінай, – сказаў Барадач. – Які яшчэ табе суд? Хіба Божага дачакаешся. Дык усё роўна не зайздрошчу...

У акенцы спераду ён бачыў частку кабіны і ветравога шкла, аб якое раз-пораз разбіваліся начныя матылі, бягучае святло фар на дарозе і патыліцу Сыча, што сядзеў з «калашнікавым» на каленях. Фургон пагойдвала, роўна гудзеў матор. Потым у кабіне зашыпела – гэта ажыла рацыя. Адбыўся кароткі дыялог

– Ало, Пугач выклікае Сыча. Прыём.

– Сыч на сувязі, ало.

Дзе вы знаходзіцеся, як справы? Прыём.

– Будзем праз дзесяць хвілін, усё нармальна, рыхтуйце сустрэчу. Прыём.

Добра. Канец сувязі.

Сіпуха, як і заўсёды, вёў спецфургон абачліва, не парушаў правілаў, бо група павінна была пазбягаць любых кантактаў і выпадковых праверак. Шаша ў гэты час пуставала і, каб не маўчаць, ён пажартаваў·

– Гэх, не заснуць бы.

Сыч скоса зірнуў на лабатую галаву з прыкметнай нават у паўцемры лысінай (Сіпуха, хаця меў толькі сяржанцкія пагоны, быў самы стары ў групе), зразумеў і падтрымаў размову:

– Я аднойчы трое сутак не спаў. Калі бралі Хіміка. Памятаеш, выканалі ў студзені? Ну таго, што з «хіміі» ўцёк і потым адзінаццаць жанчын у пад'ездах задушыў.

– Анягож. Усю дарогу рыдаў, а потым, у «Амерыцы» ўжо, урабіўся.

– Так, пасля сарака яны цяжка паміраюць. Жыць надта хочуць, а нервы не тыя.

– Наш «серыйны»* трымаецца.

– Малады яшчэ, – сказаў Сыч, – але ранні. Я, калі Пугач будзе заняты, сам яго з задавальненнем выканаю. Такім на зямлі не месца.

– А як адменяць законам страту, пажыццёвае ўвядуць – што тады?

– Не, – запярэчыў Сыч. – Калі ў іх галовы яшчэ не ва ўсіх дзярмом набітыя, то не павінны. Ёсць людзі, якіх грэх пакідаць жывымі.

У кузаве між тым панавала кароткая паўза, бо прысуджаны Іван Калдзянкоў нешта напружана абдумваў

– Хутчэй бы на пенсію, – уздыхнуў Барадач. – Гародчык буду даглядаць, градкі ўскапаю, яблыні, вішні пасаджу, рыбу лавіць буду, нервы ад усяго гэтага дзярма супакою. Сакрэтнасць надакучыла, задзяўбла зусім. Нават жонцы не гавару. Пажыву, урэшце, спакойна.

– Спакойнае жыццё цяпер вялікіх грошай каштуе, – усміхнуўся Дамавы.

– Бадай што так.

– Дык да яго яшчэ дажыць трэба. Хіба мала нашых з аператывак жмурамі прывозяць?.. Сёння гэтую падлу выканаем, а праз тыдзень пашлюць жывога якога браць. Адны жыруюць на хабары, а іншыя, накшталт нас, галовы падстаўляюць. Потым скажуць: міліцыя ўся аднолькавая.

Неспадзявана прысуджанага нібы падкінула:

– Ды маніце вы ўсё, – ліхаманкава «завёўся» ён. – Я ведаю, на ўранавыя руднікі адправіце, так? Мне і ў турме пра гэта давялі: казалі, не вер, на тых рудніках яшчэ гадкоў з пяць-шэсць рогам паўпіраешся... Больш, казалі, не вытрымліваюць... Дык вы мяне на станцыю везяце? На цягнік? Скажыце праўду, змеі! Прабачце, не хацеў пакрыўдзіць, грамадзяне начальнікі...

– Чуеш? – спытаў Барадач. – І гэты пра руднікі.

– Ха.

*** «Серыйны» – маньяк, які зрабіў серыю злачынстваў.**

Прыгавораны нібы акрыяў. На шчоках з'явіліся ружовыя плямы, бачныя нават у штучным святле лямпачак. Фургон між тым страсянула, дарога стала горшая.

– На гравейку з'ехалі, – пракаментаваў Барадач. – Зараз і «кропка» Чуеш, ты? Да Амерыкі пад'язджаем.

– Вы мяне як сакрэтнага інфарматара выкарыстайце – не пашкадуеце, – неслася з «кутніка», – я да ўсіх блатных у давер увайду, я вам такіх «шніфераў» здам, усё пра іх расказваць буду, усіх высачу, я ўсё жыццё на вас працаваць буду, толькі назад прывязіце, начальніка папрасіце, скажыце яму! Завярбуйце мяне!

Прысуджаны завыў.

– Ціха! – прыкрыкнуў Барадач. – Прыбываем. І не ўздумай урабіцца напаследак, брыдота.

Спецфургон павярнуў і затармазіў Усіх хіснула наперад.

– «Кропка», – сказаў Дамавы. – Унь і «уазік» пракурорскі стаіць.

– Выходзім, містэр зэк, – фыркнуў Барадач. – Амерыка.

***

«Кропка выканання» ўяўляла сабой звычайны, без вокнаў, ангар, з надпісам «Склад металалому», які ахоўваўся вартавым, сігналізацыйнай сістэмай і падвойнымі стальнымі дзвярыма. Ніякага металу, вядома, у ангары не было. На цэментнай падлозе стаяў стол, побач месціліся некалькі крэслаў. З боку грувасціўся вялікі сейф.

За сталом ужо сядзелі трое. Абласны пракурор – невысокі, чарнявы, з рэдкімі валасамі на круглай, лысаватай галаве, камандзір аператыўнай групы па мянушцы Пугач – чалавек у куртцы дэсантніка, гадоў сарака пяці, з непрыкметным, у зморшчынах, тварам, з якога абыякава глядзелі шэрыя вочы, і судмедэксперт – малады, мажны, з раннім жыватом мужчына, які яўна хваляваўся, бо нервова круціў у пальцах папяровы шарык. Яркае святло асвятляла іх твары.

– А вось і мы, – сказаў Дамавы. – Прымайце гасцей, дарагія таварышы!

Поцягам уцягнулі прысуджанага. Твар яго быў шэры, цела білі нервовыя дрыжыкі.

– Папрашу без жартаў, буркнуў пракурор, яўна адрасуючы заўвагу Дамавому, і ўстаў.

– Прозвішча? – суха спытаў ён, – імя, год нараджэння?

– Дзе мы? – замест адказу здушана ўскрыкнуў прысуджаны Іван Калдзянкоў. – Навошта мяне прывезлі? Мы паедзем назад, грамадзянін начальнік?

– Тут пытаюся я, – важка сказаў пракурор і цвёрда прыстукнуў па ляжачых перад ім паперах далонню. – Адказвайце!

– Што вы будзеце са мной рабіць?

– Прозвішча? – твар пракурора пачырванеў

– Калдзянкоў Іван Мікітавіч.

– Год нараджэння?

– Шэсцьдзесят дзевяты.

– Прысуд ведаеце?

– Прашу суда прысяжных, экспертызу, завязіце мяне назад! Загадайце ім!

– У Вярхоўны Савет хадайніцтва на абвяржэнне прысуду падавалі? – перабіў пракурор.

– Так.

– Адказ ведаеце?

– Так.

– Прэзідэнту хадайніцтва падавалі?

– Так.

– Адказ ведаеце?

Іван Калдзянкоў кіўнуў, íкнуў і нечакана пасунуўся на падлогу, імкнучыся пацалаваць чаравікі Сычу З горла яго вылятаў няўцямны хрып.

– Падыміце, – грэбліва запатрабаваў пракурор.

Дамавы і Барадач падхапілі з падлогі абмяклае цела і паставілі на ногі.

Згодна закону, за здзяйсненне асабліва цяжкіх злачынстваў, вы прысуджаны да смяротнага пакарання. У памілаванні вам адмоўлена, і прысуд будзе прыведзены да выканання неадкладна.

Пракурор сеў. Пугач, наадварот, устаў з-за стала і пасунуўся да сейфа.

– Ну пайшлі, русачок, – сказаў Барадач.

– Я ж прасіў без жартаў, – зноў незалюбіў пракурор.





Па збялелым твары прысуджанага прабегла сутарга.

– Грамадзянін пракурор! – захлынаючыся словамі, закрычаў ён, – я на ўсё згодны, толькі не забівайце! Выкарыстайце мяне, заб'яце потым! Вярніце мяне назад! Я на «ляльку» згодны, грамадзянін пракурор! Я ж ведаю, мне расказвалі, што на «ляльках» разведчыкі, спецназаўцы трэніруюцца, «лялькy» – гэта значыць мяне, спачатку выпускаюць, а потым і таго, хто мяне забіць павінен... Пазваніце каму трэба, грамадзянін пракурор! Я тут у вас пакуль пасяджу, пачакаю! Я на ўсё згодны! А-а-а, не хачу, не трэба!

– Выконвайце! – махнуў рукой пракурор.

Прысуджаны ўжо не супраціўляўся. Двое падхапілі яго пад рукі і пацягнулі бязвольнае цела за сцяну, у асобнае памяшканне. Земляная падлога там была засыпана драўляным пілаваннем. Адначасова Пугач расчыніў сейф, выцягнуў адтуль пісталет сістэмы Макарава, уставіў абойму і тарганyў затворам, дасылаючы патрон у ствол. Прагучаў пстрычок. Судмедэксперт за сталом уздрыгнуў.

Пугач увайшоў следам за Дамавым і Барадачом, якія нагіналі прысуджанага да падлогі. Не марудзячы, ён стрэліў таму ў патыліцу. Гук быў моцны і рэзкі. Стрыжаная галава смяротніка глуха шоркнулася ў закіданую пілаваннем падлогу. Пырснула кроў. Барадач імгненна нацягнуў на галаву цэлафанавы мяшок і заматаў вяроўкай. Знялі наручнікі.

– Доктара сюды, – паклікаў Пугач.

Судмедэксперт нерашуча зайшоў у пакой і нагнуўся над целам у сіне-шэрай зэкаўскай куртцы, такіх жа нагавіцах і тапках, зірнуў, памацаў пульс, моўчкі кіўнуў і таропка заспяшаўся назад. Цела загарнулі ў стары брызент і заматалі вяроўкамі.

За сталом здавалі зброю, афармлялі дакументы.

***

– Так, – падсумаваў Пугач. – Пакуль, значыць, усё. Я зараз з пракурорам пад'еду, ну, і доктара дамоў даставім. Вы ж заканчвайце па інструкцыі. А заўтра спіце. Суткі адгул. Паперы не забудзьцеся.

Раней трупы смяротнікаў, прыведзеных да выканання, звыкла хавалі на гарадскіх могілках. Закопвалі патаемна ў зямлю ноччу, дзе-небудзь за агароджай, але могілкі хутка пашыраліся. Аднойчы, капаючы магілу, на труп наткнуліся далакопы, узніклі непажаданыя разборкі: нягледзячы на ўсё гэта, трэба было абавязкова захоўваць усё тую ж сакрэтнасць. Праблему вырашылі пасля таго, як закончылася будаўніцтва гарадскога крэматорыя. На самых вярхах абгаварылі пытанне, далі каму трэба ўказанні і тым спрасцілі справу.

... Праз дваццаць хвілін спецфургон прыпаркаваўся ля шэрай масіўнай пабудовы. Труп выцягнулі з кузава і панеслі на насілках усярэдзіну.

Двое ў меру п'яных служак ужо завіхаліся ля печы.

– Прывет, цемрашалы! – рагатнуў Барадач. – А вось і мы, рэдка ды метка. – Вы ў курсе нашай справы?

– Ага. Зноў неапазнаны.

– Так. Няшчасны выпадак. Родных няма. Вось паперы.

Брызентавы скрутак пасунуўся ў агонь.

Яшчэ праз некалькі хвілін спецаўтафургон выехаў на асфальт і пакаціў у напрамку да горада. Кіламетраў праз пяць Сыч сказаў:

– Тармазні.

Яны заўсёды спыняліся тут, ля невялічкай дзялянкі лесу.

Сыч выцягнуў з «бардачка» пляшку, шклянку і вылез з кабіны.

Світала. Першыя промні святла рахмана пацягнуліся з-за гарызонта на ўсходзе – там усплывала сонца. Птушкі перакліваліся ў ранішняй цішы. Зямля выпраменьвала назапашанае за дзень цяпло.

Дзынкнула шкло. Забулькала ў шклянках гарэлка. Сыч сказаў:

– А рукі памылі? Ай-яй-яй...

Усе, акрамя Сіпухі, па чарзе выпілі.

– Табе тваю долю закаркаваць? – спытаў яго Дамавы. – З жонкай падзеліш, ха-ха...

– Ды што тут у вас піць, у мяне дома ёсць.

– Ну, а цяпер пакурым, – сказаў Сыч. – І па хатах. Совы днём спяць, так ці не?

Шэры, нязграбны спецаўтазак марудна набраў хуткасць і пакаціў у напрамку да горада.

# Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ



*Вы мне пра каханне,*
*а я пра Любоў. .*

# ВЕРШЫ



***

**Давай адгародзім кавалачак раю,**
**Ўсяго толькі дзялачку,**
**лапік які,**
**Дзе будуць не восы лятаць —**
**матылькі**
**Ды кветкі цвісці невідочныя з краю.**

**Навокал варожасць,**
**а з намі — лагода,**
**І вусны да вуснаў, і рукі да рук.**
**Для нас будзе ростань**
**найбольшаю з мук,**
**А горам — адсутнасць**
**сумоўя і згоды.**

**Сюды не прабіцца чужому пагляду.**
**Тут наша дзяржава,**
**тут наша мяжа.**
**Тут наша адзіная сёння душа,**
**А цені ўчарашнія хліпаюць ззаду.**

**Чым заўтра абернецца райская ява —**
**Не дадзена ведаць.**
**Самотай? Слязьмі?**
**Мы сталі не першымі, зрэшты, людзьмі,**
**Каго напаткала такая праява.**

1991 г.

## РАЗАМ

**Нас у траве**
**толькі птушкі пабачаць**
**і сонца,**
**Яшчэ НЛА, можа быць,**
**ды выпадковы анёл,**
**Што, прыляцеўшы не ў час,**
**перашкодзіў гамонцы**
**І далікатненька знік —**
**гэткі імклівы Эол.**
**Марым пра лёгкасць,**
**а любім так цяжка**
**і трудна,**
**Так непапраўна —**
**ад роспачы**
**сэрца смыліць.**

З жару — ў купель ледзяную,
са святаў — у будні,
З кручы — у апраметную,
і трэба усё перажыць.

Сонца нас слепіць,
стракозы садзяцца на рукі,
Птушкі зусім не зважаюць —
заняты сваім.
Мусім трываць,
колькі ні суджана мукі,
Вынесці мусім усё,
што па сіле дваім.

***

Як выглядвае сонца — для нас.
Як сцішаецца вецер — таксама.
Лагаднеем і мы у адказ,
Забываем прыватныя драмы.

Ёсць хвіліны —
сама дабрыня,
Іх няможна мінаць без увагі,
Бо сустрэнеш такую між дня —
Быццам трапіш
у горнія гмахі.

Хоць у іх нам не выпала жыць,
Мы там госці,
а госцю — пашана.
Спасцігаем навуку любіць,
А яна, мабыць, звыш даравана.

## КАЛЯДНАЕ

Такою пустою
планета яшчэ не была.
Такою бязлюднай,
пазбаўленай сэнсу і зместу.
Ўзышло і набракла
самоты ліпучае цеста,
І дні выгараюць да рэшты,
да самага тла.

То свята прыждалі. Каляды.
Стары сімбіёз





Паганства з царкоўным канонам.
Усё як належыць:
Аўсяны кісель згатаваны
і рыбіна свежая,
Зварыла куццю
(толькі сена мужык не прынёс).

І ты за сталом,
там паселі бацькі і браты.
Там з сенам ніякіх праблем,
дый гаворка другая.
Там родзіч, узяўшы ў губу,
падпяваць запрашае,
І ты падпяеш.
Галасочкам адораны ты.

У твары анёльскае штосьці,
калі не злуеш,
Калі улагоджаны дух
праз цябе азавецца.
Далёка — як быццам няма,
ды з табой маё сэрца.
Банальна, што зробіш...
Спявай жа, мой голуб, і еш.

***

Суладдзе душ — вялікая раскоша.
Хто зведае яго,
ужо не зможа
Здаволіцца падробкай, сурагатам.
Была і я — нядаўна шчэ! —
багатай.

А зараз — толькі рэшткі,
толькі крошкі,
Акрыленасці ўчарашняй ні трошкі.
Папрокі, высвятленне драбязы.
Адчужанасці горкія азы.

Усё, як і заведзена спрадвеку,
Няма альтэрнатывы ў чалавека,
Які меў глупства
лёгка прыкіпець,
І для каго расстанне —
нібы смерць.

***

Атуленай была і захінутай,
Хоць нeяк адгароджанай ад зла.
Той час мільгнуў,
як зыркая мінута,
І зноў густая цемра пацякла.

Не цемра нават —
шэрань без прасвету,
Дзе рэха тоне і канае гук.
Блукаю я
па гэтай апраметнай
І выбрацца да сонца не магу.

Сюды вяла падманутая вера.
А думкі і настрої — як сычы.
І ўсё, што пражыта
ў НАШАЙ ЭРЫ,
Мне ані ў чым
не можа памагчы.

***

Згушчаліся цені,
і сонца паказвала край
З-за елак зубчатых
усё яшчэ летняга сквера.
І восень, і вечар
як быццам прыхоўвалі меру,
Нібы суцяшалі:
не позна яшчэ,
не зважай.

Вунь промень вясёлы
і лісцік вясёлы такі...
Так, зыркае промень
і лісцік трапечацца жвава.
Аднак жа прыкметы другія —
і злева, і справа,
Хоць цэлая ваза,
ды скора збіраць чарапкі.

Хоць фарбы гараць,
ды звужаецца лапік святла





На гладзі рачной,
і душа, як разважыш,
не тая...
Качар у качкі
частунак, глядзі, адбірае,
Сцвярджаючы тым
перамогу маленькую зла.
А там, дзе суцэльны,
на ўсіх размяркованы змрок,
Дзе нехта за нас
падаб'е, падсумуе рахункі,
Ніводзін прамень
не абліжа лісліва мне рукі
І больш не падмане
ніводзін зялёны лісток.

***

Ў горадзе вецер,
і сыпле крупой.
З ветрам кудысьці
панёсся спакой.

Ўдзень я трываю
напятай струною,
Ўноч — чорны смутак
валодае мною.

Круціць, і трэпле,
і жорнамі меле,
І ў пыл рассявае
па шлюбнай пасцелі.

Як толькі за шторай
бярэцца світаць —
Сябе не магу я
у жменьку сабраць.

Ды часам, прызнаюся,
і не ахвота:
Навошта мне
марная гэта работа?,
Калі ты зчужэлы,
калі ты не мой,
Калі — як за нейкай
кітайскай сцяной?..

***

Калі адчай
хапае мёртвай хваткай
За горла,
бо разлучана з табой,
Дапытваюся ў Бога, як фанатка:
«Дык што далей?
У чым ратунак мой?»

І ты ж таксама
з тварам памярцвелым
Блукаеш пры аказіі такой,
І робіцца з капейку
свеце белы,
І невядома, ў чым ратунак твой.

Ды неяк выдзіраемся з балота
(Яшчэ шкадуе доля нас, дурных),
І кожны ціха радуецца ўпотай.
У чым ратунак?
Ды у нас саміх!

***

Калі паспелі ягады паспець?
Пагрэцца не было яшчэ нагоды,
Не мелі ні настрою, ні пагоды,
Калі паспелі ягады паспець?

Спакой нам толькі сніцца,
далібог.
Стасункі высвятляем апантана.
Так цяжка мы звязалі,
што парвана,
І што нам дзень наступны
прыбярог?

Дык хопіць азірацца, ўспамінаць...
Сярэдзіна,
вышэйшы момант лета.
Паспела і душа, хоць не сагрэта,
Навучана трываць і даравацъ.





***

Вы мне пра каханне,
а я пра Любоў.
Дазвольце мець думку уласную.
Зачаста пілі мне
зламыснікі кроў,
Слабою была і няшчаснаю.

Мне вера не проста далася, але.
Калі ж насланнё я адолела —
Мне зорка Любові
заззяла ў імгле,
І сілы, і гарту паболела.

Што мной кіравала,
даўно адышло.
Чым я уладала,
таго ўжо не шкода мне.
За новае, яснае ў сэрцы святло
Аддам і уладу,
і страсць,
і свабоду я.

***

Асенні мёд...
Няйначай — верасовы.
Пазалацелі
і загуслі словы.

Я нават разабрацца
не змагла,
Ці кветка я,
ці зумкая пчала.

Галоўнае —
ў сугучнасці са светам,
З самой сабою
і парою гэтай,

З імжою
і празрыстасцю нябёс,
З усім, што нёс
і што ўручыў мне лёс.

1994 г

# ЁН | Улдыс БЭРЗЫНЬШ



*У мяне вершы зусім не належаць літаратуры.
Яны належаць мне.
Яны не належаць культуры.
Яны – ні праца,
ні «самарэалізацыя»,
нічога. .
Яны – толькі мой капрыз.
Можа, выклік.*





## З Улдысам БЭРЗЫНЬШАМ гутарыць Андрэй ГУЦАЎ

**Андрэй Гуцаў.** Заўсёды, калі ідзе гаворка пра Улдыса Бэрзыньша, паэта і асабліва перакладчыка паэзіі, і робіцца спроба высветліць веды Бэрзыньша ў мовах, распавед пакрысе пачынае "блытацца ў косках і пачынаецца з малой літары", пакуль у рэшце рэшт не знікне ў скрайняй міфалагізацыі. Перш-наперш я хацеў бы, каб вы падлічылі дакладна, колькі моваў ведаеце, на якіх свабодна размаўляеце, на якіх чытаеце, у якіх адчуваеце толькі агульны сэнс сказанага; потым патлумачце, калі ласка, што гэта такое — "ведаць мову"? Выдатны латышскі мовазнаўца Я. Эндзэлынс у свой час сказаў, што ўсю мову не ведае ніхто. У нейкай іншай кнізе я знайшоў сцвярджэнне, што існуюць толькі дзве ступені моўных ведаў: веданне граматыкі і веданне стылістыкі, веды замежных моваў — гэта быццам бы толькі веданне граматыкі . Вашыя думкі на гэты конт?

**Улдыс Бэрзыньш.** Мае моўныя веды вельмі прыблізныя. Ніколі не быў здольным сістэматычна пераказаць граматычную структуру нават роднай латышскай мовы, зусім не ведаю лінгвістычнай тэрміналогіі. Школу скончыў, так і не зразумеўшы, што такое акалічнасць, што — дапаўненне. Заканчваючы універсітэт, сашпаргаліў з "Кнігі турэцкай мовы" Кананава "законы" і пайшоў таму самаму Кананаву адказваць — заблытаўся ў фармулёўках, больш рукамі толькі паказваў... Колькі атрымаў? Трэба глядзець у дыпломе — так, "чацвёрку" атрымаў сабе. Адзіная карысць, што, бывае, не баюся тэкстаў: гляджу ў такі тэкст і быццам "праязджаю" скрозь яго: адразу разумею (па-

## ЦЫТАТНІК

*.. Ужо задоўга да першай кнігі створаны ім паэтычны свет працаваў у латышскай паэзіі.*

*І тэарэтычна, і практычна, і ў словах, і ў справах Улдыс Бэрзыньш паўстаў за поўны суверэнітэт слова, за слова як насенне і плод, пачатак і вынік паэзіі. "Думка працуе ў мове, вырастае ў мове, слова слізгоча і катаецца па балотных прорвах эліпсаў, слова тут ля ўлады!"... Такая яго паэтычная мара і сон. Але паэт сніць яго з расплюшчанымі вачыма, за аркушам паперы седзячы і гіганцкімі, яснымі літарамі яго высцілаючы*. І мара становіцца рэчаіснасцю.*

*Але ёсць яшчэ нешта.*

*"А ў яблыні ёсць нешта такое, што прымушае адвесці вочы..." Вось тыя балотныя прорвы эліпсаў, выспы зараджанай цішыні. Бо эліпс у паэзіі Бэрзыньша – не столькі нявыказаныя словы, колькі замоўчаны сэнс, што насычае ўспаміны пра папярэдне сказаныя словы і прагу наступных слоў.*

*Акурат у гэтыя хвілі перадыху выспявае ўсведамленне, што Вялікі Сэнс разрывае на нішто абалонку мовы – заўсёды занад-*

* Почырк Улдыса складаецца з вялізных, акруглых і часам адасобленых літар, удвая-ўтрая большых за памеры прапісных лінеек, нагадваючы, можа быць, палёт старажытнага элінскага птаха, а можа быць – і хітразнітаваныя казюрчыны сляды.

## АЛХІМІК І ЧОРНАРАБОЧЫ

**Паэта Улдыса Бэрзыньша можна лёгка ўявіць сабе сярэднявечным алхімікам: накінуць тогу на швэдар і спяцоўку, на галаў — капялюш вучонага мужа, рыхтык алхімік. Нават вершы на пісьмовым стале нагадваюць рэцэпты філасофскага каменя.**

**Аднак гэтак жа лёгка Бэрзыньша можна ўявіць турэцкім або персідскім дэрвішам, што на сходзе ордэна містыкаў экстатычна выпявае радкі Джэлаледына Румі.**

**Адныя лічаць Улдыса за варты пераймання ўзор інтэлектуала, другія — класікам-багемцам... <...>**

**Для адных Улдыс Бэрзыньш — выдатны латышскі паэт, для другіх, у сваю чаргу, — "той самы з залапленымі штанамі". "Кожнаму сваё", — як сказаў бы Лукрэцый...**

**Канешне, усе гэтыя супрацьпастаўленні цалкам знешнія. Улдыс Бэрзыньш у першую чаргу — працоўны чалавек. Працай ён лічыць і свае вершы, і пераклады, і літаратурна-крытычныя нарысы, а таксама розныя грамадска карысныя ідэі. І, як і належыць працоўнаму чалавеку, ён не церпіць ні павярхоўнага, ні халтуры. Не будучы асабліва красамоўным, Улдыс нават у маленькай газетнай інфармацыі канкрэтны і змястоўны.**

**Менавіта таму, робячы агульную справу, гаварыць з ім надзвычай лёгка — паўсловамі,**

*та лёгкую і тонкую, каб ахапіць бясконцасць неспазнаных таямніцаў, што нараджаюцца і стваранюцца з кожным чалавекам, але не знікаюць і захоўваюцца ў чалавецтве.*

*"Як лінень у словах перадаць?" пытаецца Улдыс Бэрзыньш. Пытанне здаецца дробязным, але яно становіцца праблемай, калі на яго хочуць адказаць.*

*Як адолець супярэчнасць паміж бясконца зменлівай плыннюо працэсаў унутранага і вонкавага свету і завершанасцю паэтычнага слова? Кожнае слова – вянец, вынік якога-небудзь працэсу. Названы – гэта гатовы, завершаны. Як у паэзіі прымусіць суперажыць імгненне, калі якая-небудзь часцінка чалавечай ісціны ўвасабляецца ў слова, у імгненне, калі яшчэ гэтае ўвасабленне не адбылося, калі ёсць толькі галізна бясслоўя, пакутнае імкненне да называння?..*

*Мастакі – заўсёды вернікі, толькі бог у іх кожнаму свой. Бог Улдыса Бэрзыньша Дух, а яго пасланцы – Існасць і Сэнс. Але калі гаварыць пра тое, у якіх праявах існавання ён шукае і знаходзіць свайго бога, дык Бэрзыньш пантэіст. Дух, якога ён услаўляе і якому служыць, паўсюль.*

*Будучы паводле паэтычнага тэмпераменту зямным чалавекам, ён бачыць Дух, які таксама нараджаецца і расце з зямлі. У паэтычным свеце Бэрзыньша "красуе дух нібы крапіва пад плотам" і "дух. угнойвае зямлю калі сёлета духу многа дык налета будзе зелена".*

**Рута Вэйдэманэ**

знаю? разгадваю?). З памяццю ў мяне дужа кепска — самыя простыя рэчы гляджу сто разоў у слоўніку У сэнсе маўлення звычайна паразітую ў ідыяматыцы апошняга прачытанага аўтара — калі спадабаўся, дык гэта часам атрымліваецца. Усе мы, што размаўляем на замежных мовах, ведаем, што падчас крадзем у суразмоўцы проста з языка.. Гэта — пытанне настрою, натхнення, узаемнай сімпатыі.

**А.Г.** Наколькі глыбокія вашыя веды ў беларускай мове?

**У.Б.** Наколькі з іншых славянскіх моваў можна зрабіць высновы... Калісьці з лета на лета адкладваў "план": з'ездзіць у такое месца, дзе буду дзень у дзень чуць гаворку мясцовых гудаў. Алесь Разанаў сказаў — у вёсках не гавораць па-вялікароску, "бо ня ўмеюць". У мяне не атрымалася — але цяпер мой сын купляе "Культуру", газеты "Прамень", палескую "Збудінне", нейкі час прыходзіла "Маладосць", невядома, дзе цяпер падзелася. .

Чаму? Нам з сынам падабаюцца тыя песні, што ствараліся пад нізенькай страхой на Павалоўжжы, Алтаі, у Полацку, на Палессі — мы не хочам ні самі быць панамі, ні слухаць панскія размовы

**А.Г.** Чым вас прывабілі цюркскія мовы, чаму быў менавіта такі першавыбар?

**У.Б.** Гэта было ў шасцідзесятых гадах. служба ў войску, усе тыя хлопцы з усіх тых саракнаццаці народаў. Яшчэ· Турцыя — як "напаўеўрапейская" краіна, дзе ісламскае прававерʼе, ерасі (суфізм) нібыта ўвальваюцца на славянскія Балканы, звязваюцца з каталіцтвам, Венай і Парыжам . Яшчэ: мне падабаўся турэцкі паэт — маскоўскі выгнаннік-эмігрант Назым Хікмет, вакол якога ў той час я стварыў арэол "левага вальнадумца".

**А.Г.** У адрозненне ад беларускай літаратуры, якая распачыналася з арыгінальных твораў, сучасная латышская літаратура ў сваім пачатковым перыядзе ў тым жа XIX стагоддзі, падчас Абуджэння, нашмат больш месца аддавала перакладам і перайманням ("300 апавяданняў", К. Валдэмарса (1853), "Песенькі" Ю Алунанса (1856, 1867 і 1869), пераклады К. Біезбардыса, пераклады, апавяданні і вершы 1860-х гг. Е. Звайзгнітэ, пераклады і лакалізаванні Аўсэкліса, літаратурная дзейнасць Ф Брыўзэмньекса). Не памылюся, сцвярджаючы, што латышская літаратура ў вялікай ступені вырастала менавіта з перакладной літаратуры. У такой сувязі і з такога гледзішча Улдыса Бэрзыньша можна ўспрымаць як чыста латышскі феномен, з'яву латышскай літаратуры, але ўжо на больш высокім узроўні... Ваш першы зборнік — "Помнік казе" (1980) — выйшаў у свет даволі позна. Ці гэта быў асаблівы прыём стратэгіі публікавання (як, напрыклад, у аргентынскага пісьменніка Х. Картасара, які, пішучы ўпотай, 20 гадоў свядома амаль нічога не друкаваў, хочучы спачатку вытанчыць сваю манеру да аднаму яму вядомай меры), ці трэба было стаяць у чарзе, ці яшчэ нешта?

**У.Б.** Хацеў друкавацца і са школьнай парты лічыў сябе зусім спелым паэтам Прычына была ў іншым: першую кнігу паэзіі выдавецтва "Ліесма" пратрымала каля дзесяці гадоў — то з-за знакаў прыпынку, то з-за нейкага "грубога" слова, то з-за вуснага палітычнага выказвання.

Нарэшце перакладання як нацыянальнай традыцыі — тут ваша праўда. Адукацыя і асвета ішлі ў Латвіі *паперадзе* нацыянальнай культуры Гэта так. Этнічная, фальклорная, рэлігійная культура была, паганская архаіка ў латышскай духоўнай спадчыне і ў жыцці захавалася да XX стагоддзя — але *сучасная* культура прыходзіла праз школы, перакладзеныя кнігі.. Так у нас, латышскіх літаратараў — прынамсі, у некаторых, — і склаўся стэрэатып: не столькі сябе свету паказаць і прапанаваць, колькі сам свет "латышаваць", асвойтаць, перанесці дадому.

**А.Г.** Латышская крытыка адзначае, што яшчэ да "Помніка..." некаторыя знаходкі паэзіі Бэрзыньша паспелі выкарыстаць многія іншыя паэты (І. Зіеданіс, М. Чаклайс, Я. Пэтэрс) Але ці змянілася б нешта істотнае (і што менавіта) у вашым жыцці (не ў творчасці), калі б першая кніга выйшла на 10 або 5 гадоў раней?

**У.Б.** Гэтага ўжо не магу сказаць. Не, сапраўды не ведаю... Можа, ад дзяўчат больш бы лістоў прыйшло?

**А.Г.** Пытанне пра недахоп знакаў прыпынку, маленькія літары і да т. п. ... Беручы наогул, адносіны да такіх рэчаў бываюць цалкам прагматычнымі, асабліва ў рэдагавальнікаў

*У падмурку паэзіі Улдыса Бэрзыньша – не звыклае лінеарнае, а цыклічнае ўспрыняцце свету і адпаведна з гэтым – пабудова верша. Верш "Алхімія" і шэраг іншых вершаў У Бэрзыньша можна пачынаць чытаць практычна з любога месца. У цыклічным успрыняцці дзеянне, жыццё, час бесперастанку цякуць – у іх няма пачатку і канца ў нашым гістарычным разуменні. У гэтай паэзіі немагчыма (і не задумана) дакладнае тлумачэнне кожнага вобразу, кожнага словазлучэння.*

*Калі фармаванне верша можна параўнаць з выпечкай хлеба, дык паэзія У. Бэрзыньша адлюстроўвае замес, перамешванне, браджэнне як самакаштоўнасць. Бохан хлеба альбо скончаная і акрэсленая форма ў паэзіі У. Бэрзыньша амаль не з'яўляюцца.*

**Яніна Курсытэ**

*БО ШЛЯХІ ЯГО МЛЕЧНЫЯ НЕСПАЗНАВАЛЬНЫЯ*

*Улдыс Бэрзыньш, чортаў хлопец,*
*Казе ўзвёў, паставіў помнік,*
*Бо ёй карцела ў неба ўзняцца,*
*Хоць і дзень ёй дадзены быў Богам*
*Тут, на зямельцы.*
*Я, Улдыс, выбраў бы венік*
*ёй з густам,*
*Ляціць на Месяц хай,*

**намёкамі, не трацячы лішняй энергіі. Скажам, слухаючы верш калегі, Улдыс можа толькі заўважыць: "Ты ведаеш... тут..." І чалавек сам ужо ведае, у якім месцы і што не так, як трэба. З ахвотай выслухаўшы крытычныя пярэчанні, у прынцыповых пытаннях Улдыс застаецца неадступным. Нават тады, калі гэта выглядае дзіцяцтвам.**

**У свой час Улдыс вучыў латышскую філалогію, пасля перакваліфікаваўся на арыенталіста. Цяпер ён прызнаны аўтарытэт у пытаннях турэцкай мовы і літаратуры. Цікава слухаць, скажам, вядомы верш Ояра Вацыетыса або Візмы Бэлшэвіцы па-турэцку, у гуках незнаёмай мовы. Спрабуючы аб'яднаць надзвычай розныя літаратурныя традыцыі, Улдыс імкнецца, каб перакладзены Вацыетыс гучаў усё-ткі і па-латышску. Гэтаксама як і Фазіль Хісні Дагларджа, хоць і ў латышскай апратцы, у сваім мысленні, успрыняцці, рытме застаўся б туркам. У гэтым сэнсе адносіны Улдыса актыўныя да самага найдрабнейшага нюансу — да правапісу слова, да знаку даўжыні над галоснай. Будучы чалавекам шырокага жэсту, ён у выпадку неабходнасці можа быць і вучоным педантам у самым лепшым значэнні гэтага слова.**

**Туркі і іх бліжэйшыя лінгвістычныя браты — азербайджанцы — самая шырокая і вядомая сфера дзейнасці Улдыса Бэрзыньша. Даводзілася бачыць і чуць, як Улдыс таварышуе з азербайджанскімі калегамі. Мова, на якой гаворыць чалавек, можа змяніць яго да непазнавальнасці. Латышская флегма губляецца без следу, тыповыя жэсты паўднёвага чалавека, рэзкая, эмацыянальная рэакцыя. Як сцвярджаюць самі азербайджанцы, размаўляе Улдыс з ледзь прыкметным турэцкім акцэнтам. Калі так, дык гэта мае быць нечым асабліва шыкоўным.**

**Наканаванне перакладчыка, носьбіта культуры — памяншаць разбурэнне і нянавісць у свеце. Улдыс перакладае і прапагандуе таксама армянскага паэта Сіяманта, якога падчас пагрому закідалі каменнем турэцкія фанатыкі.**

**У сэрцы і свядомасці перакладчыка з'ядноўваюцца і сінтэзуюцца эпохі і традыцыі. Персідскага мысляра Саадзі Улдыс перакладае з дапамогай Эрнста Глюка. У сваю чаргу там, дзе пракаветная стылістыка і канон Бібліі захінаюць вечна жывы, чалавечы змест, Улдыс звяртаецца да старажытнагабрайскай гаворкі і прымушае прарока Іова гаварыць у дагэтуль нечуваных у нас вершаваных радках. Да таго ж, побач з даўнадаўнім прарокам Іовам перагукаюцца радкі аднагодкаў і сяброў Улдыса — турэцкіх рэвалюцыйных паэтаў. Галоўнае — шукаць і знаходзіць сарцавіну свету, яго сутнасць.**

**Не будзем гаварыць пра англійскую мову. Улдыс так жа рупліва перакладае і амерыканскую паэзію.**

**Тры леты запар Улдыс правёў у Братыславе на курсах славацкай мовы. У выніку мы пазнаёміліся са своеасаблівым, лаканічным і багатым паэтам Міланам Руфусам. Як сцвярджае Вольга Лісоўска, Улдыс ужо ў першы вечар па прыездзе ў Чэхаславакію мог стасавацца з дапамогай чэшскай мовы. Згадаем выбранае польскай паэтэсы Віславы Шымборскай, адзначанае як лепшы пераклад года. Потым раптам Улдыс паказвае нейкае апавяданне, перакладзенае з іспанскай мовы...**

**Яшчэ яго займае педагагічная праблема: выкладанне латышскай мовы і літаратуры іншаземцам.**

**З такога гледзішча можа здац-**

*Калі не мае глузду.*
*Мо, па дарозе яна стрэла б якога астранаўта,*
*Што чакае там,*
*Закінуты ў той бок, па малаку матулі ссмяглы,*
*І пакарміла б яго там*
*Казіным малаком.*

*Што пасля сталася б – цяжка сказаць.*
*Можа, іх – казу і астранаўта –*
*Пройме ціша і святло астральнае,*
*Бо Шляхі Яго Млечныя неспазнавальныя.*

**Роберт Мукс**

*Праклятая алергія на любую навіну, любую, хоць і мізэрную, нязвыкласць, буркатлівы недавер шуканай і ўжо знойдзенай адметнасці, які вынікае з няздольнасці адрозніць новую якасць ад яе бутафорыі, – такое выпрабаванне паэзіі Улдыса Бэрзыньша давялося прайсці і вытрымаць..*

*“Помнік...” Улдыса Бэрзыньша “адкрыецца” пакрысе і не кожнаму адразу. Таму, хто бярэ кнігу ў рукі і звык да спустошанай мовы і ўсяго ўжо добра пражаванага, у першую хвіліну можа зрабіцца нядобра. Як таму, хто ў “часіну пік” выбег, не падумаўшы, на сярэдзіну самай ажыўленай вуліцы... Але варта паглядзець, чаму ў гэтым віры не адбываецца ніводнай аварыі, каб зразумець, што тут усё сваім рытмам арганізавана...*

паэзіі, ужо не кажучы пра карэктарак. Знакі прыпынку павінны быць. Але ў той жа самы час “беззнакапрыпынкавую” паэзію сёння нельга разглядаць як нешта вельмі мадэрнавае. Прыблізна 10 гадоў назад К. Элсбэргс піша вершы ўжо прынцыпова без кропак. Ён гаворыць пра навязлівасць і нават агрэсіўнасць кропак, у сваім кароткім вершы выкліквае: “Цс-сс ужо кропкі йдуць” і завяршае яго шматкроп’ем... А. Бэргманіс сцвярджае, што першы ў латышскай паэзіі ўзняў вэрхал “адсутнасцю кропак” П. Зырнытыс напрыканцы 60-х... Мудры Сакрат быццам бы сказаў, што там, дзе пастаўлена кропка, заканчваецца ўсялякая думка. Постаць Сакрата, бывае, збліжаюць з Хрыстом, які нічога не пісаў таксама. Піфагор аддаваў перавагу вуснаму слову. На “беззнакапрыпынкавую” паэзію можна глядзець і з сучаснага гледзішча дэструкцыі і дэканструкцыі ў гусце Ж. Дэрыда. Таксама можна дапусціць, што ў паэзіі такога кшталту чытач сутыкаецца сам з сабой, са сваімі варыянтамі прачытання, сваімі сумненнямі, урэшце, са сваёю псіхікай. Тады атрымліваецца, што кожны такі верш ёсць толькі фрагмент з нейкага аднаго бясконцага і ўсемагчымага верша, перад якім не існуе ні П. Зырнытыс, ні К. Элсбэргс, ні У. Бэрзыньш. Бо знакі прыпынку — гэта знакі інтанацыі, а магія і пераканаўчая сіла слова хаваецца не столькі ў сэнсе, колькі ў інтанацыі, жарсці, з якой яно вымаўлена, і яе, здаецца, трэба пазначаць інтанацыйнымі знакамі прыпынку...

Не бяруся сцвярджаць, што “адсутнасць кропак” — адна са знаходак паэзіі Бэрзыньша.. Тым не менш, што гэтая рэч азначае для самога Улдыса?

**У.Б.** У старой персідскай і цюркскай паэзіі знакаў прыпынку наогул не існавала. Біблейская паэзія, у сваю чаргу, занадта багатая знакамі прыпынку, націску, інтанацыі, — але іх рабілі вышкаленыя рэдактары сотнямі і сотнямі гадоў пасля з’яўлення саміх тэкстаў. . Калі ў тэксце няма знакаў, словы толькі, дык самі словы, іх марфалагічная форма, сінтаксічны лад, павінны ўказваць тое дыханне, тую жарсць, якія тэкст імкнецца выказаць! Таму персаў Саадзі і Румі, турка Юнуса Эмрэ я перакладаў без знакаў: калі ім не трэба было кропак на помач, дык і мне не трэба. Неабходна ператлумачыць тэкст так, каб ён існаваў і без знакаў прыпынку (дадатковых путаў для перакладчыка...). У сваіх вершах іншым разам стаўлю знакі прыпынку, іншым разам – не. Бывае, не стаўлю знаку ў канцы радка, канец радка — ужо сам па сабе прыпынак! Альбо гэтак: ідуць коскі, заблытваюся — і адразу выскоквае тэкст і цягне за сабой, пакуль зноў не зачаплюся ў косках.

**А.Г.** Крыху з інакшага боку: ваша паэтычная мова нагадвае манеру пісьма Фолкнера і мову яго раманаў (напр , “Шум і шал”, дзе, між іншым, частка тэксту таксама пазбаўленая знакаў прыпынку) у тым сэнсе, што вам абодвум усё роўна, нават напляваць на тое, ці зразумее штось чытач, ці не

**У.Б**. Я хачу, каб чытач *убачыў*. Разумець тут няма чаго: кожнае слова азначае толькі само сябе — як пыса на малюнку... Гэта ж не іерогліфы нейкія, а словамалюнкі.

**А.Г.** У загалоўным вершы вашага другога зборніка (1984) “Паэтызм беларус” беларус “прапахлы зашмальцаванай анучай”, але сам верш, прынамсі, яго пачатак, па-мойму, прыкметна “пахне” Някрасавым. Ці гэта таксама “той самы помнік”, г.зн. той самы паэтызм, бо “імя беларуса з яго наскрозь штодзённымі канатацыямі — яскравы паэтызм” (як патлумачана ў “Некалькіх радках петытам” у канцы кнігі), ці беларуская “штодзённасць”, на ваш погляд, усё яшчэ застаецца ў XIX стагоддзі?

**У.Б.** Не! Той рамантызаваны *sābris,* той народны ўзор на савецкім сцягу Беларусі, як і “палякі са стругаў” і дзяцінства Райніса, — усё гэта застаецца ў XIX стагоддзі. Я ў 70-х гадах XX стагоддзя хацеў гаварыць з рыжскім, даўгаўпілскім, мінскім, мюнхенскім, нью-ёркскім беларусам — гаварыць пра палітыку і хлеб надзённы, пра небяспеку, што пагражае абедзвюм нашым мовам, і “райнісаўскую” надзею, што прыйдзе яшчэ адна Вясна Народаў

**А.Г.** У тых жа “Некалькіх радках петытам” далей сказана: “ грузін, расеец, кіргіз, цыган, татарын, якут, — словы нейтральнага стылю альбо іх больш грубыя сінонімы — кожнае выказвае адзіны, цэлы, увек непаўторны свет, кожнае дае столькі “пачуццевай інфармацыі”, што хапіла б на сюю-тую паэму” Што б тады змянілася, калі б у радках (“Празаізм салавей”) “Што сэнсу ад вашых друкарскіх памылак, гуды, пашахонцы, ад вашых гарот-

*У паэтычнай тэматыцы Улдыса Бэрзыньша няма ніякай наўмысна шуканай і канструяванай экзотыкі і трукаў. Дыялектычны рух жыцця і бесперапынны пошук чалавекам свайго месца ў ім — у такой спрошчанай формуле змяшчаецца ўсё больш чым за 10 гадоў створанае Бэрзыньшам. А вось цяпер пачынаецца галоўнае. Пачынаецца, скажам так, чараўніцтва. Бэрзыньш кладзе перад намі з дзіцячых дзён добра вядомы гістарычны факт. Так, гэта тое, што мы ведаем. І – як мы ведаем. Але чаму ўсё стала такім рэльефным, шматфарбным, да таго ж амаль фізічна працягненым у сучаснасць, нечаканым?.. Калі б Бэрзыньш быў жывапісцам, абавязкова трэба было б падкрэсліць смеласць і насычанасць яго мазка. Але тут – мова, у якой паэт робіць прыкладна тое ж самае, што і жывапісец, толькі іншымі сродкамі. Інтанацыю Бэрзыньша стварае адначасовае ўзгаранне шматлікіх асацыяцый, калі мы розумам адпрэпаруем адну ад адной, разбурыцца вобразная сістэма паэта... знікне не толькі сімпатычная бэрзыньшнасць, але і ўся паэзія. Калі ўважліва ўглядзецца ў паэзію Бэрзыньша, няўзброеным вокам відаць, якія і колькі функцыяў адразу выконвае кожны пропуск знаку прыпынку Вось фраза ланцугом сашчапілася ў цэлы цягнік вобразаў і паняццяў — і мы зусім не адчуваем, дзе бракуе нейкага счаплення, вінта ці “буфера” Непазначанасць знакаў прыпынку ў*

**ца, што Улдыс Бэрзыньш — суцэльны хадзячы мозг, генератар ідэяў, далёкі ад зямных радасцяў і грахоў.**

**Не бракуе ні радасцяў, ні грахоў, ні штодзённых турботаў. Таксама ж ёсць дом і сям’я, і гаспадарка. Улдыс з усім сваім духоўным цяжарам — зямны чалавек... У свой час трэба гатаваць есці, мыць бялізну альбо рамантаваць кватэру. А калі яшчэ з’явіцца інтарэс да садоўніцтва... Даволі шмат і так ужо сказана, а самае галоўнае — яшчэ не. Гэта — тая паэзія, якую Улдыс творыць сам. Доўга, складана і скупа будаваўся яго “Помнік казе”...**

**У кожным чалавеку схаваны герой, кожны подзвіг — чалавечны: гэта два апірышчы паэзіі Улдыса Бэрзыньша. Далей ад героікі, ад паэтыкі, пераважыць веліч свету ва ўсёй яго складанасці і цяжары.**

**Нярэдка Улдыса папракаюць, што ён быццам бы паэт хаосу. Уяўны хаос — толькі гульня, толькі прыём. Настолькі інтэлектуальна дысцыплінаваны чалавек, нават жадаючы, хаос не створыць...**

**Чытаць Улдыса нялёгка — ён патрабуе да сябе такой жа самай увагі і руплівасці, з якой ён творыць свае вершы. Не траскучыя імправізацыі, а цярпліва выгадаваныя слова за словам, радок за радком. На адной галінцы – нярэдка нават некалькі пладоў; некалькі магчымых значэнняў, некалькі кантэкстаў...**

**Алхімік Улдыс Бэрзыньш, што ніколі не стане хімікам. У гэтым, напэўна, мастацтва паэзіі: усё адкрыць і вынайсці абсалютна нанова. Назапашаная тэхналогія тут не мае вялікай каштоўнасці. Калі трэба шукаць філасофскі камень, каб зрабіць золата, дык любы шлях добры. А нават калі й не патрапіш да золата — усё роўна: гэта цікава...**

**Кнутс СКУЕНІЕКС**





# ХВІЛІНЫ, ГАДЫ І ІНШЫЯ ПАЭТЫЧНЫЯ ЧАСІНЫ УЛДЫСА БЭРЗЫНЬША

**Як і дзве папярэднія кнігі, “Няздзейсненыя замахі” (1990) у Улдыса Бэрзыньша — свайго кшталту выбранае: творы ў ёй датаваныя пачынаючы з 1967 года, а дакладней, у кнізе, разам з параўнальна нешматлікімі новымі вершамі, змяшчаюцца тыя, што з нейкіх прычынаў не ўключаныя ў папярэднія зборнікі. Праўда, наконт добрай часткі твораў няма сумненняў, што там за прычыны: цыкл “Падзвінне” (1971) — барацьба за незалежнасць Латвіі, паэзія (1974) і проза (1981) для Маі Сылмалэ, “Латвійскі час” (1971), цыкл “Год з чалавечым тварам” (1968, 1969) — падзеі ў Чэхаславакіі і гэтак далей. Аднак новая кніга не будзе здзіўленнем для чытачоў (не скажуць: глянь, што ён трымаў у скрыні) — ужо з першых публікацыяў Бэрзыньш засведчыў схільнасць да неафіцыёзнага, кантраверсійнага мыслення і ў выбары тэмаў, і ў іх асвятленні, ужо не кажучы пра арыгінальную паэтыку, што**

*Бэрзыньша служыць для таго, каб адно слова набыло падвоеную семантыку, вобразнасць незавершанасць і бесперапыннасць. І гэтак далей.*

*Бэрзыньшу трэба засцерагацца эпігонаў, дакладней кажучы, эпігоны павінны баяцца Бэрзыньша, бо яго манера пісьма можа жахліва адыграцца любая мізэрная памылка ў перайманні развальвае верш — і няўважлівы хітрун злоўлены на месцы злачынства.*

**Ояр Вацыетыс**

*...Паміж ідэяй і формай ёсць яшчэ адзін узровень — энергетычны. Там увесь час блукае, функцыянуе энергія. Калі шпунтаванні, запруды, вібрацыі, затрымкі і выбухі матэрыялізуюцца ў форме, з'яўляюцца фармальныя ўтварэнні. Але калі гэтую вібрацыю назваць па імені, яна дранцвее, спыняецца ў завершанай форме і.. гіне.. Улдыс свядома трымаецца энергетычнага ўзроўню і не пускае сябе адсюль вонкі ў завершанасць формы. Я добра яго разумею, бо ведаю, наколькі гэта вабная стыхія. Я адчуў гэта, пішучы "У цемры, да мяне прыхільнай"*... Улдыс гатовы паэт, які робіць "негатовае" і канцэптуальна можа сабе гэта дазволіць...*

*Слова Бэрзыньша часта таксама бязлітаснае. Тады ён нагад-*

* "У цемры, да мяне прыхільнай" (1979) — зборнік медытатыўнафіласофскай лірыкі І. Зыеданіса.

ных песень?" замест слоў "гуды, пашахонцы" паставіць "летувісы, пашахонцы" або "ляхі, пашахонцы", ці нават "пінгвіны" ў разуменні А. Франса альбо "гіпербарэйцы, пашахонцы" ў разуменні Гамэра?

**У.Б.** Калі б замест Ганны была Юля, а замест Яніса — Пэтэрыс, дык, праз дзірачку гледзячы, тое ж самае атрымалася б. Але на самой справе гэта ўжо былі б іншыя лёсы і інакшы вынік! У "Празаізме салавей" мне менавіта пра беларусаў хацелася сказаць такія словы. І — хіба ж няправільна сказана далей: "Трэцяе, апошняе дзіця толькі мармыча: такой радні"? Паўсюль, навокал выкоўвалі і будавалі імперыі — у Варшаве, Каралеўцы, Пецярбургу, Маскве — і з усіх сталіц зямля гудаў бачылася толькі як такая ўскраіна (пашахонія)...

**А.Г.** У зборніку "Паэтызм беларус" цэнтральнае месца займае цыкл вершаў "Помнік дону Алфрэда", які "расказвае пра дзіўную веліч аднаго латышскага перакладчыка эстонскай літаратуры і фальклору... Алфрэд Кемпе .. імкнуўся перакласці на латышскую мову ўсе эстонскія пісьмёны, пачынаючы з "Ойча наш"... Што мы, перакладчыкі, робім часткова і пакрысе, тое наш дон хацеў зрабіць цалкам і адразу... невымерныя глыбіні мовы не палохалі яго. . яго мара была моцнай Я ў ім заўважаю Вялікага Чалавека".

У вашым перакладзе Хлебнікава я заўважаю водбліск мары Кемпе, бо Хлебнікаў у расейскай літаратуры лічыцца за ўзор неперакладальнасці яшчэ ў большай ступені, чым К. Скалбе са сваімі казкамі ў латышскай літаратуры. Альбо Кемпе, Хлебнікаў і Скалбе — тры зусім непараўнальныя з'явы?

**У.Б.** Цяжка латышу меркаваць пра неперакладальнасць Скалбе Ці так гэта, што, пераносячы, знікае сам свет Скалбе, распадаецца матэрыял, з якога ён будаваў? Хлебнікаў жа — такі яркі, такі агрэсіўны, што яго можна перакладаць. Гэта яшчэ раз давёў Алесь Разанаў А ў Латвіі Ганна Ранцанэ добра пераклала Хлебнікава на латгальскую пісьмовую мову.

**А.Г.** У анатацыі да кнігі "Няздзейсненыя замахі" (1990) сказана: "Зборнік задуманы як размова аўтара з "лірычнымі героямі...". Гэта нешта падобнае да арыстоцелеўскага

**прынесла Бэрзыньшу і кепскую славу мадэрніста і элітарыста, і жывы інтарэс да яго, асабліва з боку братоў па рамяству.**

**Адна з асаблівасцяў Бэрзыньша-паэта тая, што ён, паводле ідэйнага тэмпераменту, несумненна нарадзіўся прапаведнікам — але нарадзіўся ў час, калі ніхто (і ён сам таксама) ужо не верыць казанням, больш таго, лічаць гэта горшай формай вываротлівасці і крывадушша. Праўдзівым і дзейсным можа быць толькі без пафасу і нібы між іншым сказанае слова. (Час, калі ў паэзіі пачынае актыўна праяўляць сябе пакаленне Бэрзыньша — канец 60-х гадоў. Ён пачынаўся ўзмацненнем унутранай рэакцыі і падаўленнем "Пражскай вясны". Вынішчаюцца апошнія каліўцы веры ў магчымасць "дэмакратычнага сацыялізму", разам з тым ападаюць хвалі апазіцыйнага, але на падобных ідэалах заснаванага пафасу, што натхняў папярэдняе пакаленне паэтаў. Пытанне, як аднавіць паэтычную мову, дасягнуць пафасу іншага кшталту, які не меў бы сутыкнення з афіцыёзным, вырашае ўсё гэтае пакаленне, кожны па-свойму.)**

**Сказанае пацвярджае, з аднаго боку, тое прыкметнае значэнне, якое ў паэзіі Бэрзыньша набываюць дзеясловы "вярзці", "хлусіць", "маніць", "ілгаць" (я хлушу — значыць кажу праўду, а не дасканала вытанчаную хлусню), з другога боку — святыя яго "асабістых нябёсаў", якім прысвячаюцца вершы. Крыш'ян Баранс, Грыгор Нарэкацы, М.Е. Сабір, Алфрэд Кемпе, першыя ліўскія паэты, таксама Райніс, якому Бэрзыньш штохвілі ўчапляецца ў бараду, але да якога заўсёды вяртаецца, — розная гістарычная слава і аб'ек-**





"трэцяга чалавека" — аргумента, скіраванага супраць існавання свету ідэяў Платона, бо, маўляў, паміж фізічным светам і светам ідэяў неабходны трэці свет, які б злучаў іх; у сваю чаргу, паміж фізічным, ідэальным і трэцім светамі неабходныя яшчэ два і г.д. Калі аўтар — гэта свет ідэяў (архетыпаў), а кожны лірычны герой — фізічны свет (ці наадварот), дык кожны верш (размова) ёсць гэты "трэці чалавек", і такіх "трэціх" можа быць безліч.. Але мне здаецца, што ў самым непасрэдным і чыстым выглядзе "размова" аўтара з "лірычным героем" здзейснілася не ў вершах зборніка "Няздзейсненыя замахі", а ў вершы "Празаізм салавей"?

**У.Б.** У зборніку "Няздзейсненыя замахі" — тыя вершы, што напісаныя пасля "Паэтызма беларус", і тыя, што рэдактары выкінулі з папярэдніх зборнікаў Ніякай "задумы зборніка" не існавала — тая анатацыя ў канцы, як і звычайна, двурушная: зборнік "задуманы". . Але ўсё ж цалкам згодны з вамі, што роля і "апраўданне" верша — быць сярод розных існасцяў, экзістэнцыяў· наяўнасць аўтара ў персанажы або наяўнасць сітуацыі, наяўнасць чытача — на чатыры дні або чатыры тысячы гадоў пазней. Дзіва, што часам гэта камусьці ўдаецца...

**А.Г.** У "Замахах" некаторыя вершы называюцца і паэзіяй, і прозай, і вершамі ("Апакрыфічная проза", "Верш пра астры", "Проза пра маю вар'яцкую смагу", "Другі верш пра вар'яцкую смагу", "Паэзія для Маі Сылмалэ", "Проза для Маі Сылмалэ"). Само сабой напрошваецца пытанне: што такое паэзія, а што — проза?

**У.Б.** Назвамі той "прозы" пазначыў, жадаючы "ўратаваць", апраўдаць недарэчнае укладанне кнігі (гэта быў перадкамп'ютарны час, пераскладаць было задорага). У выбраных вершах, што выйшлі сёлета, яны — без назваў, выключаючы "прозу" і "паэзію" для Маі Сылмалэ: тут тая проза — быццам як ліст, а паэзія — нібыта выпяваецца, у рыфму вымаўленая. А "Проза пра старыя грошы" — проста "вялікая прасціна", — так, і прэтэндуе быць празаічнай, як само жыццё. . Усё словамастацтва — паэзія, усё сюжэтамастацтва — проза. У літаратуры абедзве ідуць уперамешку: ва ўсіх жанрах.

**А.Г.** Падобна да "Помніка дону Алфрэда" ў "Паэтыз-

*вае цалкам стыхійнага цмока, які ірвецца з ланцуга. Але што здарылася б, калі б яму гэта ўдалося альбо яго адпусцілі?. Нічога б не здарылася. Ён бы не ўкусіў. Ён бы супакоіўся:* ***"тое ж самае будзе..."***

*Бэрзыньш — не зямля. У яго паэзіі стыхіі не адасоблены, не падзяліліся. Гэта — першастыхія і ўсе элементы разам.*

*Улдыс Бэрзыньш стварае непадзельны свет унутры "дабразла". Пакуль існуе гэтае адзінства, пакуль ёсць "даброзло", усё добра..*

*Свет можна пачаць разглядаць з "так", а можна і з "не", з "прыхільнай цемры", і Бэрзыньша нельга дакараць, калі ён робіць гэта...*

*Выкарыстоўваючы магію слова, ён шукае ўзровень, дзе белая і чорная стыхіі яшчэ не падзяліліся. Ён карыстаецца шаманскай сілай...*

**Імант Зыеданіс**

*"Помнік казе" Быццам бы крыху жартаўліва, але таксама "быццам бы". Каза ўздымаецца ў нябёсы не скардзіцца, а сведчыць. Яна робіць гэта і тады, калі яе сведчанне не хочуць слухаць. Каза ведае каштоўнасць свайго сведчання, і колькі разоў сапхнутая, столькі зноў уздымаецца. І гэта не ўпартасць, не маніякалізм. Гэта помнік, узведзены сумленню і абавязку, адзінаму рэальнаму шляху паэта.*

**Кнутс Скуеніекс**

**тыўнае значэнне зробленага гэтымі асобамі, але агульнае тое, што яны ніякія не індывідуалісты і не "чыстыя мастакі" – шліфавальнікі і нюансавальнікі культуры, — а закладальнікі падмуркаў, людзі з прапаведніцкай паставай і асветніцкай і місіянерскай свядомасцю. Стаўленне Бэрзыньша да іх часта характарызуе сумесь пахмуры і захаплення. Так, пра Грыгора Нарэкацы: "Нарэкацы, стары, гэй, святоша, белы // багамол, чарнарызнік злосны, ай, паслухай, мілы нелатвійскі тату...". Пра Райніса: "Райніс вярзе лухту штослова як настаўніка падняты палец замудра вярзе гэй дрыготлівы стары. // Райніса лупцую рука мая апускаецца. // Райніса лупцую Райніса б'ю смяецца й смяецца".**

**З папярэднім звязаны таксама факт, што Бэрзыньша ў паэзіі быццам бы не цікавіць тое, што называюць асабістым жыццём, — у яго няма ні любоўнай лірыкі, ні індывідуальных рэфлексій над прыродай, душой, вечнасцю. Яго галоўная тэма — чалавек "у вялікі час", чалавек як слова альбо вынік калектыўнай свядомасці і падсвядомасці (мовы). Можна было б сказаць і проста "гістарычная свядомасць", каб стаўленне Бэрзыньша да гісторыі не было асаблівым і апазіцыйным таму "гегелеўскаму" варыянту лінеарнага прагрэсу. Ядро гэтай апазіцыі, вядома, палітычнай прыроды: тое, што нам выкладалі як аб'ектыўныя гістарычныя заканамернасці, на самой справе было толькі пунктам погляду пераможцаў сённяшняга дня, і Бэрзыньш ясна ўсведамляў сабе гэта. Так у напісаным у 1971 годзе цыкле "Падзвінне":**

*Бэрзыньша, несумненнага паэта па складу мыслення, усё ж нельга адназначна назваць паэтам... Цэнтральны цыкл яго новага зборніка* прысвечаны вар'яцкаму праекту латышскага перакладчыка эстонскай літаратуры Алфрэда Кемпе (1890 – 1967), які ўзяўся перакласці з эстонскай на латышскую ўсе да аднаго літаратурныя тэксты і дабіцца тым самым поўнага зрастання суседніх культур.. "Ён верыў, што латышы і эстонцы на самой справе – адзін народ, толькі "немата" і "глухата" іх падзяляе. Тое, што мы, перакладчыкі, робім пакрысе і паступова, наш дон хацеў здзейсніць цалкам і адразу.. "*

*Кнігу Улдыса Бэрзыньша можна назваць прамым працягам гэтай мары – прынамсі, такая яе паэтычная звышзадача...*

*Тэма зліцця і ўзаемнага перакладу культур праходзіць праз увесь зборнік (дакладней, абодва зборнікі) . Справа тут у асаблівай пазіцыі, уласцівай Бэрзыньшу як паэту. Калі пра добрага перакладчыка кажуць "паэт-перакладчык", дык пра Улдыса Бэрзыньша можна сказаць: "перакладчык-паэт". У паэзіі Бэрзыньша не адчуваецца цягі да самавыяўлення паэтычнага "я", герой яго вершаў – не лірычны.. Герой вершаў хаваецца не ў вершы і нават не ў кнізе (кніга Бэрзыньша – не камера-абскура*

* Маецца на ўвазе зборнік "Паэтызм беларус"

ме . ", у "Замахах" цэнтральнае месца займае нізка вершаў "Падзвінне", дзе часта згадваецца Бермонт. Гэты вобраз — яшчэ адзін дадатковы замах, бо ваенныя паходы 1919 г. Бермонта па Латвіі звычайна называліся ваеннай авантурай... ці на самой справе ён зусім не быў авантурыстам?

**У.Б.** Быў-быў — як і ўсе героі і монстры грамадзянскай вайны ў Расеі Задумы ў яго былі напалеонаўскія — заняць Маскву, выцягнуць Расею з "прорвы рэвалюцыі", потым, з дапамогай Расеі, выцягнуць з прорвы ваеннага разгрому Германію. І, хто ведае, можа, удалося б хлопцу, калі б ён у сваёй ганарлівасці не павярнуў фронт супраць латышскіх ды эстонскіх, сваіх жа вулічных хлапцоў і кулацкіх сыноў.

**А.Г.** Да ўсіх складанасцяў вашай паэзіі крытыку і чытача часам дадатна бянтэжыць тое, што вершы ў зборніках не ўпарадкаваныя ў храналагічнай паслядоўнасці. Толькі ваш передапошні зборнік "Казюрчыны махі" (1994), (літаральна: "Казюрчыны крокі") ужо складзены паводле храналагічнага прынцыпу. Ці можна гэта разглядаць як новую канцэпцыю таго ж самага, што ўжо ёсць і было, альбо гэта проста звычайнае выбранае да вашага пяцідзесяцігадовага юбілею? Тады чаму ў яго не ўключаныя такія вершы, як "Помнік казе", "Празаізм салавей"?

**У.Б.** Пра храналагічны парадак я ўжо казаў: што выкідвалі з адной кнігі — укладаў у наступную... Так рабілі ўсе мае калегі. А ў абедзве кнігі выбранага мог ужо ўкласці вершы прыблізна ў такой паслядоўнасці, як яны былі напісаныя У "Казюрчыны махі" — пераважна кароткія, у выбранае "Паэзія" (1995) — пераважна даўжэйшыя, і "Празаізм салавей" таксама.

**А.Г.** Ваш апошні (агульны з Юрысам Кронбэргсам, латышскім паэтам, што жыве ў Швецыі) зборнік "Час" (1994), задуманы як сведчанне эпохі, пакідае ўражанне доўгага экспромта на 130 старонках. Ці атрымалася кніга завершанай, бо ў такой дыялагічнай форме не можна працягваць бясконца?

**У.Б.** Мы задумалі ў такім нібыта як дыялогу сваё вершаванне "стымуляваць", натхняць. Хаця і сам драматычны час натхняў нас абодвух — і, як гэта здараецца ў вялікай перапоўненасці пачуццямі, драматызме, у мяне сям-там рука (ці язык), здаецца, паслізнулася. . Калі зразумелі, што ў кнізе, сапраўды, не будзе канца, адсеклі заканчэнне і панеслі друкаваць.

**А.Г.** У кожным вашым зборніку згаданы Райніс. У паэзіі Бэрзыньша гэта паэтызм, празаізм або помнік?

**У.Б.** Райніс для мяне быў мерай маштабу для гісторыі майго і іншых мона-народаў — захавальнікам надзеі, што пасля "зімы гісторыі" ў любым разе прыйдзе новая вясна, бо "сонца, сам падмурак павярнуўся"

**А.Г.** Інта Чакла ў сваім грунтоўным аглядзе паэзіі Бэрзыньша між іншым адзначае· "Цяпер, у 1991 годзе, Райніс павінен свае членскія ўзносы несці Бэрзыньшу як кіраўніку сацыял-дэмакратаў Латвіі". Чым вас прываблівае сацыял-дэмакратычны рух?

**У.Б.** Я не хачу многа — але годнасць і правы працоўнага чалавека павінны быць абароненыя. Дзелавы чалавек сам пра сябе паклапоціцца, дзяржава пра сябе паклапоціцца сама, але людзі, якія жывуць на зарплату, павінны быць арганізаваныя і салідарныя — так, каб міліянеры і дырэктары былі вымушаныя размаўляць з імі стоячы! І каб нейкія мінскія пінчэты не маглі запхаць забастоўшчыкаў у турму, — няхай ідуць і гавораць з забастоўшчыкамі стоячы!

**А.Г.** Паэзія — адна з самых інтымнейшых рэчаў на свеце. Ці можа яна ператварыцца ў грамадскую дзейнасць, не страціўшы сама сябе ў прынцыпе?

**У.Б.** Як для якога аўтара. У мяне вершы зусім не належаць літаратуры. Яны належаць мне. Яны не належаць культуры Яны — ні праца, ні "самарэалізацыя", нічога... Яны — толькі мой капрыз. Можа, выклік, "напад" на свет і на сулатыша.

**А.Г.** Ці маглі б вы назваць Бэрзыньша паэтам-трыбунам?

**У.Б.** Так — такім, які звяртаецца да ўяўнага "нябеснага" (усеэпохавага!) натоўпу...

**А.Г.** Пытанне з прычыны вашых цяперашніх штудыяў над перакладам Бібліі ў Амстэрдаме 30 гадоў назад вы дэбютавалі нязвыклымі вершамі, потым сталі вывучаць цюркскія мовы, што таксама можна ўспрымаць як даволі незвычайны крок, а цяпер узяліся за пераклад Бібліі (не забываючы, напэўна, і пра Каран) Існуе цалкам акрэсле-

*з мініяцюрным вобразам аўтара на задняй сцяне), а пастаянна курсіруе паміж тэкстамі, мовамі, эпохамі, не перапыняючы работы па касаванні непаразумення ("глухотаў і нямотаў") паміж народнай і сучаснай паэзіяй, прастамоўем і "вучонасцю", паміж "нізкім" (кабацкім, гарадскім) фальклорам і фальклорам "кабінетным", песенным, які рупліва збіраецца вось ужо больш за сто гадоў. І калі ўсё ж паспрабаваць даць псіхалагічны партрэт паэтычнага героя Бэрзыньша, атрымаецца энцыклапедыст з тэмпераментам дзіцяці – энцыклапедыст, які вырашыў скасаваць алфавіт.*

**Юры Цыўян**

*"Такі, як Улдыс Бэрзыньш", – гавораць пра чалавека, які яшчэ прывучыўся ў дадатак якой-небудзь мове, акрамя матчынай латышскай, надзённай расейскай, кульгавай англійскай ці кашчавай нямецкай. Бэрзыньш – як тэрмін, як азначэнне.*

*Палічыць, колькі моў Улдыс разумее, колькі ведае, колькі адчувае, у якіх плавае, а ў якіх толькі плешчацца, наогул не бяруся кружыцца галава, падступаюць комплекс непаўнацэннасці ў лядашчым пінжачку і крохкі падазор, што так увогуле не можа быць, але ж няма ў мяне тых магчымасцяў праверыць, злавіць.*

*Па праўдзе, мне крыху страшна ад такога Улдыса Бэрзыньша. У мяне ёсць адчуванне, што ён,*

*Як і заўсёды, гісторыя ім даруе.*
*Чужыя песні*
*будуць гучаць, калі будзе Рыга*
*ў квецені.*
*Трэба будзе жыць далей,*
*плюньце мне ў вочы.*
*У гімназіі іх подзвігі будуць*
*вучыць*.*

**І вучылі. Гэтак і ў "Прозе пра старыя грошы": "Хоць самаўпэўненасць Маркса нас гняце, сам лінеарны прынцып высакародна задуманы..." і г.д.**

* Тут і далей па тэксце пераклад цытатаў пераважна падрадкоўны. *(Заўв. перакл.)*

**Аднак не толькі гэта. Для Бэрзыньша непрымальны сам характэрны для гісторыі Новых часоў прынцып абстрагавання, што тысячамі выкрэслівае існасці, прагненні, справядлівасці, як быццам іх зусім не было, — калі яны не змяшчаюцца ў галоўную лінію, у формулу заканамернасці. Асабліва наглядна гэта адкрываецца там, дзе аўтар піша пра агульныя, дазволеныя тэмы, якой быў Пяты год (што магло прынесці аўтару толькі непрыемнасці, калі ў змаганнях Пятага года падкрэсліваўся аспект нацыянальнага вызвалення...). Верш Бэрзыньша "Пад чатырма вачыма..." ("Паэтызм беларус") таксама павернуты нечакана і нетрадыцыйна, аднак тут акцэнтавана не нацыянальная ідэя, а свабодная воля чалавека, самакаштоўнасць спантаннага ўчынку. Як рэфрэн паўтараецца: "не гісторыя: я сам у адзіночку...", "не гісторыя: гэта мы", "мы ўперад гісторыі на адну кароткую пядзь...", пакуль "...па Латвіі па заснежаным полі а палове шостай на бягу застрэлены, тут пачынаецца гісторыя". Можна сказаць, што такія адносіны ўласцівыя ўсяму мастацтву: ажыўляць мінуласць, ужывацца ў сваіх герояў — і гэта сапраўды так. Аднак у паэзіі Бэрзыньша падкрэслена таксама й перакананне, што шляхам абстрагавання ісціна фальшуецца, сапраўдны (былы і цяперашні) сэнс і каштоўнасць існасці замененыя на іх прыналежнасць да чагосьці іншага (будучыні, сацыяльнай запатрабаванасці або ідэалагічнай канструкцыі). Гэтую самую праблему, толькі на іншым, аддаленым ад інтарэсаў нашага жыцця матэрыяле, Бэрзыньш аглядае ў вершы "Папараць" ("Помнік казе"): "Каменны вугаль, вось: Перыяды, пляскатыя, як таца, здавацца могуць смерцю, жыццём назвацца... вось: яшчарка ў спалоху й захапленні — і лікам робіцца і чэзне ў вылічэннях... не чутна босым слядам абстрактныя калорыямі беды..." і г.д. Су'ектыўны сэнс жыцця нават каменнавугальнай эпохі не ў тым, каб стаць невычэрпнай крыніцай калорыяў для нашых кацельняў; гэтак жа й чалавек — не ўсяго толькі ўгнаенне гісторыі, будаўнічы матэрыял для фармацыяў, хоць і не ўсёмагутны "каваль лёсу", бо ў яго задумы і мерапрыемствы ўмешваюцца і Бог, і Д'ябал, і Палітэканомія, і яны пераварочваюць усе вынікі па-свойму. У рэшце рэшт "тое, што жывым было, як завея прыглынае энтрапія". Потым пачынаецца Гісторыя. Своеасаблівая эмацыянальнасць паэзіі Бэрзыньша квітнее ў сутыкненні гэтых вялікіх і нябачных сусветных сіл з суб'ектывізмам чалавека, воляй быць і здзейсніць сваю частку жыццёвай энергіі. Да таго ж характэрна, што ў паэзіі Бэрзыньша праяўленні жыццёвай энергіі не падкрэсліваюцца шляхетнасцю героя (хоць, канешне, у яго паэзіі схаваная**

*шмат моваў ведаючы, і чалавечую мову разумее шмат глыбей, істотней. Можа, нават разумее, што звяры і птушкі гавораць. Чаму страшна? Не ведаю. Можа, таму, што ён ведае і адчувае, а я толькі адчуваю.*

**Гундэга Рэпшэ**

*Практычна невыканальная задача — расказаць чытачу... хто такі Улдыс Бэрзыньш. Бо сам ён і стваральнік міфа, і яго герой — міфалагічны персанаж. Як з'ява жыцця і паэзіі, ён дапускае... міфалагізацыю сябе. Як творца паэзіі і жыцця, ён сам здзяйсняе гэтую міфалагізацыю ў рэальным часе. Бэрзыньш — паэт-шаман. Яго бліжэйшыя суродзічы: Хлебнікаў, Вейнямёйнен. Варожачы над словам, ён заклінае прастору; скрыўляючы прастору, ён змяняе сябе. Атрымліваецца, яго творчасць — бесперапынная містэрыя, галоўная дзеючая асоба якой — сам Улдыс.*

**Сяргей Марэйна**

*Улдыс Бэрзыньш — вятрак, што ўзяў ролю і пераняў паводзіны Дон-Кіхота.*

*Усе вятры свету варушаць яго крылы, і беларускі ў тым ліку.*

*Ён вызваляе рэчы з палону збанкрутаваных сэнсаў, якія, выяўляючы рэчы, разам з гэтым нявечаць іх, і таму той хаос, што нясе з сабой Улдыс Бэрзыньш, стваральны і адраджальны.*

*Ён зроднены з давербальнай*

ны тып літаратурнага шляху, гатовы архетып для літаратараў: пачаўшы з арыгінальных твораў, яны пакрысе абрастаюць культуралагічнымі, культурнагістарычнымі здабыткамі і звяртаюцца да аднаўлення і ўхвалення старых літаратурных помнікаў, складання слоўнікаў, анталогіяў, энцыклапедыяў, да кнігавыдавецтва, вывучэння кніжнай справы і г.д. і да т.п Ці не лепей самому напісаць Кнігу? Гэта наогул немагчыма, ці, наадварот, ваша ўласная біблія ўжо напісаная?

**У.Б.** Паэзія — не праца, а транс прытомнасці! Яго не маг(у?)чыма "прыняць на сябе", не маг(у?)чыма планаваць. Маг(у?)чыма толькі хацець, каб яшчэ паўтарыліся тыя (больш?) вар'яцкія імгненні... Калі за гэта яшчэ плацяць ганарар, дык тыя грошы — "зладзейскі заробак", і траціць іх трэба па-карнавальнаму весела... Праца перакладчыка, выдаўца, культуролага — так, гэта праца, яе трэба рабіць разумна, таленавіта, старанна, трэба гандляваць за аплату і атрыманы заробак трэба траціць з розумам. Пра "значэнне" складзеных мной вершаў думаць, мне здаецца, занадта наіўна — я ўжо гаварыў: яны — не абавязковыя, створаныя капрызам, сабе на ўцеху.

**А.Г.** І апошняе пытанне. Пра тое ж самае, але з іншага гледзішча. Літаратура, асабліва паэзія, праца са словам ёсць від духоўнай практыкі. Ці не здараецца, што некалі паэт дасягае ўзроўню, за якім "літара", запісванне слоў ўжо губляе свой сэнс?

**У.Б.** Безумоўна! Думаю, што шмат, шмат разоў гэтак у шмат каго ўжо здаралася: шаману ж таксама няма патрэбы запісваць на аркушы сваё містычнае падарожжа, ён усякі раз можа падаць туды ізноў...

*Рыга—Амстэрдам—Мінск,*
*1995 г., травень—жнівень*

P.S. **"7 лістапада атрымана радасная вестка — Улдысу Бэрзыньшу за зборнікі вершаў "Казюрчыны махі", "Час" і "Паэзія" прысуджана прэмія Балтыйскай Асамблеі. 17 лістапада паэт узнагароджаны ордэнам Трох зорак.**

**Віншуем і ганарымся!"** *(З часопіса "Karogs", 1996, N 1).*

P.P.S. **«Крыніца» далучаецца да віншавання!**

**пэўная іерархія). Надзвычай характэрны герой Гарганцюа Рабле альбо падобны да казачнага волата "вялікі муж", якому "нішто чалавечае не чужое", але ўсяго занадта шмат: "...капа сена на галаве, рот жарэ і хлешча, пустазеллем зарос у яго карак..."... Героям "Падзвіння" таксама ўласцівы гэты абвостраны фізіялагізм, выстаўленне плоцкага, што аб'яднана з духоўнай моцай: "... а ў каго няма вінтоўкі ў таго кіпіць дух святы як жахлівы агонь у кулаку і ў вачах а ў каго няма духу ў таго на языку праклён а ў каго няма праклёну анекдоты расказвае..." ("Проза пра маю вар'яцкую смагу"). Праўда, традыцыю ў гэтай тэме, дзе паэтычны эфект ствapae сумесь узвышанага і нізкага, фрывольнага альбо падкрэслена натуралістычнага, заснаваў ужо А. Чакс у "Кранутых вечнасцю"; на падобнай паэтыцы кантрастаў грунтуецца таксама і раман А. Грынса "Завея душ"*. Хоць апошні і празаічны твор, у ім выкарыстаны цэлы шэраг родных паэзіі элементаў: ужо згаданая сумесь узвышанага, легендарнага і фрывольнага альбо натуралістычна-жахлівага, пастаянныя лейтматывы (падобныя да формулаў эпічнай паэ-**

* Аляксандр Грынс (1895—1941) — адзін з латышскіх стралкоў, журналіст, гісторык, пісьменнік, аўтар папулярных у свой час гістарычных і гістарычна-прыгодніцкіх раманаў: "Пярсцёнак Намэя" (1928—1931), "Табага" (1934), трылогія "Змоўленыя" (1938—1940), "Тры ястрабы" (1938), дылогія "Аднаўляльнікі зямлі" (1939); драматург. Трылогія "Завея душ" (1932—1933) — "самая вялікая эпапея, якая напісана пра латышскіх стралкоў і барацьбу за вызваленне Латвіі" (А. Упітс), упершыню ў пасляваеннай Латвіі перавыдадзена ў 1989 г., пасля чаго пачалося вяртанне і ўсёй астатняй творчасці пісьменніка. *(Заўв. перакл.)*





# ІОЎ ДАРУЕ БОГУ

## *Эсэ*

**Каб коратка нагадаць сабе і чытачам, пра што апавядаецца ў адным з самых найславутых помнікаў старажытнай заходнесеміцкай літаратуры — у Кнізе Іова, працытую верш польскай паэткі Віславы Шымборскай "Пераказ зместу": "Іоў, пазбаўлены плоці і дабра, праклінае лёс чалавека. Гэта — вялікая паэзія. Прыходзяць сябры, разрываюць на сабе вопратку і пытаюцца пра віну Іова перад Госпадам. Іоў крычыць, што не ведае граху. Іоў не разумее, навошта Бог гняце яго. Іоў не жадае гаварыць з імі. Іоў жадае гаварыць з Госпадам. У слупе віхору з'яўляецца Госпад. Аголены да мозгу касці Іоў слухае Госпада, што хваліць сваю працу: нябёсы, моры, зямлю і звяроў. Асабліва Бегемота і яшчэ Левіяфана, — такія монстры выклікаюць абгрунтаваны гонар. І гэта — вялікая паэзія. Іоў заўважае — Госпад не адказвае яму, Госпад зусім не жадае адказваць яму. Цяпер Іоў спяшаецца прыніжацца перад Госпадам. Далейшыя падзеі адбываюцца хутка. Іоў атрымлівае назад аслоў, вярблюдаў, быкоў і авечак удвая больш, чым меў. Аголены чэрап абрастае скурай. І Іоў не пярэчыць. Іоў згодны. Іоў не жадае сапсаваць майстэрскую работу".**

**Канешне, тут мы бачым яшчэ адну са шматлікіх інтэрпрэтацый старажытнай і загадкавай паэмы. Па сутнасці, кожны чытач "Іова" павінен альбо прытрымлівацца адной з папярэдніх інтэрпрэтацый, альбо стварыць сваю — часткова? — новую. Іоў Шымборскай аказваецца пераможаным, Бог**

*сутнасцю мовы і ўжо загадзя, як сваёй будучай спадчынай, валодае ўсімі (!) існуючымі і існаваўшымі дагэтуль мовамі. Адзінае — яму застаецца на практыцы пазнаёміцца з імі, увесці іх у абсяг сваёй увагі.*

*Для мяне гэты "вятрак" адкрыўся ў свой час не толькі як сума адмысловых тэкстаў, але і як з'ява, што сама здольна адкрываць, — як новы, амаль універсальны, кантэкст.*

*Дзякуючы Улдысу, латышскія паэты, з якімі я потым сустракаўся, распачыналі творчы дыялог са мною як са знаёмым.*

**Алесь РАЗАНАЎ**

*Дзесяць гадоў таму я пазнаёміўся з паэтам-паліглотам. Не памятаю, з чыёй "падачы": Алеся Разанава ці Васіля Сёмухі. Абодва знаўцы паэзіі. А Васіль дык яшчэ перакладчык, які падарыў нам радасць знаёмства з творамі Візмы Бэлшавіцы. Карацей, нехта з іх звярнуў маю ўвагу на паэта і перакладчыка паэзіі — Улдыса Бэрзыньша.*

*У "ЛіМе" з'явілася мая гутарка з ім.*

*У той гутарцы не было палітычнага тэксту. Я ж адчуваў, што паэт ставіцца да гэтай рэчаіснасці прынамсі крытычна. Як яшчэ мог ставіцца да Савецкага Саюза і рэалій "развітага сацыялізму" патрыёт Латвіі і творчы чалавек? Асабліва, калі*

**зіі), што характарызуюць з'яўленне галоўных асобаў, а таксама рытмізаваныя фразы і балансаванне на мяжы паэзіі і прозы ў моманты эмацыянальнага ўздыму. Не бяруся сцвярджаць, што Бэрзыньша ў нізцы "Падзвінне" інспіраваў менавіта Грынс, але не здзівілася б, калі б гэта так было. І, вядома, Чакс, які заўсёды стаіць побач з Бэрзыньшам.**

**У зборніку "Няздзейсненыя замахі" змешчана таксама й добрая частка напісаных у канцы шасцідзесятых і ў сямідзесятых гадах вершаў, што разам з папярэдне апублікаванымі дазваляюць вылучыць нешта накшталт перыяду праграмавання ў развіцці паэта. Гэта, у сэнсе фактуры, параўнальна празрыстыя, скупыя ў дэталях вершы-прыпавесці, што ў абагульненай форме акрэсліваюць контуры тых ідэяў, якія потым канкрэтызуюцца і абрастаюць плоццю. Часта гэта біблейскія сюжэты, але і не толькі. Дзеючыя асобы нярэдка абазначаюць неазначальныя займеннікі "нехта" ("адзін"), асабовыя займеннікі "я", "ты", "ён". "Ты больш не ёсць, ён яшчэ не ёсць, я ёсць", "Нехта заўсёды ёсць" ("Помнік казе", с. 12). "Адзін чалавек сядзіць у карчме п'е віно і Біблію чытае" ("Няздзейсненыя замахі", с. 19); "Нехта ідзе па дарозе з Нінівеі ў Вавілон" ("Няздзейсненыя замахі", с. 52). І г.д. Да гэтага часу адносіцца таксама цікавая спроба ("Помнік казе", с. 27) ператварыць сваё імя Улдыс у агульнае слова для абазначэння самых розных рэчаў (улдыс — чалавечы свет), пра што ў крытыцы пісалася ўжо. Пазней у паэзіі Бэрзыньша з'яўляецца шмат канкрэтных асобаў: Юрыс Калныньш, Кас-**

*гэты чалавек пры ўсіх цэнзурных абмежаваннях меў доступ да духоўных скарбаў розных эпох і народаў. А не мною заўважана, што духоўнасць і таталітарызм — рэчы несумяшчальныя. Да таго ж і творчы метад гэтага паэта не надта ўпісваўся ў каноны нарматыўнай савецкай эстэтыкі (калі можна ў той эстэтыцы знайсці эстэтыку).*

*У згаданай гутарцы былі, калі можна так сказаць, палітычныя алюзіі, падтэкст: культура ёсць культура, яна непадзельная, і ўсе мовы добрыя. Духоўныя ж скарбы ёсць духоўныя скарбы безадносна да таго, на якой мове яны створаныя. Памятаю, як некаторыя чытачы ўспрынялі той факт, што Улдыс вывучаў у блізкай нашаму сэрцу Латгаліі беларускую мову і па кніжках, надрукаваных лацінкаю. Значыць, рабілі выснову чытачы, паэт чытаў тое, што было надрукавана ў даваеннай Вільні, і нават тое, што ў нас забаронена. А яшчэ былі ўздыханні: каб і нам мець знаўцаў цюркскіх, іранскіх ды іншых моваў. Згадвалася і сказанае Юркам Гаўруком. пераклад самаабарона нацыі. Вось такія высновы рабілі з тае непалітычнай гутаркі. І высновы быццам таксама былі непалітычныя..*

*Пра палітычныя погляды паэта я даведаўся пасля распаду СССР. Было радаснае здзіўленне, калі на сустрэчы прадстаўнікоў сацыял-дэмакратычных партый краін СНД і Балтыі ў чэрвені 1992 года я пачуў, што старшынёю Латвійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі з'яўляецца Улдыс Бэрзыньш. Сацыял-дэмакратыя з яе інтэрнацыяналізмам, з адмаўленнем ксенафобіі, з цярпімасцю, імкненнем да дыялогу з людзьмі розных поглядаў, культур і Улдыс. Усё выглядала цалкам адпаведна і, калі можна так сказаць, гарманічна.*

*У верасні 1992 года лідэр беларускіх сацыял-дэмакратаў Міхась Ткачоў прывёз мне прывітанне ад Улдыса з Берліна. На кангрэсе Сацыялістычнага інтэрнацыяналу яны, латышскі паэт і беларускі гісторык, добра сышліся. Размаўлялі не толькі пра палітыку пра беларускую паэзію таксама.*

*Мне было задавальненнем у наступным годзе паціснуць руку Улдысу на з'ездзе латвійскіх аднадумцаў у Рызе.*

*Паводле сацыял-дэмакратычнай традыцыі я магу і маю права называць Улдыса Бэрзыньша таварышам. І таму з прыемнасцю падкрэсліваю, што паэт — мой таварыш. Але не толькі з прычыны прыналежнасці да адной палітычнай плыні. Ён таварыш паводле поглядаў на мастацтва як феномен перш-наперш духоўны, эстэтычны. Зрэшты, як паэт, як перакладчык Улдыс передусім таварыш паэтаў. І не ў меншай меры таварыш беларускай паэзіі, усёй нашай літаратуры.*

**Анатоль СІДАРЭВІЧ**

Шымборскай (і мой таксама), як кажуць, "паказаў сапраўдны твар" свой наскрозь чалавечы эгацэнтрызм. Канешне, "Кніга" ў інтэрпрэтацыі Шымборскай песімістычная і скептычная; на шчасце, існуюць і больш светлыя, больш аптымістычныя яе прачытанні. Барацьба паміж "светлымі" і "цёмнымі" чытачамі "Кнігі Іова" працягваецца ўжо больш чым дзве тысячы гадоў — з часоў грэцкага перакладу юдзейскай Бібліі (Септуагінты) і з часоў Вялікай Рэдакцыі (Масоры) усіх Біблійных кніг. Як прыклад згадаю славуты 15 радок 13 раздзелу, дзе ў заходнесеміцкім тэксце кожны студэнт тэалогіі беспамылкова прачытаў бы: "Нават калі ён мяне засмерціць, я не паверу..." Не так, богабаязныя пісьмапрапаведнікі! Рэдактар заўважыў тут жахі богапаклёпніцтва і прымусіў чытаць не l'o: ***не,*** а lw: ***яму,*** а хрысціянская традыцыя ідзе ўслед за Масорай. Першапераклад Э. Глюка*: "Бачыш, хоць ён мяне заб'е, аднак хачу я ў яго спадзявацца; я толькі хачу свае Шляхі Перад ім апраўдаць". — Але ж у тэксце стаіць: "Вось, няхай ён мяне хоць засмерціць, я не паверу" (альбо: не буду спадзявацца, альбо: не буду чакаць), "я буду абараняць свае шляхі" (сваё права, праўду, сваю "цяжбу") "перад Яго тварам" (нават: казаць Яму проста ў твар, у самыя вочы). Калі мы так чытаем ***Іова***, калі не перапісваем ***свайго Іова*** пад густ богабаязнага рэдактара — дык перад намі раскрываецца "ерэтычная" кніга пра тое, як Бог чалавека ***прадаў*** Сатане. Тут належыць успомніць адзін жорсткасэрны міф тварэння, што захоўваюць глінапісы старажытнага Шумеру. Багі ўрачыста адзначаюць канец працы па стварэнні чалавечага роду, багі напіваюцца і пачынаюць забаўляцца. Яны палююць на сваё тварэнне, якое цяпер выробляе сваіх дзяцей з урoджанымі выродствамі і недахопамі — усёмагутнасць робіць легкадумным! Хіба нельга сказаць тое ж самае і пра Яхве, уладара Віхорнай імперыі, і пра Яго сумленнага, цалкам незалежнага ў меркаваннях міністра ўнутраных спраў Сатану?..

Цяжка спадзявацца, што аднойчы таленавітаму даследчыку ўдасца высветліць "сапраўднае" гледзішча "сапраўднага" аўтара паэмы. "Кнігу Іова" пісалі многія: юдзейскія прапаведнікі, грамада перакладчыкаў і тыя літаратары, на творчасці якіх паставіў штапм матыў Вялікага Пакутніка: падазроны Гётэ, сумнівісты Дастаеўскі, гарэзлівы Адамсонс*; Сол Бялоў; Морыела Спарка і г.д.; і ўсе чытачы, якія ходзяць у царкву або сінагогу, і якія не ходзяць. Пра "сапраўднага" аўтара "Кнігі Іова" нам, мабыць, больш сведчыць высверк індывідуальнага, пра што піша даследчык Біблейнай літаратуры Марвін Поўп (M.H. Pope): "...У дыялозе, які ўтварае ядро кнігі (3—31 раздз.), бачым тую характэрную літаратурную паўнату, што прымушае думаць пра ўражанне адной аўтарскай асобы". У перашааўтара мы ўваходзім як у "стыхію духу" (або ўяўляем сабе, што адчуваем створаны ім семантычны зарад), каб зразумець: так ці не? я ці Ён? бунт ці здача? Які адказ старажытнага паэта? (Хаця сам адказ наогул, можа, не мае асаблівага значэння, бо сутнасць "Кнігі Іова" сёння — яе філасофская і этычная двухсэнсоўнасць?)

"Кніга", якой яна сёння ляжыць перада мной, паказвае цалкам "белетрызаванага" і ачалавечанага Бога. Касмічныя дэкарацыі ў гэтым сэнсе нічога асабліва не змяняюць. Яхве сярод сваіх прыдворцаў выглядае псіхалагічна набліжаным да славалюбнага і вечнымі падазрэннямі апанаванага ўладара большай ці меншай патрыярхальнай дэспатыі альбо да шаха племені пастухоў: "Глядзі, // Сваім слугам ён не давярае // і Сваім вестунам даказвае віну" // (4:18). Як лёгка Сатане ўдаецца справакаваць свайго імпульсіўнага ўладара, каб той пагадзіўся на д'ябальскі эксперымент — праверыць, як шмат такі камяк зямлі наогул здольны вытрымаць. (Што, у іншай паэме, мы б сказалі пра бацьку, які перад гасцямі пачаў бы

* Эрнст Глюк (1652 – 1705) нямецкі пастыр. Па загаду ліфляндскага генерала-суперінтэнданта вывучыў латышскую мову і ўпершыню пераклаў на яе тэкст Бібліі (1685 – 1691); адзін з распачынальнікаў латышскай пісьменнасці *(Заўв. перакл.)*

* Эрык Адамсонс (1907 – 1946) латышскі паэт, навеліст і драматург, аўтар рамана "Хадок сваёй дарогі" (1943 1944), надрукаванага пад псеўданімам Эрык Рыга, эстэт у творчасці. Тут, трэба думаць, маецца на ўвазе яго паэма "Нашчадкі Іова" са зборніка "Сонечны гадзіннік" (выдадзены двойчы: у 1941 і ў 1942 гг ), у якой Іоў, Бог і Князь Цемры такім жа чынам, як некалі Іова, перавыхоўваюць унукаў Іова, акрамя аднаго Даданіма, які стаіць на сваім і якога з душой і целам забірае Князь Цемры. *(Заўв. перакл.)*

пар Сылыс, Лыцыс, Розэнбэргс, Пэтэрсанс, Юрыс Цэрс, Яніс Бушс, Францыс Упэніекс і Улдыс Лэйтэртс (абодва гэтыя памёрлыя нашы сучаснікі ў паэзіі не толькі ўвасабляюць самі сябе, а і бяруць удзел у бітве супраць Бермонта), Бруз гулыс, Албэрт Страпанс ды інш. Не буду выпісваць вядомых гістарычных асобаў, якіх безліч, а таксама выпадкі, калі згадана толькі імя, бо гэта самыя простыя прыёмы, якія больш ці менш выкарыстоўваюць многія сучасныя паэты. Да таго ж імя толькі, асабліва традыцыйнае, як Яніс, Пэтэрыс, Ганна, у паэзіі мы ўспрымаем як абазначэнне "тыпу", а імя і прозвішча — як зварот да канкрэтнага чалавека. Усе гэтыя варыянты — і раблезіянскі "вялікі чалавек", і скрайне абагулены "нехта", і скрайне канкрэтызаваны (і ўсё-такі таямнічы "Юрыс Цэрс") — паказваюць, што Бэрзыньш імкнецца па-мастацку выразіць феномены людской поўнасці, агульнасці, духоўнага і кроўнароднаснага, калектыўнай свядомасці і падсвядомасці, паспяхова ўнікаючы слоў "народ" і "чалавецтва" як занадта зашмальцаваных, абліплых негатыўнымі канатацыямі і няздольнымі несці свежы паэтычны сэнс... Гэта таксама апазіцыя ў пэўным сэнсе метаду рэалістычнай тыпізацыі — Бэрзыньш ахвотней абірае скрані: або празрыстая прарэджанасць прыпавесці, або згушчаная канкрэтнасць "гатычнага рэалізму".

Як альтэрнатыву глухаце і немаце "гегелеўскай" свядомасці Бэрзыньш вылучае непасрэдны кантакт (прамыя зносіны — *А.Г.*). Да самых найважнейшых элементаў яго паэзіі належыць голас, вестка, пісьмо (альбо тэлеграма ад Гірта Блёдніекса), "той самы верш" — гаворачы адным словам, вестка, якая вандруе ў часе, з'ядноўвае светы жывых і мёртвых і "ў быццё ўпісана". Гэтае пераможнае паўстанне супраць небыцця і забыцця, якому прызначана жывое, імкненне падслухаць і абвясціць вопыт іншых рэальнасцяў стварае напружаны і нязвычны ("тут, прынамсі, нязвычна на сэрцы") эмацыянальны абсяг, што збірае разам і яднае разняволеныя і разнастайныя паэтычныя вобразы Бэрзыньша, якія імітуюць плынь свядомасці.

Цалкам заканамерна, што ў паэзіі Бэрзыньша актыўна прысутнічаюць катэгорыя часу і вобраз часу. Можа быць, яшчэ толькі ў Ояра Вацыетыса яны займаюць такое ж вялікае месца, хоць у таго разуменне часу іінакшае. Першае, што кідаецца ў вочы, калі чытаеш Бэрзыньша, — факт, што яго амаль зачароўвае гадзіннік — адначасова рэальны атрыбут паэтычнай сітуацыі і разам з тым сімвал "гегелеўскага", дакладнага, аб'ектыўнага і абстрактнага часу. "Яшчэ пару секундаў да вясны // (стаіць гадзіннік, стаіць)"; "...раніца, раніца, яшчэ секунда — і гадзіннік зазвініць"; "...гадзіннікі дзесьці гадзіннік ідзе і ідзе і сыходзіць прахам"; "Па гіганцкіх тыднях бегае гадзіннік"... Мабыць, найбольш наглядна сімвалічная сувязь гадзінніка з аб'ектыўнымі законамі, рацыяналізмам, абстракцыяй раскрываецца ў надзвычай цікавым вершы "Райніс у соснах".

*"у тысячах вышыняў цікае чужое*
*рэчыва: час; цік-так,*
*о Jugendzeit*
*Du, schöne — od pewnego czasu*
*Куды, так, у наступнасць,*
*цік, пазваніць*

выпрабоўваць пакору і цярпенне свайго сына?) Яхве ў наіўнай гордасці трыумфуе: "Паранейшаму ён трымаецца ў сваёй добрапрыстойнасці // А ты падбухторваў Мяне супраць яго — // каб пажраць яго зусім ні за што!" (2:3). А Сатана, хітры прыдворац і сэрцазнаўца свайго Госпада, зноў справакоўвае Яго накласці на праведнага новыя выпрабаванні.

Калі б я ўзяўся шукаць у гэтай кнізе Бібліі сакральнае, мне б давялося канстатаваць надзвычай балючую прафанацыю святасці.

Іова выслухоўваюць не толькі адно тыя тры сябры няшчаснага чалавека і позні прыхадзень — самаўпэўнены юнак Эліху. Да скаргаў і абразлівых буркатанняў Іова прыслухоўваецца таксама збянтэжаны і заклапочаны Бог і, трэба думаць, насмешлівы, іранічны Сатана, таму што было б натуральна, калі б апошняму была дадзена магчымасць пераканацца ў выніках заключанай здзелкі. Бог слухае Іова з 3-га па 31-шы раздзел — і не знаходзіць слоў, каб адказаць; заканчэнне "Кнігі" сведчыць, што Бог увогуле не змог знайсці такіх слоў, прынамсі, у кантэксце Старога Запавету.

"Як доўга ты не адчэпішся ад мяне?" — пытаецца Іоў (7:19). Можа, Богу зусім не да твару адказваць на чалавечае буркатанне? Можа, такі адказ быў бы супраць "правілаў жанру"? Да не! У 38-м раздзеле мы пачуем папярэдне падрыхтаванае выступленне Яхве "з віхору", але цяпер Ён яшчэ не паспеў апрацаваць думкі, Ён збянтэжыўся, таксама як бянтэжыцца кожны з нас, калі, напрыклад, нашы дзеці ўказваюць на маральную непаслядоўнасць нашых словаў ці справаў. Іоў адкрыта абвінавачвае Яхве ў несправядлівым выраку суда (9:15-20) і ў садысцкай жорсткасці да сваіх ахвяраў: "Калі пуга раптам сцебане, // над цнатлівым спалохам Ён смяецца!" (9:23). У хвалюючых словах Іоў нагадвае Богу абавязак Творцы: "Твае рукі зграбалі й рабілі мяне, // такім я ёсць! — ну, прагльні Ты мяне! Памятаеш?! — з гліны Ты замяшаў мяне, // зараз праху аддай назад мяне! // Хіба як малако Ты не ліў мяне? // Хіба як сыр Ты не рабіў мяне? // У скуру і плоць Ты апрануў мяне, // касцямі ды жыламі звязаў мяне, // Ты жывіў і шкадаваў мяне, — // Твой погляд ахоўваў мой дух! — // але вось што Ты задумаў! // Зараз ведаю: так, такім Ты ёсць!" (10:8-13).

Іоў адмаўляе папрокі і суцяшэнні сяброў, як пакрыўджанае дзіця ён чакае, што бацька сам "падыдзе". Іоў просіць Бацьку выбраць якое-небудзь іншае пакаранне, абы толькі яно не было звязана з бязлітаснай абыякавасцю: "Калі б у пекле Ты ахоўваў мяне // і ўспомніў і паклікаў бы мяне назад!" (14:13). Іоў капрызліва называе Бацьку "ворагам" ("...мой вораг усвердждваецца ў мяне вачыма!") (16:9), пакінуўшы двухсэнсоўную магчымасць прыпісаць гэтае абазначэнне камусьці іншаму, хто, можа, перад Бацькам яго абвінаваціў... Іоў гаворыць пра кагосьці, хто мог бы мець такі ж вялікі аўтарытэт, як Бог, так, Іоў зараз апелюе да Бацькавай рэўнасці (16:19-21). І далей (19:25-27) Іоў зноўку гатовы гэтага "добрага дзядзьку", нябеснага адваката, ідэнтыфікаваць з самім Богам... Іоў, як у пастцы, кідаецца ў пустаце сваей экзістэнцыйнай пакінутасці і нарэшце патрабуе ад Бога афіцыйнага пісьмовага "адказу" (31:35). Якім знаёмым нам здаецца гэтае патрабаванне "афіцыйнага дакументу" — з усяго таго, што ведаем пра адносіны бацькоў і дзяцей.

Маўчанне Бога — сапраўдная драма "Кнігі Іова". Іоў толькі ў 40-м раздзеле гаворыць: "Лепш пакладу руку на рот! А Яхве трымае руку на роце днямі і начамі, з 3-га па 37-мы раздзел! Яхве моўчкі выслухоўвае папрокі Іова і наіўныя спробы трох сяброў Іова апраўдаць учынены Яхве жарт...

Чым жа кіруюцца сябры Іова, што асуджаюць Іова і пытаюцца пра яго віну? Хіба ж не гавораць у народзе: "Бог добрае робіць, калі робіць, Божы суд справядлівы суд, хто іншаму дасць — таму Бог дасць"? І Біблія вучыць таму ж самаму, паглядзім у "Прытчы Саламонавы": "У праведнага ў доме дабро, а бязбожы дар развеецца. Яхве спустошыць дом ганарліўцу, а ўдовіны межы ўздыме..." За што так угнявіўся Бог на сяброў Іова, што не хоча прыняць іх ахвяру і мае намер іх "асароміць"? Бо сябры ў сваіх наіўных судовых прамовах апраўдалі Яхве, "знялі маску". Школьная мараль: добрым учынкам добрая плата, увесь век было афіцыйнай праграмай Яхве...

Іоў выглядае наіўным, як падманутае дзіця, аднак Бог у сваёй "паказной прамове" (38—42 раздз.) так жа па-дзіцяцку наіўны, як бацька, якога дзіця злавіла на хлусні. Яхве не застаецца нічога іншага, як праігнараваць вылучаную Іовам маральную праблему што ты тут новага прыдумаеш, хоць бы Ты быў самім Богам? "Бацька зарабляе на хлеб, а ты тут будзеш гаварыць! У цябе не было б ровару, калі б бацька не купіў!" Бацькі і створаны імі свет — па той бок дабра і зла ўжо толькі таму, што ён неаспрэчны. Калі хочаш ровар, дык не злуй бацьку.

Услухаемся ў 39-ты і наступныя раздзелы: Бацька паказвае сыну "вялікі свет" за парогам дома і расказвае пра рэчы, што далёка пераўзыходзяць кола ўяўленняў дзяцінства. Там, у вялікім свеце, у Космасе, дзейнічаюць сілы, якія зусім не лічацца з дзіцячымі чалавечымі! — уяўленнямі пра дабро і зло. (Успомнім размову чалавечага сына Арджуны і бога Крышны ў "Бхагавад-Гіце" вымярэнні чалавечай літасці і справядлівасці, кахання і нянавісці зусім не сягаюць да зор! Арджуна адмаўляецца ісці на бітву і забіваць сваіх братоў. Бог аблайвае і супакойвае яго: з касмічнага гледзішча няма ні жывых, ні мёртвых, ні пераможаных, ні пераможцаў...)

Вернемся ў "дзяцінства", у ясны і аднасэнсоўны свет Іова. Іоў перамог, Іоў "адмаскіраваў" свайго Бацьку, адкрыў у ім "чалавека" з многімі характэрна чалавечымі слабасцямі. І Іоў свайму Бацьку дараваў. Іоў даруе свайму Богу, таму што дарэмна было б спадзявацца свайго Бога ўгаварыць альбо перавучыць...

У канцы "Кнігі" мы можам вычытаць новую і больш непасрэдную здзелку паміж сынам і Бацькам, паміж Іовам і яго Богам. Гратэскавыя аспекты сітуацыі толькі пацвярджаюць яе неабходнасць. Што ж можа быць больш інтымным і святым, чым адносіны дзіцяці і бацькоў ува ўсёй складанасці і супярэчлівасці? Тут прафаннае вяртаецца ў сакральнае. Тут ерэтызм выявіўся бліжэйшым Богу, чым банальная адназначнасць веры. І тут многія з нас могуць заўважыць вялікую надзею чалавецтва.

*Куды несці членскія ўзносы мае*
*Цік-так на начным століку ў Бога*
*як заведзены Гегель, як у сувязях*
*прасочаны ківач: цік, здраднік, так,*
*здраднік здрадніка, так, здраднік*
*здрадніка здрадніка..."*

(Цікава адзначыць, што цяпер, у 1991 годзе, Райніс павінен свае членскія ўзносы несці Бэрзыньшу – як кіраўніку сацыял-дэмакратаў Латвіі – ах, "дасціпны гегелеўскі час"! Але гэта між іншым.)

Вартая ўвагі звычка Бэрзыньша датаваць момант падзеі: "Можна чуць, як паклёпнічае салавей, а палове другой у небыцці адчыняецца трэшчына..."; "Падымаецца сонца ў блакіт ужо адзінаццаць..."; "А палове пятай устаю і тупаю ў тапках..."; "...палова дванаццатай; пуста – здыхаюць цвыркуны"; "...а палове шостай на бягу застрэлены"; "У колькі адкрыецца неба? А пятай. Ужо а пятай" і г.д. Да таго ж перавага аддаецца сярэдзіне гадзіны: гэта пакідае ўражанне скрупулёзнай пэўнасці, быццам бы паэт сапраўды кінуў позірк на гадзіннік. У паэзіі Бэрзыньша гэты вельмі актыўны дакладны час "новых часоў" чаргуецца яшчэ, прынамсі, з чатырма падвідамі часу (а філасофскі ды паэтычны сэнс вобразу часу, яго вобразнасць ды эмацыянальнасць ствараюцца з сутыкненняў, ушчыльненняў і перакрыжаванняў розных відаў). Адзін з іх — "год" (месяцы і поры года таксама) — адзінка вымярэння жыцця і калазвароту прыроды, адзінка, што ўсё-такі — у адрозненне ад гадзіннікавага часу — не абстрактная, не якасна незапоўненая (недасканалая, нязздзейсненая — *А.Г.*). Другі — час Бога, "доўгі, невытлумачальны год", "цыкл" і да т.п. Трэці — "час мары, сну" ("sapņa laiks") (і аналаг яму — час подзвігу; гл. "Мінатаўрамахію" ў першым зборніку).

Год у паэзіі Бэрзыньша з'яўляецца ў розных якасцях: як метанімічны знак гісторыі ("A.D. 1968", "1952", "1939" і іншыя загалоўкі вершаў "Нязздзейсненых замахаў"; таксама верш "Лісты": "...Дзе той ліст які // Нехта шле з трыццаць // сёмага года ў семнаццаты.." і г.д.), а таксама як знак міфічнага, цыклічнага часу і як сімвал перапоўненага важным сэнсам часу ("Быў верасень, быў год (які быў год!), і крыніца міргала слізкім, цяжкім вокам" — "Паэтызм беларус", с. 28) — у апошнім выпадку гэты "год" ніяк не канкрэтызаваны, яму ўласцівы цяжар таямнічасці і нявызначанасць. У сваю чаргу "Божы час" характарызуе эпічны спакой і абыякавасць да такой драбязы як сто або тысячу гадоў туды ці сюды. Грыгор Нарэкацы ("Паэтызм беларус", с. 34) вяшчае: "час — дробны каменьчык, да яго вы клыпаеце, спытайце ў гары, скажа: тут, толькі што!" — яго языком гаворыць свет вечных каштоўнасцяў, для якога катэгорыя часу неістотная або, прынамсі, азначае штосьці іншае.

Гэтыя якасна розныя маштабы часу аб'ядноўвае ў сабе "час сну", да аналізу якога мы крыху звернемся, бо ён сярод таго найбольш значнага, што Бэрзыньш унёс у латышскую паэзію. Часта яго вершы аформленыя як запісы сноў, пачынаючы з "У сне" (у зборніку "Помнік казе"), дзе дзіўнасць часу сну — непасрэдны змест верша, далей вершы "Марсіянскія штаны", "Тры сны Абдулхая Улашава", "Гадзіннік", "Празаізм салавей", "Абуджэнне", "Узімку ў шко-

## НЕ АТРЫМЛІВАЕЦЦА

Цесля майструе галактыкі.
Калісьці даўным-даўно нешта было:
Адна маленькая планета,
І на той планеце вечар,
І домік у сонечных промнях,
І калі вакна сядзеў суседскі Яніс,
Штосьці думаў,
Выдумаў
І забыўся.
Цесля падганяе электрон да электрона,
Галактыку да галактыкі
Ніяк.

1968

## ДЗЕВЯЦЬ ПЕРУНОЎ

Дзевяць перуноў нейкі чалавек кажа дзевяць перуноў я гэта так не пакіну і потым дзевяць перуноў ідзе ў таго першага скача агонь з вачэй і другі гаворыць так што ўвесь дом скаланаецца і трэці ляскае кулаком па стале тады адна хвіля праходзіць і пасля ідзе чацвёрты з пятым і кажуць восьмы і з кожнага па рублі і ў самым канцы прыходзіць дзевяты пярун бачыць пустую бутэльку і бярэ і пускае аб сцяну і потым зноўку становіцца ціха.

1969

ле", "У глыбінях вачэй", "Туга па вершы", "Гітлер у сне". У іншых творах таксама нярэдка перададзены стан свядомасці, для якога характэрныя пластычнасць і аб'ёмнасць часу, суіснаванне і аўтаномія некалькіх пластоў свядомасці, брак на лагічныя матывацыі, а таксама іх непатрэбнасць у рамках сну, дзіўная двухзначнасць кожнага вобразу, які адначасова ўражліва, нават навязліва канкрэтны і разам з тым прывідны, няпэўны, здольны пераўтварыцца ў іншы. Адзначым, што гэтыя самыя асаблівасці ў вялікай меры характэрныя і міфічнай свядомасці.

Усе згаданыя магчымасці Бэрзыньш выкарыстоўвае шырока і паспяхова, толькі, вядома, яго "сны" не натуральныя, а эстэтычна апасродкаваныя, і іх змест ствараюць не індывідуальныя асацыяцыі, вобразы і сімвалы, а пласты калектыўнага вопыту рознай глыбіні. Так у вершы, прысвечаным В. Бэлшэвіцы, "Узімку ў школе" ("Паэтызм беларус") Бэрзыньш іранічна ўзнаўляе тагачасную рэальнасць: адносіны партыі і ўраду да пісьменнікаў як да школьнікаў, якіх трэба вучыць і ўшчуваць ("Такі я сон меў: што ў гэту зімку зноў усе павінны ісці ў школу, што мы з Візмай побач за адной партай..."); і Візму, якая цяжка паддаецца выхаванню, якую ніяк не магчыма прымусіць паслухмяна адказаць зададзены вершык, бо яна заўсёды адказвае тое, што ад яе не чакаюць. У паэме "Крыш'ян Баранс" ("Помнік казе") змест "сну" — нацыянальны свет, пачынаючы з глыбокай старажытнасці, калі ствараюцца першыя словы і мелодыі, праз стагоддзі пазбаўленага друку слова да





## УЛДЫС

Скачуць хлопцы на вайну улдыс праз плячо мужык ідзе хваіну секчы улдыс за пазухай язык у борці пусці па гаю гані дзе улдыс расце птушка на канцы сядзіць.

Вярзу далей глянь жыта сінімі улдысамі поўнае нехта едзе на возе лейцы цягне но но улдыс ты гэткі.

Вярзу далей панскі хлеў двое улдысы схапілі кідаюць гной у кучу вунь вясковы могільнік як крыж улдыс унізе.

Вярзу далей глянь трое дом вярзуць адзін на вільчыку адзін на бэльцы адзін сядзіць сярод двара улдыса цеша.

Вярзу далей жыд едзе насустрач кліча хлопча купляй па улдысу за штуку.

Па дарозе карчма ў карчме нехта ў канцы прылаўка стаіць кажа пане-гаспадару ай давай мне пяць улдысаў піва.

Ходзьму бліжэй пытаюся хлопец як цябе зваць кажа Улдыс.

1970

## ПОМНІК КАЗЕ

Быў пагодны божы дзень, і на зямлі
было цудоўна.
Але каза палезла ў неба.
Сто раз бог спіхваў, сто раз
каза зноў лезла.
Аратыя спыніліся,
час спыніўся,
каза лезла.

працы ўсяго жыцця Крыш'яна Баранса — Кнігі — і часу напісання паэмы, у які Баранс "возіць і возіць з калгасу ў калгас", а Бэрзыньш з сябрамі святкуе Купалле. Хоць "пачынаючы з" і "да" — мая, чытача, "свядомасць явы" складае ў гістарычнай паслядоўнасці тое, што ў паэме адбываецца на бліжнім плане і ў адначассе.

І ва ўжо згаданым вершы "Райніс у соснах" ёсць гэткая ж самая мадэль; у момант візіі адкрываюцца кругі часу: вечнасць Райніса, канкрэтна-гістарычны час Райніса, прышласць Райніса, г. зн. наша сучаснасць ці нават ужо мінуласць, абстрактны час "у тысячах вышыняў" і час верша, імгненне духоўнай канцэнтрацыі, але такое інтэнсіўнае і змястоўнае, што заключае ў сабе ўсе згаданыя кругі.

Рэгулярная спрэчка Бэрзыньша з Райнісам — гэта спрэчка пра няздзейсненасць тэорыяў XIX стагоддзя ў рэальнасці стагоддзя дваццатага (і "Райніс", таксама як дзе-нідзе "Гегель" — нібы метанімічныя знакі гэтага светапогляду). Вера ў сацыялізм і навуку, у братэрства народаў і гістарычны прагрэс, ва ўсё прыгожае і ўзвышанае ў чалавечай прыродзе — на працягу апошніх ста гадоў усе гэтыя светла-аптымістычныя надзеі павярнуліся іншым, непаглядным, часта нават па-сапраўднаму жахлівым бокам. Іронія аўтара ў гэтай сувязі проста бліскучая, хаця: "...вялікалітарны Чалавек, яго суразмоўца, вунь, узняўся: па краі стала ідзе ў Будучыню... як дзіўна гэта назіраць... ніколі ў жыцці не бачаны ў руху". На думку Бэрзыньша, "першародны грэх" гэтых вялікіх людзей

Сто год мінула,
тысяча мінула,
лезла.

Гэта той помнік.
Вунь, дзе ўздымаецца ў неба.

1970

## РАСПОВЕД ПРАЗ РАСЧЫНЕНАЕ АКНО

*(З нізкі "Падзвінне")*

Я Улдыс Эгіл Бэрзыньш у Рызе нарадзіўся ў Рызе рос (маліўся пням – так як смяюцца) адзін трамвай едзе займаецца ў канцы вуліцы ранне гэй хочацца спаць ды ў сэрцы птушкі абуджаюцца і нічога што наверзена так шмат.

1971

***

Ці Даўгавы гул,
Ці казюрчыны махі?

Сходзяць разводдзямі душы,
Жвірам стаў шлях іх.

мінуласці — абстрактны ідэалізм (вось, яшчэ адно — і нават ідэалагічнае! — абгрунтаванне шорхлай эстэтыкі Бэрзыньша), за што помсцячы, "рэчаіснасць узімку" блытае іх высакародна задуманыя праекцыі і канструкцыі. Само па сабе гэта, можа, і не нешта асаблівае, тым больш у апошнія гады, калі іранічная ды саркастычная апрацоўка эпічных і эстэтычных формулаў культуры мінулага з пазіцый "блуднага чалавека" стала ўжо моднай справай. Цікава і несумненна надае іншую глыбіню тое, што Бэрзыньш не падобны на "блуднага чалавека", збанкрутаванага спадчынніка, які злосны таму, што стары пакінуў занадта мала грошай. Хоць сёйтой бліскучы дынарый і апазнаўся звычайным штукарствам ("і курс — калі алегарызаваць далей — падае"), усё-такі Бэрзыньш заўважае маштабы клопатаў гэтых людзей і ведае: такім наогул ёсць лёс чалавека, калі толькі ён насмельваецца штосьці хацець і ствараць (у "Прозе пра старыя грошы": "...а што рабіць, — Юрыс, без вэрхальства нельга ні дзвярэй пафарбаваць, ні вакно ўставіць, без ідэі, без аблуды гэта не ўдаецца..."). Любая ідэя змяшчае ў сабе і заблуджэнне, дакладней, аднабаковасць, імкненне да практычна немагчымага і нават памылковага, але без гэтага не абыходзіцца чалавечая праца. Адзеянне, творчая актыўнасць, подзвіг — цэнтральныя каштоўнасці паэзіі Бэрзыньша, што пранізваюць і яго здзейсненыя, і нязздзейсненыя замахі (вялікі сон — таксама каштоўнасць!) і з-за якіх яго героям шмат што будзе даравана. Прынамсі, іх дэміург Бэрзыньш іх прабачыць.





Скакоча крапіўнік галопам.
Дзе шведы? Дзе ляхі?

1976

***

Вось я. Вось ты, вось ён.
Забытае ж пытае: дзе знікла ты, раса мая на кветцы крывяна́я? Я меў калчан і стрэлы, на дрэве птушку стрэліў, нейк Бога сустракаю — ён птушкі той не мае. Свет — тлом, распад курочыць, і вей чужы і золкі (то нібы подых Ойчы!), і беспраглядна шкельца — стосемантычны прыклад, няма, каб хто знёс вестку ў наступнейшыя цыклы, сэнс нават лік губляе, ужо ўсе фарбы чорныя, і што вучылі ў школе ляжыць у жмені ў чорта,
ды не, лухта. Вось я. Вось ты, вось ён.

1976

## ПАЭТЫЗМ БЕЛАРУС

Ад дзюркі ў падэшве да перхаці стараверны, гэты стары. Другі да клетак на кашулі беларус, паэтызм. Замест суседа-сябра. Не з замесу выграбены — у газеце падкрэслены, прапахлы зашмальцаваны анучай.

З клеткамі кашулі пабытовай, беларусе, з алейнымі плямамі (з

У гэтым сэнсе асаблівай увагі вартыя тыя падзеі і героі, што не ўвянчаныя лаўрамі пераможцаў (бо пераможцаў, як вядома, не судзяць, а судзяць пераможаных) і дасягненні якіх праблематычныя: гэта "стралкі" (важна адзначыць, што верш напісаны ў 1976 годзе; гэта цяпер мы ўжо ўсе разумныя, а ў той час глярыфікацыя чырвоных стралкоў — салдатаў рэвалюцыі і ахоўнікаў Леніна — у латышскім мастацтве была ўсеагульнай і недатыкальнай) і латышскія легіянеры, а таксама "жыдоўскія стралкі"*. Тым, хто патрапіў у гэтыя гістарычныя пасткі, прысвечаны вершы ў "Нязздзейсненых замахах", пачынаючы з "Латвійскага часу" да "Раманса ка́ту" і два творы ("Празаізм салавей" і "Шмат навінаў знікне...") у папярэднім зборніку. Разам гэтыя творы падаюць, як кажуць, "сваю версію", шэраг эмацыянальных і вобразных аргументаў і прычынна-выніковых сувязяў наконт таго, чаму так адбылося. Чаму ў 1940 годзе мы ўспрынялі СССР-аўскую акупацыю са спакойнай прыніжанасцю, але кінуліся даганяць упушчанае — з адчайнай надзеяй — ужо ў прайгранай сітуацыі, калі выбар магчымы толькі паміж двума зламі. Пра гэта шмат пісалася і аргументавалася, напэўна, шмат яшчэ будуць пісаць, аднак насуперак усім разумным аргументам гэты час — як вострая калючка ў латышскай калектыўнай свядомасці. Для Бэрзыньша характэрна тое, што ён не імкнецца прыўзняць толькі светлыя моманты, якія ўзмацняюць нацыянальны міф,

* Людзі, якія падчас Другой сусветнай былі вымушаныя, так бы мовіць, "займацца адстрэлам" габраяў. (Заўв. перакл.)

кашуляю вашовай трэ было, з павіннасцю гужовай, з Райнісам; дасціпны гегелеўскі час цяпер спазніўся; у цябе сціраецца пад падэшвамі сенажаць, у мяне пад пальцамі — аркуш).

Заўсёды ў сіле застаецца пра зямлю сказанае; няма як прычапіцца. Гэй, пакатая, мне таксама трэ ўшчаміцца ў дзюрку на падэшве і ўсмактацца ў кроў. Ты можаш навучыць; звяртаешся звычайна тапонімамі і абшарамі, камарынымі ўкусамі. У Цябе ў крапіве пераканаўчая і нездратаваная атрута (высока ад Цябе, пакатая, да нябёсаў, да таго ж яшчэ кружыцца). Райніс, калі Ты чуеш: нізка цяпер унізе ірвы, даліны, Табе не дасягнуць; але частка застаецца ад Табой сказанага ў сіле, хоць і хочацца прычапіцца. Ну, вялікі папулярызатар: як не зваліцца ў ямы, якія капае нам Бог? Як, пераўвасабляючыся, стаць сабой?

Як калека ў лазні слова на аркушы, як злодзей у царкве, і ксціцца ўперамешку, абедзвюма рукамі. Верыш, хоць няпраўда. Не верыш, хоць неаспрэчны факт.

Які шлях заасфальтуюць? І як тут будзе, дзе канаву выкапаюць, дзе будуць сеяць?

Шкада, што паэтызм. І аб'ілжэ сябе, як і штораз, але ж патрэбна мовіць.

Цс-сс на паперы. Калі святло запаляць, пачынай вяшчаць.

1977

# ПРАЗАІЗМ САЛАВЕЙ

(Што сэнсу ад вашых друкарскіх памылак, гуды, пашахонцы, ад вашых гаротных песень? Як казаў Гегель, у Божай пасцелі няма ўсім месца. Трэцяе, апошняе дзіця толькі мармыча: такой радні.)

Балоты-балоты, пушчы-пушчы.

Па бульбяной зямлі цэлую вясну туманы-туманы, цёпла, усю ноч салаўі гарлаюць, азываюцца на хвілю. Клічу: Стары! — Праз блытаніну быцця ляціць літара да літары, нацягвае плоць, абувае боты і ціха кажа: Што?

— Вось я. Адтуль. З далёкага года.
— Пароль!
— З далёкага пераду, стары. Кінь бярданку.
— Што ты тут лазіш?
— Так, проста: птушкі крычаць.
— Дык ты з наступнасці?
— Але не з тваёй.
— Мяне не ведаеш?
— Цябе даўно няма.
— Я загіну?
— Наколькі мне вядома, так.
— Тут, у дрыгве смярдзючай?
— Наколькі мне вядома: у дрыгве.
— Ты ведаеш Элзку?
— Што мне да старой бабы?
— Дык перадай вітанне сябраванцы.
— Дурыла ты, не паверыш.
— На д'ябла паміраць!
— А сам — і ніводнага разу?
— Тыя — вашыўцы балотныя!
— Але гэта — Госпадава кола!
— Дык усё па заслугах?
— Так гэту рэч належыць успрымаць.
— Ты можаш выручыць?
— Не, папера не паслухае.
— Гэныя перамогуць?
— Наколькі мне вядома, так.
— Дык справы ўсе адразу былі шзах?
— Наколькі можна ўцяміць, шзах.

Шчоўкаюць салаўі, блытаюцца ў косках і пачынаюць з малой літары, ціш нечакана — салавее дзяцюк, спахапіўшыся ад бязглуздага сну, шматкроп'ем б'ецца сэрца, ці не азвалася там, ламаючыся, галіна, не, зноў салаўі; пакуль спяваюць, прыцісніся смела спіною да шматгалосае прозы, ніхто там не ходзіць, мяшаецца ў тумане, навошта мне чагось чакаць.

Як песцяць салаўі, ні Бэлс, ні Якубанс* — ціш

* Албэрт Бэлс і Андрыс Якубанс — сучасныя латышскія празаікі.

і не спрабуе адасобіцца ад больш цёмных на "гегелеўскую" дыстанцыю асуджальнай перавагі. Вельмі цікава праблема адносін калектыўнай свядомасці індывіда і народа вырашана ўжо ў "Помніку казе", у вершы "Тры сны Абдулхая Улашава". Там змест "сноў" вузкавокага мастака вандроўнага народа шорхлы і жахлівы, ён ахвотна хацеў бы збегчы ад свайго нацыянальнага мінулага і стаць еўрапейцам альбо "агульначалавекам", але гэта немагчыма. У другім сне ўслед за ім гоніцца эпічны герой Манас, якога можна ўспрымаць як "голас народа", альбо ўвасабленне нацыянальных архетыпаў, і крычыць: "Я цябе Карміў, ты чарвяк, я цябе Паіў, дзе твой кашчавы голас?" (Не буду адмаўляць, што глыбокі і адказны нацыяналізм Бэрзыньша мне блізкі: ён адслонены як ад дэкаратыўнай латвіскасці, так і ад спакусы скасаваць свой сціплы народ і ўскочыць у якую-небудзь з еўропаў — гэта варыянты, з якімі сёння сутыкаемся штокроку...)

Ацэньваючы свет паэзіі Бэрзыньша ў цэлым, трэба згадаць сказанае на пачатку: Бэрзыньш не звяртаецца ні да кахання, ні да іншых індывідуальных перажыванняў, што ўтвараюць "цэнтральнае рэчышча паэзіі"... З гэтага ў яго паэтычным свеце — нягледзячы на ўсю яго сілу, арыгінальнасць, дзівоснасць — бракуе адной істотнай плыні — інтымнасці. Апошняе не азначае, што паэзіі Бэрзыньша чужыя палкія перажыванні — якраз наадварот, але яго інтэнсіўна-прыўзнятае перажыванне галоўным чынам тычыцца анталагічных сфераў, уключае толькі некаторыя чалавечыя аспекты. Таму кола чытачоў Бэрзыньша, напэўна, ніколі не будзе шырокім. Да таго ж асаблівая эмацыянальная насычанасць яго паэзіі можа фармавацца адно на шырокім полі для гульні, бо яе не падтрымлівае эмацыянальнасць традыцыйных лірычных формулаў, якія чытач адразу ўспрымае ў рэзананс адпаведным пачуццям. З гэтай прычыны кароткія вершы Бэрзыньша рэдка бываюць удалымі, нават калі яны й зразумелыя. У сваю чаргу, прасачыўшы па гадах за публікацыямі паэта, бачым, што яго ўздым прыпадае на сямідзесятыя гады, пачатак васьмідзесятых. Потым публікацыі становяцца рэдкімі, і вершы — менш цікавымі. Магчыма, асноўныя паэтычныя ідэі аўтар ужо выкарыстаў і цяпер чакае, пакуль назапасяцца новыя, каб пазбегнуць самапаўтору. Можа, прычына яшчэ і ў тым, што занятаму рознымі літаратурнымі і грамадскімі працамі паэту цяжка дасягнуць стану "мары" — шматслойнасці ўражанняў і патрэбнай дыстанцыі, якая самыя непасрэдныя актуальнасці сённяшняга дня дазваляе адлюстроўваць "у вялікім часе". На такое дапушчэнне наштурхоўваюць некаторыя апошнія публікацыі Бэрзыньша, напрыклад, "Рубікіяда" ("LuM", 16 сакавіка 1991 г.), што — з пункту гледжання паэзіі — толькі дабраякасны водгук на актуальны тэмат. Але ўсё ж перастану бурчаць. Так ці гэтак — яркую старонку ў латышскай паэзіі Бэрзыньш напісаў.

Інта ЧАКЛА

1991

нечакана, трашчыць галіна:
— Halt! Parole!
— Цьфу, чорт: "Nachtigall"!*
Тут пушча, на тым баку балота, і зямля зноў
кружыцца. Там разбіваецца час, там поруч прачына-
ецца абсяг.
Святкуюць, крапляцца росамі празаічныя гала-
сы, кожнаму свой час. Тут, прынамсі, нязвычна на
сэрцы. (Б'е час, зелянее-прарастае абсяг. Куды ты
мерышся, апошняе дзіця?)

1979

***

Усё роўна прыйдзе злодзей ноччу, паўз завесы
прашкрабецца, палахлівым будзе, сляпым будзе,
не будзе выбару, вада падымецца ў рот, кляцьба
на голаў, іскра ў пакуллі будзе,
што зробіш, усё яшчэ раз выйдзе наперад, суд-
дзя будзе, натоўп будзе, кат будзе, карак будзе;
ах, як файна будзе! Зноў з канца: ціха будзе,
цемра будзе, свечка будзе, злодзей будзе.

1987

***Пераклаў з латышскай Андрэй ГУЦАЎ.***

## Хлусня

Калі хлусілі штосілы.
Калі хлусілі дзевяць дзён і дзевяць
начэй.
Калі хлусілі за тваё здароўе і за маё
здароўе і каб мы яшчэ зноў сустрэліся
ўсе хлусілі.

* Nachtigall — тут, трэба думаць, алюзія на назву латышскай дывізіі СС "Салавей"

# ГЭТЫ САМЫ ПОМНІК У БЕЛАРУСКАЙ КОПІІ

*(Тлумачальная запіска перакладчыка)*

Што тычыць паэзіі Улдыса Бэрзыньша, дык ніякіх асаблівых неалагізмаў ды аказіяналізмаў у яго мове няма, прынамсі, іх зусім не больш, чым у Маякоўскага, Райніса, Барадуліна, і ўжо ж не столькі, як у Джойса, Хадыкі, нейкага там гіпербалізаванага "маладнякоўца", тым больш — у Ластоўскага. Ніякіх асаблівых дыялектызмаў, этнаграфізмаў і рэдкіх сакавіта-народных слоў, як у прозе Рэгіны Эзэры або Максіма Гарэцкага, таксама няма. Уся складанасць паэзіі Бэрзыньша – у моўным эліпсе, недасказанасці. "Інтанацыю Бэрзыньша стварае адначасова ўзгаранне шматлікіх асацыяцый, калі мы розумам адпрэпаруем адну ад адной, разбурыцца вобразная сістэма паэта" (О. Вацыетыс)... Калі Т.С. Эліот прынёс аднойчы на





Калі ад хлусні распухае язык і
нудзіць нібыта ад тлустых лустаў.
Ахвота тады проста праўды.
Здаецца заўжды яна тут руку
працягні і вазьмі але ж не.
Цягну я руку ты цягнеш руку а
ўзяць аднак не ўдаецца.
Не ведаю пальцы мажліва абпаль-
ваюцца і зноў пачынаюцца дзевяць дзён
і дзевяць начэй.

1969

## Звацца

Бач ты якія зёлкі ў лесе растуць
вужакаю ўюцца прыгожа у-ах як жа за-
вуцца гэтая зёлкі.
Бач ты якая птушка ляціць на поле
пер'е цярушыцца поле гарыць у-ах як жа
завецца гэтая птушка.
Бач ты якая белая кветка красуе ў
лузе ідзі і панюхай у-ах лепей скажы як
завецца кветка.

1970

## Сярэдзінны час*

Душа гарланіць; мыла дай, падлога
смярдзіць, пята свярбіць праз бот і малю-
кае пены, Янк**.
Пячайка паліць, мыла трэба, чорт

* Сярэдзінны час *vidus laiks* азначае сярэднявечча, а таксама бясчассе, міжуладдзе.
** Янк — зваротак, клічная форма ад Яніс.

прагляд-рэцэнзаванне да свайго, так бы мовіць, "старэйшага таварыша" і "сабрата" Эзры Паўнда поўнага патайнымі цытатамі, алюзіямі і рэмінісцэнцыямі "Містэра Пруфрока", свой першы твор з шэрагу класічна-эліотаўскіх, "сабрат", нягледзячы на тое, што быў, здавалася б, не меншым "мадэрнюгай", нічога з таго амаль-такі не зразумеў, не ўзяў да галавы, але затое быў зачараваны незвычайнай музыкай верша, — факт выглядае знамянальным і надзвычай. Не існуе двух людзей — носьбітаў адной мовы, не існуе двух неразлучных сябрукоў, не існуе двух такіх братоў-двайнятаў, для якіх семантычнае значэнне аднаго й таго ж слова было б да бездакорнасці тоесным, абсалютна адэкватным і разумелася б да апошняга каліўца сэнсу аднолькава. Паэзія вырастае з мовы як з'явы эстэтычнай, гістарычнай і — псіхілагічнай. У семантычным значэнні ўсякага слова існуюць зоны, да якіх адчувальная псіхіка адных людзей і якія не ўспрымае псіхіка іншых (менавіта на гэтых памежжах бесперапынна, штоімгненна тчэцца мова і яе гісторыя). Працей за ўсё такую лінгвістычную з'яву прадэманстраваць на аналогіі сутыкнення дзвюх моў: першае значэнне латышскага слова *tas* — "той, тое", другое — "ён, яно", трэцяе — "гэта, гэты, гэтае", "вось", і хаця якраз для слоў "гэты", "гэта" ёсць займеннік *šis* з усімі яго неаспрэчнымі паўнамоцтвамі, практычна, у жывой мове "гэтае", трэцезначнае, *tas* ужываецца найперш за "тое" *tas*, першазначнае. А "Той самы верш" — гэта і "Гэты ж самы верш" і г.д. Фраза ж "Гэта

чухаецца каменем, аб клуню мядзведзь, асмягай чорны рот.

Гэй, каралевіч скача, абяцае за унцыю палову каралеўства, гэй, дай мыла, Янк.

Канюшня тоне ў жыжцы, соллю пацеюць плечы, я на кожным дубе, на кожнай бэльцы, Янк.

Даспехі рыцарскія, зрэбную сарочку, ўсё пасяку, вош есць мяне і камень не пеніцца, гэй, Янк.

На горках белых Рыга, звон ад мух, у Даўгаву бруіць струмень згарчэлы, ў муках здыхае рыба, Янк.

Ў сінечу прэцца сонца, і званы ў Нямеччыне ўжо звоняць адзінаццаць, час пасярэдзіне, чакае мыла кат.

Мяне на дыбу цягнуць, уцякае вош з барады ўжо, Янк.

1972

## Эстонскі матыў

Не буду кулі кланяцца кіпіць на горцы ліпа ўспенена захрасла жыццё ў грудзях рубель за штуку кошт і сакса курат*.

Парафія ўстае на ногі лаўкі грукочуць разам у вушах звініць мяшаецца свят-свят і сакса курат.

Каму скакаць з дзяўчатамі каму зямлю скародзіць а каму трухлець хай скажа туз віновы пекла мяне вазьмі і сакса курат.

* Чортавы немец *(эст.)*.

(ёсць) той помнік” з верша “Помнік казе” наогул гучыць як “Tas ir tas piemineklis”... Усе згаданыя і падобныя да іх прыклады-ілюстрацыі ў выпадку з Бэрзыньшам, аднак, не проста аналогія (і мае выбачэнні таксама) — а нешта большае. Паэзія Улдыса Бэрзыньша — перакладчыка-паліглота — менавіта гэтай з’явай міжмоўнага сутыкнення інспіравана, яна вырастае з маргінальных зон семантыкі слоў — там, дзе пачынаецца моўны эліпс. Слова само па сабе з усім яго незадзейнічаным лексічным і эмацыянальна-вобразным запасам нагадвае казу ў нябёсах і казу, якая імкнецца ў нябёсы. Тое ж слова (зніταванае з іншымі словамі), напісанае і надрукаванае — гэта ўжо (нерукатворны) помнік, “помнік казе”. Парадокс у тым, што моўны эліпс — з’ява пазамоўная (паколькі дазваляе абыходзіцца без слоў). Таму паэзія Бэрзыньша паддаецца толькі імітацыйнаму перакладу і перакладу з каментарыямі: каза, бачыце, такая жывёла, што з-за свайго казінага нораву, як вядома, вельмі любіць узыходзіць на ўзвышшы, усялякія кручы, строміцы і залазіць на дах, каб “паглядзець у комін” — незалежна ад таго, гэта латышская, беларуская або кітайская каза.

Разважаючы над тым, чаму сярод сусветна вядомых імёнаў не значыцца імя Ф. Кеведа, Х.Л. Борхес пісаў: “Кеведа па сваіх магчымасцях не ніжэй каго б там ні было, аднак яму не ўдалося знайсці сімвала, які б авалодваў уяўленнем людзей. У Гамэра ёсць Прыям, які цалуе рукі Ахілеса, забойцы; у Сафокла — цар, які разгадвае загадкі і якога лёс прымусіць адгадаць жах уласнай долі; у Лукрэцыя — бясконцая зорная бездань і варожасць атамаў; у Дантэ — дзевяць кругоў Пекла і райская Ружа; у Шэкспіра — светы гвалту і музыкі; у Сэрвантэса — шчасліва знойдзеная вандроўная пара, Санча і Дон Кіхот; у Свіфта — рэспубліка дабрачынных коней і зверападобных йеху; у Мелвіла — Нянавісць і Любоў Белага Кіта; у Франца Кафкі — гнюсныя лабірынты. Няма такога пісьменніка з сусветнай славай, які б не вычаканіў сабе сімвала...” Улдыс Бэрзыньш у гэтым сэнсе ў латышскай паэзіі выча-каніў сабе, напэўна, некалькі сімвалаў. Сярод іх “каза ў нябёсах”, “паэтызм беларус” і іншыя. Але “каза” — усё ж найпершы. Па вялікім рахунку, “паэтызм беларус”, як і ўвесь астатні шэраг сімвалаў і помнікаў Бэрзыньша, — гэта толькі варыяцыя першага, паколькі ўсе яны казіным чынам вылезлі, узняліся, выраслі помнікам у неба з маргінальнага разумення слова. “Помнік” — гэта сімвал. Але калі, паводле паэта, “baltkrieva vārds” (імя беларуса) “з усімі яго наскрозь штодзённымі канатацыямі — яскравы паэтызм” і гучыць паэтычна, дык:

ГЭТА — ТОЙ ПОМНІК!

Што да неалагізмаў, рэмінісцэнцыяў, маргінальных семантычных зон, эліпсаў і ўсялякіх каментарыяў, дык ужо згаданы паэт-цытатнік Т.С. Эліот выснаваў вядомае меркаванне: любая паэзія, на якой бы незразумелай мове яна ні была ўнаяўлена, пры чытанні абавязкова выяўляецца.

Андрэй ГУЦАЎ





Айнц айнц плячо ў плячо па кваша-ных дарогах і нізка песня кружыцца бог бачыць усё што ёсць кусаецца заўзята у боце цвік табе ўсё роўна здраджу я ў рэшце рэшт і сакса курат.

1973

## Пятроў дзень

Бруйлівы лівень ссохнуўся, цабэркі пад абручамі рэпаюцца, гліна з уздыхам ападае ў дол як цеста скуль узышла, гарланяць пеўні чужымі галасамі, вучыць рэчку звівацца вуж, высоўвае з балота чорт галаву, там зблыталася згуба з глыбачынёй, дымлівым кменам шчодра абкурваецца яр, гарланяць пеўні чужымі галасамі, нехта мусіць яшчэ прыйсці, тады ўжо будзе лета дарэшты поўным, у зямлю улазіць сляпы чарвяк, усцяж лясной сцяжыны маўчаць парожне птушкі, беражэ старое слова жаба, з-за гары, з-за макавак бярозавых шыбуе вялізазны мужык, гарланяць пеўні чужымі галасамі, лыжка ў руцэ ў яго драўляная і сена на галаве капою, рот жарэ і жлукціць, пустазеллем паабрасталі яйцы, уцякаюць куды якая птушкі, вунь шыбуе вялізазны мужык, бяжыць пшаніца наперадзе, дарогу сцеле, пеўні гарланяць і гарланяць, волатаўскім сном спіць Ян*.

1973

* Маецца на ўвазе Янаў дзень.

***

Агонь трухлее хліпае альшына год скончаны адзін два тры чатыры* ў скон хаваюцца апошнія і снегам атульваецца ўжо капліца тла**.
На выспе птушка прастарэкуе надзея больш не пярэчыць кленічам мацуе мароз жалезам купіны і снегам атульваецца ўжо капліца тла.
Сем восем дзевяць дзесяць*.
Дай руку год скончаны і на дварэ цямноцце і ты ў даўгу тут застаешся застаешся тут і снегам атульваецца ўжо капліца тла.

1974

***

Крот рые сад, жыццё памрока корміць, чарвяк здзічэў і не ідзе ў руку, правальваецца замак, роў і прорва кішаць хтанічным гадаўём, булькоча гаршчок у печы, ў пекле чад, скарынка рэпаецца, хлебам чорным ноч, няма ў год гэты бога, ў моцы д'ябал, гніе балота, там левіяфан варочаецца ў логвішчы спрасонку, дзе дзіда на яго, хітае ў змроку стралу, каго народзіць ён, той утаймуе яго аброццю, бродзіць вір, хлюпоча жыццё каравымі карэннямі, патоп ідзе на спад, і нехаця гара ўзыходзіць з-пад, дрыгву тарфуюць войны, ўсё пячэцца, ўсё варыцца, ўсё бродзіць скрозь, і цемра глузд мудраца.
З пустым мяшком шыбуюць пашахонцы***.

1974

***

Рыпяць вароты, вецер трэцца, траціць язык, што меў, няма слоў, каб казаць: няхай увойдзе ў хату.
Не пазірай на дзверы (многа зім чакалася), па-добраму задумай: хай прочкі не ідзе, няхай увойдзе ў хату.

* Маецца на ўвазе час.
** Маецца на ўвазе зямля: рэмінісцэнцыя з латышскага фальклору.
*** У Латвіі пра пашахонцаў бытуе паданне, як яны, пабудаваўшы хату без акон, насілі ў яе святло ў мяшках.





Хай не ганьбуе, хай увойдзе, дзьмухай, і пальцамі паверыць, дзьмухай, дзьмухай углыб агню: няхай увойдзе ў хату.

1974

## Ліфляндыя з чатырох да пяці

У моўчы старажытнай сад стары нібы ў андараку, не кажа певень з бажніцы кукарэку, наракаюць змяркканні ўпотай, сказана не ў кнізе, скача Екаб, пад ім павольны конь, дарогі не даў язмін, у сэрцы раптам дзіўна, неўзабаве настане Пяты год, світае поўнач, і ўжо важчэюць тыя, каму падаць у балатах, каму ў агонь пляваць, каму са смерцю кахацца люта, сказана не ў кнізе, за гарою гучнее гулкі тупат, скача Юрыс, пад ім таўсманы конь, карэнне ў лузе тлусцее, дыхаюць раты, і два народы ў адным і тым жа целе*, і важчэюць рупліва тыя, каму гінуць заўтра ў чужым балоце ўбогім з мацюкамі, у сэрцы раптам дзіўна, скача Яніс, пад ім каменны конь.

1974

***

Пупышкі свае навіны,
нябёсы сваю галечу
раскрылі...
Не ў зеляніну
глядзі ўжо,
і не ў сінечу.

Сцярожка, нібы на пласе,
слухай,
аднаразовы,
як мурашы ў прадчассі
вядуць між сабой размову.

1982

***Пераклаў з латышскай Алесь РАЗАНАЎ.***

* Ліфляндскую губерню насялялі два народы латышы і эстонцы.

**Постаць Улдыса Бэрзыньша падрыхтаваў Андрэй ГУЦАЎ.**

Вольфганг БОРХЕРТ

# ДЗЬМУХАВЕЦ

Дзверы за мной зачыніліся. Так здараецца часта, што за некім зачыняюцца дзверы – і нават замыкаюцца, гэта можна сабе ўявіць таксама. Напрыклад, замыкаюцца дзверы дома, і потым ты альбо ўнутры, альбо знадворку. Дзверы маюць у сабе нешта такое канчатковае, што аддае цябе на сваволю непрыхільных сілаў. І вось цяпер дзверы за мной завялі ў засаўку, так, іх завялі ў засаўку, бо гэта незвычайна тоўстыя дзверы, якія не можна проста зачыніць. Няўклюдныя дзверы з нумарам 432. Гэта іхняя асаблівасць, што яны маюць нумар і абабітыя ліставым жалезам – гэта робіць іх такімі пыхлівымі і непадступнымі; таму яны не ідуць ні на які кантакт, і самыя гарачыя модлы іх не кранаюць.

І вось мяне пакінулі сам-насам з гэтаю істотай, не, не толькі сам-насам, а разам замкнулі ў цэлю з істотай, якой я найбольш баюся: са мною самім.

Ці ведаеш, як гэта бывае, калі ты пакінуты сам сабе, калі ты пакінуты сам-насам з сабою, калі ты аддадзены на сваволю самога сябе? Я не магу сказаць, што гэта безумоўна жахліва, але сустрэча сам-насам з сабою – гэта адна з самых дзікіх прыгодаў, якія можна мець на гэтым свеце. Такая сустрэча, як тут, у цэлі 432: голым, бездапаможным, засяроджаным на нічым больш акрамя самога сябе, без тлумачэння і спачыну і без магчымасці дзеяння. Не мець пляшкі, каб выпіць ці ўшчэнт разбіць яе на дробныя кавалкі, ручніка, каб павесіцца, нажа, каб уцячы ці перарэзаць сабе вены, сціла для пісьма – не мець нічога, апроч самога сябе.

Гэтага роспачна мала ў пустым памяшканні з чатырма голымі сценамі. Гэта менш, чым мае павук, які выбудоўвае са сваёй задніцы рыштаванні і на іх можа рызыкаваць сваім жыццём, можа не ўтрымацца, абрынуцца ў бездань. Якая павуціна ўтрымае нас, калі мы будзем падаць?

Наша ўласная сіла? Які-небудзь Бог? Бог – сіла, якая дае магчымасць дрэву расці, а птушцы ляцець. Ці ёсць Бог жыццём? Тады ўжо ён нас, напэўна, час ад часу стрымлівае – калі мы таго хочам.

Калі сонца прыняло свае пальцы ад аконных кратаў, і ноч выпаўзла з куткоў, нешта зрабіла крок з цемры ў маім накірунку, – і я думаў, што гэта Бог. Мо нехта адчыняў дзверы цэлі? Мо я не быў больш адзін? Я адчуваў, што ёсць яшчэ нешта, і яно дыхае і расце. Цэля стала занадта цеснай – я адчуваў, што сцены павінны былі сціцца перад тым, што было тут і што я называў Богам.

Гэй, нумар 432, чалавечак, не дай ночы ачмурыць цябе! З табой у цэлі твой страх, і больш нічога! Страх і ноч. Але страх – гэта пачвара, а ноч можа стаць жахлівай, як здань, калі мы застаёмся з ёй сам-насам.

Вось месяц прашлындаў над дахамі і асвятліў сцены. Ты, малпа ты, каб цябе трасца! Сцены цесныя, як і раней, і цэля цесная, бы апельсінавая абалонка. Бог, якога яны называюць Міласцівым, – яго няма. А тое, што гаварыла, было ў табе. Можа, гэта быў Бог з цябе – можа, гэта быў ты! Таму што ты таксама Бог, усе, павук гэтаксама, як скумбрыя, ёсць Богам. Жыццё гэта Бог – і гэта ўсё. Але гэта так многа, што яго больш не можа быць. Нічога апроч гэтага. Аднак гэта Нічога часта бярэ над намі ўладу.

Дзверы цэлі былі зачыненыя, нібы абалонка гарэха, – як быццам яны ніколі не былі адчыненымі, і пра іх яшчэ ведалі, што натуральным чынам яны не адчыняліся – што іх трэба было ўзломваць. Нагэтулькі зачыненымі былі дзверы. І я падаў, падаў у бездань, пакінуты сам-насам з сабою. Але тут павук са сцяны зароў на мяне, як фельдфебель: слабак! Вецер парваў яго сеці, а ён са стараннасцю мураша навёў новыя і злавіў мяне, стодвацаціаднафунтовага, у свае танюсенькія ніці. Я падзякаваў яму, але ён наогул не заўважыў гэтага.





Так я паступова прывыкаў да сябе. Так легкадумна давяраюць сябе другім людзям, і гэта пры тым, што цяжка трываць самога сябе.

Аднак з цягам часу ўсё-такі знайшоў сябе зусім кантактным і забаўным – дзень і ноч я рабіў у сабе самыя дзіўныя адкрыцці.

Але за доўгі час я страціў узаемадачыненні з усім: з жыццём, са светам. Раўнамерна і хутка сцякалі з мяне кроплямі дні. Я адчуваў, як я памалу апаражняўся ад сапраўднага свету і набрыньваў сабой. Я адчуваў, што я ўсё больш адыходзіў ад гэтага свету, у які толькі што прыйшоў.

Сцены былі такія халодныя і мёртвыя, што я захварэў ад безнадзейнасці ды адчаю. Можна некалькі дзён спрабаваць выкрычаць сваю нядолю – але калі няма адказу, то хутка наступае стома. Можна некалькі гадзінаў малаціць у сцены і ў дзверы – але калі яны не адчыняюцца, то кулакі хутка забаляць, і боль становіцца тады адзінай забаўкай у гэтай пустэльні.

І ўсё-такі здаецца, што ў гэтым свеце няма нічога канчатковага. Таму што задавакі-дзверы адчыніліся, і разам з імі шмат якія яшчэ, і кожная выштурхнула ў доўгі шыхт і ў двор з зялёнай травой пасярэдзіне і шэрымі сценамі абапал баязлівага, кепска паголенага чалавека.

Тут вакол нас і на нас узарваўся брэх блакітных сабак, падпярэзаных скуранымі рамянямі. Яны трымалі нас у напрузе і самі былі ў напрузе і набрэхвалі нас страхам цераз край. Але калі страху ўнутры збіралася даволі і наступала супакаенне, то станавілася бачна, што гэтыя ў блакітных, бляклых уніформах былі людзі.

Рух ішоў па крузе. Калі вока пераадолела першае ўзрушэнне ад сустрэчы з небам і зноўку прызвычаілася да сонца, то можна было, жмурачыся, разгледзець, што бязладна трухалі і глыбока дыхалі, як і сам ён, – чалавек, можа, з семдзесят, восемдзесят.

І ўвесь час па крузе – у рытме сваіх сабо – не даючы рады ўсяму, што робіцца, запалохана і ўсё-ткі на паўгадзіны больш шчаслівыя, чым заўсёды. Калі б не блакітныя уніформы з брэхам у твары, то можна было б гэтак трухаць ажно ў вечнасць – без мінуўшчыны, без будучыні, толькі асалода-сучаснасць. дыханне, бачанне, хадзьба!

Гэтак было напачатку Амаль фэст, маленькае шчасце. Але калі надоўга, калі, не заваяваўшы, месяцамі маеш ад гэтага насалоду, – тады пачынаеш збочваць. Маленькага шчасця болей не хапае, ты ўжо сыты, і ў нашу шклянку падаюць чорныя кроплі гэтага свету, на сваволю якому мы аддадзеныя. І потым надыходзіць дзень, калі шпацыр па крузе становіцца пакутай, калі адчуваеш сябе смяхотным пад высокім небам і калі пярэдні і апошні не ўспрымаюцца болей як браты і ахвяры адной бяды, а як вандроўныя трупы, якія маюць толькі адно прызначэнне – выклікаць агіду, і ў асяродак якіх ты прыладжаны, як безаблічная штыкеціна ў бясконцым штыкетніку, ах, і яны выклікаюць у цябе хутчэй нудоту, чым нешта іншае. Гэта настае тады, калі месяцамі ходзіш па крузе паміж шэрых сценаў, абгаўканы да злому бляклымі блакітнымі уніформамі.

Чалавек, які ідзе перада мной, ужо даўно нежывы Альбо ён уцёк з нейкага паноптыкума і пад уплывам нейкага смешнага дэмана мусіць рабіць выгляд, быццам ён нармальны чалавек, – пры гэтым ён ужо даўно і пэўна мёртвы. Так! Таму што яго лысіна ў бязладна разбэрсанай абрамоўцы-вянку брудна-шэрай валасянкі, – яна не мае таго тлустага бляску жывых лысінаў, у якіх сонца дый дождж яшчэ могуць блякла адбівацца, – не, гэта лысіна без бляску, мутная і матавая, бы з тканіны Калі б тое ўсё там перада мною, што я зусім не хачу называць чалавекам, гэты муляж чалавека, не рухалася, можна было б палічыць лысіну за нежывы парык. І нават не за парык навукоўца ці вялікага п'яніцы, – не, самае большае гандляра паперай ці цыркавога клоўна. Але ён упарты, гэты парык, – ён не можа саступіць адно толькі са зласлівасці, таму што ён адчувае, што я, той, хто ідзе следам, ненавіджу яго Так, ненавіджу Чаму гэта «парык» – буду называць так усю персону, так прасцей, – чаму гэта ён можа ісці перада мной і жыць, у той час як маладыя вераб'і, якія і лётаць яшчэ не навучыліся, забіваюцца, падаючы з даху? І я ненавіджу «парыка», таму што ён баязлівец – дый яшчэ які баязлівец! Ён адчувае маю нянавісць, бессэнсоўна трухаючы перада мною, увесь час па крузе, па зусім маленькім крузе паміж шэрымі сценамі, у якіх таксама няма літасці да нас, бо інача яны адной ночы патаемна сышлі б і сталі вакол палаца, у якім жывуць нашыя міністры.

Я ўжо даўно думаю над тым, чаму «парыка» пасадзілі ў турму, што за злачынства ён мог учыніць, ён, які занадта баязлівы, каб павярнуцца да мяне, хоць я яго безупынна мучаю. Бо я мучаю яго: я ўвесь час наступаю яму на пяты, – зразумела, наўмысна, – і раблю ротам агідны гук, быццам харкаю чвэрцямі фунта макроту на спіну перад сабой. Кожны раз ён абражана ўздрыгвае. І ўсё-

такі ён не адважваецца ў поўны твар азірнуцца на свайго мучыцеля – не, для гэтага ён занадта баязлівы. Ён толькі на некалькі градусаў усім целам паварочваецца да мяне, але павярнуцца хоць напалову і паглядзець у вочы ён не адважваецца.

Што ён мог натварыць? Магчыма, зрабіў махлярства альбо ўкраў? Альбо раззлаваў грамадства сексуальным замахам? Так, гэта магчыма. Аднаго разу, адурманены гарбатым Эрасам, ён выскачыў са сваёй баязлівасці ў тупую пажадлівасць, – і вось, маеш, цяпер ён трухаў перада мной, спакойна-задаволены і спалоханы тым, што на нешта-кольвечы адважыўся.

Але я думаю, што ён цяпер пакрыёма трымціць, бо ведае, што за ім іду я, я, яго забойца! О, мне было б лёгка забіць яго, і гэта магло б здарыцца зусім непрыкметна. Мне дастаткова было б толькі падставіць яму падножку, тады яго нягнуткія хадулі зачапіліся б адна за адну, ён даў бы спатыкача галавой уперад і пры гэтым прабіў бы, магчыма, у ёй дзіру, – і паветра выйшла б з яе з флегматычным п-ф-ф-ф- , як з веласіпеднай камеры. Яго галава раскалолася б напалам, як бела-жоўты воск, і некалькі кропляў чырвонага чарніла адтуль рабілі б уражанне смяхотнага падману, – як малінавы сок на белай ядвабнай кашулі зарэзанага камедыянта.

Так вось ненавідзеў я «парыка», гэтага малойца, чыю мысу я ніколі не бачыў, чый голас ніколі не чуў, пра якога я калі што і ведаў, дык толькі тое, што ад яго патыхае нафталінам. Напэўна, у яго – у «парыка» быў слабы, стомлены голас без выразу, гэткі самы слабы, як і яго малочна-бледныя пальцы. Напэўна, у яго былі вылупленыя цялячыя вочы і адтатураная ды віслая ніжняя губа, якая бясконца хацела есці шакаладныя батончыкі. Гэта была маска спажыўца жыцця, без фармату, з годнасцю гандляра папераў, чые павітухіны рукі часта за цэлы дзень толькі тое і зробяць, што змахнуць з прылаўка шаснаццаць пфенігаў за сшытак.

Не, ні слова больш пра «парыка»! Я сапраўды настолькі ненавіджу яго, што магу лёгка ўзбудзіцца да прыпадку шаленства, пры якім я занадта раскрыўся б. Даволі. Усё. Я ніколі больш не хачу гаварыць пра яго, ніколі!

Але калі хтосьці, пра каго ты ахвотна прамаўчаў бы, увесь час ідзе перад табой каленямі ўнутр пад мелодыю меладрамы, тады ты не пазбавішся ад яго. Як сверб на спіне, там, дзе не дастаюць рукі, ён прымушае цябе зноў і зноў думаць пра яго, адчуваць яго, ненавідзець яго.

Я думаю, што я ўсё-такі мушу забіць «парыка». Але я баюся, што мярцвяк можа на мне адыграцца якім-небудзь жахлівым жартам. Ён можа проста засмяяцца і ўспомніць, што ён быў раней як-ніяк цыркавым клоўнам, дый ускараскацца з лужыны крыві на ногі. Можа, крыху збянтэжана, як быццам ён не мог утрымаць кроў, – ну рыхтык як некаторыя людзі не трымаюць мачу. Пярэкулем ён кульгаў бы па турэмным манежы, магчыма, нават лічыў бы варту ўпартымі асламі, якіх ён злаваў бы да шаленства з тым, каб потым, імітуючы страх, скочыць на сцяну. Адтуль ён выпаліў бы нам з роту свой язык, як анучу для падлогі, і знік бы назаўсёды.

Немагчыма ўявіць, што магло б здарыцца, калі б раптам кожны з нас задумаўся над тым, хто ён на самой справе.

Не думай, што мая нянавісць да гэтага нападзе, да «парыка», пустая і беспадстаўная, – о, можна патрапіць у такія сітуацыі, калі нянавісць так захлісне і ты настолькі выйдзеш са сваіх межаў, што потым толькі з цяжкасцю зможаш вярнуцца да сябе, – настолькі спустошвае нянавісць.

Я ведаю, цяжка мяне слухаць і пачуваць сябе, як я. Ты і не павінен слухаць, як быццам табе чытаюць нешта з Готфрыда Келера ці Дзікенса. Ты павінен ісці са мною, ісці па маленькім крузе сярод няўмольных муроў. Не ў думках побач са мной, – не, фізічна, ззаду мяне. І тады ты пабачыш, як хутка ты навучышся мяне ненавідзець. Таму што калі ты будзеш з намі (я гавару цяпер «з намі», таму што мы супольна перажываем гэта) хістацца па гэтым крузе марыянетак, то ты будзеш настолькі пусты, без аніякай любові, што нянавісць успеніцца ў табе, як шампанскае. І ты будзеш сам спрыяць гэтаму, толькі каб не адчуваць болей гэтай жахлівай пустэчы. І не думай, што з пустым страўнікам і пустым сэрцам ты будзеш схільны рабіць подзвігі ў імя любові да бліжкага.

Такім чынам, ты будзеш торкацца за мной, пакінуты ўсім добрым, і месяцамі бачыцьмеш толькі маю вузкую спіну, занадта мяккую патыліцу і пустыя штаны, куды згодна з анатоміяй павінна было б быць укладзена шмат як болей. Але часцей за ўсё табе давядзецца глядзець на мае ногі. Усе, хто ідзе ззаду, глядзяць на ногі пярэдняга, і рытм хады накідваецца ім і імі пераймаецца, нават калі ён для іх чужы і нязручны. Вось, і тады на цябе навaліцца нянавісць, як раўнівая баба, калі ты заўважыш, што ў мяне няма хады. Не, у мяне няма хады. Сапраўды, ёсць людзі, у якіх няма хады – у іх ёсць шмат манераў хады, якія не могуць паяднацца ў адну мелодыю. Я з такіх. Таму ты мяне будзеш ненавідзець, гэтаксама бессэнсоўна і абгрунтавана, як я мушу ненавідзець «парыка», таму што я іду следам. Як толькі ты акурат настроішся на мой крышку няпэўны, аморфны





крок, ты, спатыкаючыся, адзначаеш, што я раптам ступаю зусім пэўна і энергічна. Ледзьве ты паспееш прыстасавацца да гэтай маёй новай хады, як праз некалькі крокаў я пачынаю разбіта і бязвольна валачы ногі. Не, ты не зможаш адчуць ні радасці, ні прыхільнасці да мяне. Ты вымушаны будзеш ненавідзець мяне. Усе тыя, хто ў калоне ідзе ззаду, ненавідзяць тых, хто спераду.

Можа, усё было б інакш, калі б тыя, хто ідзе спераду, азіраліся на задніх, каб паразумецца. Але так кожны ідзе ззаду, бачыць толькі таго, хто спераду, і ненавідзіць яго. Таго, хто ідзе ззаду, ён ігнаруе – тут ён пачуваецца пярэднім. Так гэта ў нашым крузе за шэрымі мурамі – але магчыма, што так гэта і дзе-небудзь яшчэ, мо нават усюды.

Мне ўсё-ткі варта было б забіць «парыка». Аднойчы ён так расшураваў маю нянавісць, што ў мяне кроў закіпела. Гэта было тады, калі я зрабіў сваё адкрыццё. Невялікая рэч. Толькі зусім маленькае адкрыццё.

Ці я казаў ужо, што мы кожны ранак паўгадзіны хадзілі вакол маленькага брудна-зялёнага лапіка травы? Пасярэдзіне манежа гэтага недарэчнага цырка была бляклая збюрка травяных сцяблінак, бляклых і нават паасобку безаблічных. Як мы ў гэтым немагчымым штыкетніку. У пошуках жывога, стракатага вока маё спакваля, неабавязкова прабегла без вялікае надзеі ад адной травінкі да другой; яны, калі адчулі, што на іх глядзяць, міжволі падцягнуліся і кіўнулі мне, – і тут я заўважыў між імі някідкую жоўтую кропку, мініяцюрную гейшу на вялікім лузе. Я быў так спалоханы сваёй знаходкай, што падумаў, няйначай усе павінны былі заўважыць, што мае вочы як прыкіпелі, утаропіліся ў жоўтае нешта, і я хутка ды вельмі зацікаўлена скіраваў позірк на пантофлі майго пярэдняга. Але гэтаксама як ты павінен таму, з кім ты гаворыш, глядзець утароплена ўвесь час на кропку недзе каля носа, што пазбаўляе яго спакою, – так і мае вочы імкнуліся да жоўтае кропкі. Калі я цяпер праходзіў бліжэй паўз яе, я рабіў такі бесклапотны выгляд, які мог. Я пазнаў кветку, жоўтую кветку. Гэта быў адуванчык маленькі жоўты дзьмухавец.

Ён стаяў прыблізна ў паўметры злева ад нашай сцежкі, ад круга, на якім мы кожны ранак узносілі ўхвалу чыстаму паветру. Я проста-такі адчуў страх: мне здалося, што адзін з блакітных ужо, скасавурыўшы вочы, сочыць за тым, куды я гляджу Але як ні прывыклі нашы вартавыя сабакі на кожную індывідуальную праяву штыкетніка рэагаваць шалёным брэхам – ніхто не ўзяў удзел у маім адкрыцці. Маленькі дзьмухавец яшчэ быў цалкам маёй уласнасцю.

Але радавацца яму па-сапраўднаму я мог толькі некалькі дзён. Ён павінен быў належаць мне цалкам. Заўсёды, калі наш шпацыр падыходзіў да канца, я мусіў цераз сілу адрывацца ад дзьмухаўца, і я аддаў бы маю дзённую пайку хлеба (а гэта штосьці ды значыць!), каб мець яго. Страснае жаданне мець у цэлі што-небудзь жывое так узмацнілася ўва мне, што кветка, маленькі нясмелы дзьмухавец, хутка набыла для мяне вартасць чалавека, патаемнай каханкі: я не мог больш без яе жыць – там наверсе паміж мёртвымі сценамі!

А потым пачалася гэта справа з «парыкам». Я пачаў вельмі хітра. Кожны раз, калі я праходзіў каля маёй кветкі, я так непрыкметна, як толькі можна было, адступаў на ступню ад сцежкі ў бок лапіка травы. Унутры нас усіх моцна засеў статкавы інстынкт, на гэта я і разлічваў. Я не памыліўся. Той, хто йшоў ззаду мяне, наступны за ім і гэтак далей – усе зацята і паслухмяна шлэндалі ў мой след. Так за чатыры дні мне ўдалося перанесці нашу сцежку настолькі блізка да дзьмухаўца, што я мог бы, нагнуўшыся, дастаць да яго рукой. Хоць з-за маёй задумы і загінулі пад нашымі драўлянымі пантофлямі пылотнай смерцю колькі дзесяткаў бляклых травінак, – але хто думае пра некалькі растаптаных травінак, калі ён хоча сарваць кветку!

Я наблізіўся да выканання сваіх памкненняў. Для пробы я даў некалькі разоў з'ехаць маёй левай шкарпэтцы, раззлавана і без аніякага нагінаўся ды падцягваў яе. Ніхто не звярнуў на гэта ўвагі. Такім чынам, заўтра!

Вы не павінны з мяне смяяцца, калі я скажу, што на наступны дзень я ступіў на двор з млосцю ў сэрцы, і што ў мяне былі мокрыя, неспакойныя рукі. Гэта ж было больш, чым нерэальна, – перспектыва нечакана займець у цэлі каханку пасля месяцаў адзіноты і адсутнасці любові.

Мы ўжо амаль што закончылі наш штодзённы рыцыён кругоў пад манатонны стук пантофляў – гэта павінна было здарыцца на перадапошнім крузе. І тут пачаў сваю акцыю «парык», прычым самым вытанчаным, хітрым і падступным чынам.

Мы якраз пайшлі на перадапошні круг, блакітныя важна зазвінелі звязкамі ключоў, я наблізіўся да абранага месца, адкуль на мяне баязліва глядзела мая кветка. Я, можа, ніколі не хваляваўся так, як у гэтыя хвілі. Яшчэ дваццаць крокаў. Яшчэ пятнаццаць, яшчэ дзесяць, яшчэ пяць...

Тут вось і здарылася жахлівае! Раптам «парык», быццам пачынаючы тарантэлу, ускінуў свае

тонкія рукі ў паветра, грацыёзна падняў правую нагу да пупка і на левай назе зрабіў паварот назад. Я ніколі не зразумею, адкуль ён набраўся мужнасці – з трыумфам, ззяючымі вачыма ён паглядзеў на мяне, як быццам усё ведаў, закаціў цялячыя вочы пад лоб, аж пакуль не сталі бачныя бялкі, і потым склаўся, як марыянетка. О, цяпер гэта было відавочна: ён напэўна раней быў цыркавым клоўнам, бо ўсе раўлі ад рогату!

Але тут выбухнулі брэхам блакітныя уніформы, і смех быў сцёрты, быццам яго ніколі не было. Адзін з блакітных піхнуў ляжачага нагой і сказаў так будзённа, як кажуць. ідзе дождж, – так ён сказаў· «Гатовы!»

Я мушу прызнацца яшчэ ў нечым – каб стаць чыстым перад сабой. У той момант, калі мы з чалавекам, якога я назваў парыком, глядзелі адзін аднаму ў вочы, і я адчуваў, што ён пацярпеў паразу, паразу не ад мяне, ад жыцця, – у тую секунду мая нянавісць збегла, як хваля ў пясок, і болей не засталося нічога, акрамя пачуцця пустэчы. З плоту выламалі штыкеціну – смерць прасвістала на валасок ад мяне – тут хуценька хочацца быць добрым. І я ўслед яшчэ раз віншую «парыка» з яго ілюзорнай перамогай.

Наступным ранкам спераду мяне ішоў ужо другі, і ён прымусіў мяне адразу забыцца на «парыка» Ён выглядаў крывадушна, як тэолаг, але я думаю, што яго мэтава выпусцілі з пекла, каб зрабіць цалкам невыканальным мой план сарваць кветку.

У яго была нахабная манера кідацца ў вочы. Усе хіхікалі з яго. Нават бляклa-блакітныя сабакі не маглі стрываць чалавечую ўхмылку, што ўжо зусім выпадала з раскладу. Да мозга касцей дзяржаўныя чыноўнікі – але прымітыўная годнасць тупых тварaў наёмнікаў скажалася грымасай. Яны не хацелі смяяцца, далібог, не! Але мусілі. Ці вядомае табе пачуццё, паблажлівае, калі ты з кімсьці ў кепскіх адносінах, і вы абодва маскі непрымірымасці, і тут здараецца нешта смешнае, што змушае вас абодвух смяяцца, – вы не хочаце смяяцца, далібог, не! Але потым твар усё ж расцягваецца ўшыркі і прымае вядомы выраз, які можна было б найбольш трапна назваць «кіслай ухмылкай». Так было цяпер і з блакітнымі, і гэта было адзінае чалавечае памкненне, якое мы ў іх наогул бачылі. Так, гэты тэолаг, гэта было нешта! Ён быў досыць цёрты, каб быць вар'ятам, але ён не быў настолькі вар'ятам, каб ад гэтага пакутавала яго цёртасць.

Нас у манежы было семдзесят сем чалавек, і нас абгаўквала гайня з дванаццаці уніфармаваных з рэвальверамі. Некаторыя былі на гэтай сабачай службе не менш як дваццаць гадоў, таму іх раты з-за гэтага доўгага тэрміну сталі падобнымі на сабачыя мысы. Але гэта прыпадабненне жывёльнаму свету анічога не адабрала ад іхняга форсу Можна было любога з іх брацъ як ён ёсць і выкарыстоўваць як помнік, напісаўшы на пастаменце: L'Etat c'est moi*

Тэолаг (пазней я даведаўся, што ён, уласна кажучы, быў слесарам і пацярпеў ад няшчаснага выпадку пры рамонце царквы – вось Бог і заапекаваўся ім!) быў настолькі вар'ятам альбо настолькі цёртым, што ён цалкам аддаваў належнае іхняй важнасці. Што я кажу – аддаваў належнае? Ён раздзімаў важнасць блакітных уніформаў да паветранага шара нябачаных памераў, пра якія самі носьбіты не мелі аніякага ўяўлення. Калі нават яны і мусілі смяяцца з яго дурасці, то дзесьці глыбока ўнутры пэўны гонар распіраў-такі іхнія трыбухі так, што напіналіся скураныя партупеі.

Кожны раз, калі тэолаг мінаў аднаго з вартавых сабакаў, якія, расставіўшы ногі, увасаблялі сваю ўладу і як мага часта вызвяраліся на нас, – кожны раз ён рабіў вельмі натуральны паклон і гэтак сардэчна-ветліва і добразычліва казаў· «Блаславёнага свята, спадар вахтмайстар!» – так што злавацца на яго не мог нават сам Бог, не кажучы ўжо пра славалюбных дутышаў ва уніформах. Пры гэтым ён выконваў свой паклон так сціпла, што гэта заўсёды выглядала, быццам ён ухіляўся ад аплявухі.

І вось цяпер д'ябал зрабіў гэтага коміка-тэолага маім пярэднім, і яго вар'яцтва так моцна выпраменьвалася і настолькі забірала пад свой уплыў, што я амаль забыўся на сваю новую малую каханку, на кветку дзьмухаўца. Я ледзьве мог кінуць на яе спагадным вокам, бо мусіў вытрываць шалёную барацьбу са сваімі нервамі, якая выціскала на мне пот жаху з усіх дзірак. Кожны раз, калі тэолаг рабіў свой паклон і кроплямі мёду з яго языка сцякала «Блаславёнага свята, спадар вахтмайстар», – кожны раз мне даводзілася напружваць усе цягліцы, каб не зрабіць гэта следам за ім. Спакуса была настолькі вялікай, што я ўжо шмат разоў па-сяброўскуківаў дзяржаўным помнікам і толькі ў апошнюю секунду перамагаў сябе, каб не пакланіцца і прамаўчаць.

Кожны дзень мы каля паўгадзіны кружылі па двары, мы рабілі кожны дзень дваццаць кругоў,

* **Дзяржава – гэта я (фр.) (словы караля Людовіка XIV перад парламентам).**





і навокал нашага круга стаялі дванаццаць уніформаў Такім чынам, тэолаг у любым выпадку рабіў у дзень дзвесце сорак паклонаў, і дзвесце сорак разоў я мусіў цалкам канцэнтравацца, каб не звар'яцець. Я ведаў, што каб я павінен быў рабіць гэта тры дні, то меў бы тым самым абставіны, якія змякчылі б маю віну Гэта ж было б мне не пад сілу.

У цэлю я вярнуўся зусім знясілены. Цэлую ноч я абыходзіў у сне бясконцы шыхт блакітных уніформаў, якія ўсе выглядалі як Бісмарк, – цэлую ноч я казаў гэтым мільёнам блакітных Бісмаркаў з нізкім паклонам «Блаславёнага свята, спадар вахтмайстар!».

На наступны дзень мне ўдалося падстроіць усё так, што чарга мяне мінула, і перада мной быў другі. Я згубіў пантофаль, доўга намацваў яго нагой і потым паклыбаў у штыкетнік. Дзякуй Богу! Для мяне ўзышло сонца. Дакладней, яно схавалася ў цень. Мой пярэдні быў на гэты раз такі бессаромна доўгі, што мае 1,8 м зусім зніклі ў яго цяню. Такім чынам, ёсць усё-ткі боская наканаванасць – трэба было толькі пантофлем дапамагчы ёй здзейсніцца. Доўгі зусім бязладна гроб сваімі нялюдска доўгімі чэпаламі, і арыгінальнае было ў тым, што пры гэтым ён нават прасоўваўся наперад, хоць, напэўна, не мог зрокава кантраляваць ногі ды рукі. Я амаль любіў яго – так, я маліўся, каб ён не абсунуўся раптам мёртвым гэтаксама, як «парык», ці не стаў рабіць капітулянцкія паклоны. Я маліўся за яго доўгае жыццё і за яго псіхічнае здароўе. Я адчуваў сябе ў яго цяню так утульна, што мае позіркі даўжэй, чым раней, абдымалі маленькую кветку, і я пры гэтым мог не баяцца выдаць сябе. Я дараваў майму небам пасланаму пярэдняму нават яго гугнявы голас, о, я велікадушна стрымаўся і не стаў даваць яму ўсялякія мянушкі накшталт «габой», «каракаціца» альбо «божы служка» Я бачыў толькі маю кветку – і пакінуў свайго пярэдняга адзін на адзін з яго даўжынёй і дуратой.

Дзень быў, як і ўсе другія. Ён адрозніваўся ад іх хіба толькі тым, што ў вязня з цэлі 432 напрыканцы шпацыру стала шалёна біцца сэрца, а вочы набылі выраз замаскаванае бяскрыўднасці ды кепска схаванае няўпэўненасці.

Мы павярнулі на перадапошні круг – зноў ажылі звязкі ключоў, а штыкетнік ківаўся ў дрымоце праз нямоглыя промні сонца, быццам за вечнымі кратамі.

Але што гэта? Адна штыкеціна зусім не драмала! Яна была зусім бадзёрая і праз кожныя пару метраў ад узбуджэння мяняла хаду. Няўжо ніхто не заўважыў гэтага? Не. І раптам штыкеціна 432 нагнулася, стала турзаць абсунутую шкарпэтку і – маланкава другой рукой зрабіла выпад да спалоханай маленькай кветкі, сарвала яе – і вось ужо зноў семдзесят сем штыкецін звыкла пашлэндалі на апошні круг

Так, гэта сапраўды смешна: пыхлівы пакаянны юнак з веку грамафонных кружэлак і даследавання космасу стаіць у турэмнай цэлі 432 пад акном, што высока ў муры, і трымае ў сваіх звыклых да адзіноты руках у вузкім промні святла маленькую жоўтую кветку – самы звычайны дзьмухавец. А потым гэты чалавек, які быў прывык нюхаць порах, парфуму і бензін, джын і губную памаду, падымае дзьмухавец да свайго галоднага носа, які ўжо колькі месяцаў як адчуваў толькі пах лежака, пылу і страхам гнанага поту, – і ён так прагна ўсмоктвае ў сябе з маленькага жоўтага колца яго існасць, што ўвесь ён ёсць адзін толькі нос.

Тут у ім нешта раскрываецца і святлом праліваецца ў вузкім памяшканні, нешта, пра што ён дагэтуль не ведаў: пяшчота, прыхільнасць і небывалая цеплыня да кветкі напаўняюць, перапаўняюць яго.

Ён больш не мог цярпець закрытае прасторы, і заплюшчыў вочы, і здзівіўся: але ж ты пахнеш зямлёй. Сонцам, морам і мёдам, мілая мая жывінка! Ён адчуваў яе цнатлівую прахалоду, як голас бацькі, на якога ён ніколі не звяртаў асаблівае ўвагі і які цяпер сваёй ціхмянасцю так суцяшаў яго, – ён адчуваў яе нібы светлае плячо цёмнай жанчыны.

Ён беражліва, як каханую, занёс кветку да кубка з вадой, апусціў туды знясіленую малую істоту, а потым ён колькі хвілін сядзеў, твар у твар са сваёй кветкай.

Ён быў так раскута шчаслівы, што пазбыўся ўсяго, што яго абцяжарвала: зняволення, адзіноты, прагі любові, бездапаможнасці сваіх дваццаці двух гадоў, сучаснасці і будучыні, свету і хрысціянства – так, і яго!

Ён быў брунатным балійцам, дзікуном з дзікага народа, які баіцца мора, і маланкі, і дрэва. Які шануе, дзівуецца, жарэ і не разумее траску, какосавы гарэх і калібры. Настолькі ён вызваліўся, і ніколі ён не быў больш схільны да Дабра, чым тады, калі шаптаў кветцы .. стаць як ты. . .

Усю ноч яго шчаслівыя рукі абдымалі спагадную бляху кубка, і ён адчуваў у сне, як насыпалі на яго зямлю, цёмную, добрую зямлю, і як ён прывыкаў да зямлі і станавіўся як яна – і як з яго прараслі кветкі: анемоны, ворлікі ды дзьмухаўцы – маленькія, слабыя сонейкі.

# Ш Ы Ж Ы Ф,
## альбо КЕЛЬНЕР МАЙГО ДЗЯДЗЬКІ*

Пры гэтым мой дзязька, зразумела, не быў уладальнікам рэстарана. Але ён ведаў аднаго кельнера. Гэты кельнер так інтэнсіўна пераследаваў майго дзядзьку сваёй вернасцю і пашанай, што мы заўсёды гаварылі: гэта яго кельнер. Альбо: вось яно што, яго кельнер.

Калі яны пазнаёміліся, мой дзядзька і кельнер, я прысутнічаў пры гэтым. Я быў тады якраз такога росту, што мог пакласці нос на стол. Але мне можна было гэта рабіць толькі тады, калі стол быў чысты. А заўсёды быць чыстым ён, вядома, не мог. Мая маці таксама была не нашмат старэйшая за мяне. Крыху старэйшая яна была ўжо напэўна, але мы абодва былі яшчэ такімі маладымі, што мы ну так жахліва саромеліся, калі мой дзядзька пазнаёміўся з кельнерам. Так, мая маці і я, мы прысутнічалі пры гэтым.

Зразумела, прысутнічаў і мой дзядзька, гэтаксама як і кельнер, таму што абодва яны якраз і павінны былі пазнаёміцца, і рэч была менавіта ў іх. Мая маці і я былі толькі статыстамі, і пасля мы горка шкадавалі, што прысутнічалі пры гэтым, таму што мы на самой справе мусілі вельмі саромецца, калі пачалося іхняе знаёмства. Менавіта тады дайшло да ўсялякіх жахлівых сцэнаў з лаянкай, скаргамі, смехам і галасам. Мала бойку не ўчынылі. Амаль стала прычынай бойкі тое, што ў майго дзядзькі быў моўны дэфект Але тое, што ён быў аднаногі, урэшце ўсё-такі прадухіліла бойку

Такім чынам, мы ўтраіх, мой дзядзька, мая маці і я, сядзелі ў сонечны летні дзень папалудні ў цудоўным стракатым летнім рэстаране. Вакол нас сядзелі яшчэ з дзве ці тры сотні людзей, якія ўсе таксама пацелі. Пад цяністымі сталамі сядзелі сабакі, а на талерках з-пад піражных сядзелі пчолы. Альбо кружыліся над ліманаднымі шклянкамі дзятвы. Было так цёпла і так шматлюдна, што ў кельнераў былі абражаныя твары, як быццам гэта ўсё адбывалася з-за нечых інтрыгаў Нарэшце падышоў адзін і да нашага стала.

Як я ўжо казаў, у майго дзядзькі быў моўны дэфект Нязначны, але досыць відавочны. Ён не мог вымаўляць «с». А таксама «ц» і «з». Ён проста не мог гэтага адужаць. Заўсёды, калі ў слове з'яўлялася такое вось цвёрдае «с», ён рабіў з яго мяккае слюнявае «шь» І пры гэтым ён адтатурваў далёка ўперад губы, так што яго рот атрымліваў аддаленае падабенства з курынай гузкай.

Такім чынам, кельнер стаяў ля нашага стала і сваёй насоўкай змахваў са сталешніцы крошкі ад піражнага нашых папярэднікаў. (Толькі праз многа гадоў я даведаўся, што гэта была не яго насоўка, а нешта накшталт сурвэткі.) Такім чынам, ён памахаў гэтай штукай і задышліва ды нервова спытаў·

– Калі лашка? Што Вы хашелі?

Мой дзядзька, які цярпець не мог слабыя алкагольныя напоі, прывычна сказаў·

– Так, два ашбахшкага і для хлопша шэльтэршкую альбо ліманад. А што ў ваш ёшь-шь яшшэ?

Кельнер быў вельмі бледны. І прытым было позняе лета, а ён быў кельнерам у летнім рэстаране. Але, можа быць, ён перасіліўся. І раптам я заўважыў, што мой дзядзька таксама стаў бледны пад сваёй чыстай рудой скурай. Потым ён сказаў голасам, які нагадваў раскаты дальняга гарматнага грому·

– Шкажышэ, Вы жвар'яшелі? Вы? Вы нашміхаешеша ж маёй шапялявашші? Га?

Кельнер стаяў як стаяў, а потым пачаў дрыжэць. Дрыжэлі яго рукі. Яго павекі. Яго калені. А перад усім дрыжэў яго голас. Ён дрыжэў ад болю, і ад злосці, і ад неразумення, калі ён паспрабаваў адказаць нешта гэтаксама ў танальнасці гарматнага грому·

– Гэта нешумленна ж Вашага боку, шмяяшша ж мяне, бяштактна, вошь што.

Цяпер дрыжэў ён увесь. Крыссё яго пінжака. Пасмы яго валасоў, склееныя памадай. Яго ноздры і яго кароткая ніжняя губа.

У майго дзядзькі не дрыжэла нічога. Я ўважліва прыгледзеўся: абсалютна нічога. Я любаваўся сваім дзядзькам. Але калі кельнер назваў яго бессаромным, дзядзька, нарэшце, устаў. Гэта значыць, ён, уласна кажучы, не стаяў зусім. З яго адной нагой гэта было б для яго зашмат і зацяжка. Ён застаўся сядзець і ў той жа час устаў Ён унутрана ўстаў І гэтага было цалкам дастаткова. Кельнер успрыняў гэта ўнутранае ўставанне майго дзядзькі як небяспеку і зрабіў два

* Заўвага перакладчыка: пры чытанні слоў кельнера і дзядзькі трэба вымаўляць заднеязычнае «р» (картавіць). Стылёвым прыёмам аўтара з'яўляецца таксама своеасаблівая пунктуацыя.





маленькія няпэўныя дрыжачыя крокі назад. Варожа стаялі яны адзін насупраць другога. Хоць мой дзядзька і сядзеў. Калі б ён на самой справе ўстаў, то вельмі верагодна, што кельнер сеў бы. Ды і мой дзядзька мог дазволіць сабе сядзець, таму што седзячы ён быў з кельнерам аднолькавага росту, а іх галовы былі на аднолькавым узроўні.

Гэтак вось яны стаялі і глядзелі адзін на другога. Абодва з занадта кароткім языком, абодва з аднолькавым дэфектам. Але кожны з зусім іншым лёсам.

Маленькі, зацкаваны, спрацаваны, разбіты, нервовы, бясколерны, запалоханы, прыгнечаны – кельнер. Маленькі кельнер. Сапраўдны кельнер: зацяты, стэрэатыпна ветлівы, без паху, без твару, серыйны, мыты-перамыты і ўсё-ткі крыху брудны. Маленькі кельнер. З пальцамі, жоўтымі ад тытуню, сервільны, стэрыльны, гладкі, добра прычасаны, паголены да сіняга, да жоўтага раззлаваны, з пустымі калашынамі штаноў ззаду і тоўстымі кішэнямі збоку, стаптанымі абцасамі і хранічна мокрым ад поту каўнерам – малы кельнер.

А мой дзядзька? Ах, мой дзядзька! Буйны, руды, з голасам бы ў бочку, гарлавы бас, гучны, рагатлівы, жывы, багаты, вялізны, спакойны, упэўнены, сыты, сакавіты – мой дзядзька.

Маленькі кельнер і мой вялікі дзядзька. Розныя, як цяглавы конь і дырыжабль. Але абодва з кароткімі языкамі. Абодва з аднолькавым дэфектам. Абодва з вільготным слінатым мяккім «шь» Але кельнер выштурхнуты, біты сваім языковым лёсам, запалоханы, расчараваны, адзінокі, загнаны ў кут

І малы, які ён стаў маленькі! Тысячу разоў на дзень аб'ект кпінаў, ля кожнага стала мішэнь усмешак, рогату, спачування, ухмылак, лаянкі. Тысячу разоў за кожны дзень у летнім рэстаране ля кожнага стала на адзін сантыметр больш уцяты ўнутр сябе, згорблены, скурчаны. Тысячу разоў на дзень пры кожным заказе ля кожнага стала, пры кожным «калі лашка» меншы, усё меншы. Язык, гіганцкая бясформенная анучa з мяса, нашмат закароткі язык, пачварная цыклапічная мясная маса, няўклюдны, няздольны чырвоны камяк цягліцаў, гэты язык задушыў яго, зрабіў пігмеем: малы, маленькі кельнер!

А мой дзядзька! З занадта кароткім языком, але: як быццам гэтага і не было. Мой дзядзька, аднаногі, каласальны, шапялявы. Але Апалон у кожным сантыметры цела і ў кожным атаме душы. Аўтакіроўца, з аўтамашынай для жанчын, для тузоў, для гонак. Мой дзядзька, п'яніца, пявун, згустак волі, штукар, ахвотнік шаптаць непрыстойнасці, сыплючы іскры, пераліваючы цераз край, пырскаючы слінай, – ён кароткаязыкі спакуснік, паклоннік жанчынаў і каньяку. Мой дзядзька, п'янтос-пераможца на рыпучым пратэзе, з шырокай ухмылкай, з занадта кароткім языком, але: як быццам гэтага дэфекту не было!

Так яны стаялі адзін насупраць другога. Гатовы да забойства, смяротна пакрыўджаны адзін, гатовы засмяяцца, да краёў поўны вывяржэннямі смеху другі. Навокал шэсць ці сем соцень вачэй і вушэй, людзі на шпацыры, спажыўцы кавы, заўзятары піражных, якіх больш займала тое, што яны на людзях, чым піва, ліманад і мядовае піражнае. Ах, а пасярод гэтага ўсяго мая маці ды я. З чырвонымі тварамі, сарамлівыя, схаваўшыся глыбока ў спадняе. А беды нашы пры гэтым толькі пачыналіся.

– На мешшы жнайджышэ гашпадара, верабей Вы агрэшыўны, Вы. Я пакажу Вам, як абражашь гашшэй.

Мой дзядзька цяпер знарок гаварыў гучна, каб для шасці- альбо сямісот пар вушэй не было згублена ні слова. Асбахскае прыемным чынам узбудзіла яго. Ад асалоды ён усміхаўся на ўвесь свой вялікі добры шырокі руды твар. На лбе высыпалі светлыя салёныя пярліны і патрухалі ўніз па буйных скулах. Але кельнер успрымаў усё з яго боку як подласць, як зласлівасць і правакацыю. Ён стаяў са зморшчанымі, запалымі, злёгку выдаючыміся на боль шчакамі і не рухаўся з месца.

– У Ваш што, пяшок у ворганах шлыху? Жнайджышэ гашпадара, Вы, п'яны штукар. Ну, ші Вы наклалі ў штаны, няўдах Вы ніжкарошлы?

Тут маленькі-маленькі пігмей, малы шапялявы кельнер прыняў велікадушнае, найважкае, зусім нечаканае для ўсіх нас і для сябе рашэнне. Ён упрытык падышоў да нашага стала, памахаў сваёй насоўкай над нашымі талеркамі і склаўся ў карэктным кельнерскім паклоне. Нямоцным мужчынскім рашучым голасам, з пераканальнай дрыжачай ветлівасцю ён сказаў· «Калі лашка!» і, маленькі, адважны і вытрыманы, сеў на чацвёртае вольнае крэсла ля нашага стала. Вытрымку, зразумела, толькі абазначыўшы. Таму што ў яго адважным маленькім кельнерскім сэрцы гарэла абуранае полымя істоты пагарджанай, запалоханай і няўдалай. Яму таксама бракавала мужнасці паглядзець на дзядзьку. Ён толькі вось так някідка і па-дзелавому прысеў, і на маё меркаванне, дык ці сядзеў на крэсле хоць восьмай часткай азадка (калі ён увогуле меў больш таго азадка, чым восьмая частка, – ад вялікае сціпласці).

Ён сядзеў, глядзеў перад сабой на шэра-белы ў плямах ад кавы абрус, потым выцягнуў свой тоўсты папернік і, ва ўсялякім разе, больш-менш па-мужчынску паклаў яго на стол. На паўсекунды ён рызыкнуў падняць вочы, ці не занадта ён шмат дазволіў сабе з папернікам, потым, калі заўважыў, што гара, а менавіта мой дзядзька, застыла ў лянівым чаканні, ён адкрыў папернік і выняў кавалак перагнутага ці то кардону ці то паперы, складкі якой мелі ад частага ўжытку жоўты колер. Ён важна разгарнуў яе, устрымліваючыся як-небудзь выявіць сваю крыўду альбо тое, што праўда на яго баку, і па-дзелавому прыклаў свой кароткі спрацаваны палец да пэўнага месца на паперы. Потым ён ціха, крыху хрыпата, робячы вялікія паўзы, каб набраць паветра, сказаў·

– Калі лашка. Калі Вы хочашэ пагляджешь. Вельмі прашу Ваш шамім упэўнішша. Мой пашпарт Быў у Парыжы. У Баршэлоне. У Ашнабруку, калі лашка. Ушё можна башышь па маім пашпарше. А вошь: ашаблівыя прыкметы. Рубеш на левым калене. (Ад футбола.) А тут, што тут? Вошь, калі лашка: дэфект мовы ад нараджэння. Калі лашка. Як Вы шамі можашэ башышь!

Жыццё абышлося з ім занадта па-мачахінаму, каб ён мог яшчэ, набраўшыся смеласці, насалодзіцца сваім трыумфам і паглядзець на майго дзядзьку з выклікам. Не, ён сядзеў ціха і без выразу глядзеў перад сабой на палец на паперы ды на засведчаны дэфект ад нараджэння, цярпліва чакаючы, калі прагучыць бас майго дзядзькі.

Не прайшло шмат часу, і ён прагучаў. І калі ён прагучаў, то словы, якія ён праартыкуляваў, былі такія нечаканыя, што я ікнуў. Мой дзядзька раптам ухапіў сваімі тоўстымі квадратнымі далонямі-шуфлямі маленькія дрыготкія кельнеравы лапкі і з вітальнай гнеўна-моцнай дабрынёй ды са звярына-цёплай мяккасцю, якая, кажуць, ёсць найліснай рысай усіх волатаў, прамовіў:

– Беднае маленькае штварэнне! І гэта яны ж шамага твайго нараджэння табе дапякаюць!

Кельнер пракаўтнуў. Потым ён кіўнуў. Кіўнуў шэсць, сем разоў. З палёгкай. Задаволены. Ганаровы. Абаронены. Гаварыць ён не мог Ён нічога не разумеў Розум і мову задушылі дзве вялікія слязы. Бачыць ён таксама не мог, таму што гэтыя дзве вялікія слязіны выступілі перад зрэнкамі як дзве непразрыстыя, усё зацямняючыя занавескі. Ён нічога не разумеў. Але яго сэрца сустракала гэтую хвалю спачування, як пустыня, якая тысячу гадоў чакала на акіян. Ён мог бы хаваць свае маленькія рукі ў ручысках майго дзядзькі да самае смерці! Ён цэлую вечнасць мог бы слухаць гэтае вось: «Беднае маленькае штварэнне!»

Але па маім дзядзьку дык гэта ўжо зацягнулася. Ён быў кіроўца. Нават калі ён сядзеў у рэстаране. Ён выбухнуў сваім голасам на ўвесь летні рэстаран і гэтымі грымотамі трапіў у нейкага спалоханага кельнера:

– Гэй, шпадар афішыянт! Вошем ашбахшкага! Але хутка, кажу я Вам! Што? Ня Вы абшлугоўваешэ? Вы прынешяшэ мне на мешшы вошем ашбахшкага, і пашпрабуйшэ не жрабішь!

Чужы кельнер запалохана і няўцямна паглядзеў на майго дзядзьку Потым на свайго калегу Ён, відаць, быў бы не супраць, каб той неяк (падміргнуўшы ці яшчэ як-небудзь) даў яму зразумець, што ўсё гэта павінна значыць. Але маленькі кельнер ледзьве мог пазнаць свайго калегу, настолькі далёка быў ён ад усяго, што называлася кельнер, талерка для піражнага, кубачак для кавы і калега, настолькі далёка ад гэтага.

Потым на стале стаялі восем куфляў асбахскага. Чатыры куфлі чужы кельнер мусіў забраць адразу, яны апусцелі перш, чым ён паспеў міргнуць вокам. «Налішэ яшшэ раж, і дапаўна!» – загадаў мой дзядзька і пакорпаўся ва ўнутранай кішэні свайго курткі. Потым ён выпісаў у паветры парабалу і ў сваю чаргу паклаў свой тоўсты папернік побач з папернікам свайго новага сябра. Нарэшце, ён выцягнуў пакамечаную паперыну і прыклаў свой сярэдні палец, які быў таўшчынёю з дзіцячую руку, да пэўнага месца на паперчыне.

– Башыш, дурненькі жайшык, вошь напішана: ампуташыя нагі і штраляная рана ніжняе шківішы. Баявыя раненні.

Кажучы гэта, ён паказваў другой рукой на шрам, які хаваўся пад барадой.

– Швінні прошта адштрэлілі мне кавалак яжыка. У Францшыі тады.

Кельнер кіўнуў галавой.

– Яшшэ жлуеш? – спытаў мой дзядзька.

Кельнер хутка пахітаў галавой, як быццам адмаўляючы нешта ну зусім немагчымае.

– Я толькі шпашатку падумаў, што Вы хашашэ пашьмяяшша ж мяне.

Узрушаны сваёй памылкай у справе людаведства, ён увесь час круціў галавой злева направа і наадварот.

І тут адразу здалося, як быццам ён тым самым адразу строс усю трагічнасць свайго жыцця. Абедзве слязіны, якія заблукалі ў пустотах яго твару, забралі з сабой усе пакуты датыхчаснага высмеянага яго існавання. Новы адрэзак свайго жыцця, на які ён ступіў на гіганцкай далоні майго





дзядзькі, пачаўся маленькім смехам, які падняўся з глыбіні, смяшком, нерашучым, баязлівым, але ахутаным уяўным смуродам асбахскага.

А мой дзядзька, гэты дзядзька, які прабіваў сабе дарогу праз жыццё на адной назе, з прастрэленым языком і мядзведжым басавагалосым гумарам, гэты мой дзядзька быў цяпер так неверагодна расчулены, што нарэшце, ну нарэшце мог смяяцца. Яго твар ужо так набрыняў чырванню, што я думаў, ён праз якую хвіліну трэсне. І яго смех знайшоў выхад: ён нястрымна выбухаў, грымеў, пырскаў, біў у гонг, праходзіў горлам, – ён знайшоў выхад, як быццам ён быў вялікім яшчарам, з глыбіні вантробаў якога адрыгваліся гэтыя гукі. У параўнанні з ім першы нанова апрабаваны невялікі чалавечы смех кельнера, новага маленькага кельнерачалавека, быў кволым кашлем прастуджанага казляняці. Я спалохаўся і схапіў маці за руку. Не тое што я баяўся свайго дзядзькі, але мной усё ж такі валодаў падсвядомы звярыны страх перад васьмю куфлямі асбахскага, якія брадзілі ў маім дзядзьку. Рука маці была халодная, як лёд. Уся кроў пакінула яе цела, каб зрабіць з твару выразны плакатавы сымболь сарамлівасці і грамадзянскай прыстойнасці. Ні адзін з памідораў Чатырохгор'я не мог бы спраманяць большую чырвань. Мая маці свяцілася. Пунсовы мак быў занадта бляклы ў параўнанні з ёй. Я абсунуўся як мага з крэсла пад стол. Круглыя і агромністыя, нас акаляглі семсот пар вачэй. О, як мы саромеліся, мая маці і я.

Маленькі кельнер, які пад гарачым, напоўненым алкагольнымі выпарэннямі дыханнем майго дзядзькі стаў новым чалавекам, здавалася, хацеў пачаць першую частку свайго новага жыцця неадкладна з цэлай эпохі смеху ў стылі казлятон. Ён мыкаў, бэкаў, гнукаў і гнікаў, як цэлы статак ягнят адначасова. І пасля таго, як абодва мужчыны пралілі на свае кароткія языкі яшчэ чатыры куфлі асбахскага, з ягнятаў, з ружовых тонкагалосых кволых рахманых маленькіх кельнерскіх ягнятаў выраслі зусім вялікія з драўляным мэкам старыя бы свет балабародыя з голасам бы жалезам па бляссе па-дурному бэбэкаючыя казлы.

Гэтае пераўтварэнне маленькага атрутнага глухога зацятага смарчка ў бесперапынна ўвесь час мэкаючага б'ючага сабе па сцёгнах гэгэкаючага бляшана бэкаючага казлачалавека нават майму дзядзьку падалося крыху незвычайным. Яго смех памалу захліснуўся, нібы тонучая скала. Ён рукавом выцер слёзы са свайго рудога шырокага твару і празрыстымі ад асбахскага, нерухомымі ад спадзіву вачыма ўтаропіўся ў карліка-кельнера ў белай куртцы, якога трэслі прыступы смеху За намі напружана сачылі сем соцень твараў. Сем соцень пар вачэй меркавалі, што яны не так бачаць. Балелі сем соцень пар напружаных барабанных перапонак. Тыя, хто сядзеў найдалей ад нас, узрушана ўсталі, каб анічога не згубіць з таго, што дзеялася. Было такое ўражанне, як быццам кельнер вырашыў ад гэтага часу працягваць сваё жыццё ў якасці велізарнага злосна бляючага казла. Але цяпер ужо, пасля таго як ён, бы накручаны, колькі хвіляў тануў ва ўласным смеху, цяперака ён спрабаваў, і паспяхова, устаўляць паміж залпамі смеху, што пярлінамі вырываліся з яго круглага рота, падобна да бляшаных кулямётных чэргаў, кароткія рэзкія ўскрыкі. Яму ўдавалася набіраць паміж прыступамі смеху столькі паветра, што ён цяпер мог іржаць у паветра гэтыя ўскрыкі.

– Шыжыф! – крычаў ён і стукаў сабе па мокрым ілбе.

– Шыжыф! Шы-ы-ыжы-ы-ы-ыф! – Ён абедзве трымаўся за сталешніцу і іржаў:

– Шыжыф!

Калі ён праіржаў гэта разоў з дваццаць, гэта «Шыжыф» з усяе глоткі, то гэтага шыжыфання стала майму дзядзьку занадта. Ён адным рухам узяў безупынна рагочучага кельнера загрудкі, пакамечыўшы яму накрухмаленую кашулю, а другім кулаком так выцяў па сталу, што падскочылі дванаццаць пустых куфляў, і грымнуў:

– Ушё! Хопішь, кажу табе. Што жнашышь гэта дурашкае швіншкае слова Шыжыф? Каншай, ражумееш!

Дзядзькаў захват і грымотны бас у адзін момант зрабілі з казла, што крычаў «Шыжыф», зноў маленькага шапялявага зачуху-кельнера.

Ён устаў. Ён устаў, як быццам тое, што ён сеў, было найвялікшай памылкай яго жыцця. Ён прайшоўся сурвэткай-насоўкай па твары і выдаліў слёзы ад смеху, кроплі поту, асбахскае і смех як нешта, што было блюзнерскім і вартым ганьбавання. Але ён быў настолькі п'яны, што лічыў усё сном, спачатку шальмаванне, потым спачуванне і сяброўства майго дзядзькі. Ён не ведаў: «Ші крышаў я толькі што «Шыжыф!»? Альбо не? Я перакуліў шэшьш куфляў ашбахшкага, я, кельнер гэтага рэштарана, пашярод гашьшей? Я!» Ён быў няпэўны. І на ўсялякі выпадак ён зрабіў выразны малы паклон і прашаптаў:

– Выбашайшэ! Так, выбашайшэ мне гэты Шыжыф. Калі лашка. Прабашшэ, шпадар, калі я жанадта быў галошны, але ашбахшкае, Вы ведаешэ шамі, калі нішога не еўшы, на галодны штраўнік. Калі лашка, вельмі прашу. Шыжыф гэта была мая мянушка. Так, у школе. Увесь клаш

нажываў мяне так. Вы, напэўна, ведаешэ, Шыжыф, гэта быў шалавек у пекле, гэта штарое паданне, Вы ведаешэ, шалавек у Гадэшэ, бедны грэшнік, які павінен быў, э-э, мушіў кашіць велішарны камень на вяліжную гару, так, гэта быў Шыжыф, Вы напэўна ведаешэ. Я ўвешь шаш мушіў рашкажвашь гэта ў школе, увешь шаш пра гэтага Шыжыфа. І тады ўше папярхалішя ша шмеху, можашэ шабе ўявішь, шаноўны шпадар. Тады ўше шмяялішя покатам, ведаешэ, ш-ша таго, што ў мяне жакароткі коншык яжыка. Так атрымалашя, што пажней мяне ўшюды шталі нажывашь Шыжыф і абжывашь так, башышэ. І гэта, прабашьшэ, прыйшло мне так на розум, выпіўшы ашбахшкага, калі я так крышаў, ражумеешэ. Прабашьшэ, я вельмі прашу, прабашьшэ, калі я Вам нажаляў, калі лашка.

Ён змоўк. Між тым яго сурвэтка незлічоную колькасць разоў перавандравала з адной рукі ў другую. Потым ён паглядзеў на майго дзядзьку

Цяпер той ціха сядзеў ля стала і глядзеў перад сабой на абрус. Ён не адважваўся паглядзець на кельнера. Мой дзядзька, мой падобны да мядзведзя ці быка вялізны дзядзька не адважваўся падняць вочы і вытрымаць пагляд гэтага малога збянтэжанага кельнера. А дзве вялікія слязіны, яны цяпер былі на дзядзькавых вачах. Але гэтага не бачыў ніхто, акрамя мяне. Ды і я бачыў гэта толькі таму, што быў малы і мог глядзець на яго твар знізу Ён падсунуў кельнеру, які стаяў у спакойным чаканні, вялікую купюру, нецярпліва адмахнуўся, калі той хацеў аддаць яе назад, і ні на кога не гледзячы ўстаў

Кельнер нерашуча вымавіў яшчэ сказ:

– Жа ашбахшкае я б сам ахвотна жаплашыў.

Пры гэтым ён ужо засунуў купюру ў кішэню, як быццам не чакаючы ні на якую рэакцыю. Ды ніхто і не пачуў ягоны сказ, і яго велікадушнасць бязгучна ўпала на цвёрдыя каменьчыкі паміж сталоў летняга рэстарана і была пазней абыякава растаптаная. Мой дзядзька ўзяў кульбу, мы ўсталі, маці падставіла майму дзядзьку локаць, і мы памалу выйшлі на вуліцу. Ніхто з нас траіх не паглядзеў на кельнера. Мая маці і я не паглядзелі, таму што саромеліся. Мой дзядзька не паглядзеў, таму што ў яго вачах стаялі дзве вялікія слязіны. Можа, ён і саромеўся, гэты дзядзька. Памалу мы ішлі да выхаду, кульба майго дзядзькі агідна скрыгітала па шчэбені на падлозе летняга рэстарана, і гэта быў на той момант адзіны гук, таму што тры ці чатыры сотні твараў ля сталоў былі моўчкі ўтаропленыя ў нас.

І раптам мне стала шкада малога кельнера. Калі мы каля выхаду з рэстарана хацелі павярнуць за рог, я яшчэ раз хуценька азірнуўся на яго. Ён усё яшчэ стаяў ля нашага стала. Яго белая сурвэтка звісала аж да зямлі. Мне здавалася, што ён стаў яшчэ нашмат меншы. Ён стаяў там такі маленькі, такі шэры, такі пусты, такі безнадзейны, такі бедны, такі халодны і так бязмежна адзінокі! Ах, які маленькі! Мне так бясконца было шкада яго, што я пакратаў майго дзядзьку за руку, усхвалявана і ціха сказаў:

– Мне здаецца, што ён цяпер плача.

Мой дзядзька спыніўся. Ён паглядзеў на мяне, і мне добра былі заўважныя абедзве вялікія слязіны ў яго вачах. Я сказаў яшчэ раз, дакладна не разумеючы, чаму я гэта, уласна кажучы, раблю:

– О, ён плача. Зірні, ён плача.

Тут мой дзядзька выпусціў мацерыну руку, хутка і цяжка пракульгаў два крокі назад, ускінуў, бы меч, уверх сваю кульбу і пырнуў ёй у неба, і з усяе выбітнае сілы свайго магутнага цела і сваёй глоткі прароў:

– Шыжыф! Шыжыф! Ты шуеш? Да пабашэння, шябра Шыжыф! Да наступнай няджелі, беднае штварэнне! Буджь ждароў!

Абедзве вялікія слязіны, якія цяпер збягалі па яго добрым карычневым твары, былі раздушаныя маршчынамі ў нішто. Гэта былі маршчыны смеху, і іх поўна было на твары. Ён яшчэ раз пракрэсліў кульбай па небе, як быццам хацеў скалупнуць сонца, і яшчэ раз над сталамі летняга рэстарана прагрымеў яго цыклапічны смех: «Шыжыф!» І Шыжыф, маленькі шэры бедны кельнер, прачнуўся са свайго небыцця, падняў сурвэтку і стаў матляць ёй зверху ўніз, быццам звар'яцелы чысцільшчык акон. Ён канчаткова і назаўсёды выціраў увесь шэры свет, усе летнія рэстараны свету, усіх кельнераў і ўсе дэфекты мовы. І ён рэзка і больш чым шчасліва пракрычаў у адказ, стаўшы на дыбачкі і не перастаючы чысціць вокны:

– Я ражумею! Калі лашка! У няджелю! Але, да пабашэння! У няджелю, калі лашка!

Потым мы загнулі за рог вуліцы. Мой дзядзька зноў узяў маці пад руку і ціха сказаў:

– Я ведаю, для ваш гэта напэўна быў аджын жах. Але як я мог жрабішь па-другому, шкажы шама. Такі вошь дурны жаяш. Бегае ўшё жышьшё ж такім агідным дэфектам мовы. Беднае гэта штварэнне!





# ХЛЕБ

Яна раптам прачнулася. Была палова трэцяй. Яна падумала, з-за чаго яна прачнулася. Вось яно што! На кухні хтосьці перакуліў крэсла. Яна прыслухалася, што рабілася на кухні. Там было ціха. Было занадта ціха, і калі яна правяла рукой па ложку побач з сабой, то ўпэўнілася, што ён пусты. Гэта вось і было прычынай цішыні: не было чуваць яго дыхання. Яна ўстала і па цёмнай кватэры патэпала на кухню. На кухні яны сустрэліся. На гадзінніку было палова трэцяй. На буфеце яна заўважыла нешта белае. Яна ўключыла святло. Яны стаялі адно насупраць другога ў споднім. Ноччу. А палове трэцяй. На кухні.

На буфеце стаяла хлебніца. Яна бачыла, што ён адкраіў сабе хлеба. Нож яшчэ ляжаў побач з хлебніцай. А на абрусе былі крошкі. Калі яны вечарам ішлі спаць, яна заўсёды змятала з абруса. Кожны вечар. Але цяпер на абрусе ляжалі крошкі. І нож ляжаў тутсама. Яна адчула, як холад ад бетоннае падлогі памалу падымаецца ад ног да галавы. І яна адвяла пагляд ад талеркі.

– Я думаў, тут нешта здарылася, – прамовіў ён і агледзеўся на кухні.

– І я таксама нешта чула, – азвалася яна і пры гэтым адзначыла пра сябе, што ён ноччу ў споднім усё-такі выглядае ўжо досыць старым. На свае гады. Шэсцьдзесят тры. Днём ён іншым разам выглядаў маладзейшым.

Яна выглядае ўсё-такі старой, падумаў ён, у споднім яна ўсё ж выглядае даволі старой. Але, можа, гэта залежыць ад валасоў У жанчын ноччу прычынай гэтаму заўсёды валасы. Яны адразу так старацъ.

– Табе трэба было абуцца. Так босай па бетоне. Яшчэ прастудзішся.

Яна не паглядзела на яго, таму што не магла вытрываць, што ён маніць. Што ён маніць пасля таго, як яны разам пражылі трыццаць дзевяць гадоў

– Я думаў, тут нешта здарылася, – сказаў ён яшчэ раз і зноў гэтаксама бессэнсоўна агледзеў куты. – Нешта пачулася. Вось я і падумаў, што нешта здарылася.

– Я таксама нешта чула. Але, пэўна, здалося. – Яна прыбрала талерку са стала і змахнула крошкі з абруса.

– Не, напэўна, здалося, – быццам рэха, няпэўна адгукнуўся ён.

Яна прыйшла яму на дапамогу·

– Хадзем. Пэўна, штосьці знадворку. Хадзем спаць. Яшчэ прастудзішся. На голым бетоне.

Ён паглядзеў у акно.

– Так, напэўна, нешта знадворку А я падумаў, што тут

Яна падняла руку да выключальніка. Трэба выключыць святло, інакш я мушу глядзець на талерку.

– Хадзем, – сказала яна і выключыла святло, – напэўна, гэта было знадворку Вадасцёк пад ветрам заўсёды б'е па сцяне. Напэўна, гэта быў вадасцёк. Калі вецер, ён заўсёды стукае.

Яны абодва патэпалі па цёмным калідоры ў спальню. Іх босыя ногі шлёпалі па падлозе.

– Вецер, – прамовіла яна. Ужо цэлую ноч вецер.

Калі яны ляжалі ў ложку, яна сказала:

– Так, вецер дзьме ўжо цэлую ноч. Найхутчэй, гэта быў вадасцёк.

– Так, а я думаў, што гэта на кухні. Хутчэй за ўсё, гэта быў вадасцёк. – Ён прамовіў гэта, быццам ужо напалову спаў.

Але яна заўважыла, як фальшыва гучаў яго голас, калі ён маніў

– Холадна, – прагаварыла яна і ціха пазяхнула, – я паўзу пад коўдру. Дабранач.

– Дабранач, – адказаў ён і дадаў· – Што ёсць, тое ёсць, холад сёння ладны.

Потым стала зусім ціха. Мінула даволі часу, і яна пачула, што ён асцярожна жуе. Яна знарок дыхала глыбока і раўнамерна, каб ён не заўважыў, што яна яшчэ не спіць. Але яго жаванне было такім раўнамерным, што пад яго гукі яна памалу заснула.

Калі ён назаўтра ўвечары прыйшоў дахаты, яна падсунула яму чатыры скібкі хлеба. Раней ён мог з'есці толькі тры.

– Ты можаш спакойна з'есці чатыры, – сказала яна і адышлася ад лямпы. – Я не надта люблю гэты хлеб.

Яна бачыла, як ён нізка схіліўся над талеркай. Ён не падымаў вачэй. У гэтую хвілю ёй стала яго шкада.

– Але ты ж не можаш з'ядаць толькі дзве скібкі, – сказаў ён у сваю талерку

– Магу. Увечары мне дрэнна есці хлеб. Еш. Еш.

Толькі праз нейкі час яна падсела пад лямпу да стала.

# ШЧУРЫ Ж НОЧЧУ СПЯЦЬ

Пустое акно ў адзінокім муры блакітна-чырвона пазяхала, поўнае ранневечаровым сонцам. Воблакі пылу слаба мігцелі паміж стромкімі рэшткамі камінoў. Пустэльня з руінаў ляжала ў дрымоце.

Ён трымаў вочы адплюшчанымі. Адразу стала цямней. Ён заўважыў, што нехта прыйшоў і цяпер стаяў перад ім, цёмны, ціхі. Вось я і трапіў, падумаў ён. Але калі ён крыху адплюшчыў вочы, то ўбачыў перад сабой толькі дзве ледзьве прыкрытыя калашынамі нагі. Яны крыва стаялі перад ім, так што ён мог глядзець паміж іх. Ён адважыўся на маленькі стрэл вачыма па калашынах уверх і разгледзеў пажылога мужчыну Той трымаў у руках нож і кошык. І было ў яго крыху зямлі на пальцах.

Ты што, спіш тут, ці як? спытаў стары і зверху паглядзеў на чупрыну ўнізе. Юрген пажмурыўся на сонца, гледзячы паміж ног старога, і прамовіў· Не, не сплю. Я павінен пільнаваць. Стары кіўнуў· Так, для гэтага табе, напэўна, і трэба гэты вось кій вялікі?

Так, мужна адказаў Юрген і сціснуў кій у руках.

Што ж ты пільнуеш?

Гэта я не магу сказаць. Ён моцна сціснуў пальцы вакол кія.

Напэўна, грошы, га? Стары паставіў кошык на зямлю і, пацягнуўшы туды-сюды, выцер нож аб тыл сваіх штаноў.

Не, зусім не грошы, адказаў пагардліва Юрген. Нешта зусім іншае.

Ну, дык што ж?

Не магу сказаць. Нешта другое, і ўсё.

Ну, не дык не. Але тады я, зразумелая справа, не скажу, што ў мяне тут у кошыку Стары пхнуў кошык нагой і склаў сцізорык.

Га, цяжка здагадацца, што ў кошыку, адказаў Юрген крыху звысока, корм для трусоў

Гром і маланка, на самой справе! здзіўлена ўсклікнуў стары, дык ты малайчына. Колькі табе гадоў?

Дзевяць.

Але, падумай толькі, дзевяць. Ты ж тады павінен ведаць, колькі будзе тры разы па дзевяць, га?

Ясная справа, сказаў Юрген і, каб выйграць час, дадаў яшчэ: Гэта зусім лёгка. І ён паглядзеў паміж нагамі старога. Тры разы па дзевяць, так? спытаў ён яшчэ раз, дваццаць сем. Гэта я ведаў адразу.

Правільна, сказаў стары, якраз столькі ў мяне трусоў.

У Юргена рот зрабіўся круглы: Дваццаць сем?

Ты можаш іх паглядзець. Шмат якія яшчэ зусім маленькія. Хочаш?

Я ж не магу. Я мушу пільнаваць, сказаў няцвёрда Юрген.

Увесь час, пацікавіўся стары, і ноччу таксама?

І ноччу. Увесь час. Юргенаў позірк падняўся па крывых нагах уверх. Ужо з суботы, прашаптаў ён.

Дык ты што, зусім не ходзіш дадому? Табе ж трэба есці.

Юрген прыўзняў камень. Там ляжала паўбуханкі хлеба. І бляшанка.

Ты курыш? спытаў стары, у цябе што, ёсць люлька?

Юрген зноў ушчапэрыўся ў свой кій і нерашуча прамовіў· Я кручу самакруткі. Люльку я не люблю.





Шкада, стары нагнуўся па свой кошык, трусоў ты мог бы спакойна паглядзець. Перад усім маленькіх. Можа, выбраў бы сабе аднаго якога. Але ж табе адсюль няможна.

Не, сказаў маркотна Юрген, не, не.

Стары падняў кошык і выпрастаўся. Але, калі ўжо табе мусова заставацца тут – шкада. І ён павярнуўся.

Калі ты не выдасі мяне, сказаў хутка Юрген, гэта з-за шчуроў.

Крывыя ногі зрабілі адзін крок назад: З-за шчуроў?

Так, бо яны ядуць ад мёртвых. Ад людзей. Ад гэтага яны жывуць.

Хто так сказаў?

Наш настаўнік.

І ты тут пільнуеш шчуроў? спытаў стары.

Але ж не іх! І потым ён раптам сказаў зусім ціха: Мой брат, ён жа ляжыць там унізе. Там. Юрген паказаў кіем на абваленыя муры. У наш дом ударыла бомба. Адразу ў падвале прапала святло. І ён таксама. Мы яшчэ клікалі. Ён быў нашмат маладзейшы за мяне. Толькі чатыры гады. Ён жа пэўна яшчэ тут. Ён жа меншы, чым я.

Мужчына паглядзеў зверху на хлопчыкаву чупрыну. А потым нечакана сказаў· Але, а хіба вам ваш настаўнік не казаў, што шчуры ноччу спяць?

Не, прашаптаў Юрген і адразу стаў выглядаць зусім стомленым, гэтага ён не казаў.

Вось табе і на, сказаў стары, што ж гэта за настаўнік, калі ён нават такога не ведае. Шчуры ж ноччу спяць. Ноччу ты можаш спакойна ісці дахаты. Ноччу яны заўсёды спяць. Калі цямнее, адразу.

Юрген рабіў сваім кіем у смецці маленькія ямкі. Гэта ўсё маленькія пасцелі, думаў ён, усё маленькія пасцелі.

Тут стары прамовіў (і пры гэтым яго крывыя ногі неспакойна рухаліся): Ведаеш што? Цяпер я хуценька пакармлю сваіх маленькіх трусоў, а калі зусім сцямнее, я цябе забяру Можа, прынясу аднаго з сабой. Маленькага, ці як?

Юрген рабіў у смецці маленькія ямкі. Усё маленькія трусы. Белыя, шэрыя, шэра-белыя. Я не ведаю, прагаварыў ён ціха і паглядзеў на крывыя ногі, калі ўжо яны ноччу на самой справе спяць.

Стары пералез цераз рэшткі муроў на вуліцу Зразумела, сказаў ён адтуль, няхай ваш настаўнік збірае манаткі, раз ён нават гэтага не ведае.

Тут Юрген устаў і папрасіў: Калі б мне можна было ўзяць аднаго? Можа, беленькага?

Будзем глядзець, выгукнуў стары, ужо ідучы, але ты мусіш пачакаць, пакуль я не вярнуся. Ведаеш што, потым я пайду з табой дахаты. Трэба будзе яшчэ сказаць твайму бацьку, як зрабіць клетку для трусоў. Бо вам гэта трэба ведаць.

Але, крыкнуў Юрген, я пачакаю Мне ж трэба пільнаваць, аж пакуль не сцямнее. Я абавязкова пачакаю. І ён крыкнуў: У нас таксама ёсць дома дошкі. Дошкі ад скрынак, крыкнуў ён.

Але стары ўжо не чуў гэтага. Ён ішоў на сваіх крывых нагах насустрач сонцу. Яно было ўжо чырвонае ад вечара, і Юрген мог бачыць, як яно прасвечвала паміж нагамі, такія крывыя яны былі. І кошык усхвалявана боўтаўся туды-сюды. Зялёны корм для трусоў быў там. Зялёны корм для трусоў, крыху шэры ад тынкоўкі.



## ЗАМЕСТ ПАСЛЯСЛОЎЯ

**Відавочна, на нямецкай зямлі ў той час такая асоба, як Вольфганг Борхерт, магла нарадзіцца, вырасці і сфармавацца толькі ў Гамбургу.**

**«Гамбург!**

**Гэта болей, чым нагрувашчванне каменняў, дахаў, акон, шпалераў, ложкаў, вуліцаў, мастоў і ліхтароў. Гэта болей, чым фабрычныя коміны і клаксаны аўтамабіляў, болей, чым гогат чаек, покліч трамваяў і грукат чыгунак, гэта болей, чым сірэны караблёў, енкі кранаў, праклёны і танцавальная музыка, – о, гэта нашмат болей.**

**Гэта наша воля жыць. Жыць не дзе-небудзь і як-небудзь, а тут і толькі тут, паміж ніткаю Альстэра і Эльбай <...>. Мы прызнаёмся ў гэтым без сораму: нас затлумілі і зачаравалі марскія вятры і рачныя туманы, каб мы засталіся – засталіся тут, былі тут!» («Гамбург»).**

**Непадлеглы прускаму духу, вольны горад, які гаворку і тую меў і мае сваю, адрозную ад агульнапрынятай мовы, рыхтаваў свайму сыну няпросты лёс. Але і даў сілы на гэты лёс.**

**Вольфганг Борхерт нарадзіўся ў 1921 годзе і таму атрымаў ад Гісторыі позву на вайну. Пайшоў ён туды ўжо сфармаваны як творчая асоба (праца ў тэатры, вершы). Борхерт не ўпісваўся ў**

**таталітарную сістэму і часта «засвечваўся» то ў перапісцы, то дзякуючы «стукачам». На Усходнім фронце пад Калінінам (сёння Цвер) ён пры нявысветленых абставінах прастрэліў сабе руку і быў асуджаны ваенна-палявым судом. Але Рэйху лепш было мець жывога салдата, чым пакаранага «самастрэла», і таму Борхерт зноў быў накіраваны на фронт. За парадыраванне Гебельса асуджаны яшчэ раз. Хвароба, потым французскі палон і вяртанне ў Гамбург.**

**Жаданне пісаць было для яго, відаць, раўналежным, раўназначным вітальнай сіле, асабліва калі высветлілася, што набытая на фронце і ў турмах хвароба пячонкі пакідае на жыццё мала часу. Свой праграмны твор, п'есу «Там, за дзвярыма», Борхерт напісаў за восем дзён. На адным дыханні пісаліся і апавяданні, якіх набралася некалькі дзесяткаў. Вершы на той час, падобна, не вабілі болей – яны арганічна «працавалі» ўжо ў прозе на непаўторную шматколернасць і паліфанічнасць борхертавых тэкстаў.**

**Пісанне «навыперадкі са смерцю» (тэрмін Генрыха Бёля) абарвалася 20 лістапада 1947 года.**

**Талент і найсуровы экзістэнцыяльнага кшталту досвед вайны вызначылі высокі ўзровень кошту яго слова і непадлегласць гэтага слова кан'юнктуры. Вось чаму тэксты Борхерта ўвайшлі ў чытанкі для школьнікаў, сталі міжнародна вядомымі...**

**Лёс яго п'есы і антываенных апавяданняў няпросты. Няпроста вырашалася і праблема «нямецкай віны»! Дастаткова сказаць, што «Там, за дзвярыма» мае падзагаловак «П'еса, якую не захоча паставіць ні адзін тэатр і не схоча глядзець публіка». Гэтая п'еса – удзячны матэрыял для перакладу, бо яна, здаецца, як для нас напісана. Яе надзённасць асвятляецца трывожным святлом канца савецкага свету. Афган, цяпер вось Чачня, Таджыкістан, і наша ўласнае спаўзанне ў прорву...**

**Але для перакладу выбраліся**

# ПРУСКАЯ ГЛОРЫЯ

Голы чэрап плыў пад бляклым начным асвятленнем, бы да бляску надраены месяц. Ён плыў па мёртвай фабрычнай зале. І начное асвятленне міргала зверху, як бляклыя зоры. Пад чэрапам маршыраваў кашчавы прамы чалавек. Ён высока выкідваў перад сабой у паветра доўгія ногі. Рэха ад яго крокаў з пошчакам пракідвалася па высокіх халодных сценах, узмацнялася, водгуллем адбівалася ад столі ды падала на падлогу Гуло так, як быццам маршыраваў батальён. Але гэта быў толькі адзін кашчавы прамы чалавек з доўгімі нагамі і голым чэрапам. Ён адзін маршыраваў у бязлюднай зале.

Маршыраваў пад голым чэрапам, які плыў кідкамі праз напаўцёмную фабрычную залу ўначы, бледны і начышчаны да бляску

Доўгія ногі па чарзе прама вытыркаліся ў паветра. Кашчавы чалавек крочыў па агромністым пустым прамакутніку залы ўзорным беззаганным вучэбным крокам. Выляталі ўперад ногі. Кашчавы чалавек быццам усаджваў іх высока перад сабой у паветра. Яны маршыравалі ўзорным беззаганным крокам, гэтыя доўгія ногі, якія належалі да голага чэрапа. А з чэрапа, які блішчэў, бы латунь пад бляклым начным асвятленнем, бляшаны голас рыпеў марш прускае славы і гонару, прускае Глорыі: Дададамдадамдадамдадам –

Але раптам бляшаная музыка абарвалася. Тэнар з крыху жаночым тэмбрам падаў з чэрапа каманду, быццам стрэл абрынуўся на цішыню так, што ноч спалохана разарвалася ад гэтага крыку: Батальё-о-о-н – стой! Кашчавы чалавек стаяў пасярод залы, як слуп. Затым з чэрапа зноў пачулася, – тэнар, тэнар, стрэл з вінтоўкі і бляха: Ле-е-ва – фронт! Кашчавы чалавек далёка адставіў правую нагу ўбок і маланкава крутануўся ўсім целам на левым абцасе. Яго шэрыя, бы пыл, вочы мёртва глядзелі на высокую сцяну залы. У сцяне было акно, а знадворку была ноч і глядзела на кашчавага прамога чалавека-слупа ў зале. Тут з голага чэрапа зноў прарэзаўся – стрэл з вінтоўкі ў бязлюднай зале, жаночы бляшаны крык у маўклівай ночы: Збро-о-о-ю – на-а-фронт! Рукі кашчавага чалавека, якія дагэтуль нягнутка і без знаку жыцця клеіліся ўздоўж цела, былі ўскінутыя ўверх і застылі насупраць грудзей, сагнутыя ў локцях. Ні гука не было чуваць у начной зале. Але тут зноў зарыпеў з чэрапа тэнар, бляшана, бляшана рыпеў ён марш прускае славы і гонару, прускае Глорыі: Дададамдадамдадам. .

Спалохана распаўзліся па кутках бязлюднае залы рэшткі ўспуджанае са сну ночы. І толькі два старыя пацукі з чырвонымі вачыма прадэфілявалі з тонкім свістам паўз кашчавага чалавека – прускае Глорыя. Пацукі з чырвонымі вачыма ў мёртвай зале. Бляшаная музыка з голага чэрапа. Пруская Глорыя: Дададамдадамдадам – – –

Але знадворку перад акном расплыліся злацешнай ухмылкаю два твары. Дзве цёмныя постаці штурхнулі адна адну локцем у рэбры. Потым твары слізганулі ад акна, і цемра праглынула іх. У самым канцы вуліцы яны яшчэ чулі ззаду напаўгучны адзінокі тэнар у зале: Дададамдадамдадам. .

Наступным ранкам кашчавы прамы чалавек стаяў у бюро. Там быў пісьмовы стол, шафа з дакументамі і брудны ручнік. А над пісьмовым сталом вісеў заспаны твар. Ён быў зусім захінуты сном, і толькі рот крыху не спаў Рот быў пры гэтым такі нямоглы, што ніжняя губа стомлена адвісла. У соннага твара голас быў, нібы аксаміт, такі мяккі і прыемна ціхі. І голас зяхотна пазяваў на кашчавага чалавека, які стаяў перад пісьмовым сталом. Ён вельмі прама стаяў перад пісьмовым сталом, і яго шэрыя, бы пыл, вочы глядзелі праз заспаны твар на брудны ручнік. І ён яшчэ больш выпрастаўся, калі да яго дайшлі павевы мяккага голасу.

Вы начны вартаўнік?

Так!

Даўно?

З канца вайны.

А перад гэтым?

Салдат

Званне?

Палкоўнік.

Дзякую.

Прамы чалавек стаяў перад пісьмовым сталом, бы слуп, нерухомы, нягнуткі, абмёрлы. Толькі шэрыя вочы мералі ручнік. Ад стала зноў павеяла на яго аксамітава і заспана:

Сёння ноччу пакралі. На фабрыцы. Вы спалі.

Слуп маўчаў

Заспаны твар незадаволена пахітаўся злева направа.

Як хочаце. Заўтра суд. Вы павінны з'явіцца як сведка. Цёмная справа, спадар. Вы замешаныя?

Стомлены твар соладка ўсміхаўся. Слуп стаяў прама і маўчаў.

Аксамітавы голас пазяхнуў:

Добра, як хочаце. Гаварыцьмеце заўтра. Альбо Вы спалі. Альбо былі разам. Хочацца спадзявацца, што Вам павераць. Дзякую, Вы можаце ісці.

Тут кашчавы чалавек павярнуўся і рушыў да дзвярэй. Адтуль ён прарыпеў да заспанага твара, трымаючы голы чэрап крыху набок: Ці будзе суд адкрыты?

Тут аксамітавы голас стаў зусім пяшчотным і прашаптаў: Так. Адкрыты, спадар. Адкрыты.

Адкрыты, пазяхнуў сонны яшчэ раз.

Потым кашчавы чалавек адчыніў і зачыніў дзверы – і вось ужо ён стаяў на вуліцы. А ўнутры гойдаўся ад скразняку, які ўпусцілі дзверы, брудны ручнік.

Адкрыты, сказаў чалавек і дастаў з кішэні нешта бліскучаметалёвае. Ён шчоўкнуў ім два ці тры разы. Ён бачыў два твары, расцягнутыя ўхмылкай. Ён бачыў залу судовых пасяджэнняў, да краёў поўную людзей. І абодва твары лыбіліся. А потым лыбіцца стала ўся зала.

Пруская Глорыя, сказаў ён ціха, пруская Глорыя. І ўвесь горад сведкай.

Метал у яго руцэ шчоўкнуў. Потым ён падняў руку і прыставіў метал да голага чэрапа.

Крыху пазней кашчавы, прамы чалавек моўчкі, бы абламаны слуп, ляжаў на падлозе. Побач ляжаў кавалак металу. І голы чэрап ляжаў у напаўцёмным пакоі, як пагаслы месяц. Як пагаслы месяц. А над ім пад гукі прускае Глорыі маршыраваў цэлы батальён. Слаўна крочыў вучэбным крокам. Крочыў вучэбным крокам: Дададамдадамдадам..

Альбо гэта быў дождж? Дождж па цёмна-чырвоных цэглах? Бо ішоў дождж. Ішоў няспынна.

**Пераклаў з нямецкай**
**Яўген БЯЛАСІН.**

**усё больш неваенныя рэчы. У гэтым ёсць свая, хоць і парадаксальная на першы погляд, логіка.**

**Зразумела, чаму Борхерт найперш пісьменнік ваеннай тэмы. Многія з пісьменнікаў, якія былі на вайне, ні пра што іншае пісаць не могуць. Аднак талент Борхерта нейкім збегам абставінаў, наканаваннем набыў больш высокі палёт і, сілкуючыся з крыніцы людскасці, высветліў увесь аб'ём чалавечага існавання. Таму тэма вайны ў творчасці Борхерта другасная па значэнні. І хоць шмат хто адносіць Бэксмана з борхертавай п'есы да «страчанага пакалення», ставячы тым самым знак калі не роўнасці, дык тоеснасці паміж творчасцю Борхерта, з аднаго боку, і Толера, Алдынгтона, Рэмарка, Хэмінгуэя – з другога, але гэта не зусім так.**

**Іншая справа, што вайна можа быць пунктам адліку, арыенцірам для пісьменніка і чытача. Вось якое месца надае ёй сам Борхерт: «Няхай гераічна змоўклыя адзінокія паэты ідуць і вучацца, як зрабіць чаравік, славіць рыбу і звершаваць дах, таму што ўся іхняя валтузня – гэта пляткарства, пакутлівае, крывавае, роспачнае гэта пляткарства на фоне травеньскіх начэй, кукавання зязюляў, непадробных гукаў свету. Бо хто сярод нас, хто ж, ах, хто ведае рыфму да хрыпу прастрэленых лёгкіх, рыфму да крыку з шыбеніцы, хто ведае памер верша, рытмічны да згвалтавання, хто ведае памер верша да брэху куламётаў, вакабулу да толькі вось застыглага стогну мёртвага конскага вока, у якім болей не адбіваецца неба, нават вёскі, што стаяць усе ў полымі, не адбіваюцца болей; у якой друкарні ёсць жалезныя літары для іржавай чырвані тварнякоў, гэтага сусветнага зарыва, гэтай прысохлай, бы крывавая кароста, чырвані на белай чалавечай скуры?» («У травені, у травені кукавала зязюля»).**

**Што ляжыць глыбей за вайну?**

**Яўген БЯЛАСІН**

# ЯНО | 21 х 21

**І ў літаратуры, і ў грамадскім жыцці, і ў асабістым лёсе дзейнічае закон незваротнасці.**

***Ваш роздум над 21 (дваццаць адной) магчымасцю, якую маглі, але не скарысталі тыя ці іншыя асобы з нашай мінуўшчыны і сучаснасці.***

**З гэтай анкетай рэдакцыя звярнулася да сваіх патэнцыяльных рэспандэнтаў, чакаючы перш за ўсё ад іх роздуму над нашай даўняй і зусім нядаўняй гісторыяй, аналізу тых сітуацый, якія, нібы раздарожжа, мелі ў сабе і н а к ш у ю магчымасць.**

**Хто з нашых рэспандэнтаў адмаўчаўся, хто адрабіўся агульным рэфлексаваннем, хто не зусім дакладна нас зразумеў, хто пастараўся скарыстаць дадзеную рэдакцыяй магчымасць.**

**Пачынаем друкаваць атрыманыя адказы.**

## Юры Станкевіч

У сваіх псіхалагічных эсэ пра зорныя гадзіны ў гісторыі чалавецтва Стэфан Цвейг часта задаваўся пытаннем. а што, калі б той ці іншы дзеяч зрабіў інакш як бы пайшла гісторыя, у які бок? Што, калі б, напрыклад, маршал Грушы павярнуў на дапамогу Напалеону пры Ватэрлоо? Што, калі б Магелан не ўвязаўся ў дурную сутычку з нейкім там Сілапулапу? Што, калі б Калумб не здолеў утаймаваць бунт на сваёй каравэле?

З гэтай нагоды зададзім і мы, так бы мовіць, адно пытанне. Вітаўт, Вялікі Князь Літоўскі, быў, у асноўным, удачлівым ваяром, але ці заўсёды ён быў мудрым дыпламатам? На маю думку, дзве яго палітычныя памылкі далі нябачны, на першы погляд, штуршок да зацяжной этнічнай катастрофы ліцвінаў, ці сучасных беларусаў. Першая, бадай, была ў тым, што Вітаўт увязаўся ў барацьбу Тамерлана з Тахтамышам у 1398 годзе і на баку Тахтамыша выступіў супраць першага. У 1399 годзе ля ракі Ворсклы (на сучаснай Украіне) ён быў, па сутнасці, разбіты.

Другая памылка Вітаўта была, на мой сціплы погляд, у тым, што Вялікі Князь заключыў саюз з Ягайлам, а не з прусакамі. Польшча заўсёды была найбольш зацікаўленая ў аслабленні ВКЛ і крыжакоў, а тут такая нагода. Хто, дарэчы, сёння памятае пра шырокі ўдзел беларускага войска ў Грунвальдскай бітве? І палякі і расейцы прыпісваюць перамогу сабе. Вітаўту не варта было давяраць «братам» ужо тады, а саюз менавіта з крыжаносцамі на стагоддзі толькі ўзмацніў бы наша княства. Вітаўт чамусьці «запамятаваў», што Ягайла, запрасіўшы яго калісьці з бацькам у Крэва на перамовы, кінуў у астрог, дзе бацька (Кейстут) быў забіты, а яму самому ўдалося ўцячы з Крэва *да крыжаносцаў і пры іхняй дапамозе* ўзнавіць змаганне за княжацкі пасад.





Вялікае княжанне Вітаўта скончылася брудным фарсам: перад каранаваннем у 1429 годзе пасланцы, якія везлі карону з Ватыкану, былі абкрадзены палякамі, і каранаванне не адбылося (карону скралі). А праз год Вітаўт памёр. І крэўская, і люблінская вуніі былі для нас памылкамі.

Потым, на працягу стагоддзяў, у большай ступені двух апошніх, беларусы апынуліся ў часе і межах этнічнай катастрофы, наступствы якой аказаліся ў сто разоў небяспечнейшымі для існавання нацыі, чым тэхнакратычная чарнобыльская.

Яшчэ імкнуліся выправіць, па сутнасці, Вітаўтавы памылкі Януш Радзівіл, які ў 1655 годзе ў хаўрусе са шведамі выступіў супраць Польшчы з мэтаю адрадзіць Вялікае Княства Літоўскае, яшчэ паспрабаваў зрабіць тое ж Паўла Сапега, аднак тыя спробы не ўдаліся. А на ўсходзе ўжо ўзняўся на ногі яшчэ больш небяспечны драпежнік – Расейская імперыя. Два стагоддзі ў яе смяротных абдымках былі, так бы мовіць, першым, «вялабягучым» этапам вялікай этнічнай драмы. На нас апантана лезлі Васілі ды Іваны, цёмныя, сквапныя ды галодныя. Тэхнакратычная рэвалюцыя і сацыяльныя канфлікты, прыход да ўлады бальшавікоў у Расеі далі пачатак хуткаснаму другому этапу, што меў свой найвышэйшы пік у апошнюю вайну і закончыўся ў нашы дні травеньскім рэферэндумам 1995 г , які, па сутнасці, паставіў кропку на існаванні нацыі. Сэнс гэтага рэферэндуму яшчэ не да многіх дайшоў, яшчэ высоўваюцца жвавыя выкруткі, наіўныя спадзяванні, пустыя мары. Падзенне адбылося, і рэчаіснасць набыла якасць матэматычнай формулы: пачаўся імклівы распад народа і дзяржавы.

«... Я знайшоў народ сваёй мары – гэта прусакі», – выказаўся неяк Ф. Ніцшэ. Яшчэ ствралася БНР, яшчэ выбухала Слуцкае паўстанне (Случчына этнічна складалася з балцкіх этнасаў, больш менавіта з прусакаў), а лёс Беларусі, якую гвалтам упіхнулі ў славянскую абойму, быў ужо прадвызначаны. Рэха Вітаўтавага выбару адгукнулася ў нашы дні. Этнічнае раскраданне беларусаў і іх асіміляцыя славянамі ды цюркамі заканчваецца. Неяк ад вучоных давялося пачуць, нібы ў суцяшэнне, што беларусы, як і кітайцы, у свеце найменш паддаюцца асіміляцыі. Але на зямлі кожны чацвёрты – кітаец, а на нашых вуліцах, як у Оруэла, даводзіцца бачыць усё больш «жукаватых» ды скуластых.

Якую б чарговую грамадска-палітычную сістэму ні аб'яўлялі, яна наўрад ці стане паратункам, бо выканаўцам яе будзе адпаведны чалавечы матэрыял. Людскія гены выраша-юць усё, і калі ў нас становішча такое, а не інакшае, то варта задумацца, ці не наступствам гэтаму вялікая інтэлектуальная пустэча? Этнічнае разрабаванне беларусаў заканчваецца, і нават спрадвечна галодны «старэйшы брат» з Усходу ўжо ляніва пазірае на наша трымценне, мяркуючы, а ці варта ўвогуле важдацца з тым, што засталося? Ахопленае ж німфаманіяй, сытае заходняе грамадства наўрад ці зверне асаблівую ўвагу на агонію народа, няхай сабе і ў цэнтры Еўропы.

. Я нарадзіўся пасля вайны і штодня знаходзіўся і знаходжуся пад «мудрым» кіраўніцтвам розных кіраўнікоў. Некаторыя з іх, безумоўна, маглі б значна паўплываць, нават замарудзіць негатыўныя працэсы этнічнага распаду на Беларусі. Прыкладам, балцкія нацыянал-камуністычныя лідэры нават пры цяжкім прэсінгу Масквы стварылі культуралагічныя, экалагічныя, моўныя «дамбы», аб якія разбіваліся хвалі азіятчыны з Усходу. Яны ніколі не пасылалі сваіх дзяўчат па размеркаванні ў «аддаленыя кішлакі Кіргізстана», як гэта рабілі ў нас пры Аксёнаве, Машэраве, Слюнькове, Мазураве, Сакалове і г.д.

Цяпер народ, разрабаваны этнічна і не маючы нацыянальнага стрыжня, крочыць у нябыт. Скажуць: не «гані жуды», не ўсё згублена. Але ж мы згубілі сваю этнічную назву – Літва, сваю сталіцу – Вільню, сваю нацыянальную святыню – крыж Еўфрасінні Полацкай, цэлыя вобласці – Смаленскую, Чарнігаўскую і г.д., згубілі сімволіку, гімн, урэшце, *мову*. Ну, што яшчэ губляць і што засталося? Слабы, знясілены і разнамасны этнас выбраў сабе шлях да самазнішчэння. А быў жа нейкі імпэт, бралі ледзь не штурмам тэлебачанне, скідвалі Яфрэма Сакалова! Але губляўся бяздарна час, ішла нейкая мышыная валтузня, інтрыгі з Усходу. І – усё. А потым, як скажуць, прыйшоў рэферэндум.

Буйнейшы спецыяліст па праблемах глабальнага выжывання, шведскі вучоны і пісьменнік Рольф Эдберг не абмінуў прааналізаваць стан распаду, які здараўся з некаторымі плямёнамі і народамі ў мінулым. Ён успамінае невялічкае афрыканскае племя *ік,* якое пад уціскам чужынцаў дайшло да апошняй мяжы дэградацыі. Кідаліся на волю лёсу малалетнія дзеці, адбіралася ежа ў старых, і «смех гучаў толькі тады, калі хто-небудзь падаў у вогнішча». Хіба гэта не пра нас?

«У кожным з нас жыве ік», – перасцерагае Р. Эдберг. «У кожным з нас можа выявіцца беларус», – магчыма скажуць пазнейшыя сусветныя даследчыкі.

## Уладзімір Конан

Прадмова. Ужо сама рэфлексія з нагоды нявыкарыстаных магчымасцяў чалавечай асобы, дзяржаўнага кіраўніка, народа, нацыі, чалавецтва, урэшце, самога Спадара Бога ёсць прызнанне варыянтнасці гісторыі, магчымасці яе руху ў іншым кірунку, нават у адваротным адносна ўжо здзейсненай гістарычнай плыні. Літаратурныя, філасофскія і навуковыя медытацыі на гэтую тэму не здаюцца мне ні міфалогіяй, ні інтэлектуальнай гульнёй.

Зразумела, здзейсненую рэальнасць быцця, тое, што адбылося, ужо ніхто не паправіць і не адменіць. Адзін толькі Бог можа «аддаць забыццю» чалавечыя грахі (а гісторыя ў рэшце рэшт ёсць амаль суцэльны грэх), хоць і Ён не можа зрабіць былое нябыўшым. Але гістарычны працэс, нягледзячы на ўяўную самастойнасць яго паасобных актаў і падзей, ёсць усё ж такі цэласнасць, адзінства, нават тоеснасць мінуўшчыны, цяперашняга бягучага часу і будучыні.

Прапануючы разумныя карэктывы ў пройдзенае жыццё, шукаючы ў ім нявыкарыстаныя магчымасці, мы праецыруем іх на быццё, якое яшчэ мае адбыцца. Верагодна, на гэтым грунтуецца рацыянальная прагностыка і містычнае прароцтва. Самакарэктыроўка ізноў-такі датычыцца чалавечай адзінкі, дзяржавы, народа, нацыі, самога Госпада Бога.

Трансцэндэнтныя, надкасмічныя карэктывы ў нашай гісторыі драматычна і трагічна выявіліся: Сусветны Патоп, Нябесны Агонь, разбурэнне Вавілонскай Вежы. Урэшце, прытча пра Гаспадара і злых вінаградараў, альбо місія прарокаў і Сына Боскага.

Мае меркаванні наконт нявыкарыстаных магчымасцяў улічваюць кантэкст гістарычнага быцця, у якім дзейнічалі тыя ці іншыя асобы, а таксама іх уласныя магчымасці. Бо адказнасць перад гісторыяй не аднолькавая. Былі тыя, хто намагаўся нешта добрае зрабіць, але абставіны аказаліся мацнейшымі за яго магчымасць, былі ж тыя, хто мог зрабіць правільны выбар і рэалізаваць падзею, але не захацеў; урэшце, былі і тыя, хто не хацеў і не мог самарэалізавацца. Адпаведна гэтаму мае меркаванні паводле танальнасці дзеляцца на драматычныя, элегічныя і камічныя.

1. Полацкі князь Усяслаў Чарадзей вясной 1066 года (у пачатку 1067 г. паводле сучаснага календара) захапіў Наваградак, «разбіў славу Яраслава», які пабудаваў наваградскі замак (1044 г.) як сімвал свае перамогі над летапіснай Літвой. Невядома чаму ліцвіны не падтрымалі свайго вызваліцеля і добрага суседа, каб разам перамагчы трох Яраславічаў на Нямізе (3 сакавіка 1067 г.) і заснаваць прататып Беларусі з дзвюма сталіцамі – Полацкам і Наваградкам. Не хапіла мудрасці альбо здрадзіў лёс?

2. Дарэмна полацкі князь Уладзімір дазволіў у 1186 годзе нямецкаму місіянеру Мейнарду пачаць хрышчэнне ліваў у Ніжнім Падзвінні. У выніку крыжакі пабудавалі замак Рыгу (1201 г.) і ў рэшце рэшт выціснілі палачан з Прыбалтыкі. Хрысціць ліваў і будаваць замкі ля Балтыйскага мора варта было б палачанам, менш думаючы пра даніну з продкаў латышоў.

3. За тры гады да гэтай нявдзейсненай магчымасці полацкі «Ізяслаў-князь сын Васількоў, // Даўнімі часамі // Аб літоўскія шаломы // Пазваніў мячамі: // Адняў славу ён у свайго // Дзеда Усяслава, // І улёгся нерухома // На траве крывавай...» («Слова пра паход Ігаравы» ў паэтычным узнаўленні М. Багдановіча). Зноў – братазабойчая вайна замест ваенна-палітычнага саюза супраць агульных ворагаў.

4. Здаецца, адзін Леў Сапега і яго дарадца Радзівіл па прозвішчы Пярун у канцы XVI – пачатку XVII стст. зразумелі небяспеку для ўсёй Цэнтральна-Усходняй Еўропы еўра-азіяцкай імперыі на Усходзе. Л. Сапега зрабіў некалькі дыпламатычных і ваенных спробаў аб'яднаць Маскоўскае Царства з найвялікшай рэспублікай-каралеўствам у гэтым рэгіёне. Спачатку ён зрабіў «ход канём» – прапанаваў пасадзіць на вакантны пасад караля Польскага і Вялікага Князя Літоўскага сына цара Івана IV, ягонага адзінага спадчынніка Фёдара, які, па прычыне добра вядомай, быў бы зіц-каралём. Перашкодзіла польская партыя на чале з князямі Замойскімі. Пазней Л. Сапега падтрымаў паходы Лжэдзімітрыя І і Лжэдзімітрыя ІІ, дабіўся ад маскоўскіх баяраў выбрання на маскоўскі пасад сына Жыгімонта III Вазы каралевіча Уладзіслава. Урэшце, той жа Сапега паслаў у 1617–1618 гг. свае атрады на штурм Масквы, але ўзяць «Трэці Рым» з ходу і малымі сіламі не ўдалося.





У выніку няўдачы гэтай геніяльнай беларускай ідэі адбылася ваенны патоп – у сярэдзіне XVII ст., спусташэнне Беларусі і Польшчы – разбор Рэчы Паспалітай у 1772–1795 гг. Тут – стратэгічнае, геапалітычнае ўпушчэнне Польшчы дый іншых дзяржаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Яно ў рэшце рэшт прывяло да першай сусветнай вайны.

5. А ўпушчэнне Антанты, якая пагадзілася з Рыжскай згодай 1921 года паміж адроджанай Польшчай і Савецкай Расіяй за кошт падзелу Беларусі і Украіны, прывяло ў рэшце рэшт да другой сусветнай вайны. Катэгарычным імператывам новага еўрапейскага парадку пасля першай сусветнай вайны павінна было б стаць людское і боскае права народаў на самавызначэнне. Але Антанта (і з ёю Польшча) нават зблізку не бачылі беларусаў і украінцаў. Нават пераможанымі немцамі грэбавалі. Вось так дагуляліся да самай крывавай у гісторыі бойні. У мяне такое ўражанне, што сёння паўтараецца тая ж памылка.

6. Вядомая беларуская прымаўка: за бітага двух нябітых даюць і тых не бяруць. Паводле дыялектыкі Гегеля, гэта ёсць пераход раба ў пана – і наадварот: пана ў раба. Праўдзівасць гэтага выслоўя пацвердзіла сусветная пасляваенная гісторыя. Безагаворачная капітуляцыя Германіі і Японіі «вызваліла» іх ад двайнога зла: калоніяў і ваенна-прамысловага комплексу. Не за 50 пасляваенных гадоў, а значна раней зрынутыя з імперскай гардыні ў пыл зямны Германія і Японія сталі самымі багатымі і стабільнымі дзяржавамі ў свеце. І гэты росквіт здзейсніўся толькі на іх уласным грунце. А ў былым СССР 50 гадоў «замочвалі» сваю перамогу, прыносячы ахвяры ненажэрнаму Малоху. Вынік: былыя «бітыя» пануюць ва ўсім свеце, а пераможцы «трасуць торбамі», нават не саромеюцца рабіць гэта ў Германіі. Мараль для дзяржаўнага карабля: у часы вялікіх штормаў скідай з борту баласт.

7. Англія і Францыя пасля вайны «мірна-ціха» ў асноўным вызваліліся ад сваіх калоніяў. У выніку занялі прызавыя месцы пасля Германіі. А Савецкай Расіі (якраз так па наіўнасці звалі СССР за мяжой) было мала прасторы ад мора Японскага да Балтыйскага. Дазволілі сабе пашырыцца на Поўдні. Вынік: афганская вайна і распад СССР. Сёння Расія робіць тое ж упушчэнне: чачэнская вайна можа каштаваць цэлай федэрацыі. Расія магла б стаць вялікай (паводле эканамічных і культурных паказчыкаў) і без сваіх «малодшых братоў». Але без імперыі пападуць у камічнае становішча шматлікія «белыя русы»: ім не будзе да чаго далучацца.

8. Досыць геапалітыкі. Пяройдзем да культурнай традацыі і пачнём з Бібліі. На тытульным лісце да 2-й кн. Царстваў Скарынавай Бібліі ёсць ілюстрацыя з надпісам: «Царь Давид играеть въ гусле, неся кивот Господень; царица же Михоль, видя, и погорде, и бе неплодна».

Цар, яшчэ нядаўна пастух, радуецца па-прасцяцку. Ёсць тут і заглыблены сімвалічны сэнс. Вобраз цара Давіда, паводле хрысціянскай тэалогіі, сімвалізуе будучага нябеснага цара Хрыста з ягоным парадаксальным вучэннем пра духоўнае ўзвышэнне на шляхах зямнога самапаніжэння. Мелхола, дачка папярэдняга цара Савула, прынізіла свайго мужа, сказаўшы: «Як вызначыўся сёння цар Ізраілеў, паводзячы сябе як нейкі пусты чалавек». На гэта Давід адказаў: «Перад Госпадам граць і скакаць буду і яшчэ больш прыніжуся ў вачах сваіх...» (2 Царстваў, 6:13–22).

У рэшце рэшт, чалавек таленавіты, а тым больш геніяльны, якім быў Давід, часам скача і смяецца ад натхнення і творчага экстазу. А вось Мелхола ўпусціла магчымасць далучыцца да мужа-скамароха. А каб не гэтае ўпушчэнне, то не была б яна «няплоднай», тады Давід не закахаўся б у Вірсавію, жонку палкаводца Урыі, не паслаў бы няшчаснага рагоносца на смяротны бой, не было б у Давіда ад Вірсавіі сына Саламона і царом пасля Давіда мог бы стаць Авесалом. І гэтак далей.

Адным словам, уся старазапаветная гісторыя магла б быць зусім іншай, каб не гэтая пагарда царыцы. Адсюль мараль, паводле афарызму аднаго філосафа: «І дзень той, калі вы не смяяліся і не скакалі, лічыце для сябе страчаным назаўсёды».

9. Беларусаў у Беларусі – прыкметная большасць. Але значная па колькасці несвядомая іх частка (а другая частка проста памылілася, вырашаючы на скорую руку задачу з чатырма невядомымі) прагаласавала супраць беларускай мовы і сімволікі. Культура – сімвалічная і «амоўленая» па сваёй сутнасці. У мове захаваліся архетыпы і першавобразы нацыянальнай

культуры. Без святасці сімвалаў культура падлягае рэдукцыі, трансфармуецца ў кіч. А без першавобразаў няма вобразаў, на якіх трымаецца культура.

Вось такая нявыкарыстаная магчымасць, і яна можа прычыніцца да страты дзяржавы, нацыі, культуры. Але гістарычны вопыт з біблійных часоў засведчыў: носьбіт культуры – ёсць тая «рэштка», такая «закваска», «соль» і «пшаніца», якую прыйшоў аддзяліць ад плевелаў нябесны Выратавальнік.

Адсюль практычная выснова: няхай гэтыя субстанцыі застаюцца назаўсёды, каб закваска ператваралася ў хлеб, каб соль саліла, а пшаніца каласіла і праз тысячы гадоў. Як у вядомым санеце Максіма Багдановіча пра магілу паміж пяскоў Егіпецкай зямлі.

10. Закрануўшы праблемы сусветна-гістарычныя, пяройдзем да партыкулярных, як калісьці гаварылі.

Беларусы далі свету шмат герояў і некалькі самазванцаў. Але ў літаратуры іх сціпласць дайшла да амаль татальнай псеўданімнасці і ананімнасці. Новая беларуская літаратура пачалася з ананімных твораў. А чаму б аўтарам знакамітых ананімных твораў «Уваскрэсенне Хрыстовае», «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе» ў свой час не зашыфраваць сваё імя, скажам, у форме акраверша, як гэта зрабіў Ф. Скарына? Тады б у нашай літаратуры было б больш імёнаў, хоць і менш дысертацыяў.

11. Паўлюк Багрым у вольны ад кавальскіх клопатаў час мог бы напісаць свае мемуары. Тады мы мелі б найлепшы раман пра беларуса ў колішняй расійскай салдатчыне. Магчыма, пісаць то ён пісаў, але тагачасныя небеларускія сродкі масавай інфармацыі не заўважылі гэтай падзеі. Бо не заўважалі яны тысячагадовай беларускай дзяржаўнай і культурнай традыцыі. Іхняе «апраўданне» магчыма хіба што па аналогіі. Бо колішняя сусветная Рымская імперыя не заўважыла нараджэння і ўваскрэсення Хрыста. Застаўся толькі нейкі здзекліва-паклёпніцкі расповед Ціта Лівія, пра якога расійскія майстры карнавальнай паэзіі сказалі: «Не нам, господа, подражать Ливию: // Наше дело – выравнивать линию».

12. Адам Міцкевіч своечасова сказаў пра нашую мову: адна з самых чыстых, добра апрацаваных моваў славянскіх. Але забыўся пацвердзіць гэта сваёй паэтычнай практыкай – напісаць і апублікаваць хоць бы адзін верш па-беларуску. Тады б беларуская літаратура ўзбагацілася яшчэ на адно імя. Ды яшчэ якое гучнае.

13. З усіх беларускіх пісьменнікаў, нябожчыкаў і жывых, здаецца, толькі двое ўзнагароджаны Георгіеўскім Крыжам: М. Арол і Л. Гмырак. Апошні – пасмяротна. На жаль, М. Арол не паспеў (смерць ад тыфу перашкодзіла) напісаць нешта праўдзівае пра тую першую, таксама «германскую» вайну. Цікавай была б аналогія з франтавымі творамі В. Быкава.

14. Тэксты беларускіх аўтэнтычных гімнаў напісала Наталля Арсеннева: «Магутны Божа» і «Беларусь, наша Маці-Краіна». Першы – цывільны, другі – ваяцкі. Вось яшчэ адна нявыкарыстаная магчымасць: той, яшчэ «перабудовачны», Вярхоўны Савет, які абвясціў незалежнасць Беларусі, павінен быў бы прыняць і гэтыя гімны. Сёння – таксама яшчэ не позна. Асабліва што датычыцца ваяцкага гімна. Тады лёгка было б правесці тэсты і селекцыю наяўнай савецкай спадчыны на прыгоднасць для служэння Беларусі. Тых, хто скажа «Есть (слушаюсь, так точно), товарищ полковник! (генерал, маёр, прэзідэнт)», аддаць задарма Расіі. А тых, хто ўмее сказаць «спадар» і праспяваць (альбо хоць бы прачытаць) першыя чатыры радкі з гімна «Беларусь, наша Маці-Краіна», пакінуць у беларускім войску. Як гаварыў заснавальнік савецкай дзяржавы і бальшавіцкай партыі: «Лепш менш, ды лепш».

15. Вацлаў Ластоўскі, Уладзімір Жылка, Язэп Лёсік, Браніслаў Тарашкевіч і ўся заходне-беларуская і замежная беларуская духоўная эліта памыліліся, калі паверылі бальшавіцкай уладзе і ў сярэдзіне 20-х, нават у пачатку 30-х гадоў прыехалі, каб шчыраваць на беларускай ніве. Бо ў прынцыпе нельга верыць тым, хто аспрэчвае веру ў Бога. Мабыць, лепш было б, каб яны стваралі альтэрнатыўную Беларусь за межамі Царства Антыхрыста.

Але я не маю права прапаноўваць варыянты з гэтай трагедыі. Бо ёсць вялікая праўда і ў тым, каб узяць свой крыж і пайсці на Галгофу. Так зрабілі нашыя браты і сёстры па няшчасці – яўрэі: адны – па няведанні сатанінскіх глыбіняў зла, другія – добраахвотна, каб смерцю сцвярджаць жыццё.

Ёсць, аднак, розніца ў нашым нацыянальным лёсе. Яўрэйскую трагедыю памятае ўвесь свет і стараецца неяк унесці сваю долю кампенсацыі – па зямных, зразумела, мерках. А пра трагедыю беларускую большасць свету нават нічога не чула. Ну што ж, яўрэі старэйшыя за нас: іх продкі – сучаснікі Егіпецкай і Вавілонскай імперый. А беларускай нацыі – толькі тысячу гадоў. Пажывём яшчэ адну тысячу – можа і нас заўважаць.





16. Шмат хто з нашых пісьменнікаў і пісьменніц занадта рана развіталіся з гэтым светам. Калі ён, наш свет, не найлепшы з лепшых, як па-філасофску лічыў Лейбніц, то ўсё ж такі наш свет – дасканалы твор Сусветнага Мастака. Нават жыццялюб Уладзімір Караткевіч пажыў усяго 55 гадоў. Былі і тыя, хто сам выбраў смерць. Гэта, па-мойму, памылка: і ў першым (нядобраахвотным), і ў другім выпадках. Яна – ад нявер'я альбо малавер'я. Бо лёс кожнага з нас шмат у чым залежыць ад нас саміх. Калі не творыцца – пасі кароў, збірай ягады, грыбы. Бо прысутнасць таленавітага пісьменніка ў жыцці можа азначаць нават больш, чым тое, што ён хацеў напісаць, але яно не напісалася.

17. Адзін наогул добры літаратар, мой равеснік (імя ягонае пакуль што не назаву), ішоў (альбо хацеў ісці) да Бога. Бо нават для свайго твору ўзяў цытату з паслання апостала Паўла. Аднак так і не дайшоў. Бо перад смерцю пачаў неяк па-школьнаму выкрываць чужыя грахі, найбольш сваіх калегаў па пяры. Замест таго, каб спавядацца ў грахах сваіх, як гэта прыгожа зрабіў у свой час Ж.-Ж. Русо ў «Споведзі». Між тым, я заўважыў адну рысу духоўнай сталасці чалавека: чужыя грахі з бегам дзён і гадоў бачацца ў гумарыстычна-гратэскавым святле, як нешта даравальнае, бо яны – ад духоўнай няспеласці. Як таго ж Ноя, які напіўся дап'яна пасля патопу, мабыць, ад радасці, што ізноў вырас вінаград. А вось свае, нават малыя, грахі з бегам часу драматызуюцца, бачацца пад духоўным тэлескопам.

18. Слаўны наш і любы мне паэт Максім Танк, дзякаваць Богу, пражыў шмат урадлівых на творчы плён гадоў, дай Бог кожнаму з нашых братоў-пісьменнікаў і сёстраў-пісьменніц. Набыў усе магчымыя для савецкага пісьменніка і навукоўца ўзнагароды і званні. А пісаў найбольш пра свой сялянскі народ, паэтызаваў яго побыт і культуру. Ва ўсёй ягонай позняй, найбольш дасканалай паэзіі адчувалася настальгія па гэтым побыце і гэтай культуры. На жаль, пераважна на ўзроўні мастацка-ўяўнай сублімацыі. А вось кінуць бы яму ўсе свае казённыя функцыі (не адразу, зразумела, а пазней, калі адчулася ўся марнасць прывіднага існавання) і вярнуцца на схіле дзён у асяроддзе архетыпаў сваёй паэзіі. Альбо, калі архетыпы знікаюць, пажыць сам-насам з Богам. Здаецца, адзін з апошніх нашых паэтаў-песняроў думаў у такім жа кірунку, бо захацеў вечнага спакою ў мілым сваім родным кутку.

19. Ці патрэбна пісьменніку і вучонаму заставацца вечным змагаром? Асабліва калі змагарства становіцца пафасам, так сказаць, мастацтвам дзеля мастацтва, а не трагічнай неабходнасцю.

Наш сусветна вядомы Алесь Адамовіч, дзякуй яму умела паваяваў на Беларусі з вульгарнымі сацыялагістамі, камуністамі (не з усімі, для свайго сябра т Кузьміна і тых, хто з ім, рабіў выключэнне), вандэяўцамі, ворагамі перабудовы. А вось змаганне з «нацдэмам» і «хутаранінам» Яўгенам Лецкам ды ягонымі сябрамі – відавочны перабор. Была нейкая заканамернасць у тым, што спадара Алеся магнітам прыцягвала сталіца апошняй у Сярэдне-Усходняй Еўропе імперыі. Там ён добра пазмагаўся ў былым Вярхоўным Савеце. Але пасля краху імперыі, прабачце, пайшло паўтарэнне пройдзенага. Перафразуючы думку майго калегі Валянціна Акудовіча, скажу: звада расійскага універсалізму. На ім, здаецца, наш зямляк надарваўся і рана памёр. Шкада, але на Беларусь ён вярнуўся толькі для вечнага спачыну. Мабыць, я памыляюся, але яму варта было б вярнуцца сюды раней, каб сеяць і жаць на нівах роднай літаратуры і навукі. А жывая вада родных крыніц дадала б яму здароўя.

20. Наш калега і слынны паэт, не толькі на землях беларускіх, літоўскіх, але і германскіх, Алесь Разанаў напісаў быў, здаецца, недзе ў пачатку 80-х гадоў кандыдацкую дысертацыю па творчасці Янкі Купалы. Зусім наватарскую. Здаецца, рэкамендаваную Інстытутам літаратуры АН БССР да абароны. Але абарона не адбылася. Шкада, бо тут нявыкарыстаная магчымасць стаць доктарам навук і стварыць альтэрнатыўны Інстытут літаратуры. Альбо такі ж Інстытут філасофіі. Спачатку даволі было б трох здольных даследчыкаў. Пазней – сем. Але найлепш – дванаццаць.

21. Урэшце – эпіграма на сваім уласным камені. У мяне безліч нявыкарыстаных магчымасцяў. Але пакіну бальшыню для спавядальных мемуараў. Яны пачаліся са студэнцкіх гадоў. Бо варта было паступаць на філфак, а не на гістфак, дзе ў галоўныя героі ўжо тады прайшоў Лаўрэнцій Абэцэдарскі. Гісторыю па-Абэцэдарскаму мне спатрэбілася забываць, а філалогію і фалькларыстыку вывучаць пасля універсітэта. І не з канспектаў па савецкай гісторыі варта было пачынаць, а з беларускай аўтэнтычнай міфалогіі. А вось сёння я магу паўтарыць элегічныя словы галоўнага героя апавядання Міхася Лынькова «Над Бугам»: «Так позна, позна – і так рана, рана!»

23.01.96 г.

## Алесь Асташонак

Шкадую Асташонка, якому Бяляцкі параіў напісаць раман, Бяляцкага – у ненапісаных манаграфіях, Арабейку – у празмернай гаварлівасці («На плітах літары»), Барадуліна – за недагаворанасць, Галубовіча-«зацемшчыка» ў вершах і паэта ў «Зацемках», Сыса – у «кахвэ» Дома літаратара, без бара й «Мутнага вока», і Сыса-самотніка, Дубаўца – у Вільні й без яе, Мінкіна – на медным пастаменце, Пятровіча – адлучанага ад шчыльнага кантактавання з духам Акутагавы, Акудовіча –«ЗНО»шанага, «зманіхвэсчанага» і неабкніжанага, Сідарэвіча – за тое, што прапаў, элітную асвету – за тое, што паглынула яго, Разанава, – у квантэмах, пункцірах ды розных іншых паралелаграмах, Арлова-белетрыста ў Арлове-гісторыку, Аксак у Арлове і без Арлова, таго ж Арлова ў Аксак і без яе, Сёмуху, што не быў у Нямеччыне, Дранько-Майсюка – у невандроўнасці, Някляева – таму што без міністэрскага партфеля (гл. перыядычны друк і сл. пагалоскі), Дударава – таму што пазбавіўся высокае партыйнае пасады і не стаў сябрам міністра, партыйнае пасады – таму што страціла маларасківанага Дударава, міністэрскае – таму што не займела вабнага тэмпераменту-характару «Пракопавіча», Ігара Жука – таму што без палявання, Алеся Жука – таму што без кафедры, Анатоля Жука – таму што мой сусед, зноў Акудовіча – бо на кафедры, Жукоў – таму што не Канчалоўскія, Адамчыкаў – таму што не Жукі, Федарэнку – у абдзеленасці ўвагаю крытыкаў, крытыкаў – у недахопе ўвагі Федарэнкі, Глёбуса ў Барсэлёне на здымку ў газеце «Свабода» і з кальсонамі на балконе (перафраз; гл. Пацюпу), Пацюпу – таму што Пацюпа, Залоску – таму што Залоска, Чаропку – бо Чаропка і Верацілу – бо Вераціла...

Не шкадую... Няма нічога ў свеце, аб чым нельга было б не шкадаваць, няма й нічога сапраўды вартага шкадобы.

Федарэнка абагаўляе Талстога, а Дубавец кажа яму, што барадою талстоўскай – адно падлогу выціраць, Дудараў прылюдана абвяшчае, што не можа чытаць Дастаеўскага, Дастаеўскі, здаецца, – адзіны расейскі пісьменнік, на якога зважае Дубавец, Глёбус даводзіць, што Маркес – маразм, а Дзюрэнмат ды Фрыш – апафеоз мастацкасці, Галубовіч піша то вершы, то «Зацемкі», Сыс шкадуе Галубовіча, Галубовіч – Сыса, я шкадую абодвух, а некага й нечага не шкадуе ніхто...

## Славамір Адамовіч

1 Каго палякі з радасцю аддаюць нам, беларусам, дык гэта Фэльку Дзяржынскага, сына Эдмундава. Пілсудскі Юзік, кажуць, наш, а вось Фэля, Фэля – не, Фэля, кажуць яны, тыповы беларус. І я з гэтым згодны. Фэлька, сволач, на наша няшчасце, падчапіў марксісцкую заразу яшчэ да таго, як беларуская газета «Наша Ніва» пачала адукоўваць мужыцкую масу з дапамогаю вершаў «пралетара» Янкі Купалы. А пасядзеўшы ў царскіх вязніцах наш землячок Эдмундавіч зразумеў, што мужык патрабуе над сабой жалезнай рукі рэвалюцыі і – стаў «жалезным Феліксам» бальшавізму, адкінуўшы прэч сацыял-дэмакратычныя катурны.

Дзяржынскі прызнаваўся ў сваёй аўтабіяграфіі: «Я был самым резким врагом национализма и считал величайшим грехом, что в 1898 году, когда я сидел в тюрьме, литовская социал-демократия не вошла в единую Российскую социал-демократическую рабочую партию, о чем и писал из тюрьмы к тогдашнему руководителю литовской социал-демократии д-ру Домашевичу» (Дзержинский Ф. Дневник заключенного. Письма. Мн., Беларусь, 1977). Такім чынам, у галоўнага чэкіста бальшавіцкай рэвалюцыі была рэальная магчымасць стаць на чале літоўскага, а г. зн. і беларускага, нацыянальнага сацыял-дэмакратычнага руху. На жаль, Дзяржынскі стаў цэрберам ленінскага рэжыму. Месца героя беларускай нацыянальна-вызваленчай Рэвалюцыі засталося вакантным і па сённяшні дзень. Не сумняваюся, што такі сапраўды сталёвай волі чалавек, як Фелікс Эдмундавіч, паслужыў бы на дабро Беларускай Нацыі. Паслужыў бы, калі б... А шкада.

2. Ад пачатку XX ст. перакінемся ў сярэдзіну 90-х. Мы, беларусы, атрымалі унікальную магчымасць эвалюцыйным шляхам здабыць сваю ўласную дзяржаўнасць. Але – ізноў жа не атрымліваецца. Ізноў некаторых нашых палітыкаў нейкая д'ябальская сіла цягне па-за межы свайго этнасу. Маю на ўвазе цяперашняга прэзідэнта Беларусі, які не валодае нацыянальна-дзяржаўным мысленнем і, як вынік, ажыццяўляе палітыку ў інтарэсах вонкавых сілаў, сілаў, якія разбураюць нашу традыцыю, наш беларускі кантэкст у межах нашай тэрыторыі. Цяперашні прэзідэнт мог стаць нацыянальным героем беларусаў канца XX стагоддзя. Але не стаў. І каб захацеў, то ўжо не стане. Позна.

Сённяшні кіраўнік беларускага соцыуму ставіць на магчымасць кіраваць грамадствам без якой-колечы канцэпцыі дзяржаўнага будаўніцтва, а мэта ягоная нікому невядомая, нават яму самому. Ёсць толькі тымчасовыя рэфлексіі на тэму як застацца пры ўладзе. Відавочна, што такая стаўка будзе прайграна. Жадаючы жорава ў небе, улада ўжо страціла сініцу ў руках, г. зн. магчымасць застацца на покуце гісторыі.

3. Іван Антонавіч Брыль цудоўны стыліст. Я перачытваў яго мініяцюры разам з абразкамі Гарэцкага, Яновіча, Бядулі. Эстэтычную асалоду атрымоўваў я, чытаючы Янку Брыля. Гэта было гадоў дзесяць таму назад. Цяпер іншая сітуацыя. Апошнія гадоў пяць я цярпліва чакаў ад гэтага празаіка слова пра наш час, слова, якое мог бы сказаць грамадзянін Беларускай Дзяржавы Іван Антонавіч Брыль. Але ён не сказаў учора, не хоча гаварыць і сёння. І новыя пакаленні нашых літаратараў самі шукаюць адказаў на канцэптуальныя пытанні цяперышчыны. Шукаюць і знаходзяць, і справядліва крытыкуюць мэтра, як гэта зрабіў А. Глобус у N 2 «НН» за 1995 год. Маўчанне Брыля – гэта маўчанне беларускіх савецкіх пісьменнікаў паваеннай пары. Яны маўчаць, каб не выказваць сваю савецкасць. Зрэшты, гэта і добра. Беларускасць выкажуць новыя пакаленні, а ўжо ж яны не правароняць сваёй магчымасці.

4. Яшчэ адзін з тутэйшых – Машэраў. Гэты не скарыстаў магчымасць выгадаваць, выхаваць нацыянал-камуністычную, нацыянал-камсамольскую беларускую эліту, якая сёння была б ва ўладзе і не прадавала, але абараняла б суверэнітэт уласнай дзяржавы. Замест гэтага ён будаваў свінакомплексы і асушваў балоты. Пётр Міронавіч любіў свінарнікі і цяжкую меліярацыйную тэхніку. І на той свет адышоў з-пад колаў трактара.

5. Упэўнены, што добрую магчымасць для разгарнення нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва меў Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч. Упэўнены, што гэта інтэлігенцкія паводзіны, палітыка згодніцтва на мяжы са здрадаю, спроба ўсядзець на двух крэслах адразу прывялі васпана фізіка да трывіяльнага паражэння. Недаравальная страта магчымасці нейтралізаваць і, урэшце, разбіць антыбеларускія сілы.

## Максім Клімковіч

Ужо само пытанне, ягоны сэнс, выдае чалавека творчага, які ставіць яго перад другім творчым чалавекам, з патаемнаю надзеяй: той пагодзіцца, праглыне, пачне разважаць... карацей кажучы, купіцца. Калі нехта іншы не зрабіў, не здолеў, то ўжо ты, я, ён здатныя зрабіць нешта такое, чаго і не снілася класікам. Прапанова вынайсці чарговую панацэю або *перпетуум-мобіле*. Добра было б, каб Янка Купала вынайшаў абсалютна новы літаратурны жанр, першым накрэсліў формулу суадносін энергіі і квадрата масы, ці на горшы выпадак адкрыў Амерыку – каму што падабаецца. Але, на жаль, у мастацтве, як і ў геаграфіі, эпохі вялікіх адкрыццяў адышлі ў нябыт. Апошні прыстанак геніяў – Нобелеўская прэмія, і тая здэвальваваная. Званне «міжнародны пісьменнік» прысуджаецца па прынцыпу: . . і адзін чарнаскуры, . . і адна жанчына, .. і адзін ірландзец. Трэба ўсвядоміць сабе, што нацыянальная культура – гэта закрыты космас. Але нельга назваць жыццём такі стан, калі пра сваё існаванне ведаеш толькі ты сам. Сусвет ператвараецца ў чорную дзірку. Туды – усё і калі ласка, адтуль – нічога і ніколі. Адам Міцкевіч нізавошта б не стаў сусветна вядомым паэтам, каб пісаў па-беларуску. Польскае пытанне было модным у Еўропе дзевятнаццатага стагоддзя, і вось вам – вынік. Беларускае ж пытанне існавала адно для ўнутранага спажывання. Смак нейкага прадукта ніхто і ведаць не будзе, покуль не ўсунеш яго пакупніку ў рукі, ды не прымусіш адкусіць кавалак, а каб прадукт узялі, патрэбная рэклама. Адносная вядомасць у свеце Васіля Быкава, дарэчы, фенаменальная для беларускага пісьменніка, якраз і абумоўлена добрай рэкламай, якая рухалася ў двух накірунках: тэма другой сусветнай вайны, паводле якой Беларусь ужо раскручаная, і тэма парушэння правоў чалавека – тут Быкаў праходзіў ужо не як мастак, а як асоба. Нічога заганнага ў гэтым не бачу. Вынік дасягнуты – адзін з

беларускіх пісьменнікаў зрабіўся вядомым. Калі вымяраць вядомасцю сэнс існавання творцы і карысць, прынесеную ім нацыянальнай культуры, то ідэальным учынкам бачыцца такі: знайсці параметр, па якім твая радзіма вядомая ў свеце, звязаць яго з адной татальна вядомай чалавецтву рэччу і ўвасобіць гэта ўсё ў творы. Іншымі словамі – сесці на хвост рэкламе: у нацыянальным строі з «кока-колай» у руках. Дагэтуль такое практычна не ўдавалася нікому з нашых суайчыннікаў па той простай прычыне, што пра Беларусь не ведалі ў свеце. Замкнёнае кола: у сярэднявеччы існавала беларуская палітыка – не існавала літаратуры, калі ж склалася беларуская літаратура – арыгінальная ці не, гэта тэма іншае гутаркі, – самастойная палітыка знікла. Нам не ўдавалася адразу ў двух накірунках прабіцца за межы чорнае дзіркі. І толькі сёння ствараецца спрыяльная сітуацыя, дзякуючы шалёным намаганням не менш шалёнай улады на ніве пашырэння вядомасці маёй краіны. У сувязі з чым яе ведаюць – справа дзесятая Зрэшты, мастацтва канібальскіх народаў карыстаецца попытам менавіта з-за канібалізму. Джаз ніколі б не запаланіў свет, каб усе не ведалі – гэта музыка неграў-рабоў Шлях у свет адкрываецца, кавалак разбітага люстэрка нашай радзімы трапіў да іншых народаў, і трэба паспрабаваць у ім адбіцца. Ён крывы, касы але калі прыхопіце з сабою знаёмую ўсім рэч, вас не спалохаюцца. Толькі потым, калі да вас прызвычаяцца, трэба зрабіць яшчэ адзін фінт· пазбавіцца ад прыхопленае рэчы. І тады пра вас будуць казаць: не – гэта той Х., які трымаў у руках «кока-колу», а – «кока-кола» – гэта тое, што трымаў у руках Х. Як кажуць у той жа рэкламе: адчуйце розніцу Час учынкаў толькі настае, тое, чаго не маглі зрабіць раней, павінны зрабіць пазней.

Што ж, як пісаў яшчэ Чарльз Дзікенс: «Добрая парада, калі ведаеш, як ёй пакарыстацца»

## Вітаўт Чаропка

Гісторыя не ведае ўмоўнага ладу – банальная ісціна, але яна суровы вокліч рэчаіснасці тым, хто хацеў бы ўявіць іншы ход падзей, нібыта стужку часу можна перагнаць назад і з вопытам ведання фіналу павярнуць тыя падзеі ў другім накірунку. Але сцэнарый жыцця не перайначыш, бо пішацца ён адразу і начыста. Калі ж надарылася магчымасць пафантазіраваць на тэму, што, калі б... дык не страцім гэтую магчымасць.

А пачну з невядомага летапісца, які мог пісаць сваю хроніку ў Полацку або Тураве, або ў Навагрудку Вось чаго шкада, дык што гэтая хроніка не дайшла да нас і невядомая нам. Незваротная страта! Нашы першыя крокі, наша дзяцінства, а мы гэтак мала ведаем, як вучыліся стаяць на нагах, як сталелі. Наша гісторыя ахутана імглой няведання. Белыя плямы ў нашай памяці. Шкада! Але спадзяюся, што старажытная хроніка нашай мінуўшчыны будзе знойдзена.

2. Вітаўт – вось хто меў усё: уладу ў буйнейшай дзяржаве, войска, ясныя галовы паплечнікаў, любячы яго народ, сілу і волю, але не хапіла каралеўскай кароны. Сваю галоўную магчымасць Вітаўт не здзейсніў Вялікае княства не стала каралеўствам. Як пайшла б тады гісторыя? Можа, жылі б мы цяпер у каралеўстве Літва «ад мора да мора». І размаўлялі б мы «не обчым яким языком, але своим власным». І сімвалы продкаў сведчылі б за нашу славу і годнасць. Не было б «усенародна выбранага маладога палітыка», а кіраваў бы намі кароль. Прынамсі, самы вялікі ўзровень жыцця ў манархічных краінах. Спадзяюся, што і гэтая магчымасць можа ажыццявіцца.

3. Мікола Гусоўскі ў шэрагу вялікіх паэтаў, вядома, не апошні, але каб пісаў ён на «простай» мове, як асмеліўся Петрарка, дык быў бы першым сярод славянскіх паэтаў, а беларуская паэзія ўжо ў XVI ст. заявіла б пра сябе на поўны голас. Ён мог стаць для Беларусі Гамэрам і «выхаваць» яе.

4. Леў Сапега зрабіў так шмат для Беларусі, што, здаецца, выкарыстаў усё, што мог Аднак... хай бы ён прыгрэў каля сябе не школку самазванцаў-дзмітрашоў, а кемлівых юнакоў, і выхаваў бы для Беларусі патрыётаў якія панеслі б далей ідэю незалежнасці Бацькаўшчыны.

5. Уладзіслаў Ваза ўпусціў шанц для ўсяго славянства, а мог пад сваім скіпетрам аб'яднаць Польшчу, Літву і Масковію. Гісторыя не ведала б самага крывавага нашэсця, калі маскавіты знішчылі палову насельніцтва Беларусі. «Тата, тата, чорт у хату», – «Нічога, сынок, абы не маскаль», – гэта памяць з таго часу.

6. Кастусь Каліноўскі застанецца сумленнем беларусаў. Магчымасці перамагчы заваёўніка і ворага Беларусі ў яго не было, але ён не шукаў магчымасці выжыць у рабстве. Ён нямы дакор тым, хто сагнуўся «пад ношкай знямогі – пакуты».

7. Аўтар «Тараса на Парнасе» і «Энеіды навыварат» мог назваць сваё імя. Памёр ад сціпласці. Затое ёсць хлеб у літаратуразнаўцаў, і Генадзь Кісялёў стаў сам класікам у пошуках класіка.

8. Смерць забрала Максіма Багдановіча ў маладым веку, хоць ён і пацяшаўся з яе. «Шмат у нашым жыцці ёсць дарог А вядуць яны ўсе да магілы». Ягоны геній абарваўся, так і не дасягнуўшы сваёй вышыні. У тым, што ён быў пракрокам, я не сумняваюся. «Пагоня» яшчэ вернецца... «Старадаўняй Літоўскай Пагоні не разбіць, не спыніць, не стрымаць». Цяжка ўявіць Максіма, які расхвальваў бы дыктатуру. Смерць выратавала яго ад «цемры пад сонцам».

9. Адам Міцкевіч гэтак любіў Літву-Беларусь, што мог бы і пісаць на яе мове, тады наша маўчанне апраўдалася б перад светам. І хто тады сумняваўся б, што беларусы – нацыя паэтаў.

10. Янка Купала з песняра народу ператварыўся ў песняра сацыялізму (бальшавіцкага ўзору). Прыкра. Але ўсё лепшае, напісанае ім з болем за беларусаў і Беларусь, дапамагае нам і цяпер. «Акоў паломаных жандар» – ён адвёў месца слузе «Оцечаству». І ўсё ж Купала застаўся Купалам. Гэтую магчымасць далі яму маскоўскія «фанарыёты», калі спынілі ягонае стомленае ад горычы сэрца.

11. Язэп Драздовіч у Парыжы мог стаць вялікім мастаком. У еўрапейскае мастацтва ён прынёс бы жывую традыцыю беларускіх міфаў і містыцызму. Сальвадор Далі склаў бы пад ягоныя ногі свае лаўры. Але ў Беларусі Язэп быў вялікім беларусам. Ягоная «Пагоня» вартая ўсіх «шэдэўраў» Саюза мастакоў.

12. Калі прыгадалі мастакоў, дык скажу, што народны мастак М. Савіцкі гэтак і застаўся савецкім, і ён там са сваім гераічна-выродлівым часам і сваім мастацтвам; ягоным Леніным будуць палохаць дзяцей: «Кінг-Конг». Хто яшчэ так па-мастацку глыбока стварыў вобраз гэтага правадыра?

13. Драма Марка Шагала ў тым, што ён не мог жыць у горадзе свайго натхнення Віцебску, а шчасце, што ён з'ехаў з яго чалавецтва мае Мастака. А нам застаецца толькі казаць, што ён беларускі габрай, наш, свой.

14. Вацлаў Ластоўскі з кагорты зары Беларушчыны. Ён мог бы зрабіць так шмат, але не далі – забілі. Часы тытанаў мінулі, але тое, што яны паспелі, не разбурылі і за 70 гадоў. І калі на вокліч: «Жыве Беларусь!» – пачуем: «Жыве!», дык яна яшчэ жыве.

15. Ларыса Геніюш навучыла нас, як любіць Беларусь – самаахвярна і з болем у сэрцы, а за гэта яе пазбавілі магчымасці быць з намі. Дурні, яна з намі будзе заўсёды! Шкада, што не ўбачыла яна бел-чырвона-белы сцяг над Мінскам.

16. Шкада, што Мікола Ермаловіч не нарадзіўся ў XIX ст., бо тады ў нас з'явілася б «Старажытная Літва» і Купала не наракаў бы: «А беларусы нічога ж не маюць».

17. І Уладзімір Караткевіч патрэбны быў у XIX ст Сянкевіч і Дзюма ў параўнанні з ім – пігмеі. Героі Караткевіча натхнілі б тысячы патрыётаў, якіх гэтак не хапала ў час станаўлення БНР. Горка, што не завершаны «Каласы...», – гэта была б эпапея Беларусі.

18. Вядзьмак Лысагорскі свайго шанца не ўпусціць. І чым большы маразм, тым больш балючы сарказм гэтага «аматара нечысці». На яго няварта злавацца, бо дрэннаму танцору, як вядома, нешта перашкаджае, таму хай наракаюць на нешта. Не ўпусці магчымасці смехам страсянуць пасад тыранаў і дурняў.

19. Цяпер ужо і не памятаюць К. Панамарэнку, а гэты некалі ўладарны тып панаваў на Беларусі. Хай бы ён выпрасіў у Сталіна для Беларусі Вільню. Слёз не хапіла ці згодна з *законам*, «мне это ня нужна» падараваў нашу Мекку жамойтам. Шкада, што вырадкі-прыблуды лезуць кіраваць намі і ўсё наша ім «ня нужна». Ды і нам яны «ня нужны».

20. «Малодшы брат», хопіць рабскага нізкапаклонства перад «старэйшым братам». Тваё смешнае лакейства выклікае пагарду. Сваю магчымасць быць чалавекам ты атрымаеш, калі будзеш ім.

21. Аб сваіх страчаных магчымасцях не шкадую. Dum spiro, spero!

## Іван Афанасьеў

Напэўна, трэба было стаць палюбоўнікам Парыжа ці адчуць боскае дакрананне музы Апалінэра, каб надаць кшталт еўрапейскага інтэлектуала гэтаму небараку з вушамі-патарчакамі, што пераможна замацаваліся на чарнільным абрысе твару з вокладкі першай кнігі прозы Л. Дранько-Майсюка «Пра тое, як я...». І справа тут, відаць, не ў саматужнай сімволіцы лічбаў, якімі пазначаны год яе выдання,– 1992, спакушаючы зваротнай паслядоўнасцю супадзення ў новай магчымасці: 21 (даруем аўтару гэтых радкоў правінцыйны імпэт першаадкрыцця), і нават не ў чортавым тузіне сабраных разам «несур'ёзных апавяданняў», які колькі гадоў таму мог бы паспрыяць ерэтычным памкненням спадароў бартаў, юнгаў, маркузеў дый іншых вырагавальнікаў матухны Еўропы ад бездапаможнасці яе вытанчанага тэхналагізму з самавіта-нахабным Прынцыпам Рэальнасці на чале. Хутчэй, іх натхніў бы шанц уцёкаў ад нязбыўна лінейнай паслядоўнасці лёсу, якая можа быць працягнута ў будучыню з тым самым поспехам, што і незваротна абарвана, і ў бязлітаснай залежнасці ад якой сёння пачуваемся мы, з рушучасцю апошняга адчаю намагаючыся павярнуць час і падзеі назад, вызваліць нашае рэальнае існаванне з палону рэальнасці. Недарэчнасць суразмоўцы ў такім выпадку – больш чым «дарэчная», бо нітуе спробу з магчымасцю самаідэнтыфікацыі – як у памянёнай кніжцы: «– Прозвішча? ... Называюся», калі непадуладная носьбіту якасць, неад'емная ад яго, бы прынцып стварэння ад істоты, запаветным словам «адчужэнне» адчыняе дзверы ў храм Мастацтва. Назваўся – значыць выканаў *ролю* і, не паспеўшы азірнуцца, пад задаволены шэпт аднадумцаў апынуўся ў нявыказаным паўзмроку тэатральнай залы, дзе літарамі-ліхтарыкамі заўсёднай надзеі зіхаціць такі пажаданы надпіс: «Выйсце». Тая самая 21-я магчымасць, якую Р. Барт калісьці адшукаў у тэксце-пісьме з яго прынцыпам зваротнасці, што адольвае няўмольную антытэзу ў прасторы гульні, між рэальнасцю і рэальным, а стваральнік «Аднамернага чалавека» адчуў у брэхтаўскім разбурэнні тоеснасці гледача з падзеямі на сцэне, адчужэнні ролі, параўнаўшы «не-ідэнтыфікацыю» чалавека ў ягоных звычайных абставінах з набыццём другога вымярэння рэальнасці – па-за ёй самой, і відавочна не запярэчыў К. Юнгу, некалі не толькі ўгледзеўшаму ў аддзяленні чалавека ад свайго ценю ўмову маральнай дылемы, але і адшукаўшаму неўласцівую для еўрапейца гармонію цела і душы, матэрыі і ідэі на індыйскім Усходзе, у вызваленні свядомасці ад «суб'екта і аб'екта». Зрэшты, ці не яна цяпер наважылася здзівіць праанкетаваную частку роднай усім нам усходне- (а мо «цэнтральна-»?) еўрапейскай дзяржавы асобай неспадзяванага інтэлектуала без аблічча і прозвішча? Апекаваная банальнай кляксай на вокладцы немагчымасць канчатковай выразнасці твару, пэўна, натхніла б спадара Барта безліччу дзейсных варыянтаў аднаго-адзінага аўтапартрэта, усцешыла б суразмоўцу К. Юнга узыходжаннем па ступенях медытацыі ад блакітнай (чарнільнай?) паверхні акіяна да празрыстасці «блакітнага каменя» і прывабіла б заклапочанага еўрапейскім снабізмам Г. Маркузе наяўнымі перавагамі аўтсайдэра, мара якога пра недасяжны ўзровень дастойнай чалавека «самасці», дзе выпадак-лёс песціць яго сустрэчай з Леанідам Ільічом і Маршалам Кім Ір Сенам (як у апавяданнях Л. Дранько-Майсюка), надзейна замацуе небараку на апошнім месцы ў чарзе па цукар.

Але ж мы самі правакуем свой цень – няўрымслівыя на тым балі-маскарадзе, дзе нашаму знаёмаму незнаёмцу спатрэбілася прыняць выгляд «Вівосіпа Васарывонавіча», каб «ужо не хаваючыся, па-беларуску» аддаваць загады імгненна з'явіўшымся памагатым. Нас рэабілітуе РОЛЯ, якую здавён мусіў выконваць кожны свядомы беларус дзеля сцвярджэння ў традыцыйна неспрыяльным асяроддзі факта рэальнай беларушчыны з непазбежным узнаўленнем асноўных атрыбутаў эстэтыкі адчужэння, калі немагчымасць атаясаміць рэальнае з рэальнасцю, дзею з «глядзельнай залай» грамадства здавалася вырашальнай. Аднак Чарнобыль жорстка аспрэчыў нацыянальную парадыгму эстэтычнай прысутнасці беларусаў у свеце і зрабіў саму рэчаіснасць рэжысёрам і выканаўцам галоўнай ролі. Яго аргумент – дасканаласць пачварнага, што вынікае з бартаўскай «тапалогіі цела», калі ўвасобленая сутнасць ідэалу разам з усялякай дыстанцыяй паміж задумай і здзяйсненнем выракаецца і чалавека, ахвяруючы апошняга пазачалавечым наступствам ягонай занядбанай прыроды. І тады няшчасны бальзакаўскі Саразін спраўджвае сваю мару аб стваральнай прыгажосці Звыш-Жанчыны ў каханні да чалавека, пазбаўленага мужчынскай якасці (кастрата), а ідэальная эстэтыка адчужэння здзяйсняецца як прынцып ЗОНЫ, пасведчанай сконам тэхнічнага прагрэсу, аднак і не саступіўшай блаславёным «датэхналагічным» часінам, дзе, на думку інтэлектуалаў-«еўраборцаў», высокая культура ніколі не была часткай культуры матэрыяльнай.

Чарнобыльская рэчаіснасць даўно і назаўсёды зблытала «да» і «пасля», злучыла ў непарушную еднасць юнгаўскую «патэнцыяльную рэальнасць», прыдбаную ў медытацыях далёкага, таямнічага ёгіна, і забруджаную радыёнуклідамі беларускую ЗОНУ, якая для выгнаннікаў палаючага савецкага Усходу стала сёння зямлёй абяцанай, ажыццёўленай марай (дасканаласцю пачварнага?), што ў выратавальным зыходзе адных патурае вынаходліваму сяброўству Д'ябла. . з Богам дзеля спраўленай трызны па іншых: «Чаму сюды прыехалі? У Чарнобыль? Таму што адсюль нас ужо не выганяць. З гэтай зямлі. Яна ўжо нічыйная, як кажуць, Бог яе забраў...» (С. Алексіевіч, «Чарнобыльская малітва»). Аднак раптоўныя заручыны пекла і неба сведчаць не толькі ідэальную 21-ю магчымасць у зваротным руху да апакрыфічнага паразумення Творцы і яго абранніка-слугі, які яшчэ не паспеў здрадзіць. Уладарная моц архонта («князя свету гэтага») усталёўвае нечаканы парытэт вечнасці і часу, калі рэчаіснасць пачынае супярэчыць сваёй магчымасці, падзяляючы нас і цень і ўтвараючы кантэкст непазбежнага разладу паміж стваральнікам духоўнага прадукта і яго спажыўцом, з якога Р. Барт калісьці выводзіў канцэпцыю ТЭКСТУ як структуры свядомасці і ў якім мы самі перш-наперш шукаем нацыянальныя альтэрнатывы, бо рэальнае па-за рэальнасцю – гэта зусім па-нашаму, па-беларуску.

Можа, сапраўды меў рацыю А. Шапэнгаўэр, пераадольваючы мяжу чалавечага інтэлекту, вызначаную ім у часе, формулай няспыннай сучаснасці: «тут-цяпер»? Але ж тады і развагі пра 21-ю магчымасць губляюць усялякі сэнс, бо кожны наш крок у сваёй абсалютнай адзінкавасці ператварае ў ілюзію і мінуўшчыну, і будучыню. Ён ідэальны – таму што абсалютны. Ён незваротны – бо няма куды (адкуль) вяртацца. І няма каму. І калі не памыліўся Р. Барт, убачыўшы ў чалавеку ўмову *дыстанцыі*, дык нашая прыязнасць да ягоных дзівацтваў настолькі ж апраўданая, наколькі 21-я магчымасць, па-за дыстанцыяй – гэтай адлегласцю між «да» і «пасля» – увогуле незразумелая, становіцца адзіным шанцам нашага рэальнага быцця, адухоўленага (эстэтызаванага?) здольнасцю часу падарожнічаць... у часе. Хіба ўцёкі новых насельнікаў чарнобыльскай прасторы ад наслання іхняга ўчарашняга дня не сведчаць таксама новы хранатоп ЗОНЫ? Немажлівасць пакутнікаў вярнуцца да зруйнаванай гістарычным катаклізмам Прыроды, гармонію якой спрадвеку баранілі неспазнанасць маральнага канфлікту і праблематычнасць самога пытання пра зло, у такім вызваленні ад маральных калізій свайго мінулага аднаўляе Прыроду ў іх саміх (юнгаўская альтэрнатыва «натуральнаму чалавеку» Русо, знойдзеная ў нетрах свядомасці), аднолькава адмаўляючы незваротнасць чарнобыльскіх страт, якімі скрываўлена душа папярэднікаў. Загнаны гісторыяй у кут, чалавек робіцца непадуладным яе раз'юшанаму нораву, сцвярджаючы каштоўнасць гіпатэтычнага існавання ў рэальнасці. Фактар адчужэння яднае яго з уласнай эстэтычнай магчымасцю, што менавіта ў шматзначнасці вырашэнняў выступае падставай быційнага самаўсведамлення, калі нават тэкст – «гэта мы самі ў працэсе пісьма» (Р. Барт). І наўрад ці варта спачуваць нашаму персанажу-дарадчыку, якога нават пры асабістай сустрэчы з Маршалам Кім Ір Сенам абмінула ўся веліч богападобнага правадыра. Жыццяпіс бывалага суайчынніка літаральна «вылузгваецца» з эсхаталагічнай завядзёнкі факта, што *адбыўся*, і самім годам выдання ўшаноўвае *генералісімуса* Кіма, надаючы яму статус сапраўды «народнага» героя. Паніжэнне ў званні не ў чытаным, а – *перачытаным* тэксце яму зусім не шкодзіць. Наадварот! Памылка, якой да года публікацыі і аднachасовага прысваення прадбачліваму Маршалу чарговага і канчатковага звання там проста не было, настойліва просіцца назад, каб у гэтай неадпаведнасці здабыць шчырую пяшчоту шырокіх мас. Сціплы працаўнік, пэўна, не адразу і вымавіць мудрагелістае слоўца «генералісімус», а ў недасяжным «маршал» (куды, здавалася б, вышэй!) выразіць усю павагу і любоў, якую так дарэчы падкрэслівае недакладнасць. А дзе масавая свядомасць – там, вядома, і масавае пачуццё. Яно прыхавалася ўжо ў дзіцячай непасрэднасці графічнага аздаблення гэтага летапісу эпохі і яе чытачоў.

Сэнс не існуе па-за мэтазгоднасцю. Ён шукае паразумення факта і з'явы. І тады наяўнасць проста Аўтара, яскрава пазначаная наіўным удакладненнем на вокладцы кнігі, важней спасылкі на канкрэтнага апавядальніка, якога Роля вызваляе ад шапэнгаўэрава «тут-цяпер», ахвяруючы ягонай непаўторнасцю ў імя 21-й магчымасці, калі «там-учора» альбо «там-заўтра» будзе (*можа быць*) зусім інакш. Таксама і Назва ўцякае ад свайго наяўнага і апошняга варыянту, ратуючы безліч намераў ад улады выніку. Ці не дзеля таго, каб зазначыць першынство і (21-ю?) магчымасць ТЭКСТУ, а мо і неўпрыкмет падрыхтаваць урачыстую рамку для новага параднага

партрэта? Бадай, усё, што адбылося і адбудзецца, ужо не пахісне яе пагранічных слупоў, бо няма чым абвергнуць выніковасць самога прынцыпу Адмовіўся ад бацькі-аўтара, пагрэбаваў імем-назвай – сцеражэ дыктатура... граматычнай формы: забароненую літаратуру – чытаў, у недазволеным мітынгу – удзельнічаў, габраю знаёмаму эміграваць – дапамог Не граматыка, а нейкая ідэалогія зробленага ўчынку. Паспрабуй улагодзь яе, калі тое, што не існуе цяпер, ёсць існуючае мінулае, і, памкнуўшыся да ідэйнага разліку з ім (усё ж «ад'ютанту Пілсудскага не паверыў»), можна толькі надаць форме змест і жыццёвую, пазнавальную фактуру, быццам у знарок перабольшаным клопаце героя пра сябрукоў-сучаснікаў, што, не знішчыўшы ворага, «ужо ўхапіліся пад корань зводзіць вобраз ягоны» Ну, хіба не «натуралізацыя ідэалогіі» ў чыстым выглядзе? Паляваў на ўяўную бездакорнасць чарговага ідэалагічнага знака, а атрымаў у адказ недатыкальны аргумент рэальнасці: чалавека (пацэліў – страляй?). Гэткую гульню выяўляльнага і выяўлення, дзе патаемны сэнс спрыяе магчымасці немагчымага і кола гісторы набірае ход у мільгаценні твараў мінулага пасярод натоўпу разгубленых нашчадкаў.

Няўжо гэта і ёсць ідэалогія выжывання, здзейсненая як права на рэальнасць? А калі не, дык што паспрыяе нашаму нацыянальнаму запыту? Трываласць «блакітнага каменя» К. Юнга альбо прывіднасць блакітных чарнілаў, якія дагэтуль больш дагаджалі імкненню Р Барта бачыць у графічным-тэкставым, пісьмовым – сведчанні з'явы вычарпання «фантазму ўнутранага», прамежкавую субстанцыю, нібы развітальны водбліск згаслых чарнобыльскіх зарніц паміж цемрай і цемрай? Мабыць, гэта адзінае, чым безумоўна валодаем мы, хутчэй тоесныя не рэальнасці, а яе разуменню, з якога ізноў узнікае РОЛЯ. Чаму б і не выканаць яе, не «перайграць»? Вось толькі сцэнай у такім разе будзе само наша заблуканае жыццё. «Сапраўднасць», якую наўрад ці збянтэжаць вушы-патарчакі на чарнільным абрысе невядомага твару...

## Людміла Рублеўская

Нявыкарыстаныя магчымасці... «Мог, але не зрабіў» Выснова, што падпадае пад юрысдыкцыю «не судзіце, ды не судзімыя будзеце. .» А тым больш у нас, на Беларусі, якая сама па сутнасці сваёй спрэс нявыкарыстаная магчымасць. . Якую асобу ні вазьмі – аб`ект шкадавання для нашчадкаў не рэалізаваўся. . Не дадумаўся, як можна было зрабіць так, каб было не гэтак, а так... Рыхтык паводле Чапека: «Крытыкаваць – значыць тлумачыць аўтару, што ён зрабіў не так, як зрабіў бы я, калі б умеў» Хаця – ці толькі ў «беларускім кантэксце» пастаўленае пытанне такое плыткае? Так, у чалавека ёсць воля выбару – між дабром і злом. Але – як вызначыць, дзе ва ўчынках і жыццёвых абставінах чалавека ёсць Воля Боская, а дзе – ягоны ўласны грэх? Ці не бескарысна, не першапачаткова грахоўна разгадваць тое, што называецца «Промысл Боскі»?

Чаму Максім Багдановіч памёр маладым, а Лукаш Бэндэ спакойна дажыў да старасці? . Адвечная спакуса сумневу ў мудрасці Боскай... Няхай мы не ўпадзем у яе .. Тым больш, што – нават на чалавечым (зямным) узроўні – як мы можам судзіць, нават у дачыненні да свайго сучасніка: ці была ў яго магчымасць зрабіць тое, што ён не зрабіў?

У пастаўленым пытанні я вылучыла б два: «чаму не выкарыстана» і «што было б, калі б...» Абодва сумніўныя. Як казаў леў Аслан з «Хронік Нарніі» К.С. Льюіса (правобраз згаданай жывёлы – Хрыстос): «Я расказваю кожнаму толькі яго гісторыю». Помніцца, да таго ж, у адной багаслоўскай кніжцы гаворыцца, што дарослась чалавека вызначаецца яго здольнасцю прымірацца са сваімі пакутамі, аднак, калі ты, сказаўшы: «Мая хвароба – вынік маіх грахоў», ідзеш да суседа, каб пераканаць таго, што ён зламаў нагу, бо не хадзіў у царкву, гэта будзе найвялікшым глупствам і грахоўным учынкам. .

А цяпер, згодна звычайнай жаночай логіцы, абгрунтаваўшы немагчымасць адказу на пастаўленае пытанне, я буду на яго адказваць. . пытаннямі. Праўда, толькі ў выглядзе «добрых пажаданняў»... Ад якіх нармальнага чалавека, да якога яны адрасаваныя, звычайна толькі нудзіць... «Добрыя пажаданні» з вобласці міфатворчасці, ды яшчэ дадаць беларускага чорнага гумару (дакладней, гумару ў чорнай спадчыны)... Жах!

1. Калі б князь Вітаўт паклапаціўся пра захаванне свайго роду і мы займелі б беларускую каралеўскую дынастыю?.





2. Калі б Сімяон Полацкі дзеля сустрэчы расейскага цара Аляксея Міхайлавіча падрыхтаваў не ўзнёслы панегірык, а сатыру «а ля Вядзьмак»?..

3. Калі б беларускі шляхціч Кабыла не падаўся аднойчы ў бок Масковіі ды не заснаваў род Раманавых?..

4. Калі б Напалеон выйграў вайну з Расіяй, праводзілі б на Беларусі рэферундум на карысць агульнаўжыванай французскай мовы ў параўнанні з недасканалай расійскай?..

5. Калі б Кастусь Каліноўскі ўцёк за мяжу ды зарганізаваў там выданне накшталт герцэнаўскага «Колокола»? .

6. Калі б Янка Купала замест «Над ракой Арэсай» напісаў «Рэквіем па балотах»?.

7. Калі б Адам Міцкевіч змог пры жыцці надрукаваць свае беларускія вершы?.

8. Калі б, скажам, Пятрусь Броўка (ці нехта іншы са збранзавелых) напрыканцы жыцця выбраў са сваёй творчай спадчыны сорак лепшых вершаў ды выдаў тонкай кніжачкай?

9. Калі б Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч змог дажыць да нашага часу, ці займелі б мы беларускага Салжаніцына?..

10. Калі б нашы беларускія паэты кінулі піць?..

11. Калі б Данчык ажаніўся з беларусачкай, узяў грамадзянства Беларусі ды «вылучыў» сваю кандыдатуру на выбарах у Вярхоўны Савет?..

12. Калі б нехта з пісьменнікаў, падобна Адаму Мальдзісу, які апісаў побыт нашых продкаў, апісаў з пункту гледжання даследчыка побыт і норавы сучасных беларусаў?

13. Калі б нацыянальная творчая эліта хаця б на гэты час перастала грызціся між сабою і падзяляцца на суполкі ды плыні, афіцыйныя і неафіцыйныя?..

14. Калі б кожнага з нас захацелі тыя, што ўсё купляюць, купіць, і мы ўсе прадаліся?..

15. А калі гэта ўжо так і ёсць?.

16-21. Калі б?.

## Яўген Гучок

**Наш першы народнік (Альгерд Абуховіч)**

Сказаць, што Альгерд Абуховіч-Бандынелі не скарыстаў якую-небудзь хоць адну магчымасць у сваім жыцці дзеля падвышэння якасці чалавечага існавання, не магу. Ён скарыстаў іх (магчымасці) усе. А было іх нямала. Хаця б вось гэтыя: авалодаў усімі галоўнымі еўрапейскімі мовамі, узяў удзел у паўстанні 1863 г , быў сасланы ў Сібір, стаў адным з пачынальнікаў (выдатным!) новай беларускай літаратуры, сабраў у свой час вакол сябе моладзь, якая ў сваім развіцці аддавала перавагу яму перад нават такой цудоўнай навучальнай установай, як Слуцкая гімназія.

Літаратурная спадчына Альгерда Абуховіча-Бандынелі (шкада – як мала да нас дайшло!) сведчыць, што гэта быў магутны, вышэйшай пробы пісьменніцкі талент. Па шчырасці сэрца і натуры ён мне нагадвае Жан Жака Русо; па ёмістасці сваіх невялікіх раздзелаў, а ў іх – кожны сказ ягонай прозы ні ў якім разе не ніжэй за ўзровень Альфрэда Мюсэ. На старонках (а іх усяго некалькі дзесяткаў) мемуараў нашага класіка вельмі многа як адкрытага, так і прыхаванага за радком матэрыялу па гісторыі Беларусі; тут жа змешчаны падарож па Украіне, напісаны нібыта Лорэнсам Стэрнам; развагі пра жыццё ўвогуле, здаецца, узыходзяць да пранікнёных і пранізлівых старонак знакамітага твора Марка Аўрэлія «Сам-насам» Але ў Абуховіча сваё – абуховічаўскае. Тут і пра Францішка Багушэвіча знойдзем найкаштоўнейшы ўспамін, які пададзены з геаграфічна-культуралагічнага пункту гледжання. Як у высокакультурных аўтараў

Паходзячы са знакамітага роду Абуховічаў і адначасова маючы італьянскія карані роду Бандынелі (адкуль паходзілі таксама рымскі папеж Аляксандр III і аўтар знакамітай скульптурнай групы «Лаакаон»), Альгерд Абуховіч-Бандынелі вельмі хацеў, каб наш і, вядома, яго беларускі люд ва ўсіх праявах жыцця падвышаў свой узровень. Дзеля гэтага, пакінуўшы шыкоўны палац з замежнай прыслугай, ён і жыў сярод простага (паспалітага) люду І вось таму я не магу не назваць яго нашым першым народнікам у вышэйшым сэнсе гэтага слова.

Мой Божа! Чаму гэта мае суайчыннікі і сучаснікі не ўглядаюцца ў постаць Альгерда Абуховіча, не скарыстоўваюць магчымасці і не навучаюцца ў яго любові да справядлівасці,

ведаў, Радзімы, Бога. Гэта толькі ў нас, відаць, магіла слыннага чалавека (а яна ў маім родным Слуцку) не мае да сябе шырокае сцяжыны. Чаму мы не такія нязломныя, як Альгерд Абуховіч, ні перад уладамі, ні перад абставінамі рознымі, ні перад неразумнай раднёй – усім, што можа паўстаць на шляху прагрэсу?

**Янка Купала – Шэкспір**

У драматургіі Янка Купала для мяне – Шэкспір, асабліва «Тутэйшымі». Шкада, што не былі ім напісаны ў такім жа ключы «Тамтэйшыя». Пра нашых суседзяў.

Усё астатняе ў нашага генія – вершы, паэмы, публіцыстыка – асляпляльны бляск. Калі, вядома, адкінуць усю гвалт-рэдактуру.

**Геній Адраджэння (Максім Багдановіч)**

На мой погляд, і з Максімам Багдановічам, як кажуць, няма каго паставіць побач ні ў часе, ні ў прасторы, прынамсі, у той самай Еўропе. Хіба, можа, толькі італьянца Джакома Леапардзі. У іх і лёсы нечым падобныя. Максім Багдановіч прыйшоў на зямлю як чалавек, а пакінуў яе нібы анёл: ён нікога тут не абразіў, нават не пакрыўдзіў; жыў на сціплыя сродкі; набываў веды як геній еўрапейскага Адраджэння і спадчыну сваю духоўную пакінуў, як той самы геній, – глыбокую і універсальную. Адносна ж таго, якую мажлівасць не скарыстаў у сваім жыцці беларускі геній, дык, відаць, тое, што мог бы і не напісаць верш «Беларусь, твой народ дачакаецца...» А не адбылося гэта, безумоўна, ад празмернай яго любові да сваёй Радзімы. Але такое – больш чым даравальна.

P.S. Учарашнія радкі аднаго з сучасных паэтаў, на вялікі жаль, актуальныя і сёння:

*Стаіць сіроча Багдановіч*
*У самым цэнтры БССР;*
*А хто інакш бы выглядаў тут*
*Сярод прывідаў і хімер?*

**У адным радзе (Максім Гарэцкі)**

Для кожнага, хто чытаў Максіма Гарэцкага – ці то ў арыгінале (па-беларуску), ці то ў перакладах, – ён, несумненна, найвыдатнейшы пісьменнік. І гэта была адна з прычын, што ён быў пакараны катамі новага часу. Доўга творчасць класіка беларускай літаратуры была выключана цемрашаламі з культурнага ўжытку на Беларусі і сярод іншых народаў. І гэта пры тым, што яго кнігі маглі б упрыгожыць любую літаратуру свету, калі б ён належаў ёй. Узяць хаця б невялікую яго рэч – «На імперыялістычнай вайне» (Запіскі салдата 2-й батарэі N-скай артылерыйскай брыгады Лявона Задумы). Па ўнутраным (духоўна-псіхалагічным) выяўленні праўды пра пакаленне, што кінута ў пекла вайны на згубу, яна стаіць у адным радзе з такімі выдатнымі творамі, як «На заходнім фронце без перамен» Э.-М. Рэмарка, «Смерць героя» Р. Олдынгтона, «Бывай, зброя» Э. Хэмінгуэя, «Агонь» А. Барбюса. Больш таго, кніга Максіма Гарэцкага нават вылучаецца сярод іх сваёй пранізлівай непасрэднасцю, глыбіннай дэмакратычнасцю, адсутнасцю прыкмет аб прыналежнасці да якой-небудзь з літаратурных школ. Тут горкая праўда пераважае над рысоўкай, гэтакім аперэтачным пазіраннем героя на сябе збоку.

З такога пункту гледжання разглядаю я ўсяго Максіма Гарэцкага. Памятаю: прачытаўшы ў свой час першы том рэабілітаванага класіка беларускай літаратуры, я вымушаны быў пацясніць у сваёй свядомасці нават майго любімага А.П. Чэхава.

А яшчэ Максім Гарэцкі – і вучоны-даследчык духоўнасці беларусаў, педагог. І тут ён – гігант. За гэта гавораць усяго два такія па-свойму адметныя ўзоры: яго «Гісторыя беларускае літаратуры» і яго выхаванка Наталля Арсеннева.

Нескарыстанасць Максіма Гарэцкага бачу вось у чым. Дарэмна ў свой час ён прыехаў у БССР, дарэмна не падаўся далей, не застаўся на Захадзе.

**Ганьба местачкоўцам! (Сяргей Палуян)**

*Какой светильник разума угас,*
*Какое сердце биться перестало!*

**М. Някрасаў**

У самагубстве Сяргея Палуяна – геніяльнага юнака, гэтага «месяца адзінокага» – павінны





не толькі імперскія дзяржыморды, што дратавалі яго любімую Беларусь, не толькі нацыянал-здраднікі і нацыянал-тупіцы, але і нацыянал-местачкоўцы, што ў асноўным шукалі апекаванняў для сваіх уласных нікчэмных памкненняў. Сяргей жа Палуян – да ўсяго – бачыў далёка і – галоўнае – ва ўсе бакі. І шкада, што на нейкі час не з'ехаў ён за акіян. Ах, гэтая палымяная любоў да Радзімы! Ах, гэтая заўчасная смерць! Ах, гэтыя сляпні – нацыянал-местачкоўцы!

Невялікая яго кніга «Лісты ў будучыню» з геніяльна зафіксаванай у ёй праявай абуджэння беларускай душы – неўміручая. Болей чытайце Сяргея Палуяна, не заглядвайце ў пісанкі местачкоўцаў, асабліва сучасных!

**Люблю Вас, Ларыса Антонаўна (Ларыса Геніюш)**

Калі я чытаю Ларысу Геніюш, перада мной міжволі паўстаюць постаці вялікіх італьянцаў – Дантэ Алігʼеры з яго «Боскай камедыяй» і Уга Фаскола з яго «Апошнімі лістамі Якопа Ортыса». Кнігу апошняга сучаснікі чыталі са слязамі на вачах... таму, што яны недастаткова любілі сваю Радзіму. Знявечаная Айчына, знявечаны ўласны лёс, зварот да Бога і адначасова радасць і шчасце, што не зламаўся, што выстаяў – вось дамінанты, якія прыцягваюць у творах гэтых найвыбітнейшых аўтараў.

Першае маё знаёмства з паэзіяй Ларысы Антонаўны («На чабары настоена») паказала мне, што ў асобе гэтай паэткі жыве той вобраз антычнай міфалогіі, які быў небяспечным для ўладароў Алімпа. Перада мной была поўная гарманічная прысутнасць жаночага і мужчынскага пачаткаў – пяшчотнасці і мужнасці – у адным чалавеку; для мяне было перакрэслена паняцце «жаночая і мужчынская» паэзія. Тут проста была паэзія высокай пробы; паэзія для радасці і для смутку, для слёз і ўсмешак, для самых розных песень (чаму маўчаць кампазітары?), для змагання і для ўсяго, чым напоўнена наша жыццё. Адносна «Споведзі» – яна для мяне на ўзроўні Дантэ. «Першы круг» А. Салжаніцына, дзе ён адбывае свой тэрмін (хай абыдзе ўсіх нас гэтая чаша!), не ідзе ні ў якое параўнанне з нявоʼляй Ларысы Антонаўны. Яна прайшла самыя апошнія, самыя жудасныя кругі зямнога пекла. Але і сёння, калі, здавалася б, ужо няма таго ГУЛАГу і ў пераносным сэнсе, Ларыса Геніюш па ўвазе да яе з боку і сваёй, і сусветнай грамадскасці застаецца там жа – у ГУЛАГу. Затое некаторыя мясцовыя «пеўнікі на плоце», імітатары ад літаратуры і людскасці аж у народных ходзяць.

Адна з дарагіх для мяне магіл на Беларусі – магіла Ларысы Антонаўны Геніюш. Стоячы каля яе, зноў і зноў думаецца пра непамерна цяжкае, але нязломнае жыццё і, вядома, пра творы, напісаныя ёю як прад Богам. Люблю Вас, Ларыса Антонаўна! Нізка схіляю прад Вамі сваю галаву.

Аб нескарыстанасцях і стратах Ларысы Антонаўны гаварыць цяжка і амаль немагчыма. Страчваць і губляць працягваем мы, што не ідзем да Яе.

**Больш, чым паэт (Алесь Разанаў)**

Мой беларускі паэт сёння – Алесь Разанаў. Да яго слова заўсёды стаўлюся як да спадзевы, што адкрые яно і ў маёй душы нешта патаемнае, чаго сам пакуль не спасцігнуў. Логакратычнае, акупунктурнае пісьмо паэта пры малой колькасці слоў – бы вінтавая лесвіца, што вядзе на самы верх вежы, адкуль без усялякай экзістэнцыяльнай боязі глядзіш ва ўсе чатыры бакі і бачыш.

У адрозненне ад многіх «знакамітых» рыфмачоў-хахмачоў, вертухаяў-зіхайлістаў-алілуйшчыкаў і іншых літаратурных паўзуноў, паэт Алесь Разанаў (і ўсё ж ён больш, чым паэт) любіць не слова-бразготку ці мыльны пухірок, а Слова – бы пазазямны знак да ўсяго. І яшчэ: чым карацей мой паэт піша (перш за ўсё маю на ўвазе – «пункціры»), тым лепш у яго атрымліваецца, тым больш ён – зорка; прынамсі, для мяне.

Радуе ў Разанава вялікая сапраўдная інтэлектуальная эрудыцыя і духоўная падключанасць да Абсалюта.

А вось што не скарыстаў паэт: ён не выклікаў на духоўна-паэтычны турнір ні аднаго літаратурнага мандарына-імітатара, не паказаў яму, таму мандарыну-імітатару, і, вядома, нам, чытачам, яго нікчэмнасць. Але, трэба спадзявацца, гэта яшчэ наперадзе. А калі будзе патрэба, дык і я, прымушаны тымі ж «цытрынамі», дапамагу ў гэтай справе. Ужо час зрываць маскі з таго «крамніцкага» маскараду, які не менш за адкрытых ворагаў душыць беларушчыну і духоўнасць.

Спачатку было Слова, і далей будзе Слова, і канца Яму не будзе. Маю на ўвазе Слова ў прасторы зямной геаграфіі. А да ўсіх умоў існавання таго Слова дадам наступнае: што калі,

вядома, будуць яшчэ такія працаўнікі на гэтай ніве, як Алесь Разанаў, для якіх на гэтай зямлі ўсё ж Радзіма – гэта палёт.

Думаю, што дадае энергіі яму і атмасфера «Крыніцы».

**Наш дысідэнт (Міхал Кукабака)**

Яшчэ тады, у першым застоі, чуў я па «Свабодзе» пра Міхала Кукабаку, чытаў яго і аб ім у самвыдаце. Было прыемна, што ён – з Беларусі і беларус. Калі ж яго, адседзеўшага семнаццаць гадоў па турмах і псіхушках за правы чалавека і за Беларусь таксама, убачыў упершыню, даўкі камяк стаяў у мяне ў горле. А калі аднойчы я прапанаваў яму на пражыццё пэўную суму, а ён, падзякаваўшы, параіў на тыя грошы пашыць бел-чырвона-белыя сцягі, у мяне да таго даўкага камяка дадаліся слёзы на вачах. Як шкада, што Міхал жыве не дома, не на Беларусі. Падштурхнулі яго да такога, апроч уладаў, і местачкоўцы з беларускіх «адраджэнцаў», якім беларускасць нашага дысідэнта здавалася недастатковай. А можа, яно і добра, што з'ехаў Міхал Кукабака адсюль: бо, можа, гніў бы тут у якой-небудзь камерызакутку.

**Людзі! Ау! (Пра сябе)**

Сярод іншых сапраўдных каштоўнасцяў свету я вельмі люблю і люблю сапраўдную паэзію. Яна, гэта паэзія, у парадку адваротнай сувязі прышчапіла мне любоў да самога сябе, а калі дакладней – любоў да годнасці ў сабе. Вось таму я ніколі не імкнуўся стаць нейкім начальнікам, не меў намеру ўступаць у якіясь там партыі ці саюзы, не рабіў нічога для сякога-такога лаўрыацтва і г.д. Для гэтага трэба было крывіць душой, а я не хацеў. Тым больш – добраахвотна. І таму за мае вершы, напісаныя не ў патрэбным ключы, мяне, што называецца, даставалі пэўныя органы. Мне быў перакрыты кісларод паўсюдна і на доўгія гады. Да дзяржаўных ганіцеляў, пасвойму дапамагаючы ім, далучаліся чыноўнікі ад літаратуры, імітатары паэзіі, пасрэдныя, але спрытныя ў жыцці, версіфікатары. Часам браў адчай... Выратаванне ад безвыходнасці магло быць толькі ў падключанасці да неба. І я цягнуўся да яго.

Як калісьці Г. Клейст у сваёй творчасці імкнуўся спалучыць пачаткі антычнай драмы з шэкспіраўскім пачаткам і стварыць новы напрамак у драматургіі, так мне хацелася ў маіх вершах апошніх гадоў (зборнік «Агонь і матылёк» – рукапіс) спалучыць кароткія формы Усходу з лірычнасцю славян і метафізікай Захаду. Адчуваю, сёе-тое ўдалося.

Мне цяжка сказаць, якія магчымасці я не скарыстаў у сваім жыцці – і ў прыватнасці – каб выдаць гэты зборнік, а таксама іншыя зборнікі («Исток пути» – вершы маёй маладосці, «Спачатку было слова» – гісторыка-культуралагічныя нарысы, «Сэрцам і думкай» – частка II, «Стары Верабей» – проза). Што ж, скарыстоўваю сённяшнюю магчымасць і кажу: «Людзі! Я тут!»

## Віктар Шніп

«Сведкі, каторыя бачылі драку, а не баранілі, – па 9-ці рублеў, а вся прочая шляхта, што не бачыла дракі, за тое, што не бачыла, – па 3-ры рублі. Плаціце!» – гэтыя словы спадара Кручкова з «Пінскай шляхты» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча асвяціліся ў памяці, калі я задумаўся над пытаннем «хто што мог зрабіць, а не зрабіў». У нашым жыцці і тады, і цяпер, што ты ні рабі і як ні рабі, – будзеш усё адно вінаватым і за тое, што зрабіў, і за тое, што не зрабіў, а мог зрабіць і, яшчэ да ўсяго, знойдуцца людзі, якія нават пасля тваёй смерці, пераглядаючы тваю біяграфію, спытаюцца. «Чаму не зрабіў так, як мог зрабіць?» А ці мог, і ці маем права ставіць такое пытанне перад тымі, хто даўно хоць нешта вартае зрабіў для сваёй Айчыны, мы, хто яшчэ невядома якім чынам застанецца ў гісторыі роднай зямлі? Мы – Божы суд? Ды і толькі аднаму Богу вядома, хто што мог зрабіць, а не зрабіў. Тут хутчэй трэба ставіць іншае пытанне (яно таксама «не вельмі»): «Што мог не рабіць, а зрабіў?» Далёка не трэба хадзіць за прыкладамі. Працэнтаў 90 нашых пісьменнікаў маглі б не выдаваць сваіх твораў, і наша літаратура якасна выглядала б намнога лепей, а так – колькасць. Астатнія 10 працэнтаў, ствараючы добрыя творы, маглі б не піць гарэлкі столькі, колькі п'юць. Але кожны выбірае тое, што выбірае. Жыццё – гэта не казка, дзе на раздарожжы ляжаць тры





камяні і на кожным надпіс: «Калі пойдзеш налева – станеш багатым; калі пойдзеш направа – згубіш каня; калі пойдзеш прама – развітаешся са сваім жыццём, але пра цябе будуць складаць песні». Выбар невялікі, але ёсць. У Пазняка быў выбар, дзе балатавацца ў дэпутаты: ці ў Мінску, ці ў Смаргоні, ці ў Лідзе, ці наогул не ўдзельнічаць у выбарах. Ён выбраў Смаргонь і не стаў дэпутатам. Словам, Пазняк мог і не балатавацца ў дэпутаты, і вынік быў бы такі самы. Але, як я вышэй казаў: «Мы – не Божы суд!» Галоўнае – у жыцці заўсёды ёсць выбар. А на пытанне, што мог зрабіць канкрэтна я, а не зрабіў, усё-ткі давядзецца адказаць мне, калі не для «Крыніцы», то на Божым судзе. А пакуль што...

## Лявон БАРШЧЭЎСКІ

1. Еўфрасіння Полацкая мела добрыя літаратурныя здольнасці (іншага не магло быць!), але сваіх твораў нам не пакінула.
2. Полацкая інтэлігенцыя не змагла ўратаваць ад пагібелі «Полацкі летапіс».
3. Кірыл Тураўскі не пакінуў нам сваіх шэдэўраў свецкае лірыкі.
4. Мікола Гусоўскі не знайшоў чытачоў сваіх твораў на роднай мове.
5. Францішак Скарына не знайшоў пасля 1525 года фундатараў для сваёй віленскай друкарні і не здзейсніў вялікай часткі сваіх выдавецкіх планаў.
6. Аўтар беларускай «Повести о Трыщане» не пакінуў нам свайго імя.
7. Застаўся невядомым аўтар (аўтары) музыкі з «Полацкага сшытку».
8. Не напісаў (не здолеў захаваць для нашчадкаў) іншых твораў (акрамя «Ліста да Абуховіча») Цыпрыян Камуняка.
9. Антоні Тызенгаўз не здолеў давесці да канца сваю задуму пасяліць Жан Жака Русо ў Беларусі.
10. Паўлюк Багрым не змог захаваць для нас сваіх іншых беларускіх твораў.
11 Не напісалі сваіх галоўных твораў па-беларуску Францішак Князьнін, Ян Баршчэўскі, Адам Міцкевіч, Тадэвуш Булгарын, Нестар Кукальнік, Юзаф Ігнацы Крашэўскі, Эліза Ажэшка...
12. Так мала пражыў Кастусь Каліноўскі.
13. А. Марчанка і іншыя не здолелі арганізаваць выданне «Гоману» як доўгатэрміновага беларускамоўнага праекта.
14. Фёдар Дастаеўскі не рэалізаваў сябе як *беларускі* пісьменнік і мысляр.
15. Занадта кароткі быў жыццёвы шлях Максіма Багдановіча, Сяргея Палуяна, Івана Луцкевіча, Алеся Гаруна. .
16. Кіраўнікі БНР не паспелі арганізаваць баяздольнае беларускае войска ў 1918 годзе.
17. Максім Гарэцкі, Аляксандр Цвікевіч, Браніслаў Тарашкевіч, Уладзімір Жылка і іншыя паверылі ў тое, што бальшавікі будуць шчыра і працяглы час спрыяць беларускаму нацыянальнаму адраджэнню.
18. Сваякі ці знаёмыя Юльяна Дрэйзіна, Міхася Грамыкі, Браніслава Тарашкевіча не змаглі захаваць для нашчадкаў перакладзеныя гэтымі майстрамі творы антычнай літаратуры.
19. Ян Скрыган не напісаў эпапеі пра сталінскія лагеры, не наважыліся пісаць «у стол» Юрка Гаўрук, Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча і шмат хто яшчэ...
20. Не дажылі да нашага часу Уладзімір Караткевіч, Мікола Улашчык, Міхась Стральцоў, Ларыса Геніюш..
21. Станіслаў Шушкевіч хацеў «жыць дружна» з дэнацыяналізаванай наменклатурай і верыў у расійскіх «дэмакратаў».

Увогуле, лічба «21» уяўляецца мне занадта малой, каб уціснуць у яе адказ на такое глабальнае пытанне. Уся беларуская гісторыя, на мой погляд, гэта суцэльнае невыкарыстоўванне шанцаў на тое, каб стаць еўрапейскай нацыяй. Галоўнае ж тут тое, што нашыя нацыянальныя геніі ва ўсе эпохі заставаліся незразуметымі адзіночкамі, вакол якіх ніяк не атрымлівалася згуртаванне нацыі, фарміраванне ўплывовага цэху нацыянальнай інтэлігенцыі.

**КРЫНІЦА № 2**

**1996**

ШТОМЕСЯЧНЫ КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СТУДЗЕНЯ 1988 ГОДА

**Заснавальнікі:**
**СП Беларусі, калектыў рэдакцыі**



**Выдаецца на беларускай мове**

**Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца**

**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП, вул. Кісялёва, 11**

**Званіце:**
**366-071, 366-142**

Падпісана да друку з арыгінал-макета 18. 04. 96. Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк.
Папера друкарская № 2. Ум.-друк.арк. 13,02. Ум.фарба-адб. 14,35.
Ул.-выд.арк. 14,52.
Тыраж 3500 экз.
Кошт дагаворны. Зак. 596.

**Надрукавана з арыгінал-макета заказчыка ў друкарні выдавецтва**
**«Беларускі Дом друку», 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.**